МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ПОЛАЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ»

# БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ: ВОПЫТ, МЕТАДЫКА І ВЫНІКІ ПАЛЯВЫХ І МІЖДЫСЦЫПЛІНАРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Зборнік навуковых артыкулаў II міжнароднай навуковай канферэнцыі,
(да 20-годдзя археалагічных і этнаграфічных экспедыцый ПДУ)
(Полацк, 17 – 18 красавіка 2014 г.)

У дзвюх частках
Частка 2

Пад агульнай рэдакцыяй
доктара гіст. навук, дац. Д. У. Дука,
канд. гіст. навук, дац. У. А. Лобача,
канд. гіст. навук, дац. С. А. Шыдлоўскага

Наваполацк
ПДУ
2014

УДК 94(476)(082)
ББК 63.3(4Беи)я43



**Беларускае Падзвінне : вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў** : зб. навук. арт. II міжнар. навук. канф., Полацк, 17–18 красав. 2014 г.: у 2 ч. Ч. 2 / Полацкі дзярж. ун-т; пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача, С. А. Шыдлоўскага. – Наваполацк : ПДУ, 2014. – 222 с.
ISBN 978-985-531-463-0.

У зборніку змешчаны навуковыя артыкулы па выніках работы II міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў». Прадстаўлены вынікі антрапалагічных і археалагічных даследаванняў Беларускага Падзвіння і сумежных тэрыторый. Прыведзены новыя даныя аб гістарычных лёсах, матэрыяльнай і духоўнай спадчыне рэгіёна Паўночнай Беларусі ў шырокім храналагічным кантэксце (ад першабытных часоў да сучаснасці).

Разлічаны на прафесійных гісторыкаў, антраполагаў, студэнтаў гістарычных спецыяльнасцей ВНУ, мастацтвазнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 94(476)(082)**
**ББК 63.3(4Беи)я43**

**ISBN 978-985-531-463-0 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-531-461-6**

# ГІСТОРЫЯ

**УДК 94(476+477)**

## КАНФЛІКТ ПАМІЖ ПОЛАЦКАМ І КІЕВАМ 1066 – 1068 гг. ПАЛІТЫКА-РЭЛІГІЙНЫ АСПЕКТ

***канд. гіст. навук, дац. С.В. ТАРАСАЎ***
**Інстытут парламентарызму і прадпрыймальніцтва, Мінск**

*Аналізуюцца падзеі і роля ўдзельнікаў канфлікта паміж Полацкам і Кіевам 1066 – 1068 гг. у палітыка-рэлігійным аспекце. Можна меркаваць, што Полацк супрацiўляўся не толькі спробе Кіева падпарадкаваць яго палітычна і тэрытарыяльна, але і спробе навязаць праз сябе духоўнае кіраўніцтва Канстантынопаля.*

Падзеі, якія пазначаюць узаемаадносіны Полацка і Кіева ў XI ст. неаднойчы станавіліся аб'ектам апісання і даследавання яшчэ з часоў Мацея Стрыйкоўскага і Васіля Тацішчава. Калі ўжо быць абсалютна дакладным, то першым на гэтыя ўзаемаадносіны звярнуў увагу летапісец, маючы на ўвазе вядомыя падзеі канца X ст., звязаныя з імёнамі Рагвалода і Рагнеды: "З тых часоў падымаюць меч Рагвалодавы ўнукі супроць унукаў Яраслава". Прычым напісаў гэта больш чым праз стагоддзе пасля рабавання Полацка наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам. Без сумнення, падзеі на Полаччыне і вакол яе канца X ст. – др. паловы XI ст. маюць непасрэдную сувязь. Паміж імі ляжыць не такі ўжо і вялікі разрыў па часе: 80 – 90 гадоў, за які, праўда, на полацкім стале змянілася чатыры пакаленні князёў (як і на кіеўскім стале). Ужо ў трэцім пакаленні князь Брачыслаў Ізяслававіч Полацкі распачаў актыўную дзейнасць супраць Кіева, якая дасягнула найвялікшага напружання ў 1060 – 1070-я гг., падчас княжання яго сына Усяслава.

Палітычная складовая гэтага супрацьстаяння досыць добра вядома, апісана і даследавана. Традыцыйна ў якасці падставы прыводзяцца тры аргументы. Першы – помста за рабаванне Полацка, забойства Рагвалода і прымусовая жаніцьба на Рагнедзе ў 970 г. наўгародскага, а потым кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Другі – тэрытарыяльныя спрэчкі паміж Полацкам з аднаго боку, Кіева з Ноўгарадам – з другога. На карысць гэтага аргумента палітычныя стасункі Брачыслава Полацкага з Яраславам Уладзіміравічам Наўгародскім, а потым Кіеўскім, апісаныя ў тым ліку і ў "Саге аб Эйдмундзе", у выніку чаго да Полацка вярнуліся (адыйшлі) гарады Віцебск і Усвяты. Трэці аргумент – барацьба за кантроль над паўночна-цэнтральным мацерыковым адрэзкам вядомага шляху з "варагаў у грэкі", які быў галоўнай, калі не адзінай крыніцай знешнеэканамічных сувязей усходнееўрапейскіх земляў з Паўночнай і Заходняй Еўропай, краінамі Арабскага Халіфата, Візантыяй. Асаблівасцю гэтай барацьбы было, відаць, не столькі тое, што Полацк стаяў на Дзвіне, Ноўгарад – на Волхаве, па якіх ішлі гандлёвыя караваны аднае з боку Балтыйскага мора, а тое, што яны сустракаліся на Днепра-Дзвінскіх волаках у раёне сённяшняй Воршы.

Тут праглядаецца адзін цікавы аспект. Ноўгарадскі кавалак шляху "з варагаў у грэкі" трапляў у Дняпро па волаках на Ловаці, бліжэй да Смаленска, г.зн. за межамі тэрыторый, якія кантралявалі палачане. І толькі ўжо непасрэдна пад Воршаю "канкурэнты" сутыкаліся. У чым была сутнасць гэтай канкурэнцыі, здагадацца не складана. Канешне, не ў наменклатуры тавараў. І там, і там яна была аднолькавай. І не ў колькасці тавараў, хаця гэта, апасродкавана відаць, уплывала. А ў першую чаргу – мытныя зборы з самiх гандляроў за правоз караванаў па тэрыторыі княстваў. У другую – за падаткі, якія плаціліся "свалачамі" (г.зн. тымі, хто "сволаківал" судны на волаках і пераносіў грузы). Была і яшчэ адна выгода, якая захоўвалася болей за восемь стагоддзяў на нашых землях: замежныя купцы не мелі права рознічнага гандлю. Яны мусілі тавар здаваць оптам мясцовым купцам і рамеснікам (а ў X – XIII стст., верагодна, князям) для рознічнай рэалізацыі, натуральна, па больш высокіх коштах, якія і прыносілі прыбытак.

Такім чынам, нагоды для палітыка-эканамічных спрэчак было дастаткова. Мяркуючы па тым, што ў большасці выпадкаў у XI ст. ініцыятыва канфрантацыі сыходзіла з Полацка, найперш палачане лічылі сябе ўціснутымі і пакрыўджанымі.

Разам з тым, прыведзеныя вышэй прычыны, нягледзячы на досыць вялікія тэрытарыяльныя прасторы, мелі лакальны характар і абмяжоўваліся Полаччынай, Наўгародчынай і Смаленшчынай. Кіеўскі эпізод 1068 г., аб якім ніжэй, быў у жыцці Усяслава Полацкага ўсё-ткі выпадковасцю. Аднак, існавалі і адносіны паміж княствамі геапалітычнага характару. Яны былі абумоўленыя не столькі тэрытарыяльна,

колькі генеалагічна. Полацкі князь Рагвалод і яго гіпатэтычны брат Тур у Тураве ў канцы X ст. былі апошнімі незалежнымі князямі, не звязанымі з кланам Рурыка. Пасля прымусовага шлюбу Уладзіміра з Рагнедаю, полацкі радавод, не жадаючы таго, таксама быў упісаны ў гэты клан. З чаго вынікалі і спецыфічныя інтарэсы ўсіх прадстаўнікоў радаводу Рурыка, і надзвычай спецыфічныя інтарэсы Рагвалодавічаў. І фармальна, і фактычна ўсе яны былі сваякамі, ці, як тады казалі, "братанічамі". Адсюль іх хваляваў не толькі ўласны лёс і ўласная "отчына", але і лёс астатніх князёў. У адносінах паміж апошнімі галоўным няпісаным правам была спадчыннасць зямель, права першынства, удзельнасць.

Пасля смерці Уладзіміра Хрысціцеля ў 1015 г. усходнееўрапейскія землі былі падзелены паміж яго сынамі: Святаполку – Кіеў, Яраславу – Ноўгарад, Мсціславу – Тмутаракань, унуку Брачыславу – Полацк. І так было да 1016 г., калі пачалася варажнеча Яраслава са Святаполкам, і да смерці Святаполка ў 1018 г., якога перад тым выгналі і з Кіева, і з ягонага спадчыннага Турава. Пасля чаго пачалася барацьба за Кіеў паміж Яраславам і Мсціславам. Па меркаванні некаторых украінскіх даследчыкаў, полацкі Брачыслаў таксама меў інтарэс у Кіеве, але на стале ніколі не сядзеў, кіруючы ў горадзе, як і Яраслаў Наўгародскі, праз сваіх намеснікаў [1]. Як бы не было, але пасля смерці Святаполка Яраслаў самавольна спачатку фактычна ў 1019 г., а потым і дэ-юрэ пасля вайны с Мсціславам у 1024 г. захапіў Кіеў, стаў правіць адзінаўладна. Мсціславу адыйшлі землі па левым беразе Дняпра, разам з Чарнігавым. Пасля смерці Мсціслава на паляванні ў 1036 г. Яраслаў "наклаў руку" і на ягоную спадчыну. Інтарэсы полацкага князя, якія, безумоўна былі, не ўлічваліся ніяк. Аднак, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, яны ні як асабліва і не праяўляліся. Прынамсі, як можна меркаваць з захаваўшыхся крыніц. У 1044 г. памёр Брачыслаў Ізяславіч Полацкі, праз дзесяць год памёр і Яраслаў Уладзіміравіч Кіеўскі, атрымаўшы мянушку Мудры. Да пачатку канфлікта паміж Полацкам і Кіевам заставалася 12 гадоў.

Тут мы часова спынім разгляд палітычных узаемаадносін і паспрабуем прааналізаваць падзеі ў духоўнай сферы. Найважнейшым чыннікам сталася хрышчэнне Кіева і Ноўгарада пры князі Уладзіміры, па афіцыйнай версіі ў 988 г., усталяванне ў 992 г. епархій у падначаленых Кіеву гарадах. Нагадаем, што ні водны горад Полацкай Зямлі (у тым ліку і Полацк) у гэтым пераліку не прысутнічае. Спробы сучасных гісторыкаў і дзеячаў праваслаўнай царквы далучыць Полацк да гэтай епархіяльнай "акцыі" не мае пад сабой факталагічнай падставы. Але ці можа гэта быць сведчаннем таго, што ў Полацку не былі знаёмы з хрысціянствам? На першы погляд, цалкам магчыма. Але ў такім выпадку трэба будзе прызнаць, што палачане сталі хрысціянамі толькі ад 1105 г., згадкі першага полацкага епіскапа Міны, калі ў цэнтры горада ўжо як мінімум паўстагоддзе ўзвышаўся кафедральны сабор Святой Сафіі. Што, відавочна, абсалютна неверагодна. Такім чынам, паўстаюць пытанні: як і калі Полацкая Зямля прыняла ўдзел у хрысціянізацыі Усходняй Еўропы, і ці магло гэта ўплываць на палітычныя адносіны з Кіевам?

Нам ужо не аднойчы даводзілася пісаць на гэтую тэму, аднак, супастаўленне некаторых фактаў і тэкстаў, звязаных менавіта з полацка-кіеўскім канфліктам 1066 – 1068 гг. дае магчымасць паглядзець на гэтае пытанне па-новаму.

"Сага аб Торвальдзе Вандроўніку", а асабліва паведамленне Цвярскога летапісу аб манашстве Рагнеды-Анастасіі (пры ўсіх, у тым ліку і храналагічных, агаворках), таксама відавочнасці балгарскага следу, кажуць аб тым, што Полаччына не выпадала з агульнаеўрапейскага хрысціянізацыйнага працэса. Пытанне ў другім: якім чынам яна прымала ў ім удзел? На наш погляд, летапіс, разам з агіаграфіяй ігуменаў Кіева-Пячэрскай Лаўры – Антонія і Феадосія, дазваляюць крыху прыадчыніць заслону часу.

Дзеючыя асобы нашага сюжэта – тры сыны кіеўскага князя Яраслава: Ізяслаў (1025 – 1078), князь кіеўскі; Святаслаў (1027 – 1076), князь чарнігаўскі і кіеўскі; Усевалад (1030 – 1093), князь Пераяслаўскі, чарнігаўскі і кіеўскі; Антоній (983 – 1073), першы ігумен і заснавальнік Кіева-Пячэрскага манастыра; Феадосій (каля 1008 – 1074), пераемнік Антонія; Усяслаў Брачыславіч (каля 1028 – 1101), князь Полацкі.

У 1060 г. тры Яраславічы і Усяслаў зрабілі ўдалы паход на торкаў. Можна казаць, што да гэтага моманту яны былі не толькі сваякамі, але і саюзнікамі. Што пасварыла іх праз пяць гадоў? Традыцыйна ў гістарыяграфіі лічыцца, што гэта адбылося з нагоды нападаў Усяслава на Пскоў 1065 г. і Ноўгарад Вялікі 1066 (1067) г. Праўда да сёння ніхто не патлумачыў паводзіны полацкага князя і нагоду, з якой ён зрабіў гэтыя паходы. Да вядомых версій: абарона полацкага гандлю і помста за "неправедны" падзел смаленскай спадчыны Яраславічамі, трэба звярнуць увагу і яшчэ на адну. Яе выказаў у свой час выдатны археолаг і гісторык Л.В. Аляксееў [2]. Сутнасць яе ў тым, што Усяславу, як і любому князю ў тыя часы, было ўласціва імкнуцца да пашырэння межаў сваёй дзяржавы. І аб'ектам захопу стала Менская воласць, якая тэрытарыяльна (а да таго і этнічна) належыла Тураўскай Зямлі (дрыгавічам). Усяслаў не проста захапіў воласць, але збудаваў новую крэпасць на Нямізе, куды перасяліў менян, ад чаго крэпасць у сутоцы Свіслачы і Нямігі пераняла і былую назву горада – Менск. Мы не будзем цалкам разглядаць гэтую версію ў дадзенай публікацыі. Зазначым толькі, што эканамічныя і фізічныя (людскія) рэсурсы, ужо не кажучы пра

вайсковыя, сапраўды маглі быць толькі ў полацкага князя. Археалагічныя доследы гэта падцвярджаюць, бо толькі на ўмацаванне падэшвы вала спатрэбілася 40 тысяч ствалоў 30 – 40-гадовай сасны, альбо 40 га лесу, альбо 160 сучасных футбольных палёў (!) А яшчэ трэба было і сцены будаваць, і дамы, і вуліцы масціць…

Такім чынам, паход Яраславічаў на Усяслава мог быць цалкам абгрунтаванай помстай і спробаю вярнуць Кіеву землі разам з усімі рэсурсамі. А Менск на рацэ Менка, правы прыток ракі Пціч, на той час, нагадаем, гэта не толькі зямельныя ўладанні, на якіх размяшчаўся горад і вакол яго каля 100 вёсак, але яшчэ і буйны гандлёвы цэнтр на гандлёвым шляху, аб чым сведчаць і скарбы, і асобны імпартны рэчавы матэрыял.

Захоп і частковае спаленне палачанамі Ноўгарада, рабаўніцтва ноўгарадскага Сафійскага сабора, бітва на Нямізе 3 сакавіка 1067 г. – падзеі аднаго ланцуга, якія прыводзяць полацкага князя на перамовы да Яраславічаў пад Воршу, а потым і на Дняпро пад Смаленск. Менавіта так, на наш погляд, трэба тлумачыць летапіснае паведамленне аб месцы перамоваў “на Ршы ля Смаленска”. І тут адбываецца знакавая падзея, якая змяніла адносіны сучаснікаў (у тым ліку і хрысціянскіх іерархаў) як да Усяслава, так і да Яраславічаў. “Цалавалі крыж чэсны Усяславу, казалі: ”Прыйдзі да нас, а мы не зробім табе блага”.

Усяслаў, спадзяючыся на крыжацалаванне, пераплыў у чоўне Дняпро разам з двума малалетнімі сынамі, што адлюстравана ў мініяцюры Радзівілаўскага летапісу. Калі полацкі князь зайшоў услед за Ізяславам у шацёр, яго схапілі. Разам з сынамі, як вязня павезлі ў Кіеў і засадзілі ў турму-поруб.

Вось тут мы і зададзім адно простае, але вельмі цікавае пытанне: “Які крыж цалавалі Яраславічы, і хто гэты крыж падносіў да іхніх вуснаў?” Адразу трэба адзначыць, што гэта не мог быць крыж, выраблены ў паходных умовах: высечаны з дрэва, каменю, ці каваны з метала паходным кавалём. Гэта не мог быць крыж-цельнік каго-небудзь з князёў, бо цалаваць яго мусілі ўсе. Падчас клятвы на крыжы ўдзельнікі рытуала нават не маглі браць гэты крыж у рукі. Адсюль вынікае, што ў шэрагах аднаго з войскаў (Яраславічаў, альбо Усяслава) быў святар. І ён не абавязкова выконваў ролю капелана, але, што верагодней, прысутнічаў з канкрэтнай мэтай: паднесці крыж да княжацкіх вуснаў для замацавання клятвы.

Ці мог гэты святар быць кіеўскім? Нагадаем, што адпаведна летапіснага паведамлення, ініцыятарам захопу Усяслава выступае князь кіеўскі Ізяслаў. Менавіта ў яго шатры адбываецца захоп полацкага князя. Якія адносіны былі ў Ізяслава з хрысціянскімі святарамі, кіеўскімі манахамі і ўвогуле з рэлігіяй? Адказ на гэта мы знойдзем у жыційных тэкстах аб Антоніі і Феадосіі Пячэрскіх, у лістах Феадосія да Ізяслава.

Пачнем з Феадосія, паколькі яго стасункі з Ізяславам найбольш актыўныя і займаюць час як да падзей 1067 г., так і пасля. Паміж Феадосіем, які стаў ігуменам Кіева-Пячэрскага манастыра пасля Антонія, і Ізяславам былі вельмі актыўныя зносіны. Князь вельмі часта наведваў Феадосія, заставаўся на трапезы, пасылаў да манаха лісты і атрымліваў адказы. Для князя нават рабіліся выключэнні з манастырскіх правілаў. Адным словам, ня гледзячы на тое, што нідзе гэта ў летапісе не прапісываецца, Феадосій быў для Ізяслава не простым настаўнікам, але духоўнікам. Адпаведна, сапраўдны хрысціянін мусіў слухацца парад свайго духоўніка і прытрымлівацца іх.

Як жа раіў Ізяславу паводзіць сябе Феадосій? Сярод тыповых і звычайных хрысціянскіх дабрачыннасцяў, аб якіх пісаў да Ізяслава Феадосій, ёсць адно, так бы мовіць, “палемічнае” пісьмо “Пасланне князю аб веры лацінскай”. Яно, як і іншыя словы, малітвы ігумена, не датаванае, а таму магло быць напісана і падчас выгнання Ізяслава з Кіева, калі ён бадзяўся ў пошуках падтрымкі паміж Кракавам і Ватыканам (1068 – 1069). Але ў любым выпадку, выкладзеныя Феадосіем погляды не маглі змяніцца ні да гэтых падзей, ні пасля. І ён у прыватнасці піша: “… вере же латынской не приобщаться, не соблюдать их обычаев, и от причастия их отвращаться, и никакого учения их не слушать, и всех их обычаев и нравов гнушаться и блюстись; дочерей своих не давать за них замуж, ни у них дочерей брать; ни брататься с ними, ни кланяться им, ни целовать его; и из одной посуды не есть, и не пить с ним, и не брать у них пищи. Им же, когда они просят у нас есть или пить Бога ради, давать есть и пить, но из их собственной посуды. Если же не будет у них посуды, давать и в своей, только потом, вымыв, сотворить над ней молитву. Ибо неправо они веруют и нечисто живут: едят со псами и кошками, пьют свою мочу и едят ящериц, и диких коней, и ослов, и удавленину, и мертвечину, и медвежатину, и бобровое мясо, и бобровый хвост. В говенье мясо разрешают во вторник первой недели поста. Чернецы их едят сало и постятся в субботу и, попостившись, вечером едят молоко и яйца. А за грехи не у Бога просят прощения, но прощают попы их за мзду. Попы же их законным браком не женятся, но со служанками детей приживают и служат при этом невозбранно. И епископы их наложниц держат и **на войну ходят**...” [3]

Мы прывялі такую вялікую цытату, каб паказаць, што Феадосій не проста “ня любіць” лацінян, а ненавідзіць іх на ўзроўні жывёльных інстынктаў. Усе пералічаныя “грахі” у ягонай трактоўцы, як і евангельскія, “смяртэльныя”. Апошняя, выдзеленая намі фраза ў кантэксце даследавання паказальная: у войске князя кіеўскага Ізяслава (а менавіта ён быў правадыром сярод Яраславічаў) епіскапа с “чэсным

крыжам” быць не магло па вызначэнні. Як, улічваючы адлегласць паміж Кіевам і Смаленскам, яго бы і не прывезлі ў абмежаваны час. Ды і ці стаў бы Ўсяслаў Полацкі цалаваць кіеўскі крыж? Прыклад крыжацалавання мы знаходзім у 1136 г. пад Кіевам, калі мітрапаліт Міхаіл хадзіў паміж войскамі Ольгавічаў і Манамахавічаў, прымушаючы іх цалаваць крыж, і такім чынам не дапусціў бойкі [4].

Такім чынам, робім першую выснову: Яраславічы і, натуральна, Усяслаў, цалавалі пад час клятвы крыж з Полацка. Другая: крыж гэты, для падзеі такога ўзроўню, мог везці і трымаць толькі епіскап. Не залежна ад таго, ці выконваў ён ролю капелана пры войску Усяслава, ці адмыслова суправаджаў князя на перамовы. Апошняе больш верагодна. Трэцяя: мы маем падцверджанне таго, што не пазней 1067 г. у Полацку існавала ўласная епіскапія не толькі з кафедральным Сафійскім саборам, але і з поўным адпаведным наборам царкоўнага начыння. Чацвертае: полацкая епіскапія (мажліва, з нейкаю спецыфікай) належала да Усяленскай Праваслаўнай Царквы. Іначай Яраславічы крыж цалаваць бы адмовіліся.

З гэтых высноў вынікаюць рэмаркі. Першая: што няма падстаў лічыць Полацкую епіскапію належачай да Кіеўскай мітраполіі. Іначай чаму не было прынесці епіскапскі крыж адкуль-небудзь бліжэй, скажам, з Чарнігава? Чарнігаўская епіскапія ўжо існавала ад 992 г. Другое: ва ўсе наступныя стагоддзі тэма Святога Крыжа становіцца для Полаччыны сакральнай, амаль міфалагічнай. А ці не стаўся епіскапскі крыж 1067 г. прататыпам Крыжа Ефрасінні Полацкай 1161 г.? А калі дапусціць, што гэта магло быць, то магчыма дапусціць і падабенства іх форм – шасціканцовы патрыяршы. І трэцяя рэмарка ў якасці гіпотэзы, нават аўтару на першы погляд здаецца неверагодным: а можа Полацкая епіскапія не згадваецца да 1105 г. таму, што яе не было? А можа гэта была мітраполія з мітрапалітам альбо архіепіскапам (назвы ўзаемазамяняльныя ў той час) на чале? На думку некаторых даследчыкаў мітраполіі, апрача Кіева, існавалі ў другой палове XI ст. у Пераяслаўлі, Чарнігаве, Уладзіміры-на-Клязьме (па іншых меркаваннях, гэта адна і тая ж “вандроўная” кіеўская метраполія).

Так ці іначай, але факт клятвы на крыжы і далейшае парушэнне крыжацалавання не застаўся не заўважаным у Кіеве. У віхурных падзеях 1068 г. праявіліся адносіны кіеўскіх іерархаў да гэтага факту, але не на прасткі, а праз адносіны да асобы Ізяслава Яраславіча Кіеўскага. У найбольшай апазіцыі да князя апынуўся заснавальнік і першы ігумен Кіева-Пячэрскай Лаўры Антоній (983 – 1073).

Антоній – асоба знакавая і легендарная. У якасці месціча г. Любеча на імя Анціпа, ён выправіўся ў паломніцтва ў Святую зямлю, адтуль – на Афон. Тут ён прымае схіму і жыве два гады. Адпаведна жыція, ігумен афонскага манастыра, палічыўшы, што на радзіме Антоній прынясе больш карысці, благслаўляе яго на вяртанне. Пад Кіевам, на Берастове, Антоній знайшоў пячоры, якія капалі рабаўнікі-варагі, дзе і пасяліўся. Пасля смерці Уладзіміра ў 1015 г., быццам бы з нагоды таго, што Святаполк Яраполчыч забіў Барыса і Глеба, Антоній зноў сыйшоў на Афон. Быццам бы ў 1028 г. (дата па версіі Вікіпедыі, не дакладная, бо ў Аповесці мінулых гадоў гэты год пусты. Аповед аб Антоніі з’яўляецца толькі пасля артыкула 1051 г. [5]) вярнуўся ў Кіеў і зноў пасяліўся на Берастове ў пячоры, якую выкапаў прэсвітар з Берастова Іларыён – у 1051 – 1055 гг. мітрапаліт Кіеўскі. Да Антонія прыйшлі Нікан і Феадосій (пастрыжаны ў 1032 г. ад Нікана). З гэтага і пачаўся Кіева-Пячэрскі манастыр.

Першы раз Антоній трапіў у няміласць да Ізяслава Кіеўскага за тое, што даў дабро на пострыг сына знатнага кіеўскага баярына Іаана. Князем была праведзена ледзь не вайсковая аперацыя па “вызваленні” новапастрыжанага Варлаама з наступнымі спробамі яго спакусіць жаночымі вабнасцямі і раскошаю. А Антонію князь прыгразіў засыпаць пячоры. Ратуючыся ад князя Антоній сыйшоў з Кіева. Тры дні яго шукалі, як піша жыцце, “у другой краіне” [6].

Другі раз непасрэдна ў 1068 г. Вось як апавядае жыцце: “О даре провидения, которым обладал преподобный Антоний, есть много свидетельств, расскажем же об этом. Три князя Ярославича — Изяслав, Святослав и Всеволод, отправляясь в поход на половцев, пришли к Антонию за благословением. Но он предвидел гнев Божий, который падет на них, и сказал им: «Вы будете побеждены, обратитесь в бегство, и воины ваши или утонут в реке, или будут взяты в плен, или падут от меча» [7]. Так і адбылося. Калі прыбраць царкоўную цудадзейнасць, то падставаю для такіх рэзкіх словаў магло быць толькі тое, што да Антонія (заўважце – не да мітрапаліта кіеўскага Георгія (1065—1076), аб чым ніжэй) прыйшла ўся троіца, парушыўшая крыжацалаванне паўтара года да таго і трымаўшая полацкага Усяслава на той момант у кіеўскім порубе. Не ведаць аб гэтым маглі ў Кіеве бадай што толькі коткі і сабакі!

Натуральна, што пасля паразы на р. Альце, віна была ўскладзена ў тым ліку (ці ў першую чаргу) і на Антонія. Ён жа не даў бласлаўлення! Яраславічы супрацьстаялі полаўцам без Божага заступніцтва! А гэта было больш чым сур’ёзна ў тыя часы.

Відаць, Антонію давялося б зноў бегчы з Кіева ўжо ў тым жа верасні 1068 г., каб не хуткацечныя драматычныя падзеі ў самім горадзе: паўстанне гарадскіх нізоў, выгнанне Ізяслава і пастаўленне на княжы стол Усяслава Полацкага.

Аднак выгнання ён дачакаўся ў наступным годзе, калі Мсціслаў, сын Ізяслава першым увайшоў ў Кіеў і выразаў каля 500 паўстанцаў – прыхільнікаў полацкага князя.

Далей жыціе апавядае: “Тогда Изяслав вошел в Киев. Он начал, по наущению диавола, гневаться на преподобного Антония, которого кто-то оклеветал пред ним, — что будто бы Антоний любил Всеслава, давал ему советы, что он будто бы даже главный виновник всей смуты, происшедшей в Киеве. Преподобный же Антоний в это время служил в пещере болящему Исаакию затворнику, которого прельстил диавол, явившись в образе Иисуса Христа, и оставил еле живого, вовлекши в пляску с бесами. Это служение преподобного Антония было особенно ненавистно обольстителю, опасавшемуся, как бы Исаакий вскоре не исцелился душою и телом от сатанинского искушения. Поэтому диавол всячески и возбуждал гнев в князе Изяславе, чтобы он изгнал преподобного Антония из киевских пределов. И на некоторое время он достиг этого. Князь черниговский Святослав, узнавши, что брат его Изяслав сильно гневается на преподобного Антония, прислал за святым ночью и тайно взял его к себе в Чернигов. Преподобному Антонию полюбилось одно место близ Чернигова в горах Болдинских: здесь он выкопал себе пещеру и жил в ней; впоследствии на этом месте возник монастырь.” [8]

Які “д’ябл” узбуджаў нянавісць князя да Антонія? Толькі не інакі манастыра, бо трэці па ліку і другі па аўтарытэту, на той момант ігумен Феадосій, ведаючы княжацкія “прыгоды” ад Кракава да Ватыкана, звяртаецца да Ізяслава: “Ты, столько лет по апостольской проповеди державший православную веру, совратился в зловерие наущением сатаны. Не слышал разве Павла, глаголющего: «Если и ангел, придя с небес, благовестит вам иначе, чем мы благовестили, да будет проклят». А вы, отринувши апостольские заповеди и предание святых отцов, приняли неправедное учение и веру развращенную, исполненную многой погибели. Потому и от нас отвержены.” [9]

Гэта значыць, што калі не фактычна, то Феадосій прыгразіў Ізяславу праклящцем. Матывы Феадосія зразумелыя – не дапусціць лаціну. Гэта было тым актуальней, што Менавіта сын Ізяслава Яраполк па бацькавым даручэнні ездзіў у Ватыкан да папы Рыгора VII з абяцанкамі перайсці разам з Кіевам пад яго крыло ў выпадку заступніцтва.

Менш зразумелыя матывы Антонія, які на той момант цалкам адыйшоў (як апавядае жыццяпіс) і ад манастырскіх, і ад мірскіх спраў. Але ці так, на самай справе?

З падзей 1067 – 1069 гг. вынікае, што царкоўныя іерархі Полацка і Кіева мелі непасрэднае дачыненне да палітычных дзеяў. Аднак, не ўсе. На здзіўленне, ў гэты надзвычайны час ніяк не праяўляе сябе глава хрысціянскай царквы ў Кіеве мітрапаліт Георгій. Ён стаў кіеўскім мітрапалітам у 1065 г., калі полацкі Усяслаў “рать почал”, перажыў выгнанне і вяртанне Ізяслава ў Кіеў 1068 – 1069 гг., амаль перажыў другое выгнанне Ізяслава і княжэнне ў Кіеве Святаслава ў 1073 – 1078, памёр у 1076 г. Ён жа паспеў высвяціць у 1072 г. збудаваную ў Вышгарадзе Ізяславам царкву, перанесці туды Барыса і Глеба, і кананізаваць іх. Быў рамеем, а таксма членам імператарскага сената і насіў прыдворны тытул сінкела (synkellos). Аднак чаму не мітрапаліт, якому па рангу было дадзена, а інакі Кіева-Пячэрскага манастыра апынуліся ў віры падзей 1067 – 1069 гг.?

Кіеўская мітраполія другой паловы XI ст. была, так бы мовіць, з’яваю няўстойліваю, і, апрача мітрапаліта Іларыёна, цалкам залежнай ад Канстанцінопаля. За 53 гады (ад 1051 г. па 1104 г.) у Кіеве змянілася шэсць мітрапалітаў. Славянінам сярод іх быў адзіны мясцовы Іларыён (1051 – 1054), пастаўлены некананічна князем Яраславам Уладзіміравічам, што, пэўна, стала прычынай асвячэння на нова Сафійскага сабора пасля смерці Яраслава ў 1054 г. новым мітрапалітам-грэкам Яфрэмам. І ўсе наступныя мітрапаліты былі грэкамі. Апрача згаданага Георгія і Мікалая (1094—1104), усе астатнія на кафедры заставаліся ўсяго па некалькі гадоў. Мітрапаліты праявілі сябе ў барацьбе з “лацінай”, двойчы пераносам Барыса і Глеба, словамі і казаннямі (знакамітае “Слова аб законе і благадаці” Іларыёна, да прыкладу), рукапакладаннем епіскапаў і судамі над імі, асвячэннем цэркваў. Толькі адзін Мікалай (1094—1104) адзіны раз выступіў пасрэднікам у спрэчцы князёў, аб чым мы пісалі вышэй, і то толькі таму, што на гэтым настойвалі баяры і знаць.

Такім чынам, удзел кіеўскіх мітрапалітаў у палітычным жыцці Кіеўскай Русі, а тым больш яе стасункаў з Полацкай Зямлёй, блізкі да нуля. Чаму? Найперш, здаецца, прычына ў іх замежным паходжанні. Не таму, што яны не разумелі мовы ці традыцый (на думку М.Д. Прысялкова і А.В. Карташова першыя мітрапаліты былі балгарамі, для якіх моўных праблем быць не павінна было. [10]), а таму, што апрача кіеўскай мітрапалічай кафедры яны мелі і афіцыйныя пасады ў Візантіі. Пэўна, апошні статус быў больш прывабны. Па-другое, яны мелі рацыю не кранаць палітычныя праблемы ў чужой краіне, бо ў адваротным выпадку, для іх асабіста, вынік быў бы непрадказальны. Апрача таго, хіратанізаваныя ў Канстанцінопале патрыярхам, у Кіеве яны цалкам залежылі ад Вялікага князя, у тым ліку і матэрыяльна.

Іншая справа – Кіева-Пячэрскі манастыр. Ужо на той час, мяркуючы па летапісе і жыціях святых, існавала два тыпы манастыроў: заснаваныя князямі і знаццю, а таксама ўзнікшыя самі сабой (так бы мовіць, "ініцыятыва знізу"). Першыя ствараліся, як правіла, пры прыходах і цэрквах альбо князямі, альбо манахамі, якія ў мірскім жыцці былі досыць багатымі людзьмі [11]. І толькі адзін Кіева-Пячэрскі манастыр быў у поўным сэнсе манастыром, збудаваным манахамі, іх працаю, без ніякай знешняй фінансавай дапамогі. Жыццё манахаў тут залежала толькі ад статуту, які быў уведзены па аналогіі са статутам Студыцкага манастыра ў Канстанцінопалі і прыняты ў Кіеве ігуменам Феадосіем. Апрача таго, амаль усе насельнікі манастыра былі тутэйшымі, а такія, як заснавальнік – Антоній, мелі вялікі досьвед манастырскага жыцця і падзьвіжніцтва за межамі краіны. У перыяд, які мы разглядаем, змяняліся мітрапаліты, а кіева-пячэрскія айцы-заснавальнікі: Антоній, Феадосій, Нікан, заставаліся тут, пакідаючы манастыр толькі вымушана. Чый аўтарытэт быў больш высокім – іх, ці мітрапалітаў-грэкаў? Пытанне рытарычнае.

Незалежны статус пячэрскіх манахаў дазваляў ім мець і незалежнае меркаванне на палітычныя і духоўныя падзеі. І іх ацэнка дзеянняў Ізяслава Яраславіча (у першую чаргу менавіта яго) прыводзіла ўсіх траіх да вымушаных уцёкаў: каго ў Чарнігаў, каго ў Тмутаракань, а каго невядама куды на трохдзённыя пошукі.

Тут мы вернемся да асобы Антонія. Адпаведна крыніц, менавіта ён найбольш падтрымаў Усяслава Полацкага і падвергся найбольшаму праследу з боку Ізяслава. Апошні нават абвінаваціў манаха ў арганізацыі гарадскога бунту 15 верасня 1068 г. Пагроза была не жартам, калі Святаславу Чарнігаўскаму давялося Антонія таемна вывозіць з Кіева. Крыніцы не ўтрымліваюць звестак, як Антоній адрэагаваў на парушэнне Яраславічамі крыжацалавання ў 1067 г. Але вельмі паказальна яго рэакцыя восенню 1068. Яшчэ акадэмік Д.С. Ліхачоў падмеціў, што вызваленне Усяслава з порубу адбылося на другі дзень пасля свята Крыжаўзвіжання [12]. А Узвіжанскі крыж – гэта і ёсць той царкоўны атрыбут, які не толькі цалуюць, калі хрысцяцца, даюць клятву, але і той, якім благаслаўляюць. Не мог Антоній благаславіць Узвіжанскім крыжом тых, хто парушыў крыжацалаванне. І, безумоўна, як Божую волю ўспрыняў вызваленне Усяслава Полацкага.

Ёсць і яшчэ адна цікавая дэталь. Нягледзячы на тое, што Усяслава вызваліў і агаласіў князем народ, ягоны ўзыход на кіеўскі трон нехта мусіў асвяціць. Мітрапаліт Георгій на гэтую ролю не пасуе з той простай прычыны, што ён заставаўся мітрапалітам і да ўцёкаў Ізяслава і пасля яго вяртання. Г.зн. быў абсалютна лаяльным да Ізяслава Яраславіча, як потым і Святаслава Яраславіча, які выгнаў брата і сам заняў кіеўскі стол у 1073 г. Іншых мітрапалітаў і епіскапаў у Кіеве не было і быць не магло. Дапусціць, што Усяслава благаславіў на кіеўскі стол полацкі епіскап (ці мітрапаліт), таксама не пасуе. Не толькі таму, што мы яго не ведаем і крыніцы маўчаць, а нават проста таму, што і пры жаданні ён не паспеў бы з'явіцца ў Кіеве, дзе падзеі развіваліся надзвычай імкліва. Застаецца адзіная нам вядомая троіца: Антоній, Феадосій, Нікан.

Пачнем з Нікана. У яго былі праблемы ўзаемаадносін з Ізяславам, бо менавіта ён ажыццявіў пострыг Варлаама (сына баярына) і Яфрэма-еўнуха. Пасля гэтых падзей ён, быццам бы жадаючы адзіноты, сыходзіць у Тмутаракань, дзе засноўвае манастыр. У 1066 г. ад атруты гіне тмутараканскі князь Расціслаў Уладзіміравіч. Адпаведна жыція, Нікан выпраўляецца да чарнігаўскага князя Святаслава Яраславіча і просіць на тмутараканскі стол яго сына Глеба (дарэчы, прамы ўдзел манаха ў палітычным жыцці). З Чарнігава ён трапляе ў Кіеў, дзе сустракаецца з ігуменам Кіева-Пячэрскага манастыра Феадосіем, але ў горадзе не застаецца. Зноў-такі па жыціі, менавіта Нікан вязе Глеба ў Тмутаракань і асвячае яго пасаду. Цікава, што ў 1067 г. Глеб – наўгародскі князь, у Тмутаракані ён у снежні 1067 – студзені 1068 гг. робіць па лёдзе прамер Керчанскага праліва [13]. Такім чынам, тэарэтычна, Нікан мог быць у Кіеве падчас верасneўскіх падзей 1068 г. Аднак, пасля таго, як ён прывёў Глеба, ён быў заняты "ўправаю" тмутараканскага манастыра, толькі пасля чаго вярнуўся ў Кіеў. Таксама неверагодна, каб ён прасіў у Тмутаракань, вёз і асвячаў займанне стала аднаго з зацятых ворагаў Усяслава, а потым асвячаў Усяслава на кіеўскі стол. Усяславу і Глебу яшчэ давядзецца сутыкнуцца апошні раз ў бітве на рацэ Гзені пад Ноўгарадам у 1069 г.

Аднак заўважым, пячэрскі манах Нікан асвяціў пасаду князя ў Тмутаракані. Гэта азначае, што і іншы манах мог асвяціць пасаду князя ў Кіеве і ў любым іншым горадзе.

Феадосій. Становіцца ігуменам Кіева-Пячэрскага манастыра з прапановы Антонія. У Феадосія былі вельмі цесныя зносіны з Ізяславам і яго баярамі. Князь вельмі часта наведваў ігумена. Ігумен таксама наведваў князя і нават заставаўся ў яго палатах на ноч. "Боголюбивый же князь Изяслав, истинно благочестивый в вере к господу нашему Иисусу Христу и к Пречистой Матери и сложивший впоследствии голову свою за своего брата по призыву Господню, как говорят, искренне любил отца нашего Феодосия

и часто посещал его и насыщался духовными его беседами…И когда вот так же приходил кто-нибудь к Феодосию, то после духовной беседы угощал он пришедших обедом из припасов монастырских: подавали хлеб, чечевицу и немного рыбы. Не раз вот так же обедал и христолюбец Изяслав" [14].

Феадосій выступіў зацятым абаронцам інтарэсаў Ізяслава, калі апошняга выгналі з Кіева ўласныя браты, і ў горадзе сеў на стол Святаслаў Яраславіч (1073 – 1076). Такім чынам, і да падзей 1068 г. і пасля, Феадосій быў у самых прыязных адносінах з Ізяславам Яраславічам. Паказальна, што нават у эпізодзе з пострыгам сына кіеўскага баярына Варлаама, гнеў князя не закранае Феадосія. Такім чынам, Феадосій не мог падтрымаць, а тым больш асвяціць заняцце Усяславам кіеўскага стала.

Антоній. Аб ім сказана ўжо вышэй. Сапраўды, мы не бачым іншай постаці, апрача яго, хто мог бы асвяціць узыход Усяслава на кіеўскі прастол. Але, разам з тым, патлумачыць прыязнасць да полацкага князя выключна праз хрысціянскую спагадлівасць было б запроста. Чаму ён, а не мітрапаліт, Нікан і Феадосій? Канешне, былі ў Кіеве на той час і іншыя святары, але яны не выступаюць на старонках летапісу і жыцій у якасці палітычных асоб. Выкажам сваё меркаванне.

На наш погляд, існавала сувязь паміж Антоніем і Усяславам не толькі на асабістым узроўні. Не мог заснавальнік Пячэрскага манастыра падтрымаць князя-вязьня, ведаючы толькі аб тым, што ён сядзіць у порубе праз парушэнне крыжацалавання. Гэта ведалі і астатнія. Таксама ведалі ўсе, і Антоній у тым ліку, што Усяслаў – зацяты вораг Кіева, які нападаў на Пскоў, спаліў палову Ноўгарада, абрабаваў Наўгародскую Сафію. Праўда, усім таксама было вядома, што ў Полацку князь збудаваў сваю Сафію (ці завяршыў працу, пачатую бацькам Брачыславам). І пэўна ж, гэты храм быў асвечаны, у ім меўся епіскап (ці нават мітрапаліт), вяліся службы, і ў цэлым ішла місіянерская дзейнасць па ўсёй Полацкай зямлі і сярод балтыйскіх і фінскіх народаў, якія плацілі Полацку даніну. Калі верыць летапісу і жыцію (а іншых крыніц у нас няма), Антоній пражыў 93 гады. Неверагодна многа для свайго часу! За яго жыццё ў Кіеве змянілася шэсць князёў, тры з іх – генерацыі Рурыкавічаў. Калі яму было блізка дзесяці год, Уладзімір Святаслававіч толькі хрысціў Кіеў. Калі Антоній паміраў – у Кіеве паспела змяніцца 6 – 8 мітрапалітаў, па гарадах сядзелі епіскапы, множыліся манастыры. Неверагодныя змены на жыцці аднаго чалавека! Але гэта так. І дзе, у якім месцы гэтага амаль стагадовага жыцця яно перасеклася з Полацкам?

На нашую думку, кропкі судатыкнення трэба шукаць да падзей 1068 г. Не вядома, у якім узросце любечскаму хлопцу Анціпе прыйшло жаданне выправіцца ў паломніцтва ў Святую зямлю. Узнікаюць пытанні: адкуль на прыканцы X ст. хлопец з-пад Чарнігава мог даведацца не толькі аб Хрысце, але і аб манаскім подзвігу, аб існаванні Афонскай гары. Але мы ведаем, што другі раз, ужо з Кіева, ён туды збег пасля 1015 г. На гэты момант яму было ўжо 32 гады – вельмі сталы ўзрост для ранняга сярэднявечча. (Усяслаў Полацкі, дарэчы, яшчэ нават і не нарадзіўся). Падставаю для ўцёкаў, нагадаем яшчэ раз, было быццам бы тое, што Святаполк Яраполчыч, законны спадчынны кіеўскі князь пасля Уладзіміра, быццам бы забіў Барыса і Глеба. Пачалася барацьба паміж Яраславам Уладзіміравічам Наўгародскім і Святаполкам, якая скончылася ўцёкамі Святаполка і ягонай смерцю недзе ў Маравіі ў 1018 г. Чым гэта магло пагражаць афонскаму манаху? Нічым, калі толькі нейкім чынам ён не апынуўся на баку адной з дзвюх палітычных сіл.

І вось тут мы сутыкаемся з адной цікавай факталагічнай супярэчнасцю. Жыцце Антонія ў розных рэдакцыях (поўнае і кароткае) у адзін голас сцвярджае, што збягае ён пасля забойства Барыса і Глеба (1015), а вяртаецца, калі Яраслаў выганяе Святаполка і становіцца кіеўскім князем (1018). Нават, калі даць Антонію некаторы час на "зборы" і пераезд з Афона да Кіева, то, прыблізна ў 1020 – 1030 годзе яго варта было б чакаць у Кіеве. У жыцці гэта адбываецца даволі хутка. Але ёсць адна дэталь. Перш чым распавесці аб вяртанні Антонія, знаходзіцца аповед аб святары з Берастова Іларыёне, постніку і вельмі дасведчаным у Святым Пісанні чалавеку, які выкапаў сабе пячору над Дняпром і там маліўся. Не зразумела, праўда, навошта святару княжаскай царквы трэба было ў пячоры на два аршыны "отпеваше часы и моляшася Богу ту в тайне" [15]. З прыходам Яраслава ў Кіеў менавіта гэты Іларыён становіцца першым мясцовага паходжання мітрапалітам, пасля чаго, натуральна, у яго адпадае патрэба час ад часу наведваць сваю пячору. А вось тут і загадка: мітрапалітам Іларыён становіцца толькі ў 1051 г. Нават калі дапусціць, што ў Іларыёна не было патрэбы ў той пячоры пачынаючы з 1037 г., бо Яраслаў прыцягнуў яго да "выпраўлення кніжнага", і, як мяркуюць, у гэтыя гады ён піша сваё "Слова…". І вось пустую пячору Іларыёна займае Антоній пасля другога вяртання ў Кіеў. Лагічна дапусціць, што пячора Іларыёна, якая выкарыстоўвалася апошнім часова, але перыядычна, стала вольнаю не раней 1037 г., а, магчыма, і толькі пасля 1051 г. Тады паўстае пытанне: а ці так ўжо і хутка вярнуўся ў Кіеў з Афона Антоній? Ад каго Антоній збег: ад Святаполка ці Яраслава? Логіка падказвае, што ад апошняга, бо ў любым выпадку, на самай справе, Антоній не спяшаўся вяртацца ў Кіеў. Мяркуючы па яго адносінах да Ізяслава Яраславіча, і да самога Яраслава Уладзіміравіча адносіны Антонія былі далёка не прыязныя.

Вось недзе тут, у гэтыя гады, на наш погляд, і перасекліся шляхі Антонія з Полацкам. Прамых доказаў няма, і наўрад мы іх знойдзем. Але ёсць некаторыя апасродкаваныя факты, якія знаходзяць тлумачэнне пры ўліку сказанага вышэй.

У айчыннай гісторыі XI – XII стст. ёсць толькі адзін прамы факт сувязі Полацка з Афонам – перанясенне на гару мошчаў Ефрасінні з Іерусаліма, калі апошні быў захоплены туркамі. Чаму сюды, а не ў Канстанцінопаль, дзе святая сустракалася з мясцовым патрыярхам, чаму, напрыклад, не ў Александрыю, Салунь, Херсанес, не напрасткі ў Кіеў, і не ў Полацк? Чаму спісы жыцця Ефрасінні Александрыйскай захаваліся толькі на Афонскай гары, дзе іх чытаў і пераказаў пасля Анатоль Франс? Ці не з Афонскай гары былі кнігі "айцоў царквы", у тым ліку і на грэцкай мове, якія знайшоў у Сафійскім саборы сакратар Стэфана Баторыя Рамуальд Гейдэнштэйн у 1579 г.? [16]. Якім чынам невядомы гісторыі нашчадак Святаполка Яраполкавіча апынуўся ў Полацку і фундаваў будаўніцтва Сафійскага сабора? [17]. Адкуль увогуле ў Полацку з'явілася ідэя заснавання жаночага манастыра? Нагадаем, што Прадзіслава, калі вырашыла прысвяціць сябе Богу, прыйшла ва ўжо дзеючы манастыр пры Сафійскім саборы да сваёй цёткі Раманіі. Дарэчы, манастыр быў Траецкім і адзіным жаночым на той час на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы.

Адказаць дакладна на ўсе пытанні мы не можам. І ці зможам калі? Аднак, нейкая ледзь улоўная сувязь паміж Афонам і Полацкам існавала. І гэтай першай, пачатковай сувяззю мог быць Антоній. Ён адзіны на ўсім нашым абшары, хто не толькі быў пастрыжаны на Афоне, але і двойчы туды хадзіў і двойчы вяртаўся. Шлях з Любеча і Кіева на Афон вядомы – уніз па Дняпры і па моры. А вось адваротны шлях мог быць іншым – праз уласна мацярыковую Грэцыю, Балгарыю, ці Маравію, Польшу. Звернем увагу, што адзінай мэтай Антонія па вяртанні ў Кіеў было заснаванне манастыра. Ён не быў місіянерам, ён не меў царкоўных паўнамоцтваў, нават не прэтэндаваў на ігуменства ў ім жа закладзеным кіеўскім манастыры. Але менавіта закладаць манастыры ён мог. Як перад гэтым зрабіў у Полацку напаўлегендарны Торвальд Вандроўнік недзе ў канцы X ст.

Антоній вызнаваў так званую "общежительную" форму манаства, якая пачалася з Пахомія Вялікага, прыблізна каля 340 г. у Верхнім Егіпце ў г. Табенна. Уласна Пахомій заснаваў мужчынскі манастыр, а ягоная сястра – першы ў гісторыі жаночы манастыр. Правілы, па якіх жылі манастыры атрымалі назву «Статут Пахомія». Патронка полацкай Еўфрасінні – Еўфрасіння Александрыйская, пераапрануўшыся хлопцам, бяжыць і хаваецца менавіта ў мужчынскім манастыры, які жыве па статуту Пахомія. (Заўважым, што статут Пахомія быў больш жорсткі за Студыцкі канстанцінопальскі статут, які ўвёў у Кіева-Пячэрскім манастыры Феадосій). Еўфрасіння Полацкая, як і яе цётка Раманія, гэта ведалі (і пра статут, і пра заснаванне жаночага манастыра, і аб Еўфрасінні Александрыйскай). Адкуль? Толькі з кніг. Ніякі аповед, пераказ вандроўніка ці місіянера не мог бы прымусіць паўтарыць такі духоўны подзвіг. Такім чынам, цалкам верагодна, што ў Полацку хрысціянская літаратура, прычым менавіта на грэцкай мове, існавала ўжо на пачатку – сярэдзіне XI ст. І трапіць сюды яна магла ў тым ліку і з Афона. Да падзей 1068 г. у нас няма ніякіх звестак аб прамых ці апасродкаваных кантактах Полацка і Афона. Але звязка Антоній – Усяслаў Полацкі такую падставу дае.

Магчыма дапусціць, што крыніцай як мінімум афонскай жыційнай літаратуры ў Полацку XI ст. быў Антоній Пячэрскі. Вяртацца ў Кіеў другі раз ён мог праз Полацк (таму і з'явіўся са спазненнем). Таксама можна дапусціць, што ў Полацку ён з'явіўся не адзін, а разам са сваякамі таямніча забітага на мяжы з Маравіяй Святаполка Яраполкавіча. (Адсюль непрыязнь да Яраслава і Яраславічаў.) Святаполкавічы, маючы сродкі, і зрабілі свой кцітарскі ўнёсак у пабудову Сафійскага сабора. Ведаючы гэта, Антоній спрыяльна адносіўся да полацкага князя і не мог не спачуваць яму, калі той быў схоплены праз парушэнне крыжацалавання.

І яшчэ адна дэталь. X – пачатак XI стст. – час актыўнага будаўніцтва манастыроў у Еўропе менавіта ўсходняга ўзору, якому спрыяла дынастыя Камнінаў. Таму і не падаецца дзіўным, ці нейкім выключэннем заснаванне Антоніем Кіева-Пячэрскага манастыра, а таксама магчымае заснаванне манастыра ў Полацку, блізка гэтага часу.

Апрача таго, у сярэдзіне XI ст. у Полацку будуецца Сафійскі сабор. Апускаючы храналогію і асаблівасці архітэктуры гэтага храма (аб чым аўтар неаднаразова пісаў у іншых публікацыях), адзначым, што для рэлігійнага жыцця храма было патрэбна адпаведнае начынне. На момант нападу Усяслава на Ноўгарад у 1067 г. Сафія ўжо стаяла. Таму, пэўна, князь і абмежаваўся зняццем з наўгародскага храма найбольш ёмістых і важкіх аксэсуараў: званы і панікадзіла. Можна быць абсалютна ўпэўненым, што царкоўная літаратура, абразы, ладанкі, крыжы (напрастольны, узвіжанскі), адзенне святароў, мітры, посахі і г.д., неабходныя для штодзённага набажэнства, у полацкім храме ўжо былі. Адкуль яны ўзяліся, хто даў, хто прывез, хто выкарыстоўваў? Адказ толькі адзіны: той, хто ўсталяваў у Полацку епіскапію (ці мітраполію), той і прадаставіў царкоўнае начынне. Кіеў лёгка выключаецца з гэтых прэтэндэнтаў, бо на-

вошта (калі б гэта залежала ад кіеўскага мітрапаліта) рабаваць падпарадкаваны і залежны ад Кіева Ноўгарад і яго Сафію? Канстанстанцінопаль таксама не пасуе, бо ў візантыйскіх спісах мітраполій і епіскапій Полацка няма. Няма падстаў сумнявацца ў тым, што ад пачатку заснавання полацкая епархія была ўсходняга абраду. Такім чынам, адзінай крыніцай ўсталявання епіскапіі, паступлення літаратуры і іншага богаслужэбнага начыння застаецца Балгарыя.

У сувязі з выказанай гіпотэзай, дададзім яшчэ адну заўвагу. Дакладнай даты хросту Балгарыі не існуе (паміж 863 і 866 гг.). Афіцыйная Балгарская Праваслаўная Царква адносіць гэтую падзею да 865 г. Аднак цікава іншае, хрышчэнне Балгарыі прымеркавана да свята Крыжаўзвіжання – 14 верасня. Менавіта ў гэты дзень, як лічыцца, цар Барыс з сям'ёй і дваром хрысціўся, і з гэтага дня зрабіў хрысціянства афіцыйнай (дзяржаўнай) рэлігіяй у краіне. Пасля, як і ў выпадку з кіеўскім Уладзімірам Святаславічам, было і масавае хрышчэнне народу, і падаўленне язычніцкіх паўстанняў [18] і ў Полацку, і ў Кіеве не ведаць гэтай гісторыі не маглі.

На наш погляд, усё выкладзенае вышэй немагчыма разглядаць, як простае супадзенне. Адсутнасць прамых летапісных звестак прымушае аналізаваць апасродкаваныя факты, якія ў цэлым дазваляюць, у якасці гіпотэзы, убачыць наступную карціну.

У XI ст., з пачаткам княжання Брачыслава Ізяслававіча (1003 – 1044 гг.) Полацкая зямля праводзіць самастойную знешнюю палітыку па ўмацаванні і павялічэнні тэрыторый, прыняцці хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі. Менавіта ў гэты час адбываецца першы кантакт з праваслаўным балгарскім патрыярхатам і ўсталяванне Полацкай епіскапіі. У гэты час у Полацк трапляе хрысціянская літаратура на грэцкай, балгарскай (магчыма лацінскай) мовах, храмавае начынне, абразы. Палачане праз Торвальда Вандроўніка, Антонія Пячэрскага знаёмяцца з манаствам, як формай хрысціянскага падзвіжніцтва, па ўзоры Паўночнага Егіпта і Афона. Магчыма дапусціць, што першы манастыр у Полацку з'яўляецца яшчэ да пабудовы Сафійскага сабора, і тое, што ён быў мужчынскім. Першы дакладны жаночы манастыр існуе пры Сафійскім саборы не пазней другой паловы – канца XI ст.

Спецыфікай ранняга хрысціянскага веравызнання на Полаччыне з'яўляецца асаблівае ўшанаванне сімвалаў Веры сямі першых сабораў, Троіцы і Узвіжанскага Крыжа. Апошняе, магчыма, было звязана з тым, што Крыж (па форме, хутчэй за ўсё, Патрыяршы) быў галоўнай святыняй у Сафійскім саборы і ва ўсёй дзяржаве. Крыж быў балгарскага паходжання, дасланы непасрэдна патрыярхам альбо архіепіскапам Ахрыдскім і сімвалізаваў таксама хрышчэнне Балгарыі пры цары Барысе. Такім чынам, і полацкія князі мелі падставу лічыць сябе роўнымі еўрапейскім манархам. Гэта ж тлумачыць непадпарадкаванасць Полацка Кіеву.

Патрэба абароны сваіх палітычных, тэрытарыяльных і эканамічных інтарэсаў прывяла Полацк да канфлікту з Кіевам. Апагея ён дасягае ў 1066 – 1068 гг. Фармальнай падставай мог быць захоп Усяславам Менскай воласці, якая належала Тураўскай Зямлі, і пачатак будаўніцтва новай крэпасці на Нямізе. Таксама напады на Пскоў і Ноўгарад, з мэтаю паслаблення іх актыўнасці на гандлёвых шляхах і волаках.

Яшчэ адной падставай магло быць падзенне Першага Балгарскага царства ў 1018 г., якое азнаменавалася захопам Ахрыда, і ліквідацыяй незалежнай балгарскай аўтакефальнай царквы і падпарадкаванне яе Візантыі. Дарэчы, усё гэта суправаджалася масавым вынішчэннем балгар і іх бегствам за межы дзяржавы. Цалкам верагодна, што частка з іх апынулася на Полаччыне (што назіраецца археалагічна ў побытавай культуры і архітэктуры XI – XII стст.) [19]. І гэта была ўжо другая хваля знаёмства з культурай Балкан. Ліквідацыя Ахрыдскага патрыярхату прадугледжвала перадачу пад пратэктарат канстанцінопальскага патрыярха ўсіх балгарскіх (як уласна балканскіх, так і ўсталяваных за межамі Балгарыі) епіскапій. Полацкая епіскапія (мітраполія) мусіла перайсці пад уладу кіеўскага мітрапаліта. Але гэтага не адбываецца на працягу ўсяго XI ст., пакуль не памірае Усяслаў Полацкі.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ідэалагічнай складовай канфлікта Полацка з Кіевам магло быць жаданне апошняга падпарадкаваць сабе і полацкую царкву. Яна ж, ў вачах "незалежных" ад улады і мітрапалічага кіравання манахаў-заснавальнікаў Кіева-Пячэрскага манастыра: Антонія, Феадосія і Нікана, была цалкам кананічнай і мела правы на самастойнае існаванне. Асаблівая прыязнасць Антонія да полацкага князя, верагодна, тлумачылася не толькі знаёмствам, але і тым, што Антоній ведаў аб стане і распаўсюджанні хрысціянства на Полаччыне. Асаблівую прыхільнасць магло выклікаць будаўніцтва Сафійскага сабора, наяўнасць манастыра (манастыроў), хрысціянскіх святынь, стаўленне князя да хрысціянскай асветы, кніг, частку з якіх Антоній мог перадаць асабіста. Дарэчы, нават у Кіеве ён мог падтрымліваць кантакты з палачанамі праз "Брачыслававa дворышча".

У падзеях 1067 г. пад Воршаю трыўмвірат Яраславічаў, вачыма хрысціяніна, робіць непапраўнае злачынства, грэх, якому няма даравання. Яны даюць клятву, цалуючы галоўную полацкую святыню –

Крыж, і парушаюць яе. Г.зн., яны паступаюць як язычнікі, ці як людзі, што адступілі ад Веры. Аб чым яскрава сведчыць летапісны артыкул [20]. Сярод саміх Яраславічаў няма адзінства. Святаслаў Чарнігаўскі скептычна адносіцца да ўчынку брата Ізяслава, але трывае да пары, пакуль той не пагражае Кіеўскай Русі падпарадкаваннем Польшчы і пераходам пад руку Ватыкана.

Сярод манахаў-пячэрцаў таксама няма адзінства.

У Феадосія цесныя адносіны з Ізяславам Кіеўскім. Ён яго вучыць, ушчувае ад лаціны, нават абараняе перад братам, калі Ізяслаў у выгнанні.

Нікан – прыязны да Святаслава, які імкнецца праводзіць уласную палітыку, добра ставіцца да пашырэння манаства і будаўніцтва храмаў. Нікан нават выступае ў якасці дыпламата, просячы святаславава сына Глеба на стол у Тмутаракані. Ці не ўзгадняць з Ізяславам праз Феадосія новую пасаду Глеба заязджаў ён у Кіеў у гэты час? Але з самім Ізяславам у Нікана адносіны не склаліся. І, магчыма, не толькі таму, што ён пастрыгаў у манахі баярскіх дзяцей без згоды бацькоў і князя. М.Д. Прысялкоў і А.А. Шахматаў выказвалі цікавую здагадку, што пад манаскім імем “Нікан” пайшоў у манастыр першы славянскі мітрапаліт Іларыён [21]. Апошні, пастаўлены Яраславам Мудрым у 1051 г., знікае адразу пасля яго смерці ў 1054 г., калі Ізяслаў спрыяе аднаўленню візантыйскага парадку пастаўлення мітрапалітаў. Жыціі Іларыёна, Нікана і Кіева-Пячэрскі пацярык амаль аднымі словамі ўхваляюць глыбокія веды і азнанасць у веры гэтых людзей, іх кніжнасць, што сапраўды, падаецца, размова ідзе аб адным і тым жа чалавеку. Калі гэта так, то зразумела, чаму не кананізаваны Іларыён, а кананізаваны Нікан.

Нарэшце, Антоній, аб якім мы ўжо многа напісалі, прыхільна ставіцца да Усяслава Полацкага як пэўнай палітычнай і духоўнай альтэрнатывы Кіеву. Законна было б задаць пытанне: “А чаму ж ён тады не жыве ў Полацку?”. Магчыма і жыў, але на 1068 г. яму было ўжо 85 гадоў. Натуральна было бачыць манаха ў манастыры, які ён сам і заснаваў. Магчыма дапусціць, што Антоній спачувае не толькі асабіста Ўсяславу, але і ўсёй Полацкай Зямлі. Ці не тут ён хрысціўся? Звернем увагу на першае імя Антонія – Анціпа. Гэта хрысціянскае імя першасвяціцеля першага стагоддзя новай эры, вучня Іаана Багаслова, епіскапа Анціпы Пергамскага. Імя грэцкага паходжання. А сам Анціпа Пергамскі быў пакутнікам, якога язычнікі за пропаведзь хрысціянства кінулі ў чэрава нагрэтага жалезнага быка. З чаго вынікае, што да таго як выправіцца на Афон, малыды чалавек з Любеча, які, нагадаем, нарадзіўся ў 983 г., быў свядомым хрысціянінам. Мала таго, той хто яго хрысціў і даваў хрысціянскае імя, добра ведаў раннюю гісторыю хрысціянства, прычым, на тэрыторыі Малой Азіі. Канешне, магчыма дапусціць, што малады чалавек хрысціўся ў час каля 992 г., калі былі ўсталяваны епархіі, у тым ліку і Чарнігаўская, дзе па паданні епіскапамі былі святары яшчэ з князем Уладзімірам. А яны, як вядома, былі балгарамі, як і першы кіеўскі мітрапаліт. Такім чынам, выключаць балгарскі след як падставу прыхільнасці Антонія да Усяслава, Полаччыны і Усяслава да Антонія не варта.

Такім чынам, канфлікт Полацка з Кіевам, які дасягнуў апагея ў 1066 – 1068 гг. не варта разглядаць як выключна палітычную з’яву. Ён меў таксама і рэлігійна-ідэалагічную падкладку. Можна меркаваць, што Полацк супрацiўляўся не толькі спробе Кіева падпарадкаваць Полацкую Зямлю палітычна і тэрытарыяльна, але і спробе навязаць праз сябе духоўнае кіраўніцтва Канстантынопаля. Да 1105 г. хрысціянская царква ў Полацку ўзнікла і існавала як самастойны, незалежны ад Кіева інстытут, верагодней за ўсё, духоўна падпарадкаваны Ахрыдскай патрыярхіі. А з моманту падзення Першага Балгарскага царства і ліквідацыі незалежнасці балгарскай царквы ў 1018 г. па 1105 г., фактычна была цалкам самастойнаю.

ЛІТАРАТУРА

1. Ставиский, В.И. Полоцкие князья в системе организации власти над русской землёй в XI в. / В.И. Ставиский // История и археология Полоцка и Полоцкой земли, ПИАЗ, 1987. – 82 с. С.57 – 59.

2. Алексеев, Л.В. «Менские дреговичи» и полоцкие князья. / Л.В. Алексеев //Российская археология. – 1998. №2. – С.100 – 112.

3. Поучения и молитва Феодосия Печерского. Электронные публикации Института русской литературы (Пушкинский Дом) РАН. Рэжым доступу: http://lib.pushkinskijdom.ru/Default.aspx?tabid=4873ъ

4. Карташов, А.В. Очерки по истории русской церкви / А.В. Карташов. – М., 1991. – Т.1. – С. 170.

5. Повесть временных лет. Электронные публикации Института русской литературы (Пушкинский Дом) РАН. Рэжым доступу: http://lib.pushkinskijdom.ru.

6. Жизнеописания достопамятных людей земли Русской. Житие преподобного Антония Печерского. Рэжым доступу: htt://www.bibliotekar.ru/zhizneopisaniya/5.htm.

7. Жизнеописания достопамятных людей земли Русской. Житие преподобного Антония Печерского. Рэжым доступу: htt://www.bibliotekar.ru/zhizneopisaniya/5.htm.

8. Викитека. Жития святых (Дмитрий Ростовский). Житие Антония Печерского. Рэжым доступу: http://ru.wikisource.org/wiki/.

9. Жизнеописание достопамятных людей земли Русской. Рэжым доступу: http://www.bibliotekar.ru/zhizneopisaniya/5.htm.

10. Карташов, А.В. Очерки по истории русской церкви / А.В. Карташов. – М., 1991. – Т.1. – С. 160.

11. Карташов, А.В. Очерки по истории русской церкви / А.В. Карташов. – М., 1991. – Т.1. – С. 224-225.

12. Лихачёв, Д.С. 15 сентября 1068 г. / Д.С. Лихачёв //"Знание – сила". – 1983. – №4. – С.30.

13. Рыбаков, Б.А. Русские датированные надписи XI—XIV вв. / Б.А. Рыбаков // Свод археологических источников. – 1964. – Е-144. – С.17.

14. Русская история. Житие Феодосия Печерского. Рэжым доступу: http://www.bibliotekar.ru/rus/84.htm.

15. Житие. Житие святителя Иллариона, митрополита киевского. Рэжым доступу: http://www.saints.ru/i/3-Illarion-Kievskii.html.

16. Гейденштейн, Р. Записки о Московской войне (1578—1582 гг.) / Р. Гейденштейн. – СПБ., 1889. – С.71.

17. Тарасаў, С. Плінфа з выяваю княжацкага знака з раскопак на Верхнім замку ў Полацку. / С. Тарасаў //Acta Arhaeologica Albaruthenica Мінск, 2009. Vol.V. / Выдавец І.П. Логвінаў. – Мінск, 2009. – С.54 – 72.

18. Православная энциклопедия. Болгарская православная церковь. Рэжым доступу: http://www.pravenc.ru/text/149675.html.

19. Тарасаў, С. Старажытны Полацк. Балканскі след / С. Тарасаў // Беларускі гістарычны часопіс. – 2012. – №5, – С.9 – 19, 81.

20. Электронная библиотека ИРЛИ РАН Пушкинский дом. Повесть временных лет. Рэжым доступу: http://lib.pushkinskijdom.ru/Default.aspx?tabid=4869.

21. Карташов, А.В. Очерки по истории русской церкви / А.В. Карташов. – М., 1991. – Т.1. – С. 170.

**УДК 728.03"19"**

## ІТАЛЬЯНСКІЯ РЫСЫ АСВЕЙСКАЙ СЯДЗІБЫ

***Г.У. АНДРЭЙЧУК***
**Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Мінск**

*Палацавы комплекс у Асвеі з'яўляецца выдатным прыкладам уплыву італьянскай архітэктурнай традыцыі на гісторыю беларускай архітэктуры. Загарадны палац, створаны ў XVI ст. у Вічэнцы (Італія) у эпоху Адраджэння Андрэя Паладыё, лёг ў аснову архітэктурнага плана палаца ў Асвеі.*

Культура кожнага народа жыве не толькі па законах самаразвіцця, але і адчувае на сабе наступствы рознага роду культурных кантактаў. Уплывы італьянскай архітэктуры на архітэктуру краін Еўропы вельмі значныя і з'яўляюцца бясспрэчным фактам у развіцці гісторыі заходняга мастацтва. Шматлікія выбітныя дойліды вучыліся ў Італіі, а ўжо пазней, увасобіўшы атрыманыя веды ва ўласнай творчасці, атрымалі вядомасць у сябе на радзіме. У сваю чаргу, многія італьянскія архітэктары працавалі не толькі ў Італіі, але і далека за яе межамі. Выхадцы з Італіі тварылі ў Францыі і Англіі, Іспаніі і Партугаліі, Германіі і Аўстрыі. Сапраўды вялікім з'яўляецца ўплыў італьянскай архітэктуры на горадабудаўніцтва Украіны і Расіі. Моц любой культуры заключаецца ў «здольнасці не толькі ўплываць, але і ўспрымаць уплыў» [13, с. 12]. Таму важным фактарам, які садзейнічаў распаўсюджванню італьянскага культурнага ўздзеяння на землях Беларусі другой паловы XVIII – сярэдзіны XIX ст., з'явілася асаблівая «схільнасць» мясцовай культуры да ўспрыняцця італьянскага мастацтва, чэрпаючага натхненасць у Антычнасці.

Для кожнага шляхціча Рэчы Паспалітай Італія была краінай найвышэйшай культуры – туды імкнуліся, там пераймалі ідэі для будаўніцтва сваіх сядзіб. Прадстаўнікі розных саслоўяў падарожнічалі па Італіі з мэтай "выхаваць у сабе густ да мастацтваў увогуле"» [11, с. 184]. Пасля вяртання з-за мяжы уладальнікі маенткаў уносілі шматлікія наваўвядзенні ў быт і культуру сядзіб, у іх планіроўку і архітэктурнае ўвасабленне.

У сядзібнай культуры Беларусі заходнееўрапейскі ўплыў найбольш шырока праявіўся ў выглядзе прыняцця класіцызму як сістэмы міжнароднай мастацкай культуры, у межах якой развіваўся нацыянальны варыянт стыля. Уплыў у першую чаргу італьянскіх узораў загарадных віл, з іх імкненнем да першавобразаў антычных будынкаў, палег у аснову палацава-сядзібнай архітэктуры Беларусі другой паловы XVIII – сярэдзіны XIX ст. У гэты перыяд былі сінтэзаваныя лепшыя рысы традыцый і дасягненняў як заходняй, так і беларускай культур.

Самым распаўсюджаным становіцца тып шляхецкай сядзібы, які нагадваў сельскую вілу – сціплую па памерах, але вельмі вытанчаную ў архітэктурных формах, якая ўсім сваім абліччам імкнулася перадаць дух антычнасці. У гэтым імкненні да антычнага мінулага выяўлялася жаданне людзей прыйсці да ідэала спакою, любові і шчасця. Такі тып загараднага палаца ці сядзібы ўпершыню быў створаны яшчэ ў XVI ст. у Вічэнцы (Італія) італьянскім архітэктарам Андрэа Паладыё (1508 – 1580), а пазней засвоены рознымі архітэктарамі наступных эпох. Падобную папулярнасць дадзены тып будынка атрымаў дзякуючы таленту Паладыё, які змог удала пераняць і ўвасобіць прынцыпы антычнай храмавай архітэктуры ў вытанчаных пабудовах загарадных віл.

Сваімі архітэктурнымі творамі і навуковым трактатам «Чатыры кнігі пра архітэктуру» [12] вялікі італьянскі дойлід даў жыцце цэламу напрамку ў рэчышчы класіцызма больш позніх эпох – паладыянству. У аснове гэтага напрамка ляжала строгае прытрымліванне сіметрыі, улік перспектывы і перайманне прынцыпаў класічнай храмавай архітэктуры Старажытнай Грэцыі і Рыма. Паладыянства ўяўляла са-бой раннюю форму класіцызма, якая вырасла з ідэй Паладыё. Дадзены напрамак ніколі не пярэчыў класіцызму, а, хутчэй, дапаўняў яго некалькі іншай трактоўкай разумення дома альбо сядзібы, як ней-кага «жывога арганізма», які з'яўляецца неад'емнай часткай прыроды, бачання гарманічнага існавання чалавека і архітэктуры, чалавека і акаляючай прасторы — тых прынцыпаў сусветнай гармоніі, да якіх імкнуліся старажытныя грэкі, узводзячы свае цудоўныя храмы.

«Вілы Паладыё былі простымі, мэтазгоднымі і адначасова велічнымі. І як нельга лепей адпавядалі ідылічнаму культу прыроды, што авалодаў уяўленнем людзей XVIII ст. Яны сталі сапраўды бясспрэчным прыкладам і для шляхецкіх гаспадарчых сядзіб і для загарадных палацаў...» [7, с. 205]. Тэма вялікага ордэра, пошукі гарманічнага спалучэння цэлага і частак, варыятыўнасць суадносін сцяны і каланад, каланад і арак, суразмерная арганізацыя планаў будынкаў, ідэальна ўпісаных у навакольны ландшафт, разнастайнасць аб'емна-планіровачных сістэм – гэтыя і іншыя прыемы Паладыё надоўга ўвайшлі ў іканаграфію класіцызма і сталі асноўным творчым крэда для дойлідаў наступных перыядаў у розных краінах Еўропы.

Яскравым прыкладам увасаблення паладыянскіх ідэй на землях Беларусі можа паслужыць былы палацавы комплекс у г.п. Асвея (Верхнядзвінскі р-н, Віцебскай вобласці), пабудаваны ў пачатку XIX ст., які сваей кампазіцыйнай будовай развівае тэму паладыянскіх крытых галерэй (віла Трысіна ў Меледа, Барбара ў Мазер, Сарачэна ў Фінале і інш.). Яго знешні выгляд вядомы па двух малюнках Н. Орды [6, с. 18] і фотаздымку, зробленаму перад 1914 г. [15, с. 269]. Мяркуючы па гэтых іканаграфічных матэрыялах, у планіровачнай структуры сядзібы была выкарыстана паладыянская сістэма арганізацыі параднага двара пры дапамозе трохчастковай кампазіцыі, калі цэнтральны аб'ем галоўнага корпуса палаца злучаўся пры дапамозе паўкружжа галерэй з двума сіметрычна пастаўленымі афіцынамі [1].

Асаблівасцю асвейскага сядзібнага комплекса з'яўлялася тое, што калі раней кампазіцыйны прыем такога кшталту рэалізоўваўся як прыбудова бакавых цыркумферэнцый, у дадзеным выпадку гэтая планіровачная схема есць аўтэнтычная творчая задума. Таксама ў палацы назіраўся пэўны працэс мадэрнізацыі гэтага паладыянскага матыва, пры якім з'явіўся варыянт скарочаных, злегку закругленых галерэй, што злучалі дом і флігелі ў адзінае цэлае. Такі архітэктурны прыем, са злегку выгнутымі па плаўнай лініі галерэямі ў бок пейзажнага парка, дазваляў змякчыць знешнюю строгасць некалькі манументальнага цэнтральнага корпуса, а «іх малы маштаб надаваў сядзібе інтымны, камерны характар» [9, с. 72]. Падобнае рашэнне кампазіцыі палаца ў маентку Асвея, якое прадугледжвае спалучэнне рэпрэзентатыўнага знешняга выгляда будынка і яго ўтылітарнага прызначэння, бясспрэчна, стала магчымым дзякуючы таленавітай інтэрпрэтацыі і прымяненню аўтарам сядзібы ідэй і метадаў італьянскага дойліда Андрэа Паладыё.

Перайманне і выкарыстоўванне матываў і прыемаў італьянскай архітэктуры эпохі Адраджэння ніколі не было для Беларусі кароткачасовай модай, не стала яно і сляпым імітаваннем твораў Паладыё. Дадзеная культурная з'ява ў гісторыі архітэктуры Беларусі стала крыніцай ідэй, стымулам самастойнай творчасці, адной з арганічных плыняў архітэктурнага жыцця на працягу XVIII – XIX ст.

ЛІТАРАТУРА

1. Андрейчук, А.В. Палладианский мотив трехчастных композиций с галереями в дворцово-усадебной архитектуре Беларуси конца XVIII – середины XIX вв. / А.В. Андрейчук // Трансфармацыя стыляў у кантэксце эвалюцыі мастацкіх працэсаў еўрапейскага мастацтва XIX – пачатку XX стагоддзя: материалы международной научно-практической конференции Аладовские чтения-2010. ; под ред. И.Н. Скворцовой. – Минск, 2009. – С. 87 – 95.

2. Арган, Дж.К. История итальянского искусства / Пер. с ит. Г.П. Смирнова. В 2 т. Т. 2; Науч. ред. и послесл. В.Д. Дажиной. – М.: Радуга, 1990. – 239 с.

3. Аркин, Д.Е. Образы архитектуры / Д.Е. Аркин. – М., 1941. – 368 с.

4. Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов Белоруссии: Учебное пособие для вузов / В.А. Чантурия, В.Ф. Морозов, В.В. Трацевский и др.; под. общ. ред. В.А. Чантурия. – Минск: Выш.. шк., 1988. – 101 с.

5. Бартенев, И.А. Очерки истории архитектурных стилей: учебное пособие / И.А. Бартенев, В.Н. Батажкова. – М.: Изобразительное искусство, 1983. – 384 с.

6. Беларусь у малюнках Н. Орды. Другая палова XIX стг. – Мінск: Ураджай, 2001. – 330 с .

7. Гращенков, В.Н. Наследие Палладио в архитектуре русского классицизма / В.Н. Гращенков // Советское искусствознание. – 1982. – №2. – С.201 – 234.

8. Духан, И.Н. Классические формы и порядок времени / И.Н. Духан // Архитектура и строительство. – 2009. – № 3 (202). – с. 17 – 23.

9. Кулагин, А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии второй половины XVIII – начала XIX века / А.Н. Кулагин; под общ. ред. О.А. Швидковского. – Минск: Наука и техника, 1981. – 133 с.

10. Локтев, В.И. Современная композиция: от случайности к закономерности / В.И. Локтев // Архитектура СССР. – 1983. – № 3/4. – С. 10,15.

11. Лякишева С.И. Итальянский ампир Доменико Жилярди в д. Новомихайловка Корсаковского района Орловской области (К 180-летию памятника архитектуры) / Русская усадьба: сб. Общества изучения русской усадьбы: вып. 17 (33) / колл. авторов; М.В. Нащокина (науч. ред.-сост.). – СПб. – Москва: Коло, 2012. – вып. 17 (33). – С. 217 – 226.

12. Палладио, А. Четыре книги об архитектуре / пер. с итал. И.В. Жолтовского; под. ред. А.Г. Габричевского. – Факс. изд. – М.: ООО «Архитектура – С», 2006. – 352 с.

13. Сарабьянов, Д.В. Россия и Запад. Историко-художественные связи. XVIII – начало XX века / Д.В. Сарабьянов. – Москва, 2003. – 296 с.

14. Сядзібы Беларусі / Тэкст Л. Чарняўскай. – Мінск: Рыфтур, 2003. – 75 с.

15. Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej: Część 1. Wielkie Księstwo Litewskie. – Wrocław, Warszawa, Kraków: Zakład Narodowy Imenia Ossolińskich, 1991 – 1993. – T. 1: Województwa mińskie, mścisławskie, połockie, witebskie. – 336 s.

**УДК 94:322 "1930/1940"**

## СТАНОВІШЧА ПОЛАЦКАЙ АБНАЎЛЕНЧАЙ ЕПАРХІІ І ЯЕ РЭАРГАНІЗАЦЫЯ Ў ПАЧАТКУ 1930-Х ГГ.

***магістр гіст. навук В.В. БАРАНЕНКА***
**Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы, Мінск**

*Сітуацыя ў Полацкай абнаўленчай епархіі і яе рэарганізацыя ў пачатку трыццатых гадоў XX ст. падчас калектывізацыі і барацьбы з антысавецкімі элементамі разглядаецца ў артыкуле. Мы прыйшлі да высновы, што ў пачатку трыццатых гадоў адбываецца паступовае ўзмацненне жорсткасці дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да царквы, надыходзіць доўгі этап сістэматычных ганенняў. Артыкул ўводзіць шэраг новых архіўных дакументаў, што, відавочна, важна для далейшых даследаванняў.*

Ідэі абнаўлення царквы, прыстасаванне яе да змяніўшыхся палітычных умоў адносяцца да 1905 – 1907 гг. Большасць епіскапаў, у тым ліку і полацкі епіскап Серафім (Мешчаракоў), выступала за аднаўленне патрыяршаства, рэгулярнасць сабораў, ліквідацыю інстытута обер-пракурорства, аўтаномію царквы і яе аддзяленне ад дзяржаўнай бюракратыі, дэцэнтралізацыю царквы шляхам дзялення яе на самакіруючыя мітраполіі, аўтаномію мясцовага епіскапата, які займае кафедру пажыццева, а таксама за павялічэнне ліку архірэяў шляхам стварэння павятовых кафедраў замест вікарыяцтваў, набліжэнне літургічнай мовы да гутарковай, аднаўленне аўтаноміі і самакіравання прыходу і інш. [53, с. 37]. Аднак, практычнае ж увасабленне гэтыя ідэі атрымалі ў 1922 г.

Ініцыятарам раскола царквы выступіла група петраградскіх святароў. 24 сакавіка 1922 г. у петраградскай газеце “Праўда” з’явіўся ліст 12 святароў – У. Красніцкага, А. Увядзенскага, Белкова, Баярскага і інш., – у якім аўтары абвінавацілі іерархію ў контррэвалюцыйнасці, палітычнай гульні падчас народнага голаду, патрабавалі неадкладнай і безумоўнай аддачы савецкай уладзе ўсіх царкоўных каштоўнасцяў.

12 мая 1922 года група ў складзе А. Увядзенскага, святароў А. Баярскага і Я. Белкава, псаломшчыка С. Стадніка ў суправаджэнні двух работнікаў ДПУ запатрабавала ад патрыярха Ціхана адмовы ад

сваіх паўнамоцтваў. Пасля роздумаў патрыярх Ціхан накіраваў ліст да Старшыні УЦВК М.І. Калініна, у якім паведаміў аб часовай передачы вышэйшай царкоўнай улады мітрапаліту Яраслаўскаму Агафангелу (Прэабражэнскаму). Аднак, мітрапаліта Агафангела мясцовая ўлада не выпусціла з Яраслаўля. У гэты момант, група "прагрэсіўнага" духавенства «Жывая Царква», накіравала Старшыні УЦВК М.І. Калініну ліст наступнага зместу: "Настоящим доводится до сведения Вашего, что, ввиду устранения Патриархом Тихоном себя от власти, создается Высшее Церковное Управление, которое с 15 мая приняло на себя ведение церковных дел в России" [26, с. 216]. Атрымаўшы дазвол М.І. Калініна, прадстаўнікі «Жывой Царквы» зноў звярнуліся да патрыярха Ціхана за благаславеннем на стварэнне ВЦУ і у выніку атрымалі дазвол толькі "принять и передать синодские и патриаршие дела Высокопреосвященному митрополиту Ярославскому Агафангелу (Преображенскому), при участии секретаря Нумерова".

Атрымаўшы доступ да канцылярыі патрыярха, абнаўленчыя лідэры звярнуліся з пасланнем ва ўсе епархіі, а таксама праз прадстаўлены ім ўладамі савецкі друк да кліра і міран з заклікам неадкладна парваць з "ціханаўшчынай" і перайсці ў "Жывую Царкву" [6, с. 2]. Духавенству строга прадпісвалася не толькі ствараць жывацаркоўныя прыходы, благачынні і епархіі, але і тэрмінова правесці ў іх кіруючыя органы на надзвычайных з'ездах і сходах "преданных революционному делу и Советской власти" клірыкаў [55, с. 20].

Аднак, патрыярх Ціхан заставаўся кананічным, гэта значыць законным кіраўніком ўсей Праваслаўнай царквы. Таму з царкоўнага, кананічнага пункту гледжання, абнаўленцы, якія выйшлі з кананічнага падпарадкавання патрыярху і якія стварылі сваю, асобную Праваслаўную царкву без яго дазволу, з'яўляюцца раскольнікамі.

Да ліку лідараў руху належалі протаіерэй А.І. Увядзенскі (дарэчы, сын дырэктара віцебскай гімназіі), епіскап Уладзікаўказскі Антанін, былы обер-пракурор Сінода У.М. Ільвоў, прафесар Б.В. Цітлінаў. Абвясціўшы неабходнасць "дэмакратычных рэформаў", закліканых зблізіць праваслаўе з "рэвалюцыйным народам" (спрашчэнне структур царкоўнага кіравання, узрастанне ролі прыхадской грамадскасці, дазвол епіскапам жаніцца, а святарам браць шлюб больш аднаго разу, скарачэнне службаў, перакладзеных да таго ж на рускую мову і інш.), абнаўленцы меркавалі, парой цалкам шчыра, што тым самым вяртаюцца да "чысціні першахрысціянства". Яшчэ далучылася ўнутрыцаркоўная барацьба, якая адлюстроўвала адносіны іерархіі і духавенства да савецкай улады. Значную частку іх, якая захавала кананічную вернасць Патрыярху Ціхану, які заклікаў да царкоўнага нейтралітэту ў дачыненні да Савецкай улады, у прастамоўі называлі "ціханаўцы". Плынь, што пайшла за бальшавікамі, сталі называць "абнаўленцамі". Сярод апошніх не было паразумення, дзейнічалі тры накірункі, якія вялі паміж сабой барацьбу за лідэрства. Гэта "Жывая Царква", якую ўзначаліваў В.Д. Красніцкі, "Саюз царкоўнага адраджэння" (СЦА) на чале з епіскапам Антанінам (А.А. Граноўскім) і "Саюз суполак старажытна-апостальскай царквы" (СССАЦ) з лідэрам А.І. Увядзенскім.

Усе тры рэфарматарскія групы, якія атрымалі роўны лік месцаў у Вышэйшым Царкоўным Упраўленні (ВЦУ) – вышэйшым органе кіравання абнаўленчай Царквы, былі прызнаны раўнапраўнымі аб'яднаннямі. Яны пераследвалі агульную мэту – мадэрнізаваць рускае праваслаўе ў дачыненні да новых сацыяльных умоў, якія склаліся пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі. За гэтымі групамі замацавалася назва абнаўленчых, а за іх аб'яднаннем пад эгідай ВЦУ – абнаўленчай царквы.

У хуткім часе на тэрыторыі Беларусі прыхільнікі абнаўленчага руху пачалі ствараць сетку абнаўленчых прыходаў. Ужо ў чэрвені 1922 года камітэт «Жывой Царквы» разаслаў па беларускім епархіям – Магілеўскай, Мінскай, Віцебскай і Гомельскай – рэкамендацыі адкрыць на месцах групы гэтай арганізацыі. Прадстаўнікоў абнаўленчага руха падтрымала дзяржава, з мэтай паслаблення і дыскрэдытацыі кананічнага праваслаўя Патрыярха Ціхана.

Так, старшыня 6-га аддзялення ДПУ Я.А. Тучкоў у сваім дакладзе Камісіі па правядзенню аддзялення царквы ад дзяржавы адкрыта заяўляў аб умяшанні ДПУ ў царкоўнае жыцце: "Пять месяцев тому назад в основу нашей работы по борьбе с духовенством была поставлена задача борьбы с Тихоновским реакционным духовенством и, конечно, в первую очередь с высшими иерархами, как-то митрополитами, архиепископами, епископами и т.д. Для осуществления этой задачи была образована группа так называемая «Живая Церковь», состоящая преимущественно из белых попов, что дало нам возможность поссорить попов с епископами примерно как солдат с генералами, ибо между белым и черным духовенством существовала вражда еще задолго до этого времени, так как последнее имело огромное преимущество в церкви и ограждало себя канонами от конкуренции белых попов на высшие иерархические посты. Это обстоятельство нами было учтено и с этого было приступлено к осуществлению означенной задачи" [43, с. 152-153].

Для ўмацавання свайго становішча на тэрыторыі БССР прадстаўнікі абнаўленчаства ў маі 1924 г. склікалі ў г. Магілеве першы Беларускі Абласны Царкоўны Сабор. На ім быў абраны мітрапаліт Беларускі і Магілеўскі. Ім стаў мітрапаліт Кастрамскі Серафім (Мешчаракоў). А таксама, на Саборы, быў створаны Беларускі Праваслаўны Сінод, які разам з акруговымі царкоўнымі ўпраўленнямі аб'яўляліся адзінай царкоўнай уладай і распаўсюджвалі сваю юрысдыкцыю на ўсю тэрыторыю БССР [48, л. 33]. Прычым і Беларускі Праваслаўны Сінод, і мітрапаліт цалкам падпарадкоўваліся вышэйшаму абнаўленчаму органу Свяшчэннаму Сіноду Праваслаўнай расійскай царквы ў Маскве, што выключала магчымасць стварэння якой-небудзь нацыянальнай або аўтаномнай царквы [35, л. 34].

Палажэнне аб кіраванні Беларускай абнаўленчай праваслаўнай царквой атрымала далейшае развіцце і замацаванне на III Беларускім саборы ў кастрычніку 1926 г., які зацвердзіў «Палажэнне аб епархіяльных і благачынных упраўленнях і Саветах». Згодна з палажэннем епіскап знаходзіўся на чале Епархіяльнага ўпраўлення і падпарадкоўваўся Беларускаму Праваслаўнаму Свяшчэннаму Сіноду. Епархіяльныя ўпраўленні два разы на год павінны былі збірацца на пленумы, у якіх удзельнічалі ўсе благачынныя епархіі і прадстаўнікі ад веруючых – па адным ад благачыннай акругі [39, л. 11-12].

Межы епархій набліжаліся да адміністрацыйнага дзялення Беларусі на акругі. У 1930-м годзе на тэрыторыі БССР налічвалася 8 абнаўленчых епархій: Мінская (з Слуцкім вікарыяцтвам), Магілеўская, Гомельская, Мозырская, Віцебская, Аршанская, Мсціслаўская і Полацкая.

Епархіі ў сваю чаргу дзяліліся на благачынні. Кіруючым органам з'яўляўся благачынны сход, а выканаўчым – благачынны савет. Епархіяльныя ўпраўленні займаліся пытаннямі адкрыцця і закрыцця прыходаў (хоць для апошняга неабходны быў таксама прысуд епархіальнага савета), замацавання прыходаў за абнаўленчымі святарамі, забяспечвалі прыходы ў выпадку неабходнасці царкоўным начыннем, збіралі ўзносы з цэркваў на канцылярыю Беларускага Праваслаўнага Свяшчэннага Сінода, епархіяльныя патрэбы, дапамогу бедным духоўнага звання. Епархіяльныя ўпраўленні займаліся таксама прызначэннем, перамяшчэннем і звальненнем свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў, іх узнагароджаннем і пакараннямі. Епархіяльныя ўпраўленні звярталіся ў Сінод з просьбай аб хадайніцтве перад грамадзянскімі ўладамі аб вяртанні ў іх вядзенне храмаў і абразоў, зніжэнні непасільных падаткаў [39, л. 11-12].

Пачатак 1930-х гадоў характарызуецца ў гісторыі савецкай дзяржавы, як перыяд правядзення калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа.

Курс на рэзкае фарсіраванне тэмпаў калектывізацыі быў узяты пасля лістападаўскага (1929 г.) Пленума ЦК УКП(б). Згодна ідэі, якую выказаў І. В. Сталін, класавая барацьба павялічваецца па меры будаўніцтва сацыялізма і камунізма. На яго думку "продвижение к социализму не может не вести к сопротивлению эксплуататорских элементов этому продвижению, а сопротивление эксплуататоров не может не вести к неизбежному обострению классовой борьбы" [51, с. 172].

У палітычнай барацьбе прыхільнікі новай эканамічнай палітыкі пацярпелі паразу. Узяты курс на суцэльную калектывізацыю не мог абыйсціся без сілавых метадаў. У вёскі накіроўваліся групы ўпаўнаважанных, якія дзейнічалі рознымі метадамі: ад агітацыі і ўгаворванняў да пагроз і арыштаў. У выніку пачатку правядзення калектывізацыі ўзмацніўся кантроль з боку Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення за ўсімі працэсамі, звязанымі з рэлігійным жыццем грамадства.

Падпарадкаванне вёскі і атрыманне з яе сродкаў для патрэб індустрыялізацыі – толькі адна з прычын калектывізацыі. Для стварэння таталітарнай дзяржаўнай сістэмы была патрэбна адпаведная сацыяльная база. У асноўнай сваей масе сялянства было супраць згортвання НЭПа. Таму большасць рэпрэсій падчас калектывізацыі было накіравана супраць значнай часткі насельніцтва вёскі.

Дадзеная барацьба ішла і па ідэалагічнай лініі. Рэлігія была фактарам, які аб'ядноўваў сялянства, была адной з умоваў яго самасвядомасці як адзінага сацыяльнага пласта. Без разбурэння рэлігійнасці немагчыма было знішчыць сялянства як самастойную эканамічную частку грамадства. Менавіта на Рускую Праваслаўную Царкву прыйшоўся асноўны ўдар бязбожнай улады, як на найбольш распаўсюджаную канфесію на тэрыторыі БССР. І не выпадкова Е. Яраслаўскі адносіў пераможнае завяршэнне наступу на царкву да таго ж часу, калі планавалася канчатковая калектывізацыя ўсіх пакінутых аднаасобных гаспадарак – да канца 1930-х гг. [52, с. 54]. Для будучага камуністынага грамадства быў патрэбны новы чалавек з новай сістэмай каштоўнасцяў, у якой рэлігія адсутнічала.

У перыяд "Вялікага пераломy" абнаўленчая царква ўваходзіла, зведваючы сур'езныя ўнутраныя цяжкасці. У пачатку 1930 года на Полацкую абнаўленчую кафедру быў назначаны Іаан Глыбоўскі. У сваім дакладзе Беларускаму Свяшчэннаму Сіноду епіскап пісаў: "Полоцкая епархия не может удовлетворить содержание епископа. Я не обеспечен ни квартирой, ни столом. Если кто из благотворителей не пришлет обеда, то епископ, не имея своих средств, голодает. Также остро стоит квартирный вопрос.

С бывшей соборной квартиры нас выгнали, поэтому пришлось устроиться при Свято-Духовой церкви" [54, с. 178]. Наконт дзейнасці Полацкага Епархіяльнага ўпраўлення епіскап адзначаў: "… дезорганизация его (*ПЕУ – аўт.*), внесенная властолюбием одного лица сразу бросилась мне в глаза. Это лицо, конечно и без информации Вы знаете. Здесь все было видимо построено на интригах, сплетнях и личных интересах, от которых страдали дела, и в частности скудная касса Управления, которую рвали по личному усмотрению, а не по потребности епархии. Представленный в Синод отчет за 1-е полугодие мало говорит об этом. Нужно заглянуть в кассовую книгу…" [27, л. 84-85об.].

Праз два тыдні, 26 лютага 1930 г., Іаана Глыбоўскага арыштоўваюць за контррэвалюцыйную дзейнасць і знявольваюць у Магілеўскім выпраўдоме на нявызначаны тэрмін [28, л. 24]. У склаўшымся становішчы Беларускі Сінод вырашае прызначыць на Полацкую кафедру вікарнага епіскапа. Ім стаў былы настаяцель Пакроўскай цакрвы ў в. Сосніца протаіерэй В. Пакроўскі. У сваей прамове Варлаам Пакроўскі казаў: "Я должен буду подобно апостолам быть пламенеющим светом веры; надежным хранителем православного предания Церкви. Подобно апостолам я обязан в пределах вверенной мне области лично и устами священников неустанно проповедовать, приспособляясь ко всякому телесному возрасту, чтобы во всех находить опору духовному обновлению. Я должен буду воспитывать паству примером, словом, жизнью, любовью, верой и своими заботами об устройстве ее церковной жизни" [54, с. 179]. Праз некалькі месяцаў епіскап Варлаам Пакроўскі, пасля вызвалення Іаана Глыбоўскага, быў накіраваны для дапамогі віцебскаму епіскапу Нілу Ушакову, а ў пачатку 1932 г. быў накіраваны на епіскапскую кафедру ў Гомель.

У сувязі з правядзеннем суцэльнай калектывізацыі ў другім паўгоддзі 1930 года колькасць храмаў на тэрыторыі Полацкай епархіі зменшылася амаль у два разы . У гэты час налічвалася 46 цэркваў пры 29 святарах, пры астатніх – вакансіі. Гэтыя апошнія рэдка абслугоўваліся святарамі суседніх цэркваў. Дабрабыт цэркваў быў няважны, начынне беднае, сродкаў на пагашэнне страхоўкі будынкаў і іншых падаткаў і на непасільную дапамогу духавенству не хапала. Некаторыя храмы састарэлі і патрабавалі неадкладнага рамонту. Так, пры аглядзе Луначарскай царквы Боркавічскага раена было выяўлена наступнае: "Потолки в церкви местами протекают, драница и доски под штукатуркой загнили. Штукатурка как в местах протекания, так и в других обсыпается. На полу церкви комиссией обнаружены мелкие куски штукатурки и пыль от разваливающейся штукатурки. Окна в церкви почти все выбиты и заграждены от наружного пространства местами соломой и местами фанерой…" [3, л. 28]. У выніку гэтага ў дадзенай царкве было забаронена праводзіць богаслужэнні да правядзення ў ей рамонту.

Падобнае становішча царквы было і ў м. Дзернавічы: "Здание деревянное, ветхое, холодное… При церкви сооружена деревянная колокольня на каменном фундаменте, весьма ветхая. Крыша церкви железная ветхая, окрашена зеленой краской, в настоящее время сильно полиняла. Стены церкви снаружи окрашены голубой масленой краской. Ограда вокруг церкви деревянная, окрашена красной краской, весьма ветхая" [21, л. 10]. Вернікі ў большасці ўстрымліваліся рамонту будучы самі абцяжараны іншымі патрэбамі [25, л. 37]. У дрэнным стане знаходзіўся і Мікалаеўскі кафедральны сабор [9, л. 6об.].

Цяжкае становішча склалася і ў другім кафедральным горадзе Полацкай абнаўленчай епархіі – Лепелі. У лісце да мітрапаліта Іосіфа абшчына веруючых Лепельскага сабора пісала: "… находящийся в нашем Лепельском Соборе лишенный священного сана Шпак Григорий арестован на страстной неделе в Пятницу и находится под арестом и сейчас, и так верующие жители г. Лепеля которые откололись от Шпака еще при его существовании, за его похождения не священницкое, остаются еще без Церковной Молитвы, по этому и просили б Вас Владыко выслать Ваше Какое либо распоряжение над Собором, так как бывший Шпак, удалил от Себя все Церковные пятерки, и Церквоный Совет, и верующие незнают как им поступать…" [33, л. 44]. На вакантнае месца быў назначаны протаіерэй С. Лазур'еўскі. У выніку царкоўнай дэзарганізацыі і адабрання Лепельскага сабора паўнавартнае малітоўнае жыцце г. Лепеля пачалося толькі ў пачатку студзеня 1934 г., калі веруючым была перададзена Георгіеўская могілкавая царква [40, л. 35].

Прафесіяналізм святароў таксама жадаў быць лепшым. У пачатку 1931 г., епіскап Полацкі Іаан Глыбоўскі ў рапарце Беларускаму Свяшчэннаму Сіноду паведамляў: "Образовательный ценз духовенства не важный. Только 4 священника с семинарским образованием, прочие из духовных, уездных или начальных училищ и домашнего образования с монастырской подготовкой; плохо знакомые с богословской наукой, особенно апологической, мало поэтому и учительны; приходилось с некоторыми беседовать на религиозные темы, то они оказались положительными профанами даже в простых вещах. Недостаток духовного образования плохо отзывается и на религиозных убеждениях духовенства: у некоторых халатные или профессиональные отношения к своим обязанностям, неустойчивость в убеждениях…"

[23, л. 37]. Здараліся выпадкі, калі святары прадавалі абразы з цэркваў, а затым, забраўшы царкоўныя грошы, пакідалі свае прыходы [41, л. 10об.].

Канфлікт паміж архірэем і мясцовым духавенствам не згасаў. Так, у сваім пісьме Беларускаму Сіноду епіскап Полацкі і Лепельскі Іаан пісаў: “Служу я церкви около полстолетия, не было того чего я сподобился в Полоцке из-за провокаций низкопробных людей. 25 лет я служил благочинным и при строгом епархиальном режиме выходил неопороченным, и духовенство ко мне благоволило. А тут на старости лет выходит как будто переродился и сделался корыстолюбцем и беспринципным самолюбцем” [54, с. 180].

5 красавіка 1933 года архіепіскап Іаан Глыбоўскі, у хуткім часе пасля выкліка ў ДПУ, пакідае Полацкую епархію і ад’язджае ў Маскву.

Меліся непаразуменні і сярод вышэйшых органах абнаўленчай царквы. У маі 1932 года ў Маскве праходзілі ўрачыстыя мерапрыемствы ў сувязі з 10-годдзем узнікнення абнаўленчага руха. На святкаванне быў запрошаны і старшыня Беларускага Сінода мітрапаліт Даніїл. Там ен паспрабаваў звярнуць увагу Свяшчэнняга Сінода на цяжкае становішча беларускіх абнаўленцаў. Аднак, не знайшоўшы падтрымкі, па вяртанні адазваўся аб членах Сінода, як “людзі прыватнага інтарэса і асабістага дабрабыта” [19, с. 105]. Што не магло не адбіцца на становішчы Беларускай абнаўленчай царквы.

Аднак, адной з галоўнейшых прычын заняпаду абнаўленчага руха на тэрыторыі БССР у пачатку 1930-х г. была змена дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да праваслаўнага духавенства. Калі ў перыяд НЭПа абнаўленчы рух знаходзіўся пад пратэктаратам дзяржаўных органаў, а рэпрэсіі ў асноўным былі накіраваны на прадстаўнікоў патрыяршай Царквы, то ў 1929 г., падчас пачатку калектывізацыі, абнаўленчая плынь страчвае былыя “прывілеі” і яе паслядоўнікі пачынаюць падвяргацца больш жорсткаму ціску і праследаванням.

На пачатку 1930-х гадоў на тэрыторыі Беларусі працягвалася кампанія па зачыненню храмаў. У гэты час па ўсей тэрыторыі рэспублікі адбыліся сходы, на якіх працоўныя выступалі за закрыцце храмаў. Толькі на тэрыторыі БССР на працягу 1930 г. па “просьбе насельніцтва” было зачынена 573 царквы [16, с. 172]. На гэтай падставе на тэрыторыі Полацкай абнаўленчай епархіі было зачынена 12 цэркваў [29, л. 102об.]. Так, напрыклад, 14 лютага 1930 года адбыўся сход калгаснікаў “Новы шлях” Дрысенскага раена Полацкай акругі. Вынікам дадзенага мерапрыемства стала пастанова аб неабходнасці закрыцця царквы ў в. Прудзінкі: “Мы, калгаснікі калгаса “Новы шлях” асазнаўшы шкоднасць рэлігіі, рашуча парываем з ей і знімаем іконы. Тыя, якія яшчэ не асазналі, павінны падумаць аб гэтым і ў час уваходу ў новыя будынкі іконы не несці з сабой. Калгаснікі лічаць, што прудзінкаўская царква ўжо не патрэбная для нас, калгаснікаў, і трэба яе знішчыць і перадаць пад клуб альбо яшчэ пад якую культурную ўстанову” [12, с. 228]. Пад клуб была перададзена і Ігуменская царква [18, с. 6]. У Полацку будынкі былога Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра былі перададзены раеннаму выканаўчаму камітэту і яго ўстановам, а таксама ваенведамству [38, л. 168].

Будынкі храмаў пераабсталеўваліся ў культурна-асветніцкія ўстановы, а пасля адпаведнай пастановы СНК БССР, прынятай у жніўні 1934 г., выкарыстоўваліся як склады, зернясховішчы.

Адабранне будынкаў суправаджалася нягледзячы на выкананне ўсіх патрабаванняў дзяржавы веруючымі: “… у нас хотят взять нашу церковь за которую мы уплачиваем все что с нас требуют, и страховку уже уплатили за 1929-30 год. Для ссыпного пункта в то время как в нас все амбары свободны, а так как мы не соглашаемся то они безбожники как например Лящинский, Дроздов и другие запугивают, что если вы за церковь заступаетесь мы вам не дадим пайка и с кооператива не получите хлеба и дальше сошлем в Соловки, а также будем штрафовать по три рубля…”[14, л. 119] – скардзіліся ў ПЕУ веруючыя весак Альбрэхтава 1-е і Альбрэхтава 2-е Расонскага раена.

Шматлікія цэркві падвяргаліся спусташэнню. Выламваліся дарагія іканастасы, спальваліся і ламаліся абразы і інш. Здараліся выпадкі вандалізму і на тэрыторыі Полацкай абнаўленчай епархіі. У верасні 1929 г. была апаганена царква ў м. Боркавічы. Аб прынесенай шкодзе ў выніку дадзенага пагрому протаіерэй П. Мігай пісаў: “…Злоумышленники-хулиганы вошли в церковь через окно. Престол Святой снят с места и выброшен на улицу, повыброшены также все аналоги, сломлена исковеркана большая лампада, сломлены хоругви и совершенно много других повреждений” [15, л. 104].

Падобны выпадак меў месца і ў Расонах. Настаўнік Расонскай школы Ляшчынскі Дзмітрый разам са сваім вучнем страляў па купалу і вокнам мясцовай царквы [4, л. 105].

Арыштаваны 24 сакавіка 1931 г. архіепіскап Віцебскі Мікалай (Пакроўскі) так сведчыў пра падзеі тых гадоў: “...частка зачыненых сельскіх цэркваў разгромлена, званы зняты і вывезены, алтары апаганены, святыя сасуды і царкоўная маемасць раскрадзены, іканастасы разламаны і раскіданы, святары зачыненых прыхадскіх цэркваў ці трымаюцца ў турмах, ці знаходзяцца ў ссылках, іншыя

знаходзяцца на цяжкіх прымусовых работах. З адбыўшых пакаранне ніводны не вярнуўся ў прыход" [17, с. 28]. Падобнае становішча было і на тэрыторыі Полацкай абнаўленчай епархіі. Колькасць храмаў зменшылася да 26 [46, л. 15].

Новая хваля антырэлігійнай агітацыіназіралася ў сувязі з надыходам праваслаўных святаў. У газетах і часопісах пачалі друкаваць паведамленні аб адмаўленні працоўных і службоўцаў фабрык, заводаў і іншых устаноў БССР святкаваць Вялікдзень [12, с. 233]. У Полацку святкаваць Вялікдзень таксама адмовіліся і настаўнікі, Полацкі выпраўдом, грузчыкі і інш. [5, с. 4; 2, с. 4; 44, с. 4].

Для актывізацыі атэістычнай працы былі арганізаваны сацыялістычныя спаборніцтвы, якія прадугледжвалі кратнае павелічэнне колькасці арганізацый, паўсюднае стварэнне ячэек з уцягненнем у іх 75% рабочых, 25% батракоў і 40% жанчын [34, с. 14]. Планавалася стварыць тры бязбожных калгаса, набыцце трактароў "Бязбожнік" і здзейсніць іншыя мерапрыемствы [20, с. 1].

У пачатку верасня 1933 г. ў Лепелі мясцовай партыйнай арганізацыяй быў арганізаваны мітынг, на якім было вырашана зачыніць гарадскі сабор. Пасля чаго ўсе царкоўнае начынне было выкінута, часткі іканастаса валяліся на вуліцах горада [30, л. 57]. У хуткім часе Лепельскі сабор быў зачынены. Багаслужэнне перамясцілася ў надгробную капліцу, якая размяшчалася за мяжой горада і ўмяшчала каля 20 – 25 чалавек. Аб склаўшымся становішчы С. Лазур'еўскі пісаў: "…книги уничтожены, утварь металлическая вывезена в качестве лома, а облачения, кажется, тоже получили «соответствующее» назначение. Антиминса нет. А тут также помощники… что пожалуй лучше без них" [32, л. 80об.].

У студзені 1933 г. Саўнаркам СССР зацвердзіў "Інструкцыю аб выдачы пашпартоў". У сакрэтным раздзеле Інструкцыі змяшчаліся абмежаванні на выдачу пашпартоў і прапіскі ў рэжымных мясцовасцях для некаторых груп: кулакоў і раскулачаных, перабежчыкаў з-за мяжы, прыватных гандляроў, святароў і інш., а таксама членаў сем'яў усіх пералічаных груп грамадзян [36, с. 4-5].

У выніку правядзення пашпартызацыі на тэрыторыі Полацкай абнаўленчай епархіі адбыліся выпадкі адмовы выдачы пашпартоў святарам. Так, святару Асвейскай царквы пратаіерэю Васютовічу, было адмоўлена ў выдачы пашпарта і было прапанавана выехаць з Асвеі на адлегласць 100 кіламетраў. Пагроза ў адмове ў выдачы пашпарта была і ў святара Каханавічскай царквы Асвейскага раена А. Благавешчанскага [31, л. 25-26об.].

Па-ранейшаму працягваліся арышты святароў. У студзені 1933 г. былі арыштаваны святары весак Стайкі і Завячэлля Вушачскага раену [7, с. 25, 47]. У маі 1933 г. на тэрыторыі Асвейскага раена былі арыштаваны святары Свальнаскага і Стралкоўскага прыходаў [31, л. 26-26об.]. У кастрычніку быў арыштаваны святар Лепельскага сабора [7, с. 43].

За падзеямі, якія адбываліся ў Савецкім Саюзе, пільна сачылі за мяжой. Яны неаднаразова займалі месца на старонках замежнага перыядычнага друку. Так, у газеце "Куръер Віленскі" ад 30 сакавіка 1930 г. быў змешчаны аповед уцекача з Савецкай Расіі: "Нялепш і ў справах рэлігійных. Так, напрыклад, у м. Арэхава, блізка станцыі Загацьця, праведзена сэквестрацыя званоў, духоўнага, які зрабіў адпор, вывялі з царквы пад час набажэнства і высеклі, сьвятыня перароблена на вайсковы амуніцыйны склад. Падобны лес спаткаў і царкву ў Мікалаеўскай Слабадзе за Дзьвіной, насупраць м. Дзісны. Пробашч за энергічнае супраціўленне быў павешаны на званіцы…" [1, арк. 108адв.].

Для барацьбы з духавенствам выкарыстоўваліся і эканамічныя метады. Святароў абкладалі сельскагаспадарчым і падаходным падаткамі, сума якіх у некаторых мясцовасцях складала да700 рублеў. За нявыплату падаткаў было асуджана каля 30 і арыштавана за антысавецкую агітацыю да 20 святароў праваслаўнага культу.

За нявыплату падаткаў у маі 1930 г. быў зачынены ўладамі Мікалаеўскі кафедральны сабор. Архіерэйская кафедра перамясцілася ў Свята-Духаўскі храм [37, л. 35], настаяцелем якога быў пратаіерэй Поліеўтій Валюжэвіч. Дзеючых абнаўленчых храмаў на тэрыторыі епархіі засталося 47, прычым 17 цэркваў былі закрыты, 2 храма заставаліся вакантныя, 4 святара знаходзіліся пад арыштам, а 6 святароў адракліся ад сана [45, л. 9]. На канец 1930 г. у складзе Полацкай абнаўленчай епархіі заставалася толькі 18 святароў [11, л. 2]. Тады як 1929 г. Полацкая абнаўленчая епархія налічвала ў сваіх межах разам з прыпіснымі 80 цэркваў [24, л. 107].

Вялікую ролю ў паслабленні абнаўленчага руха на тэрыторыі Полацкай абнаўленчай епархіі адыгрывалі прыхільнікі кананічнага праваслаўя. Так, у дакладзе аб становішчы абнаўленчаства, які быў прымеркаваны да дзесяцігоддзя абнаўленчага руха, адзначалася: "Обновленчеству пришлось и приходится вести сильную борьбу с реакционно настроенными элементами, особенно монашеским. Ведь нужно знать что эта публика по своему тугоумию к прогрессу неспособна и в средствах, неизменно даже в практике, в противодействии не стесняется. В Полоцке было два монастыря – мужской и женский

с 500 насельниц. Вся эта публика с закрытием монастыря разбрелась по деревням Полоцкой епархии и частью стала в городе и ведет свою дикую пропаганду против обновления среди темной массы…” [10, л. 26].

Нягледзячы на цяжкасці (канфіскацыя царкоўных каштоўнасцей, унутраная дэарганізацыя, амаральныя паводзіны духавенства, рэпрэсіі ў дачыненні да святароў і інш.), што зведала праваслаўная царква, яна па-ранейшаму працягвала свае існаванне. Захоўвалася вера і ў простага насельніцтва, што бачна з колькасці ахрышчаных дзяцей. Так, з 20 чэрвеня па 12 ліпеня 1933 г. у г. Лепелі і ў яго мясцовасці было ахрэшчана 101 немаўля [49, л. 75-78об.].

Даследаванне, якое праводзіла кафедра Марксізма-Ленінізма Беларускай Акадэміі Навук на працягу 1929-1930 гг., сцвердзіла, што ў пераважнай большасці веручых выконваюць рэлігійныя абрады. 88,5% выяўленых анкетай веручых выконвалі абрады. 11,5% веруючых ня выконваюць абрадаў, прычым самая нязначная частка з іх менш 1% усіх веручых ня выконвае свядома, думаючы прытрымліваціа пазаабрадавай рэлігіі, іншыя ж па неабходнасьці, з прычыны розных незалежных абставін [8, с. 38].

Становішча, якое склалася ў Полацкай епархіі ў адзначаны перыяд было складаным. У сувязі з антырэлігійнай палітыкай, рэпрэсіямі, а таксама з унутраннай барацьбой паміж абнаўленчым духавенствам святары пачалі пакідаць свае прыходы. Беларускі Свяшчэнны Сінод на гэтыя падзеі адрэагаваў наступным чынам: “Сделать должную попытку к водворению порядка на местах и утверждению дисциплины между уходящими пастырями. Скорбно, что уходят пастыри, но раз они так делают, то, очевидно, их ценность для приходов невысока” [54, с. 180].

17 ліпеня 1933 г. ў Віцебску адбыўся епархіяльны з’езд. На падставе малой колькасці прыходаў Віцебскай абнаўленчай епархіі, было вырашана хадатайнічаць перад Беларускім Свяшчэнным Сінодам аб скасаванні Полацкай і Аршанскай епархіі, далучыўшы іх да Віцебска [13, л. 44-44об.]. На Віцебскую кафедру быў абраны Сергій Дабрамыслаў, які ў 1927-1928 гг. узначальваў Полацкую абнаўленчую епархію.

Не супраць аб’яднання епархій было і Полацкае епархіяльнае ўпраўленне. Згодна рапарту дадзенай установы ў Беларускі Свяшчэнны Сінод на тэрыторыі Полацкай абнаўленчай епархіі знаходзілася 15 функцыянуючых прыходаў “малой доходности их невысокой и налоговом обложении как церквей, так и духовенства – содержание Епископа и Епархиального при нем Управления становится крайне затруднительным… При невыполнении договора и неаккуратности поступления налоговых взносов духовенства влекущих за собою ответственность вследствии чего в большинстве случаев невозможно бывает найти правомочных кандидатов на свободные священнические вакансии. А потому Пленум Полоцкого Епархиального Управления в составе: Зам. Председателя ЕУ Протоиерея Полиевкта Валюжевича, членов: Протоиереев: Василия Копецкого, Леонида Кременецкого, Александра Благовещенского и Священника Михаила Кольцева вынужден просить Белорусский Священный Синод о присоединении Полоцкой епархии к Витебской [42, л. 4-6об.]”.

14 лістапада 1933 г. вызначэннем Беларускага Свяшчэннага Сінода межы Віцебскай абнаўленчай епархіі змяніліся. У выніку скасавання Полацкай і Аршанскай абнаўленчых епархій у склад Віцебскай увайшлі наступныя раены: Віцебскі, Асвейскі, Гарадокскі, Дрысенскі, Лепельскі, Ліезненскі, Полацкі, Расонскі, Сіроцінскі, Суражскі, Ушачскі, Чашніцкі, Сенненскі, Бешанковічскі [47, л. 31].

У выніку аб’яднання, прыходы епархіі ў новых межах былі падзелены на тры благачынні з 20 цэрквамі: Віцебскае, Полацкае і Дрысенска-Асвейскае. Прычым, Полацкае благачынне налічвала 9 цэркваў. У самім Полацку функцыянавала два абнаўленчых храма – Свята-Духаў сабор і царква Святога апостала і евангеліста Іаана Багаслова [22, л. 84-85]. Дрысенска-Асвейскае благачынне налічвала 7 храмаў.

Такім чынам, становішча Полацкай абнаўленчай епархіі ў пачатку 1930-х гадоў было вельмі цяжкім. Прычынамі гэтага паслужылі як пэўны ціск з боку дзяржавы ў сувязі з правядзеннем суцэльнай калектывізацыі і “наступлення сацыялізма па ўсім фронце”, так і ўнутрыцаркоўная барацьба з адносна нізкім узроўнем адукацыі і маральнымі недахопамі абнаўленчага духавенства. Царква разглядалася як грамадская сіла, якая супрацьстаіць калектывізацыі. Партыйная прапаганда абвяшчала, што без знішчэння рэлігіі немагчыма пабудова новага грамадства. Перамога сталінскай лініі абумовіла ўвесь цяжар удару, які быў нанесены па рэлігійных канфесій у гады калектывізацыі.

Следствам гэтага з’явілася змяншэнне колькасці храмаў. Калі ў пачатку 1930 года налічвалася 80 цэркваў, то падчас рэарганізацыі Полацкай абнаўленчай епархіі 1933 г. у яе межах налічвалася 15 храмаў. Зменшылася і колькасць святароў. Унутраная слабасць абнаўленчаства, і рэпрэсіі ўладаў, выкліканыя калектывізацыяй, прывялі таксама і да вымушанай змены епархіяльных межаў: былая тэрыторыя Полацкай абнаўленчай епархіі пераходзіць пад юрысдыкцыю Віцебскай епархіі. Надыходзіць працяглы этап сістэматычных ганенняў.

ЛІТАРАТУРА

1. Агляд №2 замежнага (галоўным чынам польскага) друку за час з 28 сакавіка да 1 красавіка 1930 г. // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). – Фонд 4-п. – Воп. 1. – Спр. 4592. – Арк. 108–108адв.

2. Адмовіліся ад сьвяткаваньня вялікдня // Чырвоная Полаччына. – 1929. - №29. – С. 4.

3. Акт обследования церкви с. Луначарское Борковичского района на предмет годности к проведению в ней церковных обрядов // Зональный государственный архив в г. Полоцке (ЗГА в г. Полоцке). – Фонд 122. – Оп. 1. – Д. 5. – Л. 28.

4. Акт осмотра Россонской церкви на предмет повреждения в результате стрельбы в церковные окна и купола учителя Россонской школы Д. Лещинского // Национальный исторический архив Республики Беларусь в г. Минске (НИАБ). – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 454. – Л. 105.

5. Асветнікі гораду адмовіліся ад сьвяткаваньня вялікдня / Марголіна. // Чырвоная Полаччына. – 1929. – №28. – С. 4.

6. Верующим сынам Православной Церкви России // Известия ВЦИК. – 1922. – 14 мая. – С. 2.

7. Витебский мартиролог (1918-1952) / Сост. Иерей В. Горидовец. – Витебск, 2008. – 77 с.

8. Вольфсон, С.Я. Сучасная рэлігійнасьць (паводле матэр'ялаў даследваньня ў БССР) / С.Я. Вольфсон. – Менск: БАН, 1930. – 119 с.

9. Доклад архиепископа Полоцкого и Себежского Нила о состоянии Полоцкой обновленческой епархии // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 454. – Л. 6об.

10. Доклад епископа Полоцкого и Лепельского Иоанна об истории обновленчества в Полоцкой епархии // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 516. – Л. 25–26.

11. Доклад о состоянии Беларусской Православной Церкви // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 516. – Л. 2-3об.

12. Документы обличают. Реакционная роль религии и церкви на территории Белоруссии. – Минск: Беларусь, 1964. – 272 с.

13. Журнал №3 заседания Витебского Епархиального Управления от 17 июля 1933 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 547. – Л. 44 – 44об.

14. Заявление от группы верующих д. Альбрехтово 1-ое и д. Альбрехтово 2-ое в Полоцкое Епархиальное Управление о возможности передачи церкви под ссыпной пункт // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 454. – Л. 119.

15. Заявление прот. Борковичской церкви П. Мигая о погроме церкви благочинному V Полоцкого округа прот. Г. Никольскому // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 454. – Л. 104–104 об.

16. Канфесіі на Беларусі (к. XVIII-XX ст.) / В.В. Грыгор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1998. – 340 с.

17. Кривонос, Ф. Очерк из истории Витебска 20-30-х гг. XX ст. // Витебские епархиальные ведомости. – № 1. – 2001. – С. 23 – 29.

18. Лаўрэнцеў, Л. Як працуе Лявонаўская ячэйка бязбожнікаў / Л. Лаўрэнцеў. // Чырвоная Полаччына. – 1929. – № 34. – С. 6.

19. Левчик, Н. Обновленческая церковь в Беларуси (по документам фонда «Белорусский православный синод», 1922-1935 гг.) // Архівы і справаводства, 2002. - №4. – С. 97 – 106.

20. На трактар "Бязбожнік" // Чырвоная Полаччына. – 1929. – №65. – С. 1.

21. Опись имущества Дерновичской церкви // ЗГА в г. Полоцке. – Фонд 122. – Оп. 1. – Д. 4. – Л. 10–12.

22. Отчет Витебского Епархиального Управления о состоянии Витебской епархии за 1-е полугодие 1934 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 567. – Л. 84–85.

23. Отчет Епископа Полоцко-Лепельского в Белорусский Священный Синод за 2-е полугодие 1930 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 501. – Л. 37-39об.

24. Отчет Полоцкого епархиального управления о состоянии епархии на ноябрь 1929 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 454. – Л. 107-107об.

25. Отчет-рапорт епископа Полоцкого и Лепельского за 2-е полугодие 1930 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 501. – Л. 37.

26. Письмо «Инициативной группы прогрессивного духовенства «Живая Церковь» Председателю ВЦИК М.И. Калинину // Акты Святейшего патриарха Тихона, патриарха Московского и всея России, позднейшие документы и переписка о каноническом преемстве высшей церковной власти. 1917 – 1943 гг. / ПСТБИ; сост. М. Е. Губонин. – Москва, 1994. – С. 216.

27. Письмо епископа Иоанна Глыбовского митрополиту Белорусскому Даниилу о положении дел Полоцкого Епархиального Управления // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 477. – Л. 84–85об.

28. Письмо епископа Иоанна митрополиту Белорусскому Даниилу о его аресте от 3 марта 1930 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 477. – Л. 24–25об.

29. Письмо епископа Полоцкого Иоаана Глыбовского митрополиту Белорусскому Даниилу о состоянии Полоцкой обновленческой епархии от 30 октября 1930 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 477. – Л. 102–102об.

30. Письмо митрополиту Минскому и Белорусскому Даниилу о положении в г. Лепели протоиерея Сергия Лазурьевского от 16 августа 1933 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 542. – Л. 57-57об.

31. Письмо прот. А. Благовещенского епископу Иоанну Глыбовскому об отказе выдачи паспортов священникам // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 539. – Л. 25–26об.

32. Письмо прот. С. Лазурьевского епископу Полоцкому и Лепельскому Иоанну о положении дел в г. Лепеле // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 539. – Л. 79–80об.

33. Письмо Ф. Яковлева митрополиту Белорусскому Иоанну с просьбой назначить священника на вакантное место при Лепельсом соборе // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 539. – Л. 44–44об.

34. Пищуленок, М.В. Православная церковь на Витебщине в 1920-х – начале 1930-х годов (по материалам государственного архива Витебской области) // Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта №1-1996. – С. 12-16.

35. Положение об управление Белорусской Православной Церкви // НАРБ. – Фонд 4-п. – Оп. 1. – Д. 1755. – Л. 34-34об.

36. Попов, В.П. Паспортная система в СССР (1932-1976 гг.) / В.П. Попов // Социологические исследования. – 1995. - №9. – С. 3–13.

37. Постановление Белорусского Священного Синода о перемещении архиерейской кафедры в Свято-Духовский приходской храм г. Полоцка // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 477. – Л. 35.

38. Протокол №28 Заседания Рабочей Тройки Президиума Полоцкого Окрисполкома от 23 июня 1925 г. // ЗГА в г. Полоцке. – Фонд 104. – Оп. 1. – Д. 62а. – Л. 168.

39. Протокол III Белорусского Поместного Собора // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 137. – Л. 5-39.

40. Прошение Лепельской православной религиозной общины при храме Св. великомученика Георгия Победоносца Митрополиту Белорусскому и Минскому Даниилу об оставлении Лепельской общины в Митрополичьем ведении // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 565. – Л. 35-35об.

41. Прошение церковной пятерки Свядского прихода Лепельского района Полоцкого округа о назначении в их приход священника // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 468. – Л. 10-11.

42. Рапорт Полоцкого епархиального управления о положении епархии на октябрь 1933 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 540. – Л. 4-6об.

43. Русская Православная Церковь и коммунистическое государство. 1917-1941. Документы и фотоматериалы – Москва: Издательство Библейско-Богословского Института св.апостола Андрея, 1996. – 352 с.

44. Рэйнгольд, З. Грузчыкі ня будуць сьвяткаваць / З. Рэйнгольд. // Чырвоная Полаччына. – 1929. – №30. – С. 4.

45. Сведения о движении положении по епархиям Белоруссии на за 1-е полугодие 1930 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 464. – Л. 8-9.

46. Сведения о положении Православной Церкви в Белоруссии на сентябрь 1931 г. // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 496. – Л. 15-15об.

47. Сообщение Белорусского Священного Синода Витебскому Епархиальному управлению об упразднении Полоцкой и Оршанской обновленческих епархий // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 547. – Л. 31.

48. Сообщение всем церквям Белоруссии о Белорусскому Церковном Областном Соборе // НАРБ. – Фонд 4-п. – Оп. 1. – Д. 1755. – Л. 33.

49. Список младенцев, окрещенных в г. Лепеле с 20 июня по 12 июня 1933 г. (за 22 дня) // НИАБ. – Фонд 2786. – Оп. 1. – Д. 75–78об.

50. Сталин, И.В. Об индустриализации и хлебной проблеме (Речь 9 июля 1928 г.) / И.В. Сталин // И.В. Сталин. Сочинения в 18 т. – М.: Гос. изд-во полит. лит., 1949. – Т. 11: 1928-март 1929. – С. 157 – 187.

51. Сталин, И.В. Об индустриализации и хлебной проблеме (Речь 9 июля 1928 г.) / И.В. Сталин // И.В. Сталин. Сочинения в 18 т. – М.: Гос. изд-во полит. лит., 1949. – Т. 11: 1928-март 1929. – С. 157 – 187.

52. Стенографический отчет второго Всесоюзного съезда Союза воинствующих безбожников. – М.: Акционер. изд. о-во «Безбожник», 1930. – 447 с.

53. Табунов, В.В. Проекты реформирования православной церкви в Беларуси начала XX века (на основе отзывов епархиальных архиереев) // Вестн. Полоц. гос. ун-та. – Сер. А. Гуманитарные науки. История. – №7. – 2006. – С. 37-46.

54. Шиленок, Д. Из истории Православной Церкви в Белоруссии (1922-1939). – М.: Крутицкое подворье, 2006. – 218 с.

55. Шкаровский, М.В. Обновленческое движение в Русской Православной Церкви XX века / М.В. Шкаровский. – СПб.: Нестор, 1999. – 99 с.

**УДК 323 "16/17"**

# АДНОСІНЫ ПОЛАЦКАЙ ШЛЯХТЫ ДА ПАЛІТЫЧНАЙ СІСТЭМЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ ПАВОДЛЕ СОЙМІКАВЫХ ІНСТРУКЦЫЙ КАНЦА XVI – ПАЧАТКУ XVII СТСТ.

***канд. філас. навук, дац. І.А. БОРТНІК***
**Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, Наваполацк**

*У канцы XVI – пачатку XVII стст. назіраецца працэс хуткай інтэграцыі Полацкага ваяводства ў сацыяльна-палітычную прастору Рэчы Паспалітай. Адным з важнейшых наступстваў дадзенага працэсу з’яўлялася завяршэнне фарміравання на Полаччыне станавай структуры грамадства. Пануючым станам канчаткова стала шляхта. Вызначальным паказчыкам уплыву шляхты на грамадска-палітычнае жыцце краіны і свайго рэгіену было права ўдзелу ў працы павятовых соймікаў, якія выступалі як органы мясцовага самакіравання.*

Шляхецкая палітычная культура на Полаччыне не знайшла дастатковага асвятлення ў гістарыяграфіі. Сацыяльна-палітычныя інтэнцыі полацкай шляхты разглядаліся, як правіла, у кантэксце аналізу розных бакоў грамадскага жыцця Рэчы Паспалітай. У шэрагу даследаванняў змест інструкцый

полацкіх соймікаў разглядаецца ў сувязі з парламенцкай барацьбой вакол праблемы рэлігійных свабод у Рэчы Паспалітай [1, с. 239-240,546; 2, s. 143,223,234,239-240,266; 3, s. 29; 4, s. 93-94; 5, s. 127-128,143-144]. Таксама даволі грунтоўна прааналізаваны змест полацкіх інструкцый 1597 і 1599 гг. у кантэксце канфесійна-палітычнай барацьбы ў 1590-я гг. у манаграфіі Л. Ярміньскага [6, s. 170-173, 212-218]. На інструкцыі 1607 г. і 1611 г. спасылаюцца для ілюстрацыі асаблівасцяў палітычнай культуры ВКЛ і Рэчы Паспалітай Э. Апаліньскі і П. Лойка [7, s. 28,35,138,170,194; 8, с. 87]. Падрабязна даследавана інструкцыя полацкай шляхты на Люблінскі з'езд 1606 г. у працы Я. Мацішэўскага, прысвечанай рокашу 1606 – 1609 гг. Гэтая інструкцыя разглядаецца як прыклад рэпрэзентацыі найбольш радыкальнай плыні ў межах апазіцыйнага шляхецкага руху падчас рокашу [9, s. 157-159]. У іншай сваей працы Я. Мацішэўскі разглядаў дакументы, выпрацаваныя полацкай шляхтай у 1607 г. [10, s. 207-208]. Узгадвае пра іх у кантэксце даследавання рокашу ў ВКЛ і Г. Віснэр [11, s. 294]. Змест інструкцыі 1611 г. прааналізаваны ў працы Я. Быліньскага, прысвечанай дзейнасці сойму 1611 г. [12, s. 65-70]. Беларускімі гісторыкамі В. Галубовічам і А. Радаманам была надрукавана інструкцыя 1608 г., арыгінал якой знаходзіцца ў зборах Архіва Санкт-Пецярбургскага Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук. Разам з тым публікацыя суправаджаецца толькі каментарам агульнага характару без дэталевага аналізу тэксту (пра што між іншым і было заяўлена ў каментары) [13]. Пэўную ролю ў разуменні сутнасці палітычнай культуры рэгіену маюць даследаванні В. Галубовіча, прысвечаныя канфесійным і этнічным асаблівасцям полацкай шляхты [14-16]. У спецыяльным артыкуле В. Галубовіча вельмі грунтоўна даследуецца канфесійная праблематыка ў дзейнасці полацкіх соймікаў [17].

Мэтай дадзенага даследавання з'яўляецца вызначэнне адносін полацкай шляхты да існуючай палітычнай сістэмы і яе важнейшых інстытутаў у канцы XVI – пачатку XVII стст.

Крыніцамі нашага даследавання з'яўляюцца інструкцыі полацкіх соймікаў. Соймікавыя інструкцыі дазваляюць у дастатковай ступені рэканструяваць палітычную культуру і палітычны светапогляд полацкай шляхты.

Сярод інструкцый полацкага сойміка канца XVI – пачатку XVII стст. на наш час захаваліся наступныя:

- асобныя фрагменты інструкцыі сойміку, які адбыўся, відавочна, у канцы снежня 1596 – на пачатку студзеня 1597 г. напярэдадні сойму 1597 г. Аб гэтай інструкцыі вядома з выдання "Dyaryusze sejmowe r. 1597" [18, s. 422];
- перадсоймавая інструкцыя сойміку, які адбыўся, відавочна, у студзені 1598 г. [19, s. 237-243];
- інструкцыя сойміку, які адбыўся 16 мая 1606 г., выдадзеная паслам на перадракашовы з'езд у Любліне [20];
- ліст полацкай шляхты да падчашага ВКЛ Януша Радзівіла з падзякай за падтрымку рокашу ад 2 лютага 1607 г. [21];
- інструкцыя сойміку, які адбыўся 18 сакавіка 1607 г., выдадзеная паслам на ракашовы з'езд у Енджэеве [22; 23, k. 188-189];
- перадсоймавая інструкцыя сойміку, які адбыўся ў канцы сакавіка 1607 г. [23, k. 190-191];
- перадсоймавая інструкцыя сойміку, які адбыўся 4 снежня 1608 г. [апубл. у: 13, с. 70-72];
- перадсоймавая інструкцыя сойміку, які адбыўся ў жніўні 1611 г. [24, k. 49-52].

Адносіны шляхты да існуючай палітычнай сістэмы і яе важнейшых інстытутаў уключаюць ў сябе характар разумення шляхтай асноўных паняццяў-сімвалаў, звязаных з існуючай палітычнай сістэмай, як "Рэч Паспалітая", "Айчына", веданне шляхецкай супольнасцю сутнасці дзяржаўна-палітычнага ладу і функцый дзяржавы, а таксама стаўленне шляхты да асобных інстытутаў палітычнай сістэмы.

Паняцце "Рэч Паспалітая" было найбольш шырока распаўсюджаным сярод шляхты тэрмінам, які датычыў палітычнага ўладкавання дзяржавы. Э. Апаліньскі і П. Лойка ў сваіх даследаваннях вылучалі розныя значэнні дадзенага паняцця. Паводле Э. Апаліньскага, Рэч Паспалітая ў свядомасці шляхты разглядалася як дзяржава, як сукупнасць соймавых станаў (кароль, сенат і Пасольская ізба) і як супольнасць усей шляхты [7, s. 27-30]. П. Лойка разглядаў паняцце Рэчы Паспалітай у суаднясенні з канцэптам Айчыны і вылучаў у гэтай сувязі тры варыянты: Рэч Паспалітая двух народаў як агульнае дзяржаўнае ўтварэнне без вызначэння ў якасці Айчыны; Рэч Паспалітая як Айчына ў выглядзе двух чыннікаў – Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага; атаясамленне Рэчы Паспалітай і Айчыны [8, с. 87-88].

У соймікавых інструкцыях полацкай шляхты безумоўна дамінавала разуменне Рэчы Паспалітай як дзяржавы. У шэрагу выпадкаў размова ішла пра агульную дзяржаву двух народаў без іх спецыяльнай артыкуляцыі: "(...) Pewni będąc cnoty y zyczliwosci Ich M ktorey w słuzbie Rzeczy Pospolitey od Ich M

zawsze doznawalismy (...)”[1] [21, k. 3]; “Naprzod za obmyszliwanie Je Kr M (ę) stwo ktore o dobrym i pożytecznym Rptey cznic raczy pospołu z inszemi pany posły podziękowanie uczynic”[2] [13, с. 71].

У той жа час распаўсюджанай з’явай было акцэнтаванне ўвагі на дуалістычным характары Рэчы Паспалітай. І Э. Апаліньскі і П. Лойка ўказвалі на словы з інструкцыі полацкага сойміка паслам на енджэеўскі з’езд у сакавіку 1607 г. аб “Rzeczy Pospolitey naszey wspolney tak Koronney yako y Wielkiego Księstwa Litewskiego”[3] [3, s. 28; 8, с. 87; 22, k. 1]. У інструкцыі паслам на Люблінскі з’езд 1606 г. таксама ў прэамбуле гаворка ідзе аб “wszytkiey Rzeczy Pospolitey tak Corony yako y Wielkiego Księstwa Litewskiego”[4] [20, k. 1]. Вельмі часта ў інструкцыях гаворыцца пра дзяржаву з дапамогай тэрміну “Карона і Вялікае Княства Літоўскае”. Асабліва частым было ўжыванне дадзенага тэрміну ў інструкцыі 1606 г. [19, s. 237; 20, k. 1,2; 22, k. 3]. Гэта ставіць пад сумненне, прынамсі адносна полацкай шляхты, тэзіс Э. Апаліньскага аб тым, што дадзены тэрмін меў маргінальнае значэнне [7, s. 28-29].

Разам з тым у інструкцыях полацкіх соймікаў знаходзіць адлюстраванне таксама ўжыванне тэрміну “Рэч Паспалітая” ў значэнні супольнасці шляхты. У інструкцыі паслам на Люблінскі з’езд 1606 г. гаворыцца пра тое, што шляхта з’язджалася на Стэнжыцкі з’езд для таго, каб паслухаць аб “направе” сваіх правоў і вольнасцяў і каб знесці “urazy Rzeczy Pospolitey”[5] [20, k. 2]. У дадзеным кантэксце пад “крыўдамі Рэчы Паспалітай” трэба разумець хутчэй не праблемы дзяржавы, а менавіта “крыўды”, якія былі нанесены шляхецкаму стану палітыкай двара Жыгімонта Вазы, паколькі гаворка пра іх ідзе ў неадрыўнай сувязі з праблемай захавання правоў і вольнасцяў шляхты. У такім жа сэнсе разумеецца Рэч Паспалітая і ў далейшым тэксце інструкцыі, дзе сцвярджаецца неабходнасць пакарання тых, хто імкнецца да абмежавання правоў і прывілеяў шляхты: “(…) tak jakoby y na potem żaden się nie ważył mimo prawa wolności około Rzeczy Pospolitey stanowic zawirać y praktykować (…)”[6] [20, k. 2]. Падчас рокашу падобнае атаясамленне Рэчы Паспалітай са шляхецкім станам было асабліва распаўсюджаным. У гэтай сувязі можна пацвердзіць адносна полацкага рэгіена тэзіс Э. Апаліньскага аб тым, што разуменне Рэчы Паспалітай адначасова і як дзяржавы і як супольнасці шляхты выступала сутнасцю шляхецкай канцэпцыі дзяржавы, у якой грамадзяне адчуваюць сябе не толькі аб’ектам знешняга ўздзеяння, але і актыўным суб’ектам дзяржаўнай палітыкі [7, s. 30-31].

У інструкцыях полацкіх соймікаў выкарыстоўвалася цесна звязанае з “Рэччу Паспалітай” паняцце “Айчына”. У інструкцыі паслам на Енджэеўскі з’езд 1607 г. падкрэсліваецца “stała y nieodmienna chęc i miłośc swoie ku spolniey oyczyznie naszey”, „chęc naszę zyczliwą i szczirą ku oyczyznie”[7] [22, k. 2]. У апошніх радках інструкцыі 1608 г. занатавана: “(...) wszytkie artykuły zgodą naszą spolnie namowione Jch M. P. poslom podane y powierzone mają Jch M dobrze uważaiąc potrzeby y zdrowosc Oyczyzny z stany wszytkiemi tak na Ziezdzie wprzod słonimskim iako y na walnym seymie znayzac y concordowac co by z dobrym y pożytecznym nas wszytkich y Oyczyznie naszey bylo”[8] [13, с. 72]. У такім сэнсе паняцце Айчыны фактычна атаясамлівалася з паняццем Рэчы Паспалітай. Прычым канцэпт Айчыны падкрэсліваўся менавіта ў шырокім сэнсе як агульнасць Каралеўства Польскага і ВКЛ. Улічваючы, што паняцце Рэчы Паспалітай было насычана акрамя дзяржаўнага станавым элементам, можна меркаваць, што падчас супольнай барацьбы кароннай і літоўскай шляхты за свае вольнасці ў перыяд рокашу ўяўленні аб “агульнай Айчыне” былі найбольш моцнымі. Таксама гэта можа сведчыць пра высокую ступень інтэграцыі полацкай шляхты ў карпаратыўную супольнасць Рэчы Паспалітай.

Аналіз сімвалічных паняццяў, звязаных з палітычнай сістэмай, мусіць быць дапоўнены даследаваннем разумення шляхтай сутнасці дзяржаўна-палітычнага ладу і функцый дзяржавы. Агульнапрынятым у сацыяльна-палітычнай думцы XVI – XVII стст. было разглядаць Рэч Паспалітую

[1] “(…) Будучы ўпэўненыя ў цнотах і зычлівасці Іх Мосцяў, пра якія заўседы мы бачылі ад Іх Мосцяў у службе Рэчы Паспалітай (…)” (Пер. аўт.).

[2] “Наперад за абмеркаванне Яго Каралеўскай Мосцю, якое ен імкнецца рабіць супольна з іншымі панамі пасламі, аб дабры і карысці Рэчы Паспалітай, зрабіць падзяку” (Пер. аўт.).

[3] “Рэчы Паспалітай нашай агульнай, як кароннай, так і Вялікага Княства Літоўскага” (Пер. аўт.)

[4] “усей Рэчы Паспалітай так Кароны як і Вялікага Княства Літоўскага” (Пер. аўт.)

[5] “крыўды Рэчы Паспалітай” (Пер. аўт.)

[6] “(…) так каб і ў далейшым ніхто не адважваўся па-за правам вольнасці ў дачыненні Рэчы Паспалітай устанаўліваць, заключаць і практыкаваць (…)” (Пер. аўт.)

[7] “пастаянная і непахісная наша прыхільнасць і любоў да агульнай нашай айчыны”, “прыхільнасць наша шчырая і добразычлівая да айчыны” (Пер. аўт.)

[8] “(…) усе артыкулы нашай згодай супольна наказаныя Іх Мосцям панам паслам, дадзеныя і даручаныя ім, маюць Іх Мосці, добра памятаючы пра патрэбы і здароўе Айчыны, з усімі станамі як на бягучым Слонімскім з’ездзе, так і на вальным сойме абмяркоўваць і вырашаць, каб добра і карысна нам усім у Айчыне нашай было” (Пер. аўт.)

ў адпаведнасці з арыстоцелеўскай тэрміналогіяй як “змешаную манархію” („monarchia mixta”). Гэта азначала тое, што ў аснове дзяржаўнага ладу знаходзілася гарманічнае ўзаемадзеянне на аснове права трох соймавых станаў – караля, сенату і шляхты, якія адлюстроўвалі тры элементы палітычнай сістэмы – адпаведна манархічны, арыстакратычны і дэмакратычны. Характэрна, што ўсе палітычныя сілы ў Рэчы Паспалітай, нягледзячы на разыходжанні, прытрымліваліся дадзенай канцэпцыі і нават у перыяд вострых палітычных канфліктаў, як напрыклад, рокашу 1606 – 1609 гг., не было выпрацавана альтэрнатыўных ідэй.

У інструкцыях полацкіх соймікаў няма глыбокіх тэарэтычных рэфлексій над сутнасцю дзяржаўна-палітычнага ладу. Аднак некаторыя важныя з пункту гледжання шляхты ўяўленні ў іх змешчаны (асабліва гэта датычыць інструкцый з часоў рокашу). У якасці гаранту стабільнасці палітычнай сістэмы разглядалася права. У інструкцыі на Люблінскі з’езд 1606 г. выказваецца абурэнне з нагоды неправавога завяршэння сойму 1606 г.: “ (…) zniewaženie praw y wolnosci naszych przysięga K J M potwierdzonych y opresją głosow wolnych panow posłow woiwodztw y powitow na seym posłanych zniesieniem praw starych takim niesłychanym zawiraniem seymow w tumulciech (…)”[9] [20, k. 2]. Легітымнасць шляхецкага з’езду абгрунтоўваецца тым, што ен закліканы вярнуць раней зацверджаныя парушаныя правы [20, k. 2-3]. Такімі ж самымі выразамі абгрунтоўваецца законнасць рокашу ў інструкцыі 1607 г. на Енджэеўскі з’езд: “(…) prawa, wolności y obowiązki iako dawne, tak i teraznieysze nie odstepuiąc ich ni w czem, przy nich się opowiadamy y statecznie trwać chcemy (...)”[10] [22, k. 1].

Функцыі дзяржаўнай улады ў інструкцыях полацкіх соймікаў, як дарэчы і іншых соймікаў Рэчы Паспалітай, фармуляваліся даволі абстрактна, як забеспячэнне спакою і агульнага дабра, пад чым разумелася ўнутраная і знешняя бяспека [7, s. 40-41]. Падобнае разуменне даводзіцца патрабаваннямі шляхты да ўлады забяспечыць унутраны і знешні мір: “Domowe niebezpieczeństwo tak opatrzyc żeby każdy wolności swey według praw y przysięg J K M używał” [19, s. 237][11]; „Z Moskwą pokoiu a iż doczesnego pilno strzedz”; „Z Turkiem pokoiu iako naipilniey strzedz”[12] [13, c. 71].

У гэтай сувязі больш цікава разгледзець, якім чынам полацкая шляхта бачыла месца і ролю ў палітычнай сістэме асобных інстытутаў, такіх як кароль, сенат, сойм, а таксама нелегітымны шляхецкі рокаш.

Кароль лічыўся як адзін з соймавых станаў часткай Рэчы Паспалітай і адначасова яе кіраўніком. Ніхто з прадстаўнікоў шляхты, нават радыкальныя ўдзельнікі рокашу, не адмаўлялі неабходнасці манархіі. Стаўленне да каралеўскай асобы адзначалася асаблівай павагай і пашанай [7, s. 53-57]. Гэта адлюстроўваецца і ў інструкцыях полацкіх соймікаў. У інструкцыі паслам на Люблінскі з’езд 1606 г. з выразна апазіцыйным зместам кіраўнік дзяржавы называецца “Каралеўскай Яго Мосцю, панам нашым міласцівым” [20, k. 1]. Нават калі палітыка караля выклікала незадаволенасць, шляхта імкнулася ўстрымлівацца ад яго непасрэднай асабістай крытыкі. У гэтай сувязі яскравай з’яўляецца прамова трайдэнскага кашталяна, прадстаўніка полацкай шляхты Пятра Стаброўскага на Сандамірскім ракашовым з’ездзе ў жніўні 1606 г., у якой віна за пралікі ў каралеўскай палітыцы ўскладалася на сенатараў [9, s. 284; 25, s. 50-51]. У інструкцыі 1611 г. полацкая шляхта, выступаючы супраць вайны з Маскоўскай дзяржавай, не абвінавачвала непасрэдна ў яе развязванні караля, а патрабавала ад яго знайсці і пакараць “autorow”[13] вайны [7, s. 138; 25, k. 49].

Разам з тым для шляхты Рэчы Паспалітай, як гэта абгрунтаваў Э. Апаліньскі, быў характэрны моцны недавер да караля, паколькі лічылася, што манархам па сутнасці сваей уласцівае імкненне да абсалютнай улады [7, s. 56-57]. Таму шляхта заўседы вельмі клапацілася пра захаванне каралем абавязацельстваў аб абмежаванні свіх паўнамоцтваў. Ужо ў 1590-я гг. распаўсюдзіліся чуткі аб імкненні Жыгімонта Вазы да абсалютнага кіравання. Гэта знайшло свой выраз у інструкцыях полацкіх соймікаў 1597 і 1598 гг., у якіх каралю нагадвалася аб абавязку прытрымлівацца пунктаў пакта канвента [18, s. 422; 19, k. 237]. Такое ж патрабаванне змяшчаецца ў інструкцыі 1608 г. [13, c. 71]. У інструкцыі 1598 г. нагадвалася аб гарантыях выканання “Генрыкавых артыкулаў”, у прыватнасці, пункта, які прадугледжваў кантраляванне дзейнасці манарха 16 сенатарамі-рэзідэнтамі [19, k. 237]. Пра захаванне каралем гарантаваных ім у прававых актах правоў і свабод шмат гаварылася ў інструкцыі на Люблінскі з’езд 1606 г. У прыватнасці там падкрэслівалася права вольнай элекцыі [20, k. 1-3].

---

[9] “(…) знявага правоў і вольнасцяў нашых, пацверджаных прысягай Каралеўскай Яго Мосці, і няўвага да галасоў вольных паноў паслоў з ваяводстваў і паветаў на сойм пасланых парушэннем старых правоў такім нечуваным завяршэннем соймаў у тумультах (…)” (Пер. аўт.)

[10] “(…) правоў, вольнасцяў і абавязкаў як даўнейшых, так і цяперашніх, ні ў чым не адыходзячы, прытрымліваемся і жадаем пры іх цверда стаяць (…) (Пер. аўт.)

[11] “Грамадскую бяспеку трэба так пільнаваць, каб кожны мог карыстацца сваей свабодай згодна з правамі і прысягамі Каралеўскай Яго Мосці” (Пер. аўт.)

[12] “З Масквой цяперашні мір пільна сцерагчы”; “З Туркам мір як найпільней захоўваць” (Пер. аўт.)

[13] “аўтараў” (Пер. аўт.). У дадзенай сувязі маецца на ўвазе – “падбухторшчыкаў”.

Характэрным прыкладам рэакцыі полацкай шляхты на парушэнне права з боку караля быў яе ўдзел у барацьбе "абываценляў" ВКЛ супраць намінацыі на пасаду віленскага біскупа паляка Бернарда Мацееўскага насуперак Статуту ВКЛ, што доўжылася 10 гадоў і скончылася перамогай літвінскай шляхты [26; 27]. Гэты ўдзел зафіксаваны ў патрабаваннях соймікаў 1597 і 1598 гг. аб адмене намінацыі Б. Мацяеўскага [18, s. 422; 19, k. 241].

Наступным "соймавым станам" з'яўляўся сенат. Найбольш выразна разуменне полацкай шляхтай прызначэння і ролі сенату адлюстравана ў інструкцыі паслам на Люблінскі з'езд 1606 г.: "(…) Ich M M pp. Senatorow, iako strożow praw wolności naszych, aby się w to włożyli y tak do tego J K M wiedli, jakoby te wszytkie urazy Rzeczy Popolitey zniesione byli, y Artykułom ktorym ieszcze dotąd do K J M poprzysiężonym dosić się nie stało, aby się we wszytkim dosic się stało, autoritate sua senatoria w to się wdali (…)"[14] [20, k. 1]. Такім чынам, у свядомасці полацкай шляхты дамінавала ўсеагульнае ў Рэчы Паспалітай уяўленне, што сенат павінен выконваць кантралюючую, дарадчую (у адносінах да караля) і медыятыўную (у выпадку канфлікту паіж каралем і "абываценлямі") функцыі [7, s. 60]. У той жа час нярэдка, асабліва падчас вострых палітычных канфліктаў, шляхта абвінавачвала сенат у невыкананні сваіх абавязкаў, у дрэнных парадах каралю. Дастаткова тут узгадаць вышэй указаную антысенатарскую прамову Пятра Стаброўскага на Сандамірскім з'ездзе. У інструкцыі на Люблінскі з'езд прагучала патрабаванне суду шляхты над тымі сенатарамі, якія парушаюць правы шляхецкага стану [20, k. 3].

Надзвычай важная роля ў свядомасці шляхты належала сойму як інстытуту, які з'яўляўся галоўным увасабленнем шляхецкай дзяржавы, органам, які сінтэзаваў у сабе элементы прадстаўнічай і непасрэднай дэмакратыі. Менавіта з соймам "абываценлі" ў першую чаргу звязвалі надзеі на рэалізацыю сваіх патрабаванняў і пажаданняў. Аб гэтым сведчылі ўжо самі факты ўдзелу шляхты ў перадсоймавых сойміках, складанне інструкцый паслам. Аўтарытэтнасць сойму таксама даводзіцца вялікай колькасцю патрабаванняў і пажаданняў, якія шляхта змяшчала ў пасольскіх інструкцыях, клопатам аб правільнай арганізацыі соймаў. Інструкцыя на Люблінскі з'езд ілюструе вострую незадаволенасць полацкай шляхты з нагоды завяршэння сойму без прыняцця да ўвагі каралем і значнай часткай сенату патрабаванняў большасці шляхецкіх паслоў [20, k. 1-3].

У гэтай сувязі паўстае пытанне пра змены ў разуменні ролі сойму ў свядомасці шляхты пад уплывам палітычных канфліктаў, а таксама пытанне пра ўяўленні аб нефармальных шляхецкіх з'ездах і рокашы.

У інструкцыі на Люблінскі з'езд 1606 г. пасля выказвання абурэння з нагоды парушэння правоў шляхты пры завяршэнні сойму сцвярджалася: "Gdyż na seymiech przez pany posły swe otrzymac nic nie mogą, insze sprawy potrzeby jako wszytka Rzeczy Pospolitej tak osobliwie woiwodztwa naszego zachodzące fidei forum poruczamy, będąc pewni że wszem ostrzegą praw y wolności naszych (…)"[15] [20, k. 3-4]. Падобныя дэкларацыі ў той час былі характэрныя і для многіх іншых павятовых соймікаў. Гэта сведчыла пра тое, што расчараванне шляхты ў магчымасцях рэалізаваць свае патрабаванні з дапамогай сойму актуалізавала ідэю непасрэднай шляхецкай дэмакратыі ў форме рокашу. Гэта можна выразна ўбачыць у прамове на Люблінскім з'ездзе ў чэрвені 1606 г. Пятра Стаброўскага. Ен даводзіў, што паколькі сенат не знаходзіцца ў адзінстве са станам шляхецкім, таму з дапамогай сойму марна спадзявацца на рэалізацыю патрабаванняў "абываценляў" падобным шляхам. Адзінае выйсце, на яго думку – гэта рокаш, які разумеўся як з'езд усей шляхты Рэчы Паспалітай, а таксама сенатараў на чале з каралем, на якім павінны адбыцца абмеркаванне найважнейшых дзяржаўна-палітычнах пытанняў, а таксама суд над тымі (у першую чаргу сенатарамі), хто парушае права і шляхецкія вольнасці [9, s. 186-187; 25, s. 22-23]. З прамовы зразумела, што на такім сходзе вярхоўным носьбітам улады выступае ўся супольнасць шляхты, а кароль і сенатары павінны з'яўляцца на яго для таго, каб апраўдвацца перад шляхецкімі прэтэнзіямі. П. Стаброўскі сцвярджаў: "Do rokoszu należy osoba królewska, tak mi sie zda, aby deputaci z województw referowali urazy prywatne i publiczne, gdyż ex privatis personis res constat, i posłać wszystkie do króla i wokować go w pośrodek nas, aby sie nam z tego wszytkiego justifikował, a tych którzy mu tej rady dodawali, nam tu wydał. Nadto zabieżec temu, iż rzeczplita daje królom skrypta do panowania, w mocy je też ma, in tali praesertim casu zatrzymać i odchylić trochę (...) Także i ze strony pp. Senatorów, jeśli ta perturbacyja

[14] "(…) Іх Мосцяў паноў сенатараў як гарантаў правоў і вольнасцяў нашых, каб яны раілі і настойвалі перад Яго Каралеўскай Мосцю на тым, каб усе крыўды Рэчы Паспалітай былі скасаваны, а артыкулы, дадзеныя раней Каралеўскай Яго Мосцю пад прысягай, якія дагэтуль не выкананы, каб былі выкананы, выкарыстоўваючы свой сенатарскі аўтарытэт (…)" (Пер. аўт.)

[15] "Паколькі на соймах з дапамогай нашых паноў паслоў нічога атрымаць на можам, справы патрэбныя як усей Рэчы Паспалітай, так і асабліва нашаму ваяводству, даручаем бягучаму з'езду, будучы ўпэўненыя, што ен стане ва ўсім апірышчам нашых правоў і вольнасцяў" (Пер. аўт.)

za ich niedbalstwem, czy za radą i pomocą stała się, aby stanęli i nam się justifikowali (…)”[16] [25, s. 23]. Як папярэджанне каралю гучаў іншы магчымы варыянт дзеянняў шляхты: “(...) swiadczą annales, ze wiele panów degradowano, gdy prawa nie trzymali”[17] [25, s. 22]. У дадзенай прамове можна заўважыць праяву ўзнікшай у еўрапейскай думцы ранняга Новага часу тэорыі народнага суверэнітэту і звязанага з ім права на супраціўленне тыраніі[18]. Супольнасць шляхты выразна атаясамліваецца з дзяржавай, а кароль і сенатары разглядаюцца як слугі Рэчы Паспалітай (у гэтым паняцці аб’ядноўваюцца шляхецкае грамадства, дзяржава і найвышэйшая ўлада), якія могуць быць адхілены ў выпадку парушэння правоў або дрэннага выканання сваіх абавязкаў.

Улічваючы прыхільны рокашу тон інструкцыі на Люблінскі з’езд, наўрад ці можна сумнявацца, што падобныя ідэі мелі шырокую папулярнасць сярод полацкай шляхты. 2 лютага 1607 г. полацкая шляхта накіравала ліст да Януша Радзівіла, у якім выказала яму падзяку за актыўную дзейнасць у справе рокашу. Дадзены ліст падпісалі каля 40 асоб [2, s. 239-240; 21]. У інструкцыі паслам на Енджэеўскі з’езд у сакавіку 1607 г. пазітыўна ацэньваецца досвед Люблінскага і Сандамірскага з’ездаў, адзначаецца невыкананне каралем патрабаванняў ракашовай шляхты і рашучае жаданне працягу рокашу. Характэрна, што адным з трох паслоў на з’езд быў абраны Петр Стаброўскі. У той жа час шляхта выказала недавер сойму, адмовіўшыся высылаць на яго паслоў [22, k. 1-3]. Праўда, дадзеная інструкцыя не адлюстроўвала ўсеагульнага настрою шляхты. Напярэдадні сойму 1607 г. сярод яе адбыўся раскол. Частка шляхты арганізавала новы соймік і накіравала паслоў на сойм. Разам з тым нават інструкцыя гэтага сойміка патрабавала ўлічыць пажаданні ракашовай шляхты, выказаныя ў “Сандамірскіх артыкулах [23, k. 190-191].

Нягледзячы на тое, што фармальна дзеячы рокашу ў сваіх тэарэтычных рэфлексіях не выходзілі за межы канцэпцыі “змешанай манархіі”, па сутнасці рокаш быў спробай стварэння новай палітычнай сістэмы, якая, аднак, скончылася паражэннем. Шырокая падтрымка рокашу сярод полацкай шляхты выступае даволі характэрнай з’явай, што можна ў пэўнай ступені патлумачыць невысокім ступенем яе ўплыву на палітычнае жыццё (полацкая шляхта была пераважна незаможнай і ў рокашы магла бачыць спробу суперніцтва з магнатэрыяй). У далейшым, аднак, пасля паражэння рокашу прэрагатывы асноўных інстытутаў палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай у інструкцыях полацкіх соймікаў пад сумненне не ставіліся.

Не абміналася ў інструкцыях полацкай шляхты і пытанне рэгіянальнай улады. У гэтай сувязі можна ўзгадаць патрабаванне выбараў полацкага ваяводы. Упершыню яно выступае ў інструкцыі 1597 г. [18, s.422]. Больш разгорнута гэтае патрабаванне сфармулявана ў інструкцыі паслам на Люблінскі з’езд 1606 г.: “(…) o to się starac maią, aby ten przywilej nasz wcale był trzymany, a co by przeciwnego prawu naszemu było aby to zniesiono moca zjazdu tamtesznego było, a osobliwie iż mamy wolne obiranie wojewody y insze wolności temu należące, tedy aby po śmierci każdego wojewody wolna electia nam zostawała”[19] [20, k. 3]. Справа ў тым, што прывілеі вялікіх князеў літоўскіх Полацкай зямлі ўтрымлівалі пункт, паводле якога на пасаду полацкага ваяводы павінна быць намінаваная асоба, якую абрала мясцовая шляхта: “давати нам воеводу нашого полочаном по их воли. А которыи будеть воевода наш нелюб, и нам им воеводу нашого дати по их воли” [28, c. 90]. На гэтай падставе некаторыя ранейшыя гісторыкі, у прыватнасці У. Пічэта, лічылі, што полацкія ваяводы абіраліся самімі палачанамі [29, c. 220-221]. Аднак І. Лапо, М. Спірыдонаў і В. Воронін у сваіх даследаваннях схіляліся да меркавання аб фармальнасці ўзгаданага пункту і сцвярджалі, што ў рэчаіснасці ваяводы прызначаліся вялікім князем [30, c. 28; 31, c. 582-583; 32, c. 7]. У якасці доказу на карысць гэтага выступае тое, што ў намінацыйных прывілеях полацкім ваяводам нідзе не ўзгадваецца пра волю палачан, а сярод ваяводаў адсутнічаюць ураджэнцы Полаччыны. Патрабаванне шляхты ў інструкцыі 1606 г. яскрава паказвае, што полацкія ваяводы прызначаліся каралем. Аднак разам з тым полацкая шляхта захоўвала веданне зместу Полацкага прывілею і імкнулася да рэалізацыі змешчаных у ім пастулатаў. Гэта з’яўляецца сведчаннем захавання ў асяроддзі полацкай шляхты ўяўленняў аб аўтарытэтнасці мясцовага права.

Такім чынам, шляхта, прынамсі тая яе частка, якая прымала ўдзел у сойміках, праяўляла значную палітычную актыўнасць. Палітычная сістэма Рэчы Паспалітай разглядалася ей як прадукт дзейнасці

[16] “На рокашу павінна быць каралеўская асоба, як мне падаецца, каб дэпутаты з ваяводстваў агалошвалі свае прыватныя і супольныя крыўды. Трэба запрасіць да нас караля, каб ен нам усе гэта патлумачыў, а тых, хто даваў яму парады, нам выдаў. Трэба разумець, што калі Рэч Паспалітая дае каралям права да кіравання, то ў яе моцы таксама некаторым спосабам яго трохі абмежаваць і затрымаць (…) Таксама калі якая-небудзь пертурбацыя адбылася з-за нядбальства або парад і дзеянняў паноў сенатараў, каб яны перад намі сталі і растлумачылі (…) (Пер. аўт.)

[17] “(…) аналы сведчаць, што шмат уладароў дэтранізавана, калі яны не прытрымліваліся права” (Пер. аўт.)

[18] Пра сувязь ракашовай думкі ў Рэчы Паспалітай з дадзенымі канцэпцыямі гл. [7, s. 66-67].

[19] ”(…) павінны імкнуцца да таго, каб прывілей наш быў цалкам захаваны, а тое, што супярэчыць нашаму праву, каб было ліквідавана на бягучым з’ездзе, а асабліва маем на ўвазе вольнае абіранне ваяводы і іншыя вольнасці з гэтым звязаныя, каб пасля смерці кожнага ваяводы была б вольная элекцыя” (Пер. аўт.)

самой шляхты. Дастаткова высокім быў узровень разумення шляхтай сутнасці палітычнай сістэмы, а таксама перакананасць ва ўласнай магчымасці істотна ўплываць на палітычныя рашэнні. Шляхта добра ведала свае правы і заўседы была на пагатове да іх абароны.

ЛІТАРАТУРА

1. Жукович, П. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (до 1609 года) / П. Жукович. – СПб.: Типогр. Главнаго Управления Уделов, 1901. – XXI, 594 с.

2. Kempa T. Wobec kontrreformacji. Protestanci i prawosławni w obronie swobód wyznaniowych w Rzeczypospolitej w końcu XVI i w pierwszej połowie XVII wieku / T. Kempa. – Toruń: Adam Marszałek, 2007. – 624 s.

3. Opaliński, E. Sejmiki szlacheckie wobec kwestii tolerancji religijnej w latach 1587-1648 / E. Opaliński // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. – T. 34.– 1989. – S. 21-40.

4. Wiśner, H. Rozróżnieni w wierze. Szkice z dziejów Rzeczypospolitej schyłku XVI i połowy XVII wieku / H. Wiśner. – Warszawa: Książka i wiedza, 1982. – 216 s.

5. Wiśner, H. Sejmiki litewskie i kwestia wyznaniowa 1611-1648 / H. Wiśner // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. – T. 23. –1978.– S. 123-150.

6. Jarmiński, L. Bez użycia siły: działalność polityczna protestantów w Rzeczypospolitej u schyłku XVI wieku / L. Jarmiński. – Warszawa: Semper, 1992. – 269 s.

7. Opaliński, E. Kultura polityczna szlachty polskiej w latach 1587-1652 / E. Opaliński. – Warszawa: Wydawnictwo Sejmowe, 1995. – 347 s.

8. Лойка, П.А. Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII стст. / П.А. Лойка. – Мн.: БДУ, 2002. – 99 с.

9. Maciszewski, J. Wojna domowa w Polsce (1606-1609): studium z dziejów walki przeciw kontrreformacji. Cz. 1: Od Stężycy do Janowca / J Maciszewski. – Wrocław: Zakł Nar. im. Ossolińskich, 1960. – VI, 368 s.

10. Maciszewski, J. Jeziorna 1607 (wokół uniwersału detronizacyjnego rekonesans badawczy) / J. Maciszewski // Świat pogranicza/ [red. nauk. M. Nagielski, A. Rachuba, S. Górzyński]. – Warszawa: DiG, 2003. – S. 210-221.

11. Wiśner, H.Litwa wobec rokoszu (1606-1607) / H. Wiśner // Kwartalnik Historyczny. – T. – 1972. – Z. 2. – S. 278-299.

12. Byliński, J. Sejm z roku 1611 / J. Byliński. – Wrocław: Zakład Narodowy im. Ossolińskich, 1970. – 248 s.

13. Галубовіч, В., Радаман, А. Інструкцыя полацкай шляхты на сойм 1608 г. / В. Галубовіч, А. Радаман // Полацкія гістарычныя запіскі. – Т. III. – 2006. – С. 70-72.

14. Галубовіч, В.У. Каталіцкая царква ў Полацкім ваяводстве ў канцы XVI – першай палове XVII стст. / В.У. Галубовіч // Вестн. Полоц. гос. ун-та. – Серия А. Гуманитарные науки. – 2011. – № 1. – С. 13-17.

15. Галубовіч, В.У. Праваслаўная шляхта ў кантэксце канфесійнага жыцця Полацкага ваяводства ў другой палове XVI – сярэдзіне XVII стст. / В.У. Галубовіч // Міжканфесійныя адносіны ў Полацкім ваяводстве (другая палова XVI – першая палова XVII стст.): отчет о НИР (заключ.) / Полоцкий государственный университет; рук. темы И.А. Бортник. – 2011. – С. 25-31 – № Г09ПЛ-003.

16. Галубовіч, В. Шляхта польскага паходжання ў Полацкім ваяводстве ў канцы XVI – XVIIстст. / В. Галубовіч // Матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі: да 80-годдзя Полацкага краязнаўчага музея. – Полацк: НПГКМЗ, 2008. – С. 47-55.

17. Галубовіч, В. Канфесійная праблематыка на сойміках Полацкага ваяводства ў канцы XVI – сярэдзіне XVII ст. / В. Галубовіч // Хрысціянства ў гістарычным лесе беларускага народа: зб. навук. арт.:у 2 ч. Ч. 1; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.].– Гродна: ГрДУ, 2009.– С. 179-185.

18. Dyaryusze sejmowe r. 1597; wyd. E. Barwiński. – Kraków: Nakład Akademii Umiejetności, 1907. – XXVIII, 545 s.

19. Biblioteka książąt Czartoryskich (BCzart.) w Krakowie. – Sygn. 2234.

20. Archiwum Główny Akt Dawnych (AGAD) w Warszawie. – Archiwum Radziwiłłów (AR). – Dział II. – Nr 450.

21. Archiwum Główny Akt Dawnych (AGAD) w Warszawie. – Archiwum Radziwiłłów (AR). – Dział II. – Nr 507.

22. Archiwum Główny Akt Dawnych (AGAD) w Warszawie. – Archiwum Radziwiłłów (AR). – Dział II. – Nr 510.

23. Biblioteka Polskiej Akademii Nauk i Polskiej Akademii Umiejętności (BPAU-PAN) w Krakowie. – Sygn. 360.

24. Biblioteka Polskiej Akademii Nauk i Polskiej Akademii Umiejętności (BPAU-PAN) w Krakowie. – Sygn. 365.

25. Rokosz Zebrzydowskiego. Materyały historyczne poprzedzone przedmową i rozprawą pod tytułem Konfederacya i rokosz w dawnem prawie państwowem polskim; wyd. A. Rembowski. – Warszawa: Druk. E. Lubowskiego i S-ki Mazowiecka, 1893. – XXX, [315], 535 s.

26. Lewicki, K. Walka o biskupstwo wileńskie z końcem XVI w. Echa separatyzmu litewskiego / K. Lewicki // Prace historyczne w 30-lecie działalności prof. S. Zakrzewskiego. – Lwow, 1934. – S. 295-311.

27. Rzońca, J. Spór o biskupstwo wileńskie na sejmach schyłku XVI wieku / J. Rzońca // Wilno-Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisku wielu kultur; red. E. Feliksiak i M. Skorko-Barańskiej. – Białystok: „Versus”, 1992. – S. 23-52.

28. Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв.: в 5 т.; изд. А.Л. Хорошкевич – Москва: Изд-во АН СССР, 1977 – 1983. – Вып. 3. – 1980. – 215 с.

29. Пичета, В.И. Полоцкая земля в начале XVI в. / В.И. Пичета // Пичета, В.И. Белоруссия и Литва XV – XV вв. (Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития) / В.И. Пичета; под ред. З.Ю. Копысского, В.Д. Королюка, Н.Н. Улащика. – Москва: Изд-во АН СССР, 1961. – С. 213-262.

30. Варонін, В. Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст. / В. Варонін // Беларускі гістарычны агляд. – Т. 5. – Сш. 1 (8). – 1998. – С. 27-66.

31. Лаппо, И.И. Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии да смерти Стефана Батория (1569-1586). Опыт исследования политического и общественного строя / И.И. Лаппо. – Т. 1. – СПб.: Типография И.Н. Скороходова, 1901. – XVI, 780 с.

32. Спірыдонаў М. Полаччына ў сярэдзіне XVI ст. / М. Спірыдонаў // Полацкія гістарычныя запіскі. – Т. I. – 2004. – С. 5-19.

**УДК 27-788"18/19"**

## ПРАВОВОЕ ПОЛОЖЕНИЕ ПОСЛУШНИКОВ ПРАВОСЛАВНЫХ МОНАСТЫРЕЙ НА ТЕРРИТОРИИ БЕЛАРУСИ В 1839 – 1917 гг.

***магистр ист. наук Е.Н. БОРУН***
**Полоцкий государственный университет, Новополоцк**

*Дан анализ правовому положению послушников и послушниц православных монастырей Минской, Могилевской, Полоцкой, Литовской, Гродненской епархий. Рассмотрены нормативно-правовые документы, регламентирующие процесс принятия пострига и вступление послушников и послушниц в состав монашествующей братии монастырей. Выявлена разница в длительности прохождения послушания в мужских и женских монастырях. Представлены категории внутрипослушнического сообщества.*

Правовое положение послушников в православных обителях на территории Беларуси в рассматриваемый период регламентировалось Духовным регламентом, Полным собранием законов Российской империи, Сводом законов Российской империи, Указами святейшего Синода, Уставами духовных консисторий. По данному законодательству все монашествующее духовенство делилось на духовные власти (архиереев, архимандритов, игуменов), монахов и послушников и существенно отличалось в правах и обязанностях внутри каждого сословия.

В Духовном регламенте от 1721 г., переизданном Синодальной типографией в 1897 г., в 62 пунктах подробно излагались следующие вопросы: кого и как принимать в монахи, о житии монахов, монахинях, монастырях. В монашество было запрещено принимать: лиц, не достигших 30 лет, военнообязанных, крепостных крестьян, мужа (жену) при живой жене (муже), находящихся под судом. Исключение составляли выпускники духовных семинарий и академий, которые могли быть пострижены с 25 лет, а также вдовые священники и диаконы. Решение о постриге принимал настоятель, учитывая возраст и поведение кандидата, время, проведенное им в монастыре на искусе, и беспрепятственность в гражданском ведомстве.

На женское монашество распространялись те же положения, что и на мужское, с прибавлением ряда положений, еще более ужесточавших жизнь монахинь. Так, п. 42 и 43 предполагают пострижение для вдовых женщин при достижении 60 лет, а девиц – 50 лет [1, с. 126]. В 1832 г. это правило было смягчено, и постриг для женщин стал разрешенным с 40-летнего возраста. Данные изменения в законодательстве Российской империи о возрастном цензе на пострижение были закреплены в Своде законов Российской империи [2, с. 50]. Но это, все равно, не облегчало положение послушниц женских монастырей, т.к. срок их послушничества растягивался лет на 20. Например, монахини Оршанского Кутеинского Успенского женского монастыря: настоятельница игумения Максимилла, ждала пострига 17 лет; казначея Аполинария – 17 лет; наставница церковно-приходской школы Арсения – 20 лет [3, л. 3 об. - 7]. Настоятельница Чонского женского монастыря игумения Арсения (Анна Фокична Колосова) была пострижена после 23-летнего послушания [4, л. 148]. Послушничество настоятельницы Пинского Варваринского монастыря игуменьи Назареты длилось 31 год [5, л. 35 об. - 36].

Надо отметить, что длительность искуса зависела от сословия послушниц. Дворянок постригали в отведенные сроки, и их послушание не растягивалось на долгие годы. Так, настоятельница Минского женского Преображенского монастыря игумения Михаила, дворянка Тульской губернии, пришла на послушание в монастырь в 1858 г., а в 1864 г. приняла постриг [6, л. 2].

Представительницы дворянского сословия до ухода в монастырь могли вести переписку или со своим монастырским духовником, или с настоятельницей обители, куда они планировали пойти. Переписка была важным фактором, влияющим на принятие решения выбора монастыря. Сохранилась переписка игу-

20 саквіка. Маючыя нажніцы ніжнія чыны амаль усе загінулі. Рэзаць дрот не было магчымасці, аднак ланцугі знаходзіліся паблізу іх і салдаты спрабавалі іх чым небудзь знішчыць. Да пачатку світанку ланцугі знаходзіліся перад драцянымі загародамі і тады высвятлілася, што іхнемажліва пераадолець без тэхнічных сродкаў… У палку напярэдадні гэтага бою засталося каля 1200 чалавек дарэшты прытомленых і змучаных…

25 сакавіка. У палку было 807 чалавек, пераважна хворых, з абмарожанымі канечнасцямі… Было, зрэшты, відавочна, што з гэтай аперацыі нічога не атрымаецца, але працяг яе вынікаў з тых меркаванняў, што неабходна было выканаць задачу і адцягнуць на сябе з іншых франтоў непрыяцельскія часці. Было выдадзена 90 штыкоў-нажніц, карыстацца якімі ніхто не ўмеў, з цяжкасцю навесілі іх на цэўі лож. Неўзабаве стала зразумела, што гэтыя нажніцы ніколькі не бралі драцяныя загароды… "[1].

У гэтым годзе спаўняецца 100 год Відзаўскаму касцёлу. Ён быў пабудаваны перад пачаткам Першай сусветнай вайны. Яго вежы немцы выкарыстоўвалі ў якасці назіральнага пункта і кулямётнай пазіцыі. Велічны, мураваны касцёл значна пацярпеў ад абстрэлаў рускай артылерыі. У фондах музея захоўваецца шмат фотаздымкаў з відам разбуранага касцёла. Таксама маецца друкаваная нямецкая паштоўка са здымкам вуліцы Відзаў і сілуэтам касцёла на заднім плане. Друкаваны нямецкі тэкст: "Горад Відзы, Расія, разбураны артылерыйскім абстрэлам расіян." У ніжняй часцы подпіс ад рукі "Памятка 1916-1917". Паштоўка на адвароце мае тэкст, які з прычыны невыразнага почырку вельмі дрэнна чытаецца. У першых радках гаворыцца пра моцныя маразы да -29 градусаў. Паштоўка была адпраўлена з Відзаў ў Берлін 10 снежня 1916 года.

Баявыя дзеянні на Браслаўшчыне пачаліся восенню 1915г . У выніку жорсткіх баёў сфармавалася стабільная лінія фронту, якая прайшла праз заходнюю тэрыторыю сучаснага Браслаўскага раёна і з'яўлялася часткай вядомай лініі Гіндэнбурга ад Дзвінску праз Дрысвяты, Нарач на Крэва. Тэрыторыя Браслаўшчыны даволі працяглы час была не толькі плацдармам баявых дзеянняў, але і прыфрантавым рэгіёнам, насычаным рэзервовымі часткамі, шпіталямі, санітарнымі і тылавымі ўстановамі. У выніку край зведаў значныя чалавечыя ахвяры, праблему бежанцаў, разбурэнне гаспадарак, мястэчак, вёсак.

Аднак нават у сучасным грамадстве чамусьці прынята лічыць, што Першая сусветная вайна, паколькі вялася Расійскай імперыяй, да Беларусі мела аддаленае дачыненне. Між тым, менавіта Беларусь стала арэнай баявых дзеянняў у 1915-1918 гг., На яе тэрыторыі доўгі час знаходзіліся нямецкія інтэрвенты, якія ажыццяўлялі страшную эксплуатацыю крыніц сыравіны, рабочай сілы, матэрыяльных каштоўнасцяў.

Першая сусветная вайна пакінула след ў жыцці кожнага чалаека таго пакалення. Чарговы раз Беларусь, асабліва яе заходняя частка стала арэнай канфліктаў. Паміж сваёй волі людзі былі ўцягнутыя ў глабальныя гістарычныя працэсы, апынуліся па розныя бакі палітычных, эканамічных, ідэалагічных, ваенных, культурных і іншых сістэм. Яшчэ раз адчулі ўмоўнасць любых ідэалогій і межаў. Але паўсядзённае жыццё "простага" чалавека нікуды не знікае. Яно працягваецца ў дзённіках, фотаальбомах, паштоўках, "руцінных" ваенных і грамадзянскіх дакументах. У іх няма гістарычнага пафаса і ідэалогіі, але менавіта з такіх маленькіх рэчаў складаецца "дух эпохі". Праз 100 гадоў складана зразумець – чаму казакі і сібіракі ахвяравалі сваім жыццём пры штурме Відзаў? Што рабіў ўраджэнец Брслаўшчыны С. Трушанін ў Румыніі? Навошта сярод палей Браслаўшчыны разбросаны нямецкія бетонныя ўмацаванні? Чалавек заўсёды застаецца чалавекам: нямецкія ўмацаванні значна лепш за рускія нават ва умовах рускіх палей, салдат Сямён Трушанін займаецца сваім любімым паляваннем нават на вайне ў чужой краіне. Кастрычніцкай рэвалюцыі ён прысвячае пару радкоў свайго дзённіка, ўсё астатняе гэта вершы і спевы. Няхай лозунгі і ідэалогіі застаюцца ў гісторыі. Яны непатрэбны. Нажаль, так жа, як і амаль нікому не патрэбныя воінскія пахаванні рускіх і нямецкіх салдат Першай сусветнай вайны. Яны зноў не даюць нам адказу – з кім і дзеля чаго мы ваюем? Яны толькі нагадваюць, што мы не павінны забываць пра Чалавека.

ЛІТАРАТУРА

1. "Браслаўскія сшыткі". Гістарычны зборнік. 3 выданне. 1999 г.
2. Дзённік С.А. Трушаніна. НДУК "Браслаўскае раёнае аб'еднанне музеяў". 5КП-6256. Д-400
3. Летапіс вёскі Дрысвяты. 2011
4. С.М. Морозов. История Беларуси. Конец XVIII – нач XXв. – Минск. 2011
5. "Павет". Выданне краязнаўцаў Браслаўшчыны. № 6 (43), 2005 г.
6. Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Браслаўскага раёна. – Мінск. 1998
7. А. Панцялейка, К. Шыдлоўскі. Нащ край – Браслаўшчына. – Браслаў. 1994

8. Фотаальбом НДУК “Браслаўскае раёнае аб’еднанне музеяў”. 9КП-9280. Д-260
9. Franz Hartman. Geschichte des Vorpommerschen Feldartillere Regiments Nr.38. – Stettin. 1928

**УДК 316"1914/1919"**

## ДА ПЫТАННЯ АБ САЦЫЯЛЬНЫМ СТАНОВІШЧЫ Ў ПОЛАЦКУ ПАДЧАС ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

***загадчык Краязнаўчага музея, філіяла НПГКМЗ І.П. ВОДНЕВА***
**Краязнаўчы музей, Полацк**

*Падзеі Першай сусветнай вайны пакінулі глыбокі след у сусветнай гісторыі. Узброеная барацьба ахапіла вялізныя тэрыторыі на трох кантынентах, у ваенны канфлікт было ўцягнута 38 краін, упершыню ў гісторыі ваеннай справы з’явіліся новыя віды ўзбраення і баявой тэхнікі. Усё гэта выклікала вялізныя разбурэнні, масавыя чалавечыя ахвяры, прывяло да зменаў на палітычнай карце Еўропы.*

Адным з галоўных тэатраў ваенных дзеянняў з'яўляліся беларускія землі. На тэрыторыі нашай краіны ў 1915 – 1918 гг. праходзіў расійска-германскі фронт, на якім з абодвух бакоў было сканцэнтравана не менш за 2,5 млн чалавек. Падчас вайны болей за 800 тыс. нашых суайчыннікаў было мабілізавана ў армію, каля 1,5 млн сталі бежанцамі, з якіх трэцяя частка так і не вярнулася на Радзіму.

Вывучаць і аналізаваць падзеі Першай сусветнай вайны пачалі адразу пасля яе заканчэння. Сучасны даследчык Б.Д. Казенка вылучыў 5 асноўных этапаў гістарыяграфіі дадзенага ваеннага канфлікту [4, с. 22]. Да найбольш значных даследаванняў першага перыяду, які ўключае 1918 – 1920-я гг., адносяцца працы “Мировая война 1914 – 1918 гг.” А.М. Заянчкоўскага, “Европа в эпоху империализма” Я.У. Тарле, “Россия в мировой войне 1914 – 1915 гг.» Ю.М. Данілава, “Стратегический очерк войны 1914 – 1918 гг.”. У 1930-я гг. на гістарыяграфію Першай сусветнай вайны наклаў свой адбітак культ асобы Сталіна, у выніку чаго ваенныя падзеі разглядаліся як перадумовы стварэння новага савецкага ладу жыцця замест няздольнай да існавання царскай Расіі. У той час выйшлі працы “Августовское сражение 2-й русской армии в Восточной Пруссии в 1914 г.” М.Ф. Яўсеева, “Первая мировая империалистическая война 1914 – 1918 гг. Кампания 1917 г.” М.А. Таленскага, “Борьба за Островец” С.А. Хмялькова і інш. У 1945 – 1960-я гг., у часы “хрушчоўскай адлігі”, даследаванні насілі супярэчлівы характар, у асобных працах ускрываліся новыя факты і лічбы. Публікацыі А.А. Чуб'яна, Д. Вяржхоўскага, У. Ляхава, Ф.І. Натовіча, К.Ф. Шчарбакова друкаваліся ў часопісах “Военно-исторический журнал”, “Вопросы истории”, “Вестник военной истории” і інш. У наступныя дзесяцігоддзі навуковыя працы былі моцна палітызаваны і ідэалагізаваны. Большасць даследаванняў было напісана з жорскіх марксіска-ленінскіх метадалагічных пазіцый і існуючых партыйна-класавых прынцыпаў і каштоўнасцяў. І толькі з канца 1980-х гг. дэмакратызацыя грамадскай і навуковай думкі выклікала сярод гісторыкаў плюралізм поглядаў на падзеі Першай сусветнай вайны. Сталі публікавацца матэрыялы, заснаваныя на новых дакументах замежных архіваў, мемуарах актыўных удзельнікаў ваенных падзей. Шматлікія працы мінулых гадоў падвяргаліся крытыцы. У апошнія дзесяцігоддзі акрамя глыбока аналітычных прац расійскіх даследчыкаў з’явілася шмат работ беларускіх навукоўцаў, да ліку якіх адносяцца А. Бабкоў, У.Р. Карнялюк, С. Лапановіч, У. Ляхоўскі, В.І. Мамантаў, М.М. Смальянінаў, В.Н. Чарапіца, М. Шчаўлінскі і інш. Беларускія даследчыкі спрабуюць зрабіць гісторыю Першай сусветнай вайны як цэласнай ваенна-гістарычнай з’явы прадметам спецыяльнага навуковага вывучэння. Галоўнай праблемай у гэтым пытанні застаюцца фінансавыя цяжкасці вывучэння рэпрэзентатыўных дакументаў з архіваў іншых краін.

Асобныя звесткі аб размяшчэнні розных устаноў і арганізацый у Полацку падчас Першай сусветнай вайны можна знайсці ў краязнаўчых працах І.П. Дэйніса. Яго рукапісныя матэрыялы другой паловы XX ст. захоўваюцца ў фондах НПГКМЗ і полацкім занальным архіве. У 2007 г. Міхась Баўтовіч выдаў асобным выданнем адну з галоўных прац І.П. Дэйніса “Полацкая даўніна”.

Даследаваннем гісторыі Першай сусветнай вайны на Полаччыне ў другой палове XX ст. займаўся полацкі краязнаўца М.А. Маніс. Ён звяртаўся да дадзенай тэмы з нагоды вывучэння падзей кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. У 1988 г. ім была выдадзена кніга аб удзельніках барацьбы за савецкую уладу на Полаччыне «Память о них жива в Белоруссии», дзе частка матэрыялу прысвячалася вывучэнню пытанняў рэвалюцыйнай сітуацыі ў 3-й арміі Заходняга фронту і арганізацыі партызанскай барацьбы падчас акупацыі Полаччыны ў 1918 г. [5]. М.А. Маніс быў таксама

аўтарам двух невялікіх раздзелаў, прысвечаных падзеям Першай сусветнай вайны, змешчаных ў кнізе «Полоцк. Исторический очерк», што выйшла ў Мінску ў 1987 г. пад рэдакцыяй П.Т. Петрыкава. На аснове архіўных дакументаў і ўспамінаў непасрэдных удзельнікаў ваенных падзей краязнаўца даў аналіз сацыяльна-эканамічнай сітуацыі на Полаччыне ў 1914 – 1918 гг., прааналізаваў фарміраванне мясцовых структур бальшавіцкай улады. У пачатку XXI ст. разам з даследчыцай С.С. Чарняўскай М.А. Маніс звярнуўся да ваенных падзей на старонках гісторыка-дакументальных хронік "Памяць. Полацк." і "Памяць. Полацкі раён.". Але ў апошніх кнігах большасць матэрыялаў змяшчала агульныя фразы і невялікую колькасць факталагічнага матэрыялу.

Супрацоўнікі НПГКМЗ у 2013 г., напярэдадні 100-годдзя з пачатку вайны, паспрабавалі прааналізаваць матэрыялы НГАБ, якія маюць непасрэднае дачыненне да падзей Першай сусветнай вайны на Полаччыне. У асноўным гэта фонды канцылярыі Віцебскага губернатара (ф. 1430, 57 796 спраў), Віцебскага губернскага праўлення (ф. 1416, 68 541 справа), Полацкай гарадской управы (ф. 2523, 15 спраў), Полацкай управы па справах земскай гаспадаркі (ф. 3290, 23 справы), Полацкай земскай управы (ф. 2564, 271 справа), Інспекцыі народных вучылішчаў (ф. 3068, 11 спраў). Дадзеныя матэрыялы раскрываюць некаторыя аспекты з жыцця прыфрантавога Полацка і даюць уяўленне аб дзейнасці дзяржаўных, грамадскіх, армейскіх устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі аднаго з тылавых цэнтраў Дзвінскай ваеннай акругі. Да ліку прааналізаваных дакументаў адносяцца цыркуляры, рапарты, лісты, распараджэнні, спісы і іншыя пісьмовыя крыніцы.

Вялікую цікавасць сярод матэрыялаў НГАБ прадстаўляюць дакументы 1914 – 1918 гг. аб размяшчэнні ў Полацку шматлікіх шпіталяў і лазарэтаў і аказанні ў іх медыцынскай дапамогі хворым і параненым салдатам і афіцэрам. Большасць дадзеных ўстаноў занялі лепшыя мураваныя пабудовы горада: будынкі гарадской і павятовай адміністрацыі, навучальных устаноў, манастыроў. Падчас эвакуацыі з горада адных пакоі тут жа займаліся іншымі.

Значная колькасць шпіталяў і лазарэтаў, спажывецкіх лавак і пунктаў харчавання ўтрымлівалася на сродкі грамадскіх арганізацый, найбольшая частка з якіх належала Расійскаму таварыству Чырвонага Крыжа (РТЧК). Упаўнаважаным дадзенай арганізацыі па гораду і павету быў павятовы прадвадзіцель дваранства А.В. Вырубаў (з 1914 г.), яго памочнікам – А.В. Савельеў (з красавіка 1916 г.).

У 1914 г., пасля эвакуацыі Полацкага кадэцкага корпуса ў гарады Сумы, Адэсу і Уладзікаўказ, яго памяшканні занялі шпіталі абшчыны святога Георгія – № 4 (старшы ўрач Л.Р. Іваноўскі, старшы ардынатар А.П. Паўлаў) і № 5 (старшы ўрач М.М. Сірэнскі, старшы ардынатар В.В. Сізэмскі). У 1915 г. у шпіталях налічвалася болей за тысячу хворых, у асноўным цяжка параненых. Вядома, што шпіталі абшчыны Святога Георгія са жніўня 1915 г. былі эвакуіраваны ў г. Віцебск.

У пабудовах для персаналу абслугі кадэцкага корпуса на тэрыторыі Верхняга замку на працягу усёй вайны размяшчўся фінскі шпіталь РТЧК. Ён быў добра абсталяваны, і пасля заканчэння вайны на яго базе была адкрыта Полацкая гарадская бальніца [3, с. 46].

Расійскаму таварыству Чырвонаму Крыжу непасрэдна падпарадкоўвалася і дзеючая ў Полацку камісія камітэта яе імператарскай вялікасці княжны Таццяны Мікалаеўны, якая займалася пытаннямі аказання дапамогі пацярпелым ад ваенных бедстваў [21, л. 237].

З 1914 г. у пабудове Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра размясціўся лазарэт, падначалены Валагодскаму этапнаму таварыству Чырвонага Крыжа (старшы ўрач К.А. Ліноўскі, малодшы ўрач І.П. Ластачкін, загадчык гаспадаркі П.М. Сакалоў). У рапарце Полацкага паліцмайстра ад 4.02.1915 г. паведамлялася, што Валагодскі шпіталь у пачатку 1915 г. быў пераведзены ў г. Вільня.

Мясцовы камітэт Чырвонага Крыжа ў 1914 г. адкрыў у горадзе 2 лазарэты: адзін у гасцініцы пры Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры (старшы ўрач А.М. Мансветаў, урач В.С. Смірнова-Фельдман, студэнт-медык А.А. Гласка), другі па вуліцы Верхне-Пакроўскай у доме Шпакава (урач А.А. Фрыдман) [7, л. 82]. У снежні 1915 і чэрвені 1916 г. мясцовы камітэт Чырвонага Крыжа арганізаваў правядзенне двух спектакляў, грошы ад продажы білетаў на якія пайшлі на "усиление" лазарэта памяці Алега Канстанцінавіча Раманава. Спектакль тэатра "Мініяцюр" і дэманстрацыя малюнкаў адбываліся ў электра-тэатры "Гігант", уладальнікам якога быў полацкі мешчанін Марк Аронаў [15, л. 39].

У 1915 г. на тэрыторыі Полацка дзейнічала некалькі ўстаноў па ўладкаванні бежанцаў грамадскай арганізацыі "Северопомощь", падначаленай на тэрыторыі Віцебскай губерні Рыгору Сямёнавічу Бабарыкіну: [16, л. 19-26 ад.] бальніца, адкрытая на базе Полацкай гарадской бальніцы (урачы Г. Іофэ, А. Іваноў, фельчары І. Краснадземскі, Б. Жаброўскі, К. Ундрус, Д. Федэрман, І. Стэльмах, дэзінфектары Р. Мядзведзеў, Л. Мансбах), харчавальныя пункты (загадчыкі В. Каркоўскі, А. Мінаеў, Л. Елагіна), склад цёплага адзення (загадчык С. Кузняцоў), фуражны пункт (загадчык Р. Вараб'ёў), спажывецкая лаўка (загадчык

М. Курбан). Полацкі пункт харчавання ў 1916 г. размяшчаўся ў пабудове Полацкай павятовай земскай управы па вуліцы графа Талстога, недалёка ад корпуснай плошчы [21, л. 238].

У 1915 – 1916 гг. дом Стэфановіча па вуліцы Азараўскай, дзе да вайны знаходзілася 2-е гарадское вучылішча, быў заняты пад 106-ты палявы запасны шпіталь (каманда і маёмасць). Разам з ім тут жа размяшчаўся і лазарэт (доктар Белвекаў) грамадскай арганізацыі Усерасійскі саюз гарадоў, упаўнаважаным якой па Полацку быў В.С. Фіргтэнберг [23, л. 6]. Дадзеная арганізацыя, акрамя лазарэта, адкрыла ў Полацку бальніцу, заняўшы памяшканні Полацкай павятовай земскай бальніцы, а таксама некалькі майстэрняў для рамонту зброі, аўтамабіляў, самалётаў і інш. [3, с. 263].

У пабудове Полацкага жаночага вучылішча духоўнага ведамства пражываў старшы ўрач Віцебскага шпіталя Усерасійскага земскага саюза [13, л. 151-152].

Дзейнічалі ў Полацку і ваенна-санітарныя ўстановы арміі, якія, на думку многіх, былі значна горш забяспечаны абсталяваннем, інвентаром і харчаваннем. Заразны шпіталь № 100, размешчаны ў 1915 г. у палатках за Дзвіной, лазарэт на 47 ложкаў пры Полацкай бальніцы Мікалаеўскай чыгунцы, адкрыты 22 ліпеня 1914 г., і, размяшчаныя па дакументах 1915 – 1916 гг. у памяшканнях кадэцкага корпуса, 226-ты палкавы палявы запасны шпіталь (меў ізаляцыйнае аддзяленне на 30 ложкаў; камандаванне займала пабудовы мужчынскай і жаночай гімназій і прагімназіі) і лазарэт яго вялікасці князя Алега Канстанцінавіча (старшы ўрач А.П. Арлоў, малодшы ўрач Л.Ф. Ельнікоўская, старшая сястра міласэрнасці Н.С. Кабыліна) [13, л.101; 7, л. 164].

Асобнае месца сярод медустаноў ваеннага ведамства займалі вялікія зводныя полацкія шпіталі №№ 2 і 3, заняўшыя ўсе пабудовы 5-га чыгуначнага бальёна на тэрыторыі былога Барыса-Глебскага манастыра ў раёне Задзвіння (старшы ўрач Я.М. Бязнетаў).

Дапамогу хворым і параненым ў Полацку аказвала і Руская Праваслаўная Царква. Шпіталі і лазарэты занялі пабудовы Спаса-Еўфрасінеўскага жаночага і Багаяўленскага мужчынскага манастыроў. Вядома, што ў студзені 1915 г. начальніца Спаса-Еўфрасіннеўскага вучылішча Ніна Баянус у сваёй кватэры на асабістыя сродкі адкрыла лазарэт на 5 ложкаў [14, л. 12].

Да вайны ў Полацку знаходзілася шмат навучальных устаноў, якія займалі 1- і 2-павярховыя пабудовы. Падчас эвакуацыі вучылішч і гімназій большасць казённых і ўласных памяшканняў было рэквізавана на патрэбы ваенных.

Так, у 1915 – 1916 гг. у г. Вязнікі Уладзімірскай губерні знаходзілася ў эвакуацыі Полацкая настаўніцкая семінарыя, у памяшканнях якой размяшчаўся ваенны шпіталь. Пасля вяртання з эвакуацыі семінарыі была вернута толькі адна з трох пабудоў, астатнія заставаліся ў карыстанні вайскоўцаў [18, л. 66 ад.].

У 1915 – 1916 гг. у г. Навачаркаску Растоўскай губерні ў эвакуацыі знаходзілася 1-е вышэйшае пачатковае вучылішча імя графа Вітгенштэйна, пабудова якога была занята пад прытулак-яслі. На жаль, падчас эвакуацыі маёмасць вучылішча больш чым на палову была пашкоджана, а частка і ўвогуле знішчана. Пасля вяртання ў Полацк інспектар вучылішча П.І. Дэйніс змог арганізаваць заняткі для сваіх навучэнцаў толькі ў памяшканнях мужчынскай гімназіі [6, л. 1].

Дом Падабеда за Чырвоным мастом, які да вайны быў заняты пад Полацкае мужчынскае павятовае вучылішча, з-за наплыву ў горад бежанцаў быў вызвалены пад Літоўскі камітэт [22, л. 53].

Падчас ваенных дзеянняў 1914 – 1918 гг. вялікая стратэгічная роля адводзілася чыгуначнаму транспарту, які здзяйсняў перакідванне жывой сілы і тэхнікі, забеспячэнне арміі боепрыпасамі і харчаваннем, эвакуацыю хворых і параненых [1, с. 58]. Праз Полацк праходзіла дзве чыгункі – Мікалаеўская (з 1866 г.) і Рыга-Арлоўская (з 1906 г.). Для абслугоўвання ваенных і шпіталяў, размешчаных у будынках Кадэцкага корпуса, праз тэрыторыю горада была пабудавана вузкакалейная дарога, для функцыянавання якой у 1915 г. А.В. Вырубаў арганізаваў з дазволу віцебскага губернатара закупку непрыдатных для нясення вайсковай службы коней. Яшчэ адно адгалінаванне чыгункі ад пераезду на вуліцы Рыжскай было пракладзена да ваеннага аэрадрома, арганізаванага ў 1916 г. на заходнай ускраіне горада.

У НГАБ захаваліся цыркуляры на імя начальніка санітарнай часці Полацкага эвакуацыйнага пункта, якому даводзілася сачыць за пастаянным утрыманнем на чыгуначных станцыях урачоў і фельчараў, якія павінны былі кругласутачна выяўляць інфекцыйна хворых і здымаць іх з вайсковых і пасажырскіх цягнікоў [13, л. 158]. Акрамя гэтага, адзін раз на тыдзень яны павінны былі падаваць звесткі аб колькасці салдат і афіцэраў, атручаных удушлівымі газамі [13, л. 53]. На кіраўніцтва чыгуначных станцый былі ўскладзены і абавязкі па ўладкаванні і арганізацыі пунктаў харчавання для бежанцаў, параненых і хворых воінаў.

Пасля абвяшчэння вайны і правядзення ўсеагульнай мабілізацыі важнымі задачамі з’явіліся забеспячэнне арміі неабходнымі прадуктамі, адзеннем, абуткам, фуражом, зёлкамі і г.д. Асабліва востра гэтае пытанне паўстала пасля першых гадоў вайны, калі болей за 90 % сялян складалі аснову дзеючай рускай арміі [2, с. 37]. У вёсках увесь цяжар сельскагаспадарчых прац быў ускладзены на плечы жанчын і дзяцей. У выніку гэтага пасяўныя плошчы скараціліся і ўзніклі праблемы з пастаўкамі ў армію сельскагаспадарчай прадукцыі. У лютым 1916 г. Полацкая земская ўправа атрымала дакументы ад дэпартамента земляробства з прапановай жыхарам сельскай мясцовасці актыўна заняцца гародніцтвам. Міністэрства было гатова заключаць кантракты на закупку ў насельніцтва гародніны, выдаваць авансы пад гарантыі грамадскіх арганізацый [21, л. 237].

Амаль з першых месяцаў вайны ў Полацку пагоршылася сітуацыя і з таварамі першай неабходнасці. На пасяджэннях Полацкай гарадской думы ў студзені 1915 г. разглядаліся пытанні аб таксах на хлеб, мяса, харчовыя прыпасы, фураж і дровы. Пасля заслухоўвання прадстаўнікоў аптовага і рознічнага гандлю былі зацверджаны новыя цэны. Так, 1 фунт жытняга хлеба каштаваў 4 капейкі, 1 фунт булкі 1-га гатунку – 7 капеек, 1 фунт ялавічыны 1-га гатунку для хрысціян – 17 капеек, для іудзеяў – 24 капейкі і г.д. Таксы дзейнічалі на працягу 30 дзён. У наступныя месяцы цэны пастаянна раслі [12, л. 79].

Падымалася цана і на арэнду кватэр. У лістах-зваротах кватэранаймальнікаў, дасланых на імя віцебскага губернатара ў чэрвені 1915 г., указвалася павелічэнне кватплаты на 50 – 100 %. Са жніўня, пасля пастановы Галоўнага начальніка Дзвінскай ваеннай акругі, павышаць кошт кватплаты было забаронена [11, л. 3-3 ад.].

У пачатку Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі знаходзілася шмат падданых Германіі і Аўстра-Венгрыі. У сувязі з пачаткам ваенных дзеянняў гэта катэгорыя мясцовага насельніцтва павінна была дэпартавацца ў цэнтральныя і ўсходнія губерні імперыі. Каб пазбегнуць рэпрэсій, шмат іншаземцаў імкнуліся атрымаць расійскае падданства, але большасці было ў гэтым адмоўлена. У шматлікіх праблемах – такіх як збор салдацкіх вінтовак, скупка дробнай разменнай манеты, распаўсюджванне праклямацыйных лістовак і інш. – абвінавачвалі яўрэяў [10, л. 34]. У цыркулярах, дасланых з канцылярыі віцебскага губернатара на імя полацкіх улад, змяшчаліся канкрэтныя ўказанні і заклік да рашучых дзеянняў супраць парушальнікаў парадку [17].

Пасля стабілізацыі фронту ў кастрычніку 1915 г. па лініі Дзвінск – возера Нарач – Баранавічы – Пінск, Полацк стаў прыфрантавым горадам. На імя полацкага паліцмайстра Шырачэнкі яшчэ з лета паступалі цыркуляры аб зборы інфармацыі пра тых, хто распаўсюджваў чуткі, звязаныя з неспрыяльнымі абставінамі на фронце – чуткі, якія хвалявалі насельніцтва, стваралі непажаданую атмасферу і ўзбуджалі незадаволенасць сярод кіраўніцтва. Гэтыя размовы прыводзілі да паспешнага продажу сялянамі скаціны і прыпынення апрацоўкі палёў, у выніку чаго кіраўніцтва павета павінна было прыняць самыя рашучыя меры па стабілізацыі сітуацыі з накладаннем адміністрацыйных спагнанняў на парушальнікаў законаў [10, л. 31]. Асобныя паперы дасылаліся ў Полацк пад грыфам “сорешенно секретно”, напрыклад, калі гэта тычылася выпадкаў збору ў сельскага насельніцтва германскіх і аўстрыйскіх вінтовак, прывезеных з фронту і схаваных без дазволу.

Сярод архіўных дакументаў было шмат распараджэнняў пра санітарныя нормыў як медыцынскіх устаноў, так і жылых памяшканняў і гаспадарчых пабудоў. Мясцовыя ўлады скардзіліся на невыкананне асобнымі палачанамі санітарных правіл і нежаданне плаціць адміністрацыйныя спагнанні. З-за антысанітарных умоў уладальнік скуранога завода Пінхус Ільмер, які, нягледзячы на неаднаразовыя звароты ваенна-санітарнай камісіі і невыкананне яе распараджэнняў, цэлы месяц правёў пад арыштам. Восенню 1915 г., пасля вызвалення, ён зачыніў завод і разам з маёмасцю эвакуіраваўся ў Маскву [9, л. 1].

У верасні 1917 г. на пасяджэнні аб’яднанага Полацкага павятовага ўрачэбна-санітарнага савета пад кіраўніцтвам А.М. Імянітава ўздымаліся не толькі пытанні паляпшэння санітарнага становішча ў горадзе і павеце, але і праблемы аказання ўрачамі Полацкай павятовай земскай бальніцы спецыяльнай артапедычнай дапамогі знявечаным воінам. Шмат увагі звярталі члены савета і на пытанні аб адкрыцці пры бальніцы венералагічнага бараку на 50 чалавек для хворых на сіфіліс. Даваенны барак полацкай бальніцы ў той час быў заняты бальніцай Усерасійскага Саюза гарадоў [20, л. 27].

У 1916 г. паводле прашэння Полацкай павятовай земскай управы для нагляднага азнаямлення насельніцтва з інфекцыйнымі захворваннямі Полацкая ваенна-санітарная камісія пастанавіла адкрыць у Полацку перасоўную гігіенічную выставу, якая налічвала болей за 250 экспанатаў [19, л. 188].

Многія палачане былі ўдзельнікамі Першай сусветнай вайны. На жаль, выявіць падрабязныя спісы тых, хто быў мабілізаваны або прызваны вайскоўцам запасу ў дзеючую армію пакуль не было магчымасці. У фондзе канцылярыі віцебскага губернатара знойдзена толькі некалькі спісаў асоб, якія займаліся зборам звестак аб сямейным становішчы запасных ніжніх чыноў і ратнікаў апалчэння,

прызваных па мабілізацыі на дзеючую службу ў 1914 – 1915 гг. З амаль што 160 чалавек, якія складалі спісы жыхароў Полацкага павета, асноўная частка – хлебаробы [8, л. 160-162 аб.].

Паводле нешматлікіх матэрыялаў РДВГА, у Полацку ў 1914 г. была створана 362-я Віцебская дружына дзяржаўнага апалчэння, ратнікаў якой сталі збіраць на прызыўныя пункты ўжо на 6-ты дзень ад пачатку вайны. Прайшоўшы медыцынскі агляд, атрымаўшы забеспячэнне і абмундзіраванне, апалчэнцы адпраўляліся па прызначэнні. Ратнікаў прыцягвалі да нясення гарнізоннай службы, накіроўвалі на ахову чыгункі і камунікацый абароннага і стратэгічна важнага тыпу, выкарыстоўвалі для папаўнення кантэнгенту войск дзеючай арміі. Камандаванне часцямі дзяржаўнага апалчэння здзяйснялася асобамі афіцэрскага звання. Полацкі вайсковы начальнік дакладваў, што да яго звярнуліся полацкія адстаўныя афіцэры, якія “несмотря на предельный возраст добровольно желают поступить на службу в ополченские части”. Гэта генерал-маёр Кусакоў, палкоўнік Тарлецкі і паручнік Міхайлаў. Фарміраванне часцей дзяржаўнага апалчэння было скончана ў жніўні 1914 г. [26, с. 93].

Сярод мабілізаваных на фронт было шмат настаўнікаў розных навучальных устаноў горада і павета, за якімі захоўвалася працоўнае месца, што павінна было вызваліцца адразу пасля вяртання прызванага на вайсковую службу. Родныя вайскоўцаў маглі атрымаць кватэрныя грошы, якія складалі 1/5 частку ад акладу, калі па незалежных ад іх прычынах яны не карысталіся службовай кватэрай. Сям’я таго, хто трапіў у палон, атрымлівала сутачныя або аднаразовую дапамогу.

Не ўсе мабілізаваныя ў армію мужчыны добрасумленна выконвалі ўскладзеныя на іх абавязкі. У НГАБ захаваліся дакументы аб барацьбе на Полаччыне з дызерцірствам, спісы затрыманых паліцыяй вайскоўцаў, сярод якіх большую частку складалі апалчэнцы іудзейскага веравызнання, рапарты паліцмайстраў аб продажы абутку і абмундзіравання сярод ніжніх чыноў, што вярталіся з лячэбных устаноў, эвакуацыйных пунктаў і каманд выздараўлення, цыркуляры аб нядобрасумленных салдатах, якіх карыстаючыся даверлівасцю родных вайскоўцаў, збіралі грошы для перадачы іх сваім аднапалчанам.

Такім чынам, сацыяльнае становішча ў г. Полацку ў часы Першай сусветнай вайны было даволі складаным. У горадзе, які адносіўся да ліку населеных пунктаў з чыгуначнай сувяззю, амаль з першых дзён разгарнулі сваю дзейнасць шматлікія медыцынскія ўстановы, многія з якіх утрымліваліся на сродкі грамадскіх арганізацый – Усерасійскі Саюз гарадоў, Усерасійскі земскі саюз, “Северопомощь”, Расійскае таварыства Чырвонага Крыжа. Пасля эвакуацыі з Полацка вучылішчаў і гімназій, іх пабудовы перадаваліся ў ведамствы ваенных. Горад у 1914-1918 гг. сутыкнуўся з праблемай бежанства. Насельніцтва Полацка ўжо на другі год вайны павялічылася на 50 % і склала болей за 35 тысяч чалавек. Для жыхароў з іншых населеных пунктаў Беларусі ў Полацку арганізоўваліся лазарэты, школы, пункты харчавання, месца пражывання. Пытанні, звязаныя з дэфіцытам прадуктаў, фуражу, паліва, выкананнем санітарных нормаў утрыманнем памяшканняў і двароў, прыходзілася разглядаць на пасяджэннях Полацкай гарадской думы. Мабілізацыя ў дзеючую расійскую армію жыхароў горада і павету, рэквізіцыі на патрэбы арміі коней, буйной рагатай жывёлы, фуражу, збожжа прывялі да з’яўлення вакансій на прамысловых прадпрыемствах горада, ва ўстановах адукацыі і медыцыны, скарачэння пасяўных плошчаў у сельскай мясцовасці. Яшчэ больш складаным было сацыяльна-эканамічнае становішча ў Полацку і павеце падчас нямецкай акупацыі з лютага па лістапад 1918 г. Але гэта пытанне заслугоўвае асабістага даследавання.

ЛІТАРАТУРА

1. Адамушко, В.И. Архивные источники о событиях Первой мировой войны на территории Беларуси / В.И. Адамушко // Беларусь у гады Першай сусветнай вайны: Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Смаргонь, 18-19 мая 2007 г.) / навук. рэд. А.М. Літвін, У.В. Ляхоўскі. – Мінск : Чатыры чвэрці, 2009. – С. 53 – 67.

2. Белявина, В.Н. Беларусь в годы Первой мировой войны / В.Н. Белявина. – Минск: Беларусь, 2013. – 98 с. : ил. – (Белорусская история).

3. Дэйніс, І. П. Полацкая даўніна / І. П. Дэйніс; уклад., прад. і камент. М. Баўтовіча; пер. з руск. мовы М. Ермалаева. – Мінск : Медисонт , 2007. – 330 с.

4. Коваленя, А.А. Первая мировая война: проблемы научных исследований в белорусской исторической историографии / А.А. Коваленя // Беларусь у гады Першай сусветнай вайны: Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Смаргонь, 18-19 мая 2007 г.) / навук. рэд. А.М. Літвін, У.В. Ляхоўскі. – Мінск : Чатыры чвэрці, 2009. – С. 20 – 36.

5. Манис, Н.А. Память о них жива в Белоруссии / Н.А. Манис. – Минск: Полымя, 1988. – 143 с., ил.

6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 120. Письмо директора 1-го городского училища на имя главного директора народных училищ Витебской губернии. 1916 г.

7. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 010. Список лиц, допущенных к лечению и ухаживанию за больными и ранеными воинами в нижеследующих лазаретах, расположенных в г. Полоцке. 1914 г.
8. НГАБ. Фонд. 1430. – оп. 1. – С. 49 040. Список врачей и сестёр милосердия лазарета Его Величества Князя Олега Константиновича. 1915 г. л. 160-162 аб., л. 164.
9. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 160. Отношение начальника окружного военно-санитарного управления № 28396 от 2.08.1915 г. об аресте владельца кожевенного завода в г. Полоцке Пинхуса Ильмера за антисанитарное содержание завода.
10. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 285. Рапорт коменданта г. Полоцка № 2186 от 21.08.1915 г. л. 34.
11. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 349. – Письмо-обращение квартиросъёмщиков г. Полоцка к витебскому губернатору. 1915 г.
12. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 515. Доклад Полоцкой городской Думы от 15.01.1915 г.
13. НГАБ. – Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 555. Письмо начальника военно-окружного санитарного управления Двинского военного округа от 10.07.1915 г.
14. НГАБ. – Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 556. Список находящихся в Витебской губернии лазаретов для больных и раненых воинов.
15. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 797. Прошение Полоцкого местного комитета Российского общества Красного Креста, состоящего под высочайшим покровительством Её императорского Величества Государыни императнрицы Александры Фёдоровна № 1292 от 27 декабря 1915 г.
16. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 49 835. Список лиц, состоящих на службе по устройству беженцев Северо-Западного фронта. 1915 г.
17. НГАБ. Фонд. 1430. – Воп. 1. – С. 53 822. Циркуляр № 320 от 31.08.1915 г. из канцелярии Витебского губернатора.
18. НГАБ. Фонд. 2416. – Воп. 1. – С. 20. Отчёт о деятельности народных училищ Виленского учебного округа за 1916 г.
19. НГАБ. Фонд. 2515. – Воп. 1. – С. 207. Письмо Начальнику 26 тылового эвакуационного пункта в г. Полоцке доктору по заразным болезням Фальку о подготовке гигиенической выставки передвижной медицины.
20. НГАБ. Фонд. 2515. – Воп. 1. – С. 236. Протокол заседания объединённого Полоцкого Уездного Врачебно-Санитарного Совета от 3.09.1917 г.
21. НГАБ. Фонд 2564. – Воп. 1. – С. 95. Письмо из департамента земледелия от 3.02.1916 г.
22. НГАБ. Фонд 2564. – Воп. 1. – С. 175. Рапорт делопроизводителя школьным отделом У.С. Гайковича от 29.07.1918 г.
23. НГАБ. Фонд. 2671. – Воп. 1. – С. 120. Акт педагогического совета Полоцкого 1-го высшего начального училища о передаче здания под лазарет «Всероссийского союза городов». 1916 г.
24. Памяць : гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэд. кал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд. ) [і інш.]; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мінск : БелЭн, 2002. – 900 с., іл.
25. Памяць : гіст.-дакум. хроніка Полацкага раёна / рэд. Л.М. Базулька, Г. П. Берліна, Р. І. Маслоўскі. – Мінск : Вышэйшая школа, 1999. – 700 с., іл.
26. Смольянинов, М.М. Мобилизованные и добровольцы. Дружины государственного ополчения белорусских губерний в годы Первой мировой войны / М.М. Смольянинов // Беларуская думка. – 2014. – № 1. – С. 89 – 94.

**УДК 94 (476)"15"**

## ГЕРБАВАЯ ПЯЧАТКА ПОЛАЦКАГА БАЯРЫНА ІВАНА МІТРАПОЛІ (ГЕНЕАЛАГІЧНА-СФРАГІСТЫЧНЫ НАРЫС)

***канд. гіст. навук, дац. В.У. ГАЛУБОВІЧ***
**Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт, Гродна**

*Патэнцыял дапаможных гістарычных навук у айчыннай гістарыяграфіі запатрабаваны толькі часткова. Між тым, выкарыстоўваючы метады, напрыклад, сфрагістыкі і генеалогіі, можна атрымаць новыя навуковыя вынікі. У дадзеным артыкуле абагульнены і прааналізаваны звесткі пра ўплывовага ў другой траціне XVI ст. прадстаўніка полацкага баярства Івана Ігнацьевіча Мітраполі. На аснове гістарычна-генеалагічнага і сфрагістычнага аналіза зроблены высновы адносна маёмаснага, сацыяльнага і сямейнага стану І.І. Мітраполі, яго магчымых нашчадках, дадзена аўтарская інтэрпрэтацыя элементаў пячаткі полацкага баярына.*

Для кожнай эпохі ўласціва свая культура сімвалаў, у якіх не толькі заключаліся сэнсы, зразумелыя іх сучасніку, але таксама кадзіраваліся і трансляваліся ў будучыню пэўныя стратэгіі. Сімволіка мінулых эпох – гэта своеасаблівы генакод, інфармацыйнае пасланне, якое дазваляе зразумець, хто былі тыя людзі,

што жылі да нас, больш таго, якімі яны хацелі выглядаць у вачах нашчадкаў. Без разумення сэнсу такіх пасланняў немагчыма паўнавартасна рэканструяваць мінулае, асабліва, калі гэта датычыцца так званых традыцыйных грамадстваў. Асаблівую ролю ў даследаванні сімволікі мінулага выконвае такі накірунак гістарычных штудыяў, як сфрагістыка. Як асобная гістарычная дысцыпліна, навука пра пячаткі, вельмі падобна да археалогіі, асабліва ў метадалагічным сэнсе, паколькі аб'ектам яе вывучэння з'яўляюцца матэрыяльныя аб'екты альбо іх адлюстраванне. Сфрагістычны аналіз залежыць ад канкрэтных артэфактаў, іх сімволікі і зместа. Пячатка дае падставы для далейшага пошуку інфармацыі пра яе ўладальніка і эпоху, калі яна была створана.

Уласна дадзенае даследаванне таксама інспіравана знаходкай адбітка пячаткі, што належыць полацкаму баярыну Івану Мітраполі, асобе надзвычай каларытнай для XVI ст., каб заставацца ў цяні гісторыі (Мал. 1.).

Іван Мітраполі быў сынам (не адзіным, бо другога звалі Міхаіл) полацкага архіепіскапа Іосіфа (1513/1514 – 1522 гг.), пазнейшага мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсёй Русі – Іосіфа ІІІ (1522 – 1534 гг.) [1, 63-64]. Іосіф, у міру Ігнаці, належаў да полацкага баярства, а падставай для гэтага былі ўладанні на Сушы, якія ён атрымаў не ў спадчыну, а набыў. Тая акалічнасць, што ў яго былі грошы, але не было родавай маёмасці, адчыняе пэўныя перспектывы для гіпатэтычных развагаў, але не больш.

Іосіф быў адным з першых полацкіх архіепіскапаў, якія пад уплывам тагачаснай моды пачалі размяшчаць на ўладычых пячатках асабістыя гербавыя знакі. На адбітку яго пячаткі на лісце ад 23 снежня 1515 г. была змешчана геральдычная тарча з клейнавай выявай і надпісам у атоку: "*ВЛ(а)Д(ы)КА П(о)Л(о)ЦКН(й) Н В(и)Т(е)БС(кий) Н МСТ(и)СЛ(а)В(с)К(ий)*" [2]. Гербавая пячатка Ігнація несумнена была доказам яго шляхетнага паходжання.



Мал. 1. Адбітак пячаткі полацкага епіскапа Іосіфа, 1515 г. ДГАЛат. Ф. 673. Воп. 4. Скр. 19. Спр. 80. Арк. 1.

Ад патроніма да прозвішча? Адна з першых згадак пра сына полацкага епіскапа адносіцца да 1528 г. У "*Перапісе войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 года*" Іван Ігнацьевіч сустракаецца ў ліку баяраў як "*Иванъ, митрополей сын*", без пазначэння іншых родавых імёнаў [3, с. 155].

Такая форма іменавання вылучала Івана сярод іншых полацкіх баяр, але цяжка сказаць, была яна прадуктам справаводчай практыкі альбо ўласна вынікам жадання Івана падкрэсліць свой статус. Усё гаворыць за тое, што Іван Ігнацьевіч быў асобай ганарлівай. Не выключана, што нагадванне пра статус бацькі неяк гарантавала знешнюю адзнаку яго асабістага аўтарытэту.

Заўвагі вартая яшчэ адна акалічнасць. Як у "*Перапісе 1528 г.*" [3, с. 155], так і ў першых двух згадках (24.V.1534 г. і 15.XII.1534 г.) у справах Полацкага гродскага суда, апублікаваных у "*Беларускім архіве*", да імя Івана дадавалася ўдакладненне "***митрополей** сын*", чым падкрэслівалася яго паходжанне і ідэнтыфікацыя, а з 1535 г. у дакументах гродскага суда фіксацыя яго асобы набывае іншую форму – "*пан Иван **Митрополий***", "*за паномъ Иваномъ **Митропольемъ***" [4, с. 249, 254, 264, 290]**.** Цяжка ў дадзеным выпадку быць катэгарычным, але, здаецца, што гэтая змена не была выпадковай і абумоўлівалася смерцю бацькі Івана Ігнацьевіча – мітрапаліта Іосіфа ІІІ у 1534 г. [1, с. 64]. Пасля 1535 г. імя па бацьку Івана, якое раней утваралася ад назвы яго пасады, трансфармавалася ў трэці кампанент іменавання і набыла форму сталага прозвішча, хаця і пазней яго называлі "***митропольимъ сыном***"[5, с. 2].

**Маёмасны і сацыяльны стан.** Паводле дадзеных "*Перапіса 1528 г.*", Іван Ігнацьевіч не належаў да найбольш матэрыяльна забяспечанай часткі полацкага грамадства. З сваіх уладанняў ён выстаўляў толькі пяць коней [3, с. 155], што дазваляе далучыць яго да ліку толькі так званых дробных землеўладальнікаў, якія валодалі ў сярэднім чатырма дзясяткамі "дымоў" [6, с. 71]. Больш дэтальна маёмасны стан гэтага баярына дазваляе акрэсліць "*Полацкая рэвізія 1552 г.*". Праз амаль чвэрць стагоддзя Іван Ігнацьевіч з сваіх уладанняў выстаўляў "*ку службе земской два кони*" [7, с. 140]. Увогуле скарачэнне памераў службы было, на думку В. Вароніна, вынікам змяншэння ўрадам больш чым у два разы нормаў выстаўлення вершнікаў [6, с. 70]. З улікам апошняга, маёмасны стан Івана Ігнацьевіча, на першы погляд, сапраўды пагоршыўся, бо ў рэальнасці колькасць сялянскіх гаспадарак, якія яму падпарадкоўваліся, зменшылася на 1/5. Аднак, магчыма, сітуацыя не была крытычнай, бо частку сваёй маёмасці Іван Ігнацьевіч заклаў. Так, яго ўладанне Мурагі трымаў "*в заставе*" Фронцка Каспаравіч Радзімінскі, а Утужцы, з якіх выстаўляўся адзін конь, знаходзіліся ў карыстанні тагачаснага намесніка полацкага Паўла Казіцкага [7, с. 124, 144].

Уладанні Івана Мітраполі, з якіх ён уласна выконваў службу, размяшчаліся ў Полацкім ваяводстве на Сушы, Ухвіцы і Братні, пры гэтым цэнтральны двор з пашняй быў у Сушы, дзе жылі яго путныя слугі. Сярод залежных ад Івана Ігнацьевіча людзей былі таксама агароднікі і млынар. Колькасць вольных дымоў ва ўладаннях дасягала 27. З іх на панскі двор ішоў кожны чацверты сноп, выконваліся талокі ды выплочваліся замкавым слугам грошы за перавоз. Маёмасць гэтая перайшла да Івана па спадчыне ад бацькі. З уласнага набытку баярына згадваюцца землі Буцькаўшчына і Земцаўшчызна, якія былі вызваленыя ад падаткаў Жыгімонтам Старым [7, с. 139-140].

З сваёй маёмасці (Буцькаўшчыны, Жораўцаў, Сушына ды Ухвіцаў) Іван Мітраполі быў абавязаны ўтрымліваць у належным стане тры **гародні**, якія з'яўляліся часткай замкавых умацаванняў Полацка [7, с. 5 – 7].

**Сацыяльны статус.** Ужо з 1530-х гадоў сын мітрапаліта становіцца дастаткова заўважнай асобай у грамадскім жыцці Полаччыны. Іван Ігнацьевіч выступаў у гэты час у якасці сведкі па справах, якія разглядаліся полацкім гродскім судом, а таксама ўдзельнічаў у працы так званых соймаў, г.зн. прадстаўнічых сходаў, на якія прыбывалі "*паны боіары земли Полоцькое*", для абмеркавання найбольш істотных для лакальнага грамадства праблем [4, с. 249, 253-254]. Аўтарытэт сына мітрапаліта быў дастаткова высокі, калі яго запрашалі на зацвярджэнне здзелак паміж прадстаўнікамі мясцовай эліты. Добрыя адносіны былі ў яго як з полацкім архіепіскапам Сямёнам (1535 – каля 1550 гг.), так і з князямі Лукомскімі [8]. Пра ўменне арыентавацца на тых, хто быў бліжэй да ўлады, сведчыць невыпадковы выбар асобаў, якім Іван Ігнацьевіч заклаў свае маёнткі: *пратэжэ полацкага ваяводы* Станіслава Давойны паляк Радзімінскі [9, с. 37] і *полацкі намеснік* Казіцкі!

**Сям'я.** Звесткі пра сямейны стан Івана Ігнацьевіча маюць адценне скандальнасці, пры гэтым не лакальнага, а больш высокага парадку. Справа ў тым, што ўцягнутымі ў яго прыватныя справы на пэўным этапе былі вельмі ўплывовыя асобы. Вядома імя яго першай жонкі, якой да 1542 г. была баярыня Таміла Гітаўтаўна. Пражыў Іван Ігнацьевіч з ёй "*больш нижьли осмнадцать годовъ*" [5, с. 2], але шлюб гэты не вытрымаў выпрабаванняў часу. Афіцыйны развод адбыўся ў 1542 г., а фармальнай падставай для гэтага быў банальны гвалт у адносінах да жанчыны. Паводле Тамілы, муж "*многокротъ ее збиваль и мордерства великии кромъ ее винности над нею чиниль*" [5, с. 2]. На гэтай падставе яна звярнулася са скаргай да полацкага архіепіскапа Сямёна, каб той улагодзіў адносіны паміж супругамі ды прымусіў Івана Ігнацьевіча жыць з ёй "*водле обычая закону малженского*". Але ў вызначаны час, замест разгляду праблемы архіепіскап "*нет ведома въ который обычай, не подле обычаю хрестьянского и не подле правилъ святыхъ отецъ закону вашого Греческого, ее разлучилъ, а дей тому Ивану другую жону, сестричну свою власную, поняти дозволилъ*" [5, с. 2]. Адбыцца такое магло толькі пры ўмове наяўнасці асабістых дамоўленасцяў паміж вядомым сваімі махінацыямі архіепіскапам [10, с. 363] і сынам мітрапаліта. На гэтым гісторыя не скончылася, паколькі ў хуткім часе па разводзе Іван проста выгнаў Тамілу з дому і пакінуў сабе ўсю маёмасць, якую яна некалі ўнесла ў іх супольную гаспадарку. На чацверты год тулянняў "*по людемъ*" Таміла нарэшце знайшла магчымасць звярнуцца да вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, які пайшоў насустрач баярыні і адрасаваў 9 снежня 1545 г. адмысловы загад Кіеўскаму мітрапаліту Макарыю разабрацца ў справе аб "*незаконным*" разлучэнні [5, с. 2]. На жаль, не вядома, як на гэта адрэагаваў мітрапаліт.

З гэтага таксама вынікае некалькі акалічнасцяў, датычных як самога Івана, так і яго бацькі. Па-першае, Іван Ігнацьевіч у сталым узросце паквапіўся на сваю пляменніцу, і, такім чынам, апусціўся да банальнага *кровазмяшальніцтва*. Магчыма, пляменніца і была галоўнай прычынай гвалтоўных паводзінаў сына мітрапаліта. Па-другое, высвятляецца тое, што ў мітрапаліта Іосіфа III, акрамя двух сыноў, была яшчэ і дачка, сястра Івана.

**Сушынскія – нашчадкі Мітраполі?** Такім чынам, Іван Мітраполі быў прынамсі двойчы жанаты, і, не выключана, што з першай жонкай у яго не было нашчадкаў па мужчынскай лініі. Па меншай меры, у рэвізіі 1552 г. ён выступае як манапольны падаткаплацельшчык. Крыху іншы расклад дае інфармацыя пра пляменніцу-жонку, ад якой у Івана таксама маглі быць дзеці. Інтрыга тут заключаецца ў тым, што яшчэ на прыканцы XIX ст. аматар полацкіх старажытнасцяў Вінцэнт Мяніцкі адзначыў, што ад "*Іосіфа Ігнатавіча*", як ён памылкова назваў мітрапаліта, праз Івана Мітраполі пачынаецца род Сушынскіх [11, s. 154], прадстаўнікі якога на Полаччыне жылі да XIX ст. Паколькі ніякіх аргументаў на карысць гэтага ён не прывёў, то можна толькі здагадвацца, на чым грунтаваліся яго высновы. Магчыма, Мяніцкі кіраваўся асабістымі матывамі, паколькі яго маці паходзіла з роду Сушынскіх [12, с. 18], як і нельга выключаць наяўнасць родавай легенды ў сям'і Сушынскіх пра іх пратапластаў. Дакументальныя крыніцы сапраўды даюць для гэтага пэўныя падставы.

Калі дапусціць, што дзеці ў Івана Ігнацьевіча з'явіліся пасля другога шлюбу ўжо ў 40-50-я гады XVI ст., то найбольш верагодным яго сынам быў *Апанас **Іванавіч** Сушынскі*, вядомы па згадках у 1593 г.,

а як уладальнік *Сушына* ў 1615 г. [13, с. 469; 14, с. 192]. Нашчадкам Івана Ігнацьевіча быў і Андрэй Сушынскі, уладальнік Ухвіцкага маёнтка, які належаў Мітраполі [14, с. 192]. Відавочна, што ў другой палове XVI ст. адбылася карэктыроўка прозвішча нашчадкаў Івана Мітраполі, якія сталі сябе называць ад галоўнага ўладання – Сушынскага двара. Не выключана, што і з прычыны розгаласу пра сямейныя авантуры Івана Ігнацьевіча.

Вядомыя Ян і Мікалай Сушынскія, якія выдалі ў 1638 г. вольную свайму прыгоннаму селяніну [15, с. 235-236]. Калі прамыя нашчадкі Мітраполі былі праваслаўнымі, то ўладальнікі Сушына, якія жылі ў другой палове XVII ст., несумненна перайшлі ў каталіцтва. 13 лістапада 1660 г. Грыгоры Караль Сушынскі атрымаў правы на Сушынскія ўладанні па сваім стрыечным браце Яне Сушынскім, здрадніку Рэчы Паспалітай [16, s. 254]. Калі гэта той самы Ян Сушынскі, які ў 1661 г. прысутнічаў на полацкім сойміку [14, с. 192], то рэалізацыя такіх планаў не была магчымай. У другой палове XVII і XVIII ст. асобныя прадстаўнікі гэтага рода дараслі да атрымання павятовых пасадаў, няхай і тытулярных: падстоліі смаленскія Пётр Міхал (1690-1715 гг.) і Антоні (1765-1787 ? гг.) [17, s. 148, 156], полацкі скарбнік ад 18 кастрычніка1786 г. Пётр Францавіч [18]

**Пячатка.** Карыстацца асабістым знакам, у тым ліку пячаткай, у Полацку маглі прадстаўнікі розных сацыяльных груп: князі, мяшчане, баяры, путныя слугі, святары [19]. Звесткі пра пячаткі полацкіх баяраў паходзяць з XV ст.: вядомы адбіткі пячатак Корсакаў і Радковічаў [19, с. 143], але ў цэлым з-за абмежаванай крынічнай базы кожны адбітак пячаткі варта лічыць унікальным. Да іх ліку трэба аднесці і адбітак пячаткі Івана Ігнацьевіча Мітраполі, які захаваўся на акце продажу архіепіскапам полацкім Сяменам маёнтка Жэрына князю Андрэю Лукомскаму 17 верасня 1541 г. [8] (Мал. 2.).



Мал. 2. Адбітак пячаткі Івана Мітраполі
Перамалёўка Аляксея Шаланды, паводле:
НГАБ. Ф. 1324.В.1.Спр. 13. Арк. 9.
Памер: шырыня 14 мм, вышыня 16 мм

Гербавая пячатка Івана Мітраполі складаецца з двух элеметаў: ініцыялаў імя і выявы герба. Ініцыяльная частка мае выгляд літараў, якія перадаюць імя з той адметнасцю, што пры любым варыянце прачытання відавочна памылка майстра. Калі чытаць імя Іван злева направа, то пасля літары *Іжэ* павінна быць *Ведзі*, але замест яе відаць *Ёр*. Яшчэ менш сэнсу пры такім парадку чытання ў лігатуры з літар *Аз* і *Наш*, над якімі лунае цітло. З іншага боку, нават калі дапусціць, што надпіс выкананы з аптычнай памылкай і трэба імя чытаць справа налева, то ўсё роўна застаецца недарэчнасць у парадку размяшчэння літары *Ёр*, якая апынулася перад *Іжэ*: ***"НЪА(В)N"***. Магчыма, што залатар, які вырабіў пячатку, не быў абазнаны ў кірыліцы, альбо не меў адпаведнай кваліфікацыі. Тым не менш, вартае ўвагі жаданне Івана Мітраполі мець пячатку менавіта з кірылічнымі літарамі.

Больш пытанняў выклікае другі элемент пячаткі. Гербавая выява размешчана на рэнесанснай тарчы і ўяўляе перакрыжаваную два разы стралу вастрыём дагары. Такі сімвал можа быць па-рознаму праінтэрпрэтаваны. Калі прыняць тлумачэнні Аляксандра Вярыгі-Дарэўскага, то такі знак з'яўляецца нічым іншым, як формай крыжа з насаджаным зверху наканечнікам ды адносіцца да ліку ўласна *русінскіх пячаткавых знакаў* [20, с. 16]. Пры такой версіі абраны І. Мітраполі герб цалкам пасаваў да ініцыялаў, а зашыфраваны ў ім крыж мусіў падкрэсліваць сувязь уладальніка з праваслаўнай царквой. Згодна з іншай гістарыяграфічнай традыцыяй, дадзены герб мае польскае паходжанне і звычайна называецца "*Ліс*", а пачатак экспансіі "*Ліса*" ў Вялікім Княстве Літоўскім адносіцца да часоў Гарадзельскай дамовы 1413 г., калі яго прыняў троцкі кашталян Сунігайла [21, s. 148]. Хаця гэтая традыцыя і звязвае распаўсюджванне "*Ліса*" з асобай Сунігайлы, тым не менш, фактам застаецца распаўсюджанасць у ВКЛ гербаў на аснове розных варыянтаў выявы *стралы* як да, так і пасля 1413 г. [22, p. 429]. У XVI ст. гэтым сімвалам карысталіся прадстаўнікі як ўплывовых родаў (Сапегі, князі Свірскія), так разнастайная драбната [23, с. 57-58, 63, 72]. На першы погляд, польскі "*Ліс*" сапраўды не вельмі спалучаецца з кірылічнымі ініцыяламі, калі не ўлічваць іншыя кантэксты. Справа ў тым, што Іван Мітраполі, напэўна сам з'яўляўся аўтарам гербавай выявы на пячатцы, і гэта не супярэчыць ні таму, што ён быў сынам мітрапаліта, ні таму, што ў яго бацькі, полацкага архіепіскапа, быў уласны герб, які ён змяшчаў нават на ўладычых пячатках! Іосіф-Ігнаці карыстаўся досыць адметным клейнавым гербам, які ўзыходзіць да мясцовай русінскай традыцыі, якая захавалася на Полаччыне да XVIII ст. [24, с. 20-21, 24] Асновай для герба Іосіфа-Ігнація з'яўляўся клейнавы знак **W**, які быў вядомы палачанам: мадыфікацыяй такога сімвала карыстаўся ў 1545 г. полацкі баярын Нікіфар Іванавіч [23, с. 61]. Але чаму

перакрыжаваную стралу, альбо "*Ліса*" абірае Іван? Адказ на гэтае пытанне ў межах "польскай" традыцыі можа быць патлумачаны жаданнем Івана Мітраполі мець больш статусны герб, пазнавальны не толькі ў мясцовым русінскім асяроддзі, але і на ўзроўні ўладнай эліты ВКЛ, магчыма, тых жа Сапегаў.



Мал. 3. Герб "Сушынскі"
Паводле В. Каяловіча

Парадокс усёй гісторыі з Іванам Ігнацьевічам заключаецца ў тым, што ні яго прозвішча, ні гербавыя вынаходніцтвы не зацікавілі яго нашчадкаў. Калі Сушынскія сапраўды нейкім чынам звязаныя з Мітраполім, то гэтая сувязь слаба адбілася на іх гербе. Па звестках Віюка Каяловіча, у першай палове XVII ст. аселыя ў Полацкім ваяводстве прадстаўнікі роду карысталіся ўласным гербам "*Сушынскі*", альбо "Дубіна", які складаўся з дзвюх перакрыжаваных стрэлаў на падкове [21, s. 330; 20, с. 17]. Пэўная пераемнасць з "*Лісам*" на гербе Івана Мітраполі прысутнічае праз выкарыстанне стрэлаў, але яшчэ больш відавочна жаданне Сушынскіх мець родавы сімвал, адпаведны гербавай модзе свайго часу (Мал. 3.).

Пячатка Івана Мітраполі з'яўляецца каштоўнай крыніцай як для разумення яго постаці, так і аналіза тэндэнцый эвалюцыі сацыякультурнай арыентацыі полацкага баярства ў XVI ст. Паходжанне, маёмасны і сацыяльны статус, пэўныя звесткі пра асабістае жыццё дазваляюць казаць, што Іван Ігнацьевіч не толькі быў вымушаны, але і свядома імкнуўся прыстасоўвацца да павеваў часу. Гербавая выява на пячатцы І. Мітраполі з'яўлялася шматсэнсоўнай невыпадкова. Гэта была амбітная дэкларацыя прыналежнасці да шляхецкай эліты, заява, якую Мітраполі здолеў рэалізаваць толькі часткова.

Сфрагістыка і геральдыка Ігнація, Івана і іх нашчадкаў Сушынскіх дэманструюць адсутнасць пераемнасці, што можна патлумачыць рознымі задачамі, якія стаялі перад іх уладальнікамі: для Ігнація, уладыкі, важна было аформіць па геральдычнай модзе свой родавы клейнавы знак пры атрыманні высокай царкоўнай пасады; для Івана далучэнне да "*Ліса*" падкрэслівала яго шляхецкі статус, а не толькі яго паходжанне як сына мітрапаліта, што да Сушынскіх, то іх герб павінен быў засведчыць не толькі прыналежнасць да шляхецкага стану, але і вылучыць іх род у ім, падкрэсліць іх адметнасць і мясцовае паходжанне.

ЛІТАРАТУРА

1. Варонін, В. Полацкія архіепіскапы першай паловы XVI ст. (біяграфічныя матэрыялы) / В. Варонін // Silva rerum nova. Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі. – Вільня, 2006. – С. 60-67.

2. Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі. Фонд 673. – Воп. 4. – Скрынка 19. – Спр.80. – Арк.1.

3. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 444 с.

4. Беларускі архіў: У 3 т. / Інстытут Беларускае культуры. Аддзяленне гуманітарных навук. Археографічная камісія. Менск, 1927-1930. – Том другі. (XV-XVI ст.). / Прадм.З. Даўгяла. – Менск, 1928. – L+344 с.

5. Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. - Т. 3: 1544-1587. – СПб.: Типография Эд. Праца, 1848. – 356 с.

6. Варонін, В. Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё Полацкага ваяводства ў першай палове XVI стагоддзя: дыс. … канд. гіст. навук / В. Варонін. – Мінск: БДУ, 2000. – 109 с.

7. Полоцкая ревизия 1552 года / Ред. И.И. Лаппо. – М.: Унив. Тип., 1905. – 257 с.

8. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. – Ф. 1324. – В.1. – Спр. 13. – Арк. 8-9.

9. Радаман, А. Ваяводскія і павятовыя земскія ўраднікі польскага паходжання ў Вялікім Княстве Літоўскім у 2-й палове XVI ст. / А. Радаман // На шляху да праўды: Матэрыялы VIII Міжнар. навук. канф. "Шлях да ўзаемнасці" (Белавежа, 15-17 чэрв. 2000 г.) і "круглага стала" "Ідэя беларускасці і ідэя польскасці на мяжы тысячагоддзяў: да вызначэння паняццяў" (Мінск, 6-7 верасня 2006 г.). – Мн., 2001. – С. 35-44.

10. Судебная книга витебского воеводы, господарского маршалка, волковыского и оболецкого державцы М.В. Клочко. 1533-1540. (Литовская метрика. Книга № 228. Книга судных дел № 9). – М.: Наука, 2008. – 525 с.

11. Mienicki, W. Krótka wiadomość o najdawniejszej rewizyi województwa Połockiego // Wiadowości Numizmatyczno-Archeologiczne. – 1894. – № 1-2. – S. 151-155.

12. Баўтовіч, М.М. Спадчына Мяніцкіх / М.М. Баўтовіч // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы VI Міжнароднай навуковай канферэнцыі (1-3 лістапада 2012 г.): у 2 ч. Ч. 1. – Полацк: НПГКМЗ, 2013. – С. 17 – 40.

13. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. – Вып. 22. – Витебск: Типо-Литография Г.А. Малкина, 1891. – X+501+XXXVII с.

14. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. – Вып. 25. – Витебск: Типо-Литография Г.А. Малкина, 1894. – IV+508+XII с.

15. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. - Вып. 28. – Витебск: Типо-Литография Г.А. Малкина, 1900. – XVI+356+167 с.

16. Metryka Litewska: księga wpisów 131. – Warszawa: „DiG”: Instytut Historii PAN 2001. – 532 s.

17. Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T.IV. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie XIV-XVIII wiek. Spisy. Opracowali H. Lulewicz, A. Rachuba, P.P. Romaniuk. – Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2003. – 412 s.

18. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу. – Ф. 1343. – Воп.51. – Спр. 11. – Арк. 9.

19. Хорошкевич, А.Л. Печати полоцких грамот XIV-XV вв. / А.Л. Хорошкевич // Вспомогательные исторические дисциплины. – Вып.IV. – Л., 1972. – С.128 – 146.

20. Вярыга-Дароўскі, А. Рускія пячаткавыя знакі. Геральдычныя тлумачэнні / А. Вярыга-Дароўскі // Спадчына. – 1992. – № 5. – С. 5 – 18.

21. Kojałowicz, W. W. Herbarz rycerstwa W. X. Litewskiego tak zwany Compendium czyli o klejnotach albo herbach których familie stanu rycerskiego w prowincyach Wielkiego Xięstwa Litewskiego zażywają. – Kraków: W Drukarni "Czasu" Fr. Kluczyckiego i spółki, 1897. – 527 s.

22. 1413 m. Horodlės aktai=Akty Horodelskie z 1413 roku: dokumentai ir tyrinėjimai. – Vilnius: Lietuvos istorijos instituto leidykla, 2013. – 544 p.

23. Цітоў, А. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі / А. Цітоў. – Мінск: Полымя, 1993. – 239 с.

24. Цітоў, А. Беларуская прыватная геральдыка / А. Цітоў // Спадчына. – 1995. – № 3. – С. 18-26.

**УДК 379/85"1920/1941"**

# ТУРЫСТЫЧНЫ РУХ У БРАСЛАЎСКІМ ПАВЕЦЕ Ў МІЖВАЕННЫ ЧАС (1921 – 1939 гг.)

***У.А .ГАНСКІ***
**Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, Наваполацк**

*Даследуецца станаўленне і развіццё заходнебеларускага міжваеннага турызму на прыкладзе асобнай тэрытарыяльнай адзінкі – Браслаўскага павета; разглядаецца агульнае інстытуцыянальнае асяроддзе развіцця турызму ў Заходняй Беларусі ў часы II Рэчы Паспалітай; аналізуецца турысцка-рэкрэацыйны патэнцыял павета і шляхі яго рэалізацыі ў міжваенны час; прыводзіцца апісанне асноўных пешаходных і водных турыстычных маршрутаў краю і інш.*

Зараджэнне турыстычнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі асобныя спецыялісты адносяць да пачатку 1920-х гг., калі пры дырэкцыі грамадскіх работ была ўведзена пасада рэферэнтаў па пытаннях турызму (1924 г.), а праз год пры ваяводскіх управах створаны ваяводскія турыстычныя камісіі. Урад сумесна з існуючымі турысцка-краязнаўчымі арганізацыямі на працягу ўсяго міжваеннага перыяду спрабаваў папулярызаваць турыстычны рух, выкарыстоўваючы для гэтага розныя формы і метады прапаганды. Паколькі турызм быў адным з асноўных сродкаў каланізацыі, паланізацыі і інтэграцыі беларускіх зямель у склад II Рэчы Паспалітай, то на беларускіх землях яго прапаганда і папулярызацыя вялася больш актыўна, чым у іншых рэгіенах краіны.

Найбольш рэзультатыўнай была праца Дэпартамента турызму Міністэрства грамадскіх работ у галіне выдавецтва літаратуры турыстычнага характару. У прыватнасці, у 1919 – 1924 гг. быў выдадзены шматтомны турыстычны даведнік пад агульнай рэдакцыяй М. Арловіча. У адным з яго тамоў быў раздзел, прысвечаны турыстычным аб’ектам «Паўночна-ўсходняй Польшчы». Гэта быў першы турыстычны даведнік па даследуемым рэгіёне. У ім прыводзілася інфармацыя аб гісторыі, культуры, насельніцтве краю, а таксама дэталёва апісваліся турыстычныя маршруты з указаннем раскладу руху транспарту, устаноў размяшчэння і харчавання [4, с. 52].

Акрамя агульнадзяржаўных устаноў, якія кіравалі развіццём турыстычнай сферы ў разглядаемым рэгіёне, існавалі і мясцовыя органы кіравання. Да іх адносяцца ўстановы, якія дзейнічалі непасрэдна на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў, і сфера іх уплыву абмяжоўвалася толькі тэрыторыяй пэўнага ваяводства. 3 сакавіка 1924 г. Міністэрства грамадскіх работ выдала распараджэнне аб стварэнні дэпартаментаў турызму ў ваяводствах. Дадзеныя структурныя адзінкі планавалася стварыць па ўзоры агульнадзяржаўнага Дэпартамента турызму, які ўзначальваў М. Арловіч, а таксама непасрэдна падпарадкаваць яму. Варта адзначыць, што як такога дэпартамента турызму пры ваяводскім упраўленні ў Вільні, як і ў большасці іншых ваяводстваў, створана не было. Толькі пры дырэкцыі грамадскіх работ у

1924 г. была ўведзена пасада рэферэнта па пытаннях турызму. Задачамі рэферэнта па пытаннях турызму было наладжванне кантактаў і супрацоўніцтва з турыстычнымі кампаніямі і арганізацыямі, якія дзейнічалі на тэрыторыі адпаведных ваяводстваў, падтрымка іх дзейнасці, супрацоўніцтва з галінамі эканомікі (гатэльнай, харчовай, транспартнай і інш.), якія тым ці іншым чынам ўзаемадзейнічалі са сферай турызму. Да функцый рэферэнтаў па турызму таксама адносіліся прапаганда турызму, распрацоўка турыстычных даведнікаў, карт, турыстычных маршрутаў і г.д. На пасаду рэферэнтаў прапаноўвалася прызначаць асоб, зацікаўленых у развіцці турыстычнай сферы [2, с. 455-456].

Пасля ліквідацыі Міністэрства грамадскіх работ у 1932 г. пасаду рэферэнтаў па пытаннях турызму ліквідавалі. Замест яе былі створаныя турыстычныя аддзелы пры акруговых – Дырэкцыя дзяржаўнай чыгункі, якія ў сваю чаргу падпарадкоўваліся Міністэрству камунікацыі. 5 чэрвеня 1925 г. Міністэрства грамадскіх работ выдала новае распараджэнне адносна кіравання турыстычнай галінай у ваяводствах. Гэта было распараджэнне аб стварэнні турыстычных камісій. Ва ўсіх ваяводствах да канца лета 1925 г. планавалася сфарміраваць турыстычныя камісіі. У склад турыстычных камісій павінны былі ўваходзіць прадстаўнікі ад органаў дзяржаўнай улады, таварыстваў, арганізацый, а таксама прадпрыемстваў [2, с. 461 – 464]. Такім чынам, улады імкнуліся наладзіць супрацоўніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады, грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі з мэтай паляпшэння развіцця турыстычнай галіны. Праіснавалі ваяводскія турыстычныя камісіі ў Заходняй Беларусі да 1939 г. Камісіі зрабілі дастаткова значны ўклад у развіцце турыстычнай сферы рэгіену. Сумесна з рэферэнтамі па пытаннях турызму, краязнаўчымі і турыстычнымі таварыствамі і арганізацыямі яны правялі значную работу па папулярызацыі турыстычнага руху, распрацавалі шэраг турыстычных маршрутаў, ажыццяўлялі выданне турыстычных карт, буклетаў і г.д.

Важкі ўклад у развіццё турызму на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўнеслі рознага роду турыстычныя таварыствы і арганізацыі. Найбольшы ўклад у развіццё турыстычнага справы даследуемай тэрыторыі зрабілі Польскае краязнаўчае таварыства, Віленскае таварыства прыяцеляў навук і Таварыства развіцця Ўсходніх зямель. Таварыствы актыўна займаліся распрацоўкай і арганізацыяй разнастайных турыстычных маршрутаў, рэгіянальных, агульнадзяржаўных і міжнародных паездак, а таксама былі арганізатарамі курсаў у сферы турызму, праводзілі з’езды, канферэнцыі, на якіх разглядаліся пытанні развіцця і прапаганды турызму ў рэгіене. Значны ўклад у развіцце турыстычнай справы на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў сярод агульнадзяржаўных арганізацый і таварыстваў ІІ Рэчы Паспалітай зрабіла Таварыства развіцця Усходніх зямель. Пачынаючы з 1934 г. гэтае таварыства з мэтай павелічэння колькасці турыстаў, што наведвалі «паўночна-ўсходнія ваяводствы», штогод праводзіла акцыю «Лета на Усходніх землях». У рамках гэтай акцыі пры супрацоўніцтве з Міністэрствам камунікацыі Таварыства развіцця Усходніх зямель надавала турыстам зніжкі да 75% на праезд чыгуначным транспартам і іншыя паслугі.

Асноўнымі формамі і метадамі прапаганды турызму былі выданне літаратуры турыстычнага характару (даведнікаў, брашур, буклетаў, артыкулаў і нататак, альбомаў фотаздымкаў і г.д.), правядзенне турыстычных выстаў і кірмашоў, на якіх была прадстаўленая інфармацыя аб Заходняй Беларусі як аб турыстычным рэгіене, арганізацыя разнастайных турыстычных акцый з мэтай павелічэння колькасці турыстаў у рэгіене (напрыклад, «Лета на ўсходніх землях»), правядзенне дыскусійных клубаў, вечароў на турыстычную тэматыку і г.д.

На тэрыторыі Браслаўскага павета з-за наяўнасці на яго тэрыторыі вялікай колькасці водных аб’ектаў найбольш інтэнсіўнае развіццё ў міжваенны час атрымалі актыўныя формы адпачынку, а менавіта спартыўны і водны турызм. Яшчэ у 1923 г. на тэрыторыі павета не было ніводнага спартыўнага клуба, а на азёрах нельга было пабачыць ні парускай лодкі, ні байдаркі. У асноўным лодкі мелі толькі рыбакі і вельмі невялікая колькасць мясцовых жыхароў для ўласнага задавальнення. Гэта становішча, аднак, пачало хутка мяняцца. Спачатку паявіліся на возеры Дрывяты парусныя лодкі, а пазней і байдаркі. Пабудавана было дзве прыстані Марской Лігі і паліцэйскага спартыўнага клуба. Водны спорт, дзякуючы вялікай колькасці вадаёмаў у павеце, развіваўся вельмі актыўна, але стыхійным чынам. За пaруснымі, байдарачнымі забавамі і воднымі экскурсіямі пайшлі таксама і няшчасныя выпадкі, што запатрабавала неадкладных дзеяў ад мясцовых уладаў, якімі былі распрацаваны спецыяльныя правілы, якія зводзіліся да наступных прынцыпаў:

1. Парусныя лодкі і байдаркі павінны былі мець воданепранікальныя каморы, каб не танулі ў выпадку перагортвання.

2. Парусныя лодкі павінны былі мець мінімум адно выратавальнае кола.

3. Кіраваць пaруснымі лодкамі магла толькі асоба ўпаўнаважаная для гэтага, і толькі пасля таго, як здасць іспыт перад адпаведнай павятовай камісіяй [1].

Пасля зацвярджэння гэтых правілаў колькасць нясчасных выпадкаў на Браслаўскіх азёрах сярод адпачываючых значна зменшылася. Пра тое, што выданне гэтых правілаў было своечасовым сведчыць выпадак, калі перакулілася парусная лодка з 7 асобамі на возеры Струста. У ваду трапіла 7 чалавек, тры з якіх зусім не ўмелі плаваць. Нягледзячы на гэта ніхто не патануў, таму што сама лодка не затанула і мела выратавальнае кола [1].

Зімой на Браслаўскіх азёрах пачалі з'яўляцца нават буера, а у самім Браславе ладзіцца каток. Штогод больш прыбывала ў Браслаў водных лыжнікаў. Хтосьці з мясцовых жыхароў нават сканструіраваў водны веласіпед, які ў яго аднак не атрымаўся, таму што быў залішне цяжкім і яго было складана зрушыць з месца.

Сусветны эканамічны крызіс 1928 – 1930 гг. аказаў значны ўплыў на гаспадарчае жыццё Браслаўскага павета. У вельмі складанай сітуацыі знаходзіліся ўсе, хто быў звязаны з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Нізкія закупачныя цэны не дазвалялі аграрыям нават вярнуць сабе кошт тавара. У гэтай сітуацыі турызм хоць неяк дазволіў ратаваць сітуацыю. Ваколіцы Браслава былі прыгожыя, вады паўсюль хапала, а кошт ўтрымання аднаго чалавека не перавышаў 3 злотых. Браслаўскі павет стаў даволі папулярным месцам адпачынку для віленчукоў. Колькасць лецішчаў у павеце ўпэўнена павялічвалася. За віленскімі дачнікамі пайшлі афіцэрскія летнікі і турысцкія экскурсіі.

Піянерам воднага турызму Браслаўшчыны лічыцца радца віленскага ваяводскага ўпраўлення Вацлаў Станкевіч, які паходзіў з Браслаўскага павета і ўсе свае адпачынкі праводзіў там. Павет наведваў у турыстычнай экспедыцыі на байдарцы знакаміты дзеяч польскага турызму Адам Вісloцкі, які напісаў пра водныя маршруты цэлую кнігу [1]. Напісана яна была на невялікім навуковым узроўні і змяшчала шмат недакладнасцяў, а часам і памылак, але сваю прапагандысцкую ролю адыграла: турысты пачалі масава прыязджаць ў Браслаў. У 1932 г. ў павеце налічвалася каля 100 харцэрскіх летнікаў [6, с. 369-370]. У гмінах былі зарэгістраваны некалькі дзясяткаў парусных, байдарачных, веласіпедных і пешых маршрутаў. Браслаўскі павет хутка стаў модным і папулярным месцам адпачынку.

У 1932 г. Корпус Аховы Памежжа арганізаваў у Рацкім Бары на беразе возера Дрывяты свае летнікі, збудаваў там сталую турыстычную інфраструктуру. А вясной наступнага года прыбыў у павет дырэктар Цэнтральнага інстытута фізічнага выхавання ў Варшаве доктар Гілевіч, каб арганізаваць тут летнікі інстытута, базы адпачынку і трэніроўкі. Мужчынскі летнік размясціўся на возеры Дрывяты пры дарозе Браслаў-Іказнь, жаночы – ў заходняй частцы Браслава над возерам Бярэжжа [1].

У міжваенны час Браслаў меў шмат гатэляў і пакояў для пастаяльцаў, дзе госці маглі разлічваць і на сняданак, а пры жаданні і на поўнае харчаванне.

Распрацаваныя турыстчныя маршруты павета тыражаваліся. У 1933 г. у мясцовай друкарні "Магата" быў выпушчаны першы даведнік для аматараў турызму па Браслаўскім павеце. На пасяджэнні 14 кастрычніка 1933 г. аддзел Польскага краязнаўчага таварыства ў Браславе адзначыў агульную зацікаўленасць турыстаў Браслашчынай і зацвердзіў: "накіраваць усім аддзелам Польскага краязнаўчага таварыства распрацаваны Людвікай Янушкевіч і доктарам Зыгмунтам Каласоўскім даведнік", які ўключаў турыстычныя маршруты трох тыпаў: пешыя, водныя і аўтамабільныя [3, с. 1-2]. Праўленне Браслаўскага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства пры пісьмовым звароце ажыццяўляла рассылку друкаваных асобнікаў пераліку і апісанняў турыстычных маршрутаў па павету.

Дадзеныя турыстычныя маршруты былі распрацаваны такім чынам, каб спалучаць маляўнічыя краявіды з наведваннем гісторыка-культурных славутасцяў.

Месцам адпраўлення ўсіх турыстычных маршрутаў быў павятовы цэнтр – горад Браслаў як найбольш зручнае месца камунікацыі прадстаўнікоў праўлення мясцовага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства з прыезджымі турыстамі.

Пешых турыстычных маршрутаў было распрацавана чатыры:

1) на поўнач ад горада ў кірунку возера Снуды;

2) у заходнім напрамку ад горада ў бок Опсы;

3) ва ўсходнім напрамку ад горада на Міёры і Лявонпаль;

4) на возера Дрысвяты з начлегам.

Першы маршрут прадугледжваў азнакамленне турыстаў з возерам Струста, наведванне на лодцы выспы на ім, затым праз маентак Струста маршрут пралягаў да вескі Акмяніца. Ад яе маршрут ішоў берагам возера Снуды па добрай дарозе праз Крывасельцы, Піртаны да Юран, адкуль праз пару кіламетраў да Плюс. У Плюсах турыстам прапаноўвалася пазнаёміцца з аднайменным возерам. Там жа прадугледжваўся начлег. Ад Плюс шлях турыстаў пралягаў процілеглым берагам возера Снуды ў кірунку Заснуддзя па гасцінцу праз вескі Данькі і Абаб'е каля возера Волас, далей у бок Лунна і да Слабодкі. У Слабодцы жадаючыя маглі наведаць дзеючыя пры размешчанай там вайсковай частцы афіцэрскае казіно, рэстаран і кавярню.

Другі пешы маршрут пралягаў ад Браслава берагам возера Дрывяты да мястэчка Опса ў 20 км ад горада, дзе турыстам прапаноўваўся агляд маёнтка, сельскагаспадарчай школы і возера. З Опсы маршрут накіроўваўся на поўдзень праз Медзюкі, Далёкія, маёнтак Альбінава да Багіно, дзе да агляду прапаноўваліся возера, капліца і старажытныя габрэйскія могілкі. Ад Багіно праз Гайдукоўшчыну маршурт ішоў берагам возера да Чарніцы уключаючы фальварак Шляхтаўшчына да фабрычнага маёнтку графаў Плятэраў, дзе размяшчалася вялікая тэкстыльная фабрыка. У Плятэрава ў дадзенага маршруту прадугледжваўся начлег. З Плятэрава вяртанне ў Браслаў ажыццяўлялася праз Новае Дворышча, Замош'е (начлег) і маёнтак Бельмонт.

Трэці маршрут пралягаў ва ўсходнім напрамку ад горада. Маршрут ішоў з Браслава праз Іказнь і Зачарэўе ў бок Перабароддзя, дзе прадугледжваўся начлег. Далей з Перабароддзя на Прыдарожжа і Апанасенкі праз Арэхаўку да Міераў, дзе таксама прадугледжваўся начлег. З Міераў маршрут ішоў на Орцы, адтуль направа, праз вёскі Басяныя, Мальцы, Ільмовікі ў Даўгінава, дзе група павінна была начаваць. Адтуль – на Янчына і Лявонпаль. Не даходзячы паўтара кіламетра да Лявонпаля турыстам прапаноўваўся агляд мемарыяльнай калоны ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г., а ў самім мястэчку заначаваць. Далей маршрут пралягаў у бок Друі, дзе турыстам прапаноўвалася азнаёміцца з касцёлам св. Тройцы і манастырскімі карпусамі. З Друі ў Браслаў турысты маглі вярнуцца вузкакалейкай.

Чацвёрты пешы маршрут выходзіў з Браслава ў бок Ельна, Усян, Уладзіслававa да Дрысвятаў. На возеры Дрысвяты прадугледжваўся начлег ў намётах. Ад Дрысвятаў маршрут ішоў на Чапуканы і далей на Рымшаны, адкуль у Браслаў таксама можна было вярнуцца вузкакалейкай.

Увазе турыстаў быў прадстаўлены і водны маршрут краем. Пачынаўся ён у Дукштах і пралягаў азерамі Дзісна і Дзіснішча, ракой Дзісной да вескі Казьяны, адкуль ішоў на Дрысвяты праз возера Багінскае, далей па рацэ Дрысвяцiцы да возера Дрысвяты. Неабходна было плыць выключна рэчкай Дрысвяцiцай праз веску Грытуны і маёнтак Свікшчаны, пазбягаючы канала з залішне моцным цячэннем, дзе дапускаліся толькі каякінгавыя падарожжы. Ад Дрысвятаў водны маршрут ішоў па возеры Муйса і рэчцы Рачанцы да вёскі Рэчаны, адкуль неабходна было сухапутным транспартам пераехаць каля 15 км да возера Рака, г.зн. да вёскі Зарэчча на дарозе Браслаў-Турмонт. Ад возера Рака маршрут ішоў у возера Дрывяты, адкуль быў зручны доступ да ўсёй групы Браслаўскіх азёр, у т.л. праз Снуды і Друйку да Дзвіны.

Акрамя таго, гасцям Браслава прапаноўваліся і тры аўтамабільныя маршруты:

1) Браслаў, Опса, Дрысвяты, Рымшаны, Відзы, Багінь праз Чарніцы да маёнтка Плятэрава, а адтуль да Замош'я і маёнтку Бельмон;

2) Браслаў, Ёды (наведванне палаца), Пагост, Перабароддзе, Іказнь;

3) Браслаў, Струста, берагам возера Снуды праз Крывасельцы да Плюс. Адтуль да Слабодкі і Друі [3].

З кожным годам у Браслаўскім павеце, як і ва ўсім Віленскім ваяводстве, актыўна ўзрастала колькасць моладзевых баз адпачынку і дзіцячых лагераў. Па стане на 1935 г. падобныя ўстановы пастаянна дзейнічалі не толькі ў ваколіцах Вільні, Глыбокага, Ашмян, Маладзечна, Вілейкі, Паставаў, але таксама і каля Дзісны і Браслава. Найбольш папулярнымі сярод школьнікаў і моладзі былі сезонныя турыстычныя лагеры менавіта на берагах Браслаўскіх азёр. Адпачынак школьнікаў тут каардынавалі Польскае краязнаўчае таварыства і Таварыства аховы помнікаў даўніны. Групам школьнікаў такі адпачынак абыходзіўся ўсяго ў 13 злотых, астатнія ж выдаткі бралі на сябе названыя грамадскія арганізацыі і аб'яднанні. Адмыслова з мэтай арганізацыі адпачынку школьнікаў і моладзі былі распрацаваны і выдадзены спецыялізаваныя турыстычныя карты для лепшай арыентацыі на мясцовасці. На картах былі пазначаны маршруты турыстычных паходаў, а таксама на іх была нанесена розная інфармацыя, неабходная для арганізацыі турыстычных паходаў і актыўнага адпачынку. Напрыклад, такія карты існавалі для водных маршрутаў па Браслаўскіх азёрах ад возера Дрывяты да мястэчка Друя і па рацэ Дзісна ад возера Дзісна, па рацэ Дзісна да горада Дзісна, а таксама для сухапутнага маршрута Дзісна – Глыбокае [6, с. 372-373].

Такім чынам, турыстычны рух у Браслаўскім павеце ў міжваенны час атрымаў даволі інтэнсіўнае развіццё, выводзячы Браслаўскі павет на адно з першых месцаў па развіццю турызма ва ўсім Віленскім ваяводстве. Прыродныя ўмовы (наяўнасць вялікай колькасці рэк і азёр) абумовілі развіццё на Браслаўшчыне ў 1921 – 1939 гг. спартыўнага турызму, спрыялі арганізацыі ў павеце адпачынку школьнікаў і моладзі, развіццю ўсіх форм адпачынку і рэкрэацыі. У развіцці турызму як віда гаспадарчай дзейнасці былі зацікаўлены і мясцовыя ўлады, якія спрыялі развіццю розных форм гаспадарання, звязаных з абслугоўваннем турыстаў, ажыццяўлялі агульную каардынацыю турыстычнага руху ў павеце, папулярызавалі Браслаўшчыну сярод патэнцыйных наведвальнікаў як тэрыторыюз высокай турыстычнай прывабнасцю.

ЛІТАРАТУРА

1. Базарэвіч, Г. Адпачынак і спорт на Браслаўскіх азёрах у міжваенны час / Г. Базарэвіч // Westki.info: незалежная інтэрнэт-газэта Паазер'я і Віленшчыны [Электронны рэсурс]. – 2014. – Рэжым доступу: http://westki.info/blogs/15312/adpachynak-i-sport-na-braslauskih-azyorah-u-mizhvaenny-chas. – Дата доступу: 05.05.2014 г.

2. Chelmecki, J. Państwowe i społecznie inicjtywy rozwoju ruchu turystycznego i krajoznawczego w Polsce w latach 1919-1939 / J. Chelmecki // Perełomy w historji. Pamiętnik. – T.3. – S. 453-476.

3. Kolosowski, Z. Szlaki turystyczne po Braslawszczyźnie / Z. Kolosowski, W. Zacharewicz. – Braslaw: Magata, 1933. – 8 s.

4. Krasnopolski, P. Wilno i województwo Wileńskie 1937 / P. Krasnopolski. – Wilno Nakładem i Drukiem Wiktorii Krasnopolskiej, 1937. – 164 s.

5. Maczak, F. Kalendarz Ziem Wschodnich na rok 1936. – Warszawa: Wydawnictwo zarządu głównego T.R.Ziem W., 1935. – S. 296-300.

6. Orłowicz, M. Domy wycieczkowe dla młodzieży w Polsce i zagranicą / M. Orłowicz // Wychowanie Fizyczne. – 1934. – No 6 – 8. – S. 368-380.

7. Przewodnik po Polsce: w 4 t. / pod red. S. Lenartowicza. – Warszawa: Sp. Akc. «Nasza księgarnia», 1935. – T. 1. Polska Północno-Wschodnia / S. Osiecki [i inne]. – 1935. – 362 s.

8. Z życia okręgow i oddziałow P.T.K. // Ziemia. – 1932. – №4-5. – S. 155.

**УДК 94:371.8::355.231.1**

## К 180-ЛЕТИЮ КАДЕТСКОЙ ТРАДИЦИИ

***магистр ист. наук Е.В. Глазырин***
**Полоцкий государственный университет, Новополоцк**

*Статья посвящена выявлению соответствия найденного в 2012 году артиллерийского снаряда так называемому «Витгенштейновскому ядру», с которым связана одна из древнейших традиций воспитанников Полоцкого кадетского корпуса.*

Студенчество – это не только определённый период в жизни молодых людей, когда они получают будущую профессию, но и время социализации их личностей. В связи с этим одной из приоритетных задач образовательных учреждений является развитие социально-культурной активности студентов, что позволит в дальнейшем интенсифицировать их включение как в общественную, так и в профессиональную сферу.

Вузовская среда обладает высоким социализирующим потенциалом, в структуре которой особое место принадлежит традициям, выступающим неотъемлемой частью любого образовательного и культурного процесса. Студенческие традиции, символизированные в корпоративных знаках отличия (форма, гимн, эмблема), в праздничных ритуалах, обычаях и церемониях, выступают в качестве ресурса формирования студенческой субкультуры, формируют чувство достоинства и гордости за сопричастность к студенческому сообществу и учебному заведению. Чем многообразнее и долговечнее образовательные и культурные традиции, тем выше престиж учебного заведения и его популярность.

Полоцкий государственный университет, созданный в 1993 году, считается сравнительно молодым учебным заведением, но у него есть уже свои традиции, которые определяют его статус и особенности университетской жизни. Вместе с тем, история образовательных учреждений на Полоцкой земле уходит в глубину веков и насчитывает не одну сотню лет. Безусловно, на всех исторических этапах развития системы образования существовали и образовательные традиции и, прежде всего, традиции учащихся. К сожалению, связь веков была прервана и традиции забыты. Забыты, но не все утрачены окончательно.

В связи с этим, в данной статье будет представлена одна из таких традиций, возраст которой приближается к 180-летнему юбилею. Речь пойдёт о так называемом «Витгенштейновском ядре» (рис. 1), с которым была связана одна из популярнейших и почитаемых традиций учащихся Полоцкого кадетского корпуса.




Рис. 1. Витгенштейновское ядро

Согласно легенде, пересказанной выпускником Полоцкого кадетского корпуса Стефановским, во время штурма Полоцка 7 октября 1812 года 1-м русским пехотным корпусом под командованием генерала от кавалерии П.Х. Витгенштейна, при обстреле позиций французов и баварцев из русских артиллерийских орудий, одно из ядер влетело через окно первого этажа Полоцкой иезуитской академии и застряло в стене [1, с. 33].

После размещения в стенах академии в 1835 г. Полоцкого кадетского корпуса, ядро стало символом гордости кадетов за принадлежность их к воинской славе отцов, которые одержали победу над непобедимым Наполеоном. Вскоре родились и несколько кадетских традиций, связанных с ядром. Прежде всего, это неофициальный парад кадетов у ядра в годовщину штурма Полоцка 7 октября 1812 г. (по старому стилю) и обеспечение блеска ядра, путём его постоянного натирания.

Свои впечатления об этой традиции оставил в своих воспоминаниях бывший кадет Буевич Леонид: «…перед первым разом построения роты на утреннюю молитву, приказ старших кадет всем новичкам 1-го класса при прохождении по коридору в столовую и обратно, держать «смирно – равнение на бомбу!» Что за бомба? и почему такое строгое приказание? Конечно, по выходе строем роты из помещения в коридор взволнованные взоры устремлялись по стенкам, пока с левой стороны не обнаруживали на высоте приблизительно чуть выше одного метра от пола, до половины засевшего в стенку ядра 12 сантиметров в диаметре и на половину окружённого блестящей медной дощечкой вверху, на которой выгравирована надпись: «7-го октября 1812 года». Сразу же, без команды, руки были пришиты по швам, а голова повернута налево. Еще больше разгоралось любопыгтство, когда в столовой было обнаружено, что каждая ложка, нож, вилка, супник и блюдо, имеют рельефное изображение этой бомбы, окруженной красивой виньеткой с выгравированными буквами П.К. Такие же буквы только итерированы красным в середине были и на фарфоровых белых тарелках, блюдечках и кружках, а те же П.К. только в желтой краске были и на алых погонах с белым кантом у каждого кадета. Все это новое вызывало чувство гордого сознания, что ты теперь являешься нераздельной частицей всего этого. Это чувство росло и укреплялось еще больше после знакомства с историей самой бомбы и легендарным зданием Корпуса…» [2, с. 62].

Ещё один выпускник корпуса Вержболович Борис отмечал: «По существующей традиции, медная табличка над бомбой всегда была начищена кадетами до блеска, а 7-го октября каждого года, в торжественной обстановке, с оркестром своей музыки, около бомбы прочитывалось очередное поздравление с её Днём Ангела» [3, с. 14].

Традиции «почитания ядра» сохранились вплоть до эвакуации кадетского корпуса из Полоцка в 1914 году, в связи с приближающимся фронтом в годы Первой мировой войны. По воспоминаниям бывших кадетов Полокого корпуса, ядро вывезено не было и осталось в стене. Авторитет «Витгенштейновского ядра» среди кадетов и преподавателей был настолько высок, что его изображение было помещено и на жетонах Полоцкого кадетского корпуса и на нагрудный знак об окончании Полоцкого кадетского корпуса (рис. 2), утверждённого 6 мая 1913 года.



Рис. 2. Знак об окончании Полоцкого кадетского корпуса с изображением Витгенштейновского ядра

Поводом к обращению внимания к этой традиции послужил найденный при реконструкции артезианского колодца на территории бывшего кадетского корпуса артиллерийский снаряд (рис. 3). Обстоятельства обнаружения и его форма позволяли предполагать, что оно и является тем самым «Витгенштейновским ядром». В связи с этим было проведено определённое исследование, результаты которого и будут представлены в этой статье.

Во-первых, был исследован тип найденного боеприпаса. Он представляет из себя литой полый чугунный шар. В нём имеется отверстие диаметром 28 мм. По форме данный снаряд совпадает с изображениями сферических боеприпасов в различных справочных изданиях, что позволяет определить тип данного боеприпаса как гранату, использовавшуюся в качестве разрывного артиллерийского снаряда для гладкоствольных орудий с фитильным зарядом.

Бомбы, согласно справочникам, отличались от гранат весом – более 1 пуда (16,38 кг) и имели две скобы («уши»), за которые бомбу поднимали особыми крючками при заряжении [4]. Некоторые исследователи полностью исключают существование такого боеприпаса, как бомба, выделяя только ядро, гранату, картечь и брандкугелю [6, с. 16] (рис. 4).



Рис. 3. Артиллерийский снаряд, найденный в 2012 г.




Рис. 4. Типы сферических артиллерийских снарядов образца 1805 г.: 1 – ядро; 2 – граната; 3 – картечная граната; 4 – бомба [4]

Во-вторых, был произведён точный обмер размеров снаряда для определения его калибра и принадлежности к какой-либо из воюющих сторон – французской или русской. Согласно обмерам, диаметр ядра равняется 119 мм, вес составляет 4,14 кг (без учёта, содержащихся в нём различным предметам).

Рассмотрим теперь характеристики боеприпасов французской и русской армий (табл. 1 – 3). Необходимо отметить, что в начале XIX в. и во Франции и в Российской империи произошли реформы в артиллерии, которые сократили количество калибров артиллерийских орудий и боеприпасов. Во Франции эта реформа получила названия «Система XI года», в России – «Система 1805 года».

Таблица 1

Размеры французских полевых орудий и боеприпасов [7, с. 6]

| Калибр орудий | Диаметр канала ствола | Диаметр орудийного ядра | Длина (от оконечности винграда до дульного среза) | Вес орудия | Орудийная прислуга | Число лошадей |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 12-фунтовая полевая пушка | 4 дюйма<br>5 линий<br>9 точек<br>(121,3 мм) | 4 дюйма<br>4 линии<br>4,5 точки<br>(118,1 мм) | 6 футов<br>6 дюймов<br>(229 см) | 1,800 фунтов<br>(880 кг) | 15 | 6 |
| 8-фунтовая полевая пушка | 3 дюйма<br>11 линий<br>(106,1 мм) | 3 дюйма<br>9 линий<br>7,5 точек<br>(103 мм) | 5 футов<br>8 дюймов<br>(200 см) | 1.200 фунтов<br>(580 кг) | 13 | 4 |
| 4-фунтовая полевая пушка | 3 дюйма<br>1 линия<br>4 точки<br>(84,0 мм) | 2 дюйма<br>11 линий<br>11,5 точек<br>(80,1 мм) | 4 футов<br>6 дюймов<br>(157 см) | 590 фунтов<br>(290 кг) | 8 | 4 |
| 6-дюймовая гаубица | 6 дюймов<br>1 линия<br>6 точек<br>(165,7 мм) | 6 дюймов<br>(162,4 мм) | 2 фута<br>9 дюймов<br>6 линий (см) | 650 фунтов<br>(330 кг) | 13 | 4 |
| 1-фунтовая пушка Ростэня | 1 дюйм<br>1 линия<br>9 точек<br>(53,5 мм) | 1 дюйм<br>10 линий<br>6,5 точек<br>(51 мм) | 4 фут<br>8 дюймов<br>(151 см) | 275 фунтов<br>(134 кг) | | |

Таблица 2

Конструктивные характеристики ядра в русской артиллерии [6, с. 16]

| Орудия | Ядро | | Масса вышибного заряда, г |
|---|---|---|---|
| | Диаметр, мм | Масса, г | |
| **Пушки:** | | | |
| 12-фн средней пропорции | 116,3 | 5855,8 | 1638,0 |
| 12-фн малой пропорции | 116,3 | 5855,8 | 1024,0 |
| 6-фн | 92.3 | 2917,8 | 819,0 |
| **Единороги:** | | | |
| $^{1}/_{2}$- ПД | | 8233,0 | 1638,0 |
| $^{1}/_{4}$- ПД | | 4019,0 | 819,0 |

Таблица 3

Конструктивные характеристики гранаты в русской артиллерии [6, с. 17]

| Конструктивные характеристики | Ед. измерения | Для $^{1}/_{4}$- ПД единорога | Для $^{1}/_{2}$- ПД единорога |
|---|---|---|---|
| Диаметр, | мм | 118,6 | 150,6 |
| Толщина стенки корпуса, | мм | 17,8 | 24,1 |
| Толщина сегмента (наибольшая), | мм | 29,2 | 35,6 |
| Диаметр отверстия (очка):<br>- верхний | мм | 20,3 | 22,9 |
| - нижний | мм | 18,6 | 20,3 |
| Масса, | г | 4018,3 | 8232,9 |
| Масса вышибного заряда, | г | 819,0 | 1638,0 |

Как видно из таблицы 1, артиллерийских полевых орудий у французов было пять калибров. Только 12-фунтовая пушка имела приблизительно такой же диаметр снаряда, как и найденный на территории университета. Но необходимо отметить, что речь идёт о ядре, а не о гранате. Гранаты во французской артиллерии были только гаубичные диаметром 165,7 мм [8, с. 177].

Сопоставляя размеры данных типов снарядов во французской и русской армий, можно однозначно сказать, что найденная граната принадлежала русским артиллеристам, т.к. её диаметр (119 мм) и масса (около 4140 г) соответствуют снаряду четвертьпудового единорога (рис. 5).



Рис. 5. Единорог [9, с. 19]

После, казалось бы, верного определения типа найденного снаряда возникает противоречие. Как соотносятся понятия «Витгенштейновское ядро», «бомба» и «граната». Ведь речь идёт о трёх разных типах снарядов. Действительно, в одних воспоминаниях встречается термин «ядро», в других – «бомба», а вот термин «граната» отсутствует вообще. Ранее было определено, что найденный снаряд наиболее подобен гранате. Почему же тогда в большинстве случаев встречается термин «бомба»?

Обращаясь к истории развития Полоцкого кадетского корпуса, можно предположить следующее. После того, как снаряд попал во внутреннюю стену корпуса и застрял в ней на глубине около 6 см, т.е. ровно в половину диаметра (именно на это обстоятельство указывает выпускник корпуса Буевич Леонид [2, с. 62]), фитильное отверстие бомбы («очко») оказалось внутри стены. Поэтому снаряд не разорвался.

Естественно, что неразорвавшаяся бомба выглядела как 12-фунтовое ядро. В таком положении бомба, вероятно, пробыла до того момента, когда по какому-то случаю снаряд был извлечён из стены и тогда стало видно, что это не ядро, а бомба. Вот почему, выпускники последних лет были точно уверены, что это бомба. Но не было забыто и старое название – «Витгенштейновское ядро», которое также встречается в воспоминаниях параллельно с названием «бомба». И всё-таки, почему снаряд, даже с небольшим весом называли «бомба». Отвечая на этот вопрос, можно предположить, что граната и бомба отличались не столько весом, сколько функциональностью.

Наиболее логичным выглядит толкование, данное Сергеем Старыгиным. В частности, он отмечает, что «артиллерийские бомбы и гранаты имели абсолютно одинаковую конструкцию: полый чугунный шар с небольшим отверстием, через которое внутрь насыпалось взрывчатое вещество – черный порох. Однако, если нужно было, чтобы бомба при разрыве дала много осколков, убойных для солдат противника, то пороха в нее насыпали половину внутреннего объема, организуя этим приемом его резкий взрыв. А если нужно было, чтобы бомба мощной взрывной волной разрушала как можно больше стен, перевернула как можно больше орудий, контузила как можно больше защитников крепости, то полость бомбы набивали порохом плотно. В этом случае корпус бомбы при взрыве просто лопался, давая незначительное количество крупных осколков, но зато увеличенное количество пороха создавало пусть не быструю, но очень мощную взрывную волну. И те бомбы, которые наши предки начиняли половинной нормой пороха и которые были предназначены для поражения противника осколками, они называли гранатами. А полностью снаряженные порохом снаряды – бомбами» [10].

Следующий момент, на который было обращено внимание – это местоположение «Витгенштейновского ядра». К счастью, сохранились воспоминания одного из выпускников Полоцкого кадетского корпуса, в которых не только описывается сама традиция, но и даются сведения о точном расположении бомбы (рис. 6). Бомба располагалась на первом этаже той части корпуса, где находилась фундаментальная библиотека, в нескольких десятков сантиметров влево от лестничного прохода на второй этаж. Расстояние от пола было немногим более 1 метра. Сейчас – это помещение «Художественной галереи» НПИКМЗ.

Важно выяснить то обстоятельство – могла ли бомба оказаться на территории иезуитской академии во время штурма Полоцка русскими войсками 7 октября 1812 г.

Итак, наступление 1-го пехотного корпуса русских совместно с Санкт-Петербургским, Новгородским, Вологодским и Олонецким ополчениями под общим командованием генерала П.Х. Витгенштейна на Полоцк, началось 4 октября 1812 года [11, с. 165]. В течение последующих 3-х дней бои шли на подступах к Полоцку. Правой колонной русских войск, наступавшей на линии от мызы Присменица и Спасского монастыря до правого берега Двины, командовал генерал-лейтенант князь Яшвиль. К вечеру 6 октября Князь Яшвиль оттеснил левое крыло неприятеля – дивизию Мерле к самому городу, к району Красного моста (рис. 7). Артиллерия русских расположилась на расстоянии выстрела от французских укреплений Полоцка, т.е. 1500 – 2000 метров [11, с. 172]. 7 октября князю Яшвилю была поставлена задача открыть огонь из всех видов артиллерийских орудий по городу, если будет замечено отступление неприятеля за Двину [12, с. 81]. В условиях явного перевеса русских сил (50 000 против 27 000), командующий французскими 2-м и 6-м корпусами маршал Сен-Сир решил незаметно отступить из города на левый берег Двины с наступлением темноты.

Вечером 7 октября опустился туман и началась переправа по двум мостам французских войск через Двину. Всё шло по плану, и практически вся артиллерия, корпусные обозы, раненые и большая часть войск была уже переправлена, когда произошло событие, изменившее ход военных действий. Отступавшая со своих позиций от Воловьего озера французская пехотная дивизия Леграна, не желая оставлять биваки русским, подожгла их. Другие две дивизии, думая, что это условный сигнал, сделали тоже самое [11, с. 175]. Этот огромный пожар выдал французское отступление. Артиллерия генерала Яшвиля, располагавшаяся по правому берегу Полоты, открыла мощный огонь по укреплённому лагерю и по городу [13, с. 122]. Вскоре весь город был в огне (рис. 8). Наступавшая русская армия взяла город к 3 часам утра 8 октября.




Рис. 6. Место нахождения «Витгенштейновского ядра» [18]

Таким образом, гранаты, ядра и бомбы, выпущенные артиллерийскими батареями генерала Яшвиля, находившимися на расстоянии выстрела от штаба французских войск, располагавшегося в здании иезуитской академии, вполне могли оказаться внутри помещений при условии попадания в оконные проёмы.

Однако самым сложным было проследить судьбу бомбы после эвакуации кадетского корпуса из Полоцка в 1914 г. Были вывезены почти все реликвии корпуса, но бомба по воспоминаниям кадетов осталась на месте. «Тревожные мысли о судьбе «бомбы» и о наших знаменах успокаивали объяснением, что знамена вместе с канцелярией и директором – генералом Чигирём, перевезены в Симбирск, а «бомба» осталась на прежнем месте, и так как здание корпуса отведено под лазарет для русских раненых воинов, то находится в сохранности» – вспоминали бывшие кадеты [2, с. 63]. Все надеялись вновь вернуться сюда после войны. Сбыться этим надеждам было не суждено.




Рис. 7. Фрагмент карты «План сражения при Полоцке 6 октября 1812 г.» [12, с. 76]

Сразу после эвакуации корпуса в его стенах расположился военный госпиталь русской армии. Естественно, что ядро с надписью продолжало оставаться на прежнем месте, будучи военной реликвией. С февраля по ноябрь 1918 г. Полоцк был под оккупацией кайзеровской Германии. В помещениях корпуса устроились оккупационный гарнизон, штаб и солдатский клуб [14, с. 61].

С приходом советской власти в бывшем кадетском корпусе решено было устроить Курсы красных командиров. Первым начальником курсантов был Григорьев, комиссар – Демёхин. Позднее, с января 1921 г., её возглавил знаменитый герой гражданской войны, латышский стрелок Я.Ф. Фабрициус [15, с. 186].



Рис. 8. Штурм Полоцка 6-7 октября 1812 г. *Худ. Петер фон Гесс*

Власть большевиков изменила и идеологическую ситуацию в обществе. Отрицалось всё прежнее, в том числе и успехи русской армии в 1812 году. Более того, считалось, что виновником войны с революционной Францией и агрессором была Россия во главе с Александром Первым. Низкую оценку полу-

чили российская феодальная армия и её руководители [16, с. 57]. Естественно, бомба вместе с надписью была снята со стены. Символ врагов революции – кадетов, который олицетворял в глазах красных командиров «старый режим» был не нужен новому обществу. Но… бомбе, скорее всего, нашли применение. Она могла использоваться или как гиря для находившихся на корпусной кухне рычажных весов или как часть аварийного клапана, предохранявшего котёл от взрыва, о чём свидетельствует её изменившаяся форма. На кухне также находилась и фарфоровая посуда, оставшаяся после кадетов, несмотря на наличие надписей «П.К.» и царского орла на дне. Новым владельцам приходилось мириться с таковой, поскольку заменить её им на тот момент было нечем.

К этому времени оборудование старого иезуитского колодца вновь вышло из строя, а ремонтировать его было уже некому. Водоснабжение зданий ещё во времена Кадетского корпуса начали переводить на артезианскую скважину, расположенную на ул. Ленина (тогда и ныне Нижне-Покровскую). Заброшенный питьевой колодец ими был превращён в сточную яму, при этом от одного из керамических колодцев дренажа в него была проведена цементная труба, выводившая в него стоки. Деревянная колодезная надстройка была сломана, тем самым колодезная труба оказалась открытой, представляя опасность для прохожих.

Во время, когда Курсами красных командиров руководил Я.Ф. Фабрициус (1921-22 гг.), был произведён крупный ремонт зданий бывшего кадетского корпуса пострадавшего от войны. После восстановления котелен и систем парового отопления часть кафельных печей в главном здании была уничтожена, а также проведена переделка лестничных площадок и часть чугунных узорных плит пола была выломана. При этом перестал функционировать старый иезуитский колодец – его засыпали строительным мусором вместе с обломками белого печного кафеля с клеймами Витебских заводов, чугунными плитами с лестничных клеток, плитками пола).

Одновременно в колодце оказалась также стеклянная и фаянсовая «старорежимная» посуда, на тарелках и кружках её, кроме клейма Кузнецова – известного фарфорового магната Царской России, имелась надпись «П.К. 1908 г.» (рис. 9).

К этому времени в Советском государстве шла полным ходом метрическая реформа, смысл которой заключался в переходе на международную метрическую десятичную систему мер и весов. Все учреждения РСФСР обязаны были ввести метрическую систему с 1 января 1919 г. В случаях, когда в силу технических или иных затруднений введение метрической системы было невозможно, разрешалось применение старой системы с условием, что «окончательный переход к метрической системе должен быть закончен к 1 января 1922 г.» [17, с. 281]. Полоцк, на момент опубликования декрета 11 сентября 1918 г., находился под оккупацией кайзеровских войск и, позднее, до апреля 1921 г., был прифронтовым городом в период советско-польской войны. Естественно, осуществление перехода на новую систему мер происходило с опозданием. По одной из версий, рычажным весам (безмену), находившимся на кухне, был поставлен новый комплект гирь, в котором единицы веса были представлены уже в килограммах, и в гире, сделанной из «Витгенштейновского ядра», отпала всякая нужда, и она, вероятно, также была сброшена в колодец вместе с посудой. По другой версии, замена или изменение конструкции котла привели к тому, что «бомба» была удалена из котельной, так как во время расчистки колодца рядом с ней находился и шлак, оставшийся от котельной.

В 2012 г., при восстановлении колодца на его дне была найдена бомба, а вместе с ней и остатки посуды со знаками Полоцкого кадетского корпуса. С большой долей вероятности, можно предположить, что это и есть знаменитое «Витгенштейновское ядро», которое попало в колодец между 1921 и 1922 гг. и пролежало там 110 лет!

Несмотря на то, что нет полной уверенности, что это именно та «бомба», которая находилась в стене кадетского корпуса и была объектом почитания и уважения кадетов, можно сказать утвердительно – эта бомба действительно принадлежала артиллеристам генерала П.Х. Витгенштейна и была свидетелем той ночи 7 октября 1812 г., когда Полоцк штурмом в упорной борьбе был взят. Причём, надо отдать должное героизму и русских солдат, которые смогли взять город, и солдат 2-го и 6-го корпусов французской армии, которые сдерживали превосходящие русские войска и обеспечили эвакуацию основных частей из города.

Было бы справедливым поместить найденную бомбу с надписью «7 октября 1812 года» в одной из стен корпуса «А», как реликвию о наполеоновской эпохе на территории Беларуси и как одну из самых старых традиций учащихся образовательных учреждений на Полотчине. Думаю, что размещение данной реликвии будет не только причиной для рождения новой студенческой традиции нашего университета, но и для появления нового привлекательного туристического объекта.

Ізяслаў Уладзіміравіч з'яўляўся першым і апошнім полацкім князем па смерці якога была дадзена цалкам станоўчая характарыстыка як добрага і добрасумленнага хрысціяніна, абсалютна тыповая для большасці князёў дынастыі Рурыкавічаў. Астанія полацкія князі, як гэта бачна з летапісаў, былі пазбаўлены нават гэтай стандартнай прывілеі. Сярод усіх полацкіх князёў асаблівая ўвага летапісцаў датычыцца Усяслава.

Яго дзейнасць адлюстроўваецца як ваяўнічая і сепаратысцкая не толькі з боку кіеўскага летапісца. Асаблівую непрыязнасць да яго адчувае і наўгародскі аўтар. Само нараджэнне полацкага князя паказана негатыўна: "*его же роди мать от вълхования. Матери бо родивше его бъ ему язвено на главе его. Рекоша бо волсви матери его: "се язвено навяжи на нь да носить его до живота своего". Еже носить Всеслав и до сего дне на собе. Сего ради немлостьвь есть на кровьпролтье* " [11, с. 109]. Даволі цікавым у гэтым сэнсе з'яўляецца прысутнасць пры нараджэнні Усяслава паганскіх святароў – валхвоў, калі з прыняццем хрысціянства ў летапіснай традыцыі адзначалася супрацьстаянне ў кантэксце хрысціянін – паганец, што на ўзроўне хрысціянскага светапогляду раўназначна супрацьпастаўленю "свой – чужы" [27, с. 73]. Варожае стаўленне летапісца да Усяслава як да паганца, падкрэсліваецца і яго "крыважэрнасцю": "*немлостьвь есть на кровьпролтье*" [11, с. 109]. Акрамя "Аповаесці аб мінулых часах" асаблівай непрыязнасцю да Усялава характарызуецца Наўгародскі летапіс. Гэта датычыцца шэрагу паведамленняў эсхаталагічнага характару, звязанага з полацкім князем Усяславам. Пачатак ваеннай дзейнасці гэтага князя супраць Пскова і Ноўгарада суправаджалася апісаннем незвычайных прыродных з'яў, якія нічога добрага не прадвяшчалі [28, с. 183 – 184]. Акрамя Усяслава, стаўленне летапісцаў да полацкіх князёў XII ст. вар'іруецца ад нейтральнай да ў агульным сэнсе негатыўнай.

Так кароткае паведамленне пра Ізяслава, нехарактэрнае для астатніх полацкіх князёў Рагвалодавічаў, з'яўляецца ўнікальным. Станоўчая характарыстыка Ізяслава як князя – хрысціяніна, сведчыць аб прыналежнасці князя да агульнага роду нашчадкаў Уладзіміра ў кантэксце "свой князь". У гэтым выпадку паведамленні пра яго нашчадкаў, ужо не адпавядаюць агульнай традыцыі праслаўлення князёў у выглядзе літаратурных трафарэтаў. Звесткі пра полацкіх князёў: Брачыслава, Усяслава і яго сыноў – адлюстроўваюць альбо нейтральнае стаўленне з боку летапісцаў, альбо ў шэрагу выпадкаў варожае супрацьстаянне паміж Полацкам і іншымі гарадамі Русі.

Пра ўспрыняцце характара ўлады Ізяслава яскрава сведчыць дынастычная традыцыя імянарачэння полацкіх князёў. У дамангольскай Русі праблематыка выбару імя даволі цесна звязана з агульнымі палажэннямі дынастычнай гісторыі, стратэгіяй палітычнай улады і пытаннямі спадчыннага валодання. У гэтай сувязі імёны, якія даюцца спадчыннікам княжацкай улады, з'яўляюцца паказчыкам вызначэння актуальнасці тых ці іншых унутранадынастычных сувязяў, якія ажыццяўляліся ўнутры правячай дынастыі. Таксама, што асабліва важна ў нашым выпадку, агульныя прынцыпы імянарачэння сведчаць пра калектыўную радавую памяць княжацкай дынастыі. Па вызначэнню Ф.Б. Успенскага і А.Ф. Ліцвіной, выбар імя ўвасабляе ў сабе "канцэнтраваную гісторыю княжацкага роду" [12, с. 5].

Пры даследаванні феномену полацкіх князёў, акрамя таго факту, што яны мелі права на манапольнае валоданне Полацкай зямлёй і гэта права прызнавалася астатнімі землямі Русі, варта звярнуць увагу на асаблівасць імянарачэння полацкай дынастыі. Напрыклад, акрамя полацкай княжацкай галіны, у іменаслове Рурыкавічаў практычна не сустакаецца такіх імёнаў як "Рагвалод", "Брачыслаў", "Усяслаў". Сярод полацкіх князёў 2 князя мелі імя "Уладар", тады як за межамі полацкай дынастыі гэта імя сустракаецца толькі аднойчы (тмутараканскі князь Уладар Расціславіч). У полацкай дынастыі былі распаўсюджаны такія імёны, як "Глеб", "Давыд", "Васілька". Дадзеныя імёны былі таксама шырока пашыраны сярод астатніх Рурыкавічаў, але ў выпадку полацкіх князёў паказальным з'яўляецца сам прынцып і частотнасць імянарачэння. Княжацкая традыцыя дамангольскай Русі прадугледжвала надання імя ўнуку ў гонар дзеда, якога на момант нараджэння ўнука ўжо не было ў жывых [12, с. 11 – 31].

У выпадку полацкіх князёў гэты прынцып прасочваецца па лініі нашчадкаў Святаслава Усяславіча. Васілька Святаславіч дае свайму сыну імя Брачыслаў. У сваю чаргу Брачыслаў Васількавіч называе свайго сына ў гонар дзеда – Васілька, тады як самога Васількі Святаславіча на момант нараджэння ўнука ўжо не было ў жывых (памёр ў 1144). Адпаведна Васілька Брачыславіч называе свайго сына ў гонар Брачыслава Васількавіча, які памёр значна раней за нараджэнне ўнука (да 1181 г.). Таксама гэты прынцып дзейнічае ў менскіх Глебавічаў. Менскі і полацкі князь Расціслаў Глебавіч называе свайго сына Глебам (узгадка ў летапісе 1159 г.) у гонар дзеда, знакамітага Глеба Усяславіча Менскага, які памёр ў 1119 г. [11; 29].

Акрамя гэтага ўніверсальнага прынцыпа княжацкага радавога імянарачэння полацкія князі вельмі часта давалі імя сваім дзецям ў гонар агульна вядомых і адметных продкаў. Такімі продкамі з'ўляліся Рагвалод, Брачыслаў, Усяслаў, Глеб. Такім чынам ў полацкай дынастыі сярод самых распаўсюджаных

імёнаў былі наступныя: Усяслаў (6 князёў), Брачыслаў (5 князёў), Глеб (4 князя), Рагвалод (3 князя). Цікава, што імем "Усяслаў", полацкія князі Рагвалод Барысавіч, Васілька Святаславіч і Брачыслаў Святаславіч называюць сваіх сыноў, якія ўзгадваюцца ў 70- я – 80- я гг. ХІІ стст. Гэта трэцяе калена ад славутага Усяслава Брачыславіча. Паказальна, што у гэты час у Наўгародскім першым летапісе ўзгадваецца паведамленне пра магчымы паход наўгародцаў на Полацк 1180 г.: *"… и на весну сдума с мужи своими поиде на Полтеск, на зятя на своего на Всеслава,* ***ходил бо бяше дед его на Новгород*** *и взял ерусалим церковный и сосуды служебные и погост один завел за Полтеск* " [28, с. 608]. Наўгародскі летапісец больш чым праз сто гадоў узгадвае рабаванне Ноўгарада Усяславам у 1066 г., і ў гэтым сэнсе дадзеную падзею нeяк суадносіць з Усяславам Полацкім ХІІ стст. Таксама ў гэты ж перыяд (прыблізна 1186 г.) ствараецца знакаміты твор старажытнарускай літаратуры – "Слова пра паход Ігараў", у якім даволі значнае месца адводзіцца дзейнасці Усяслава Брачыславіча. Супастаўляючы прынцыпы надання імя ў полацкай галіне князёў з летапісным паведамленнем і стварэннем "Слова аб палку Ігараве", варта зрабіць выснову аб тым, што менавіта ў гэты час (80 – я гг. ХІІ ст.) у агульнай свядомасці адраджаецца памяць пра Усяслава Полацкага.

Акрамя традыцыі імянарачэння ў гонар памерлых продкаў, можна адзначыць прынцып вар'ірвання імёнаў. "Прынцып сугучнасці імёнаў, прадугледжваў усемагчымае камбінаванне і спалучэнне разам усіх генеалагічных адносін рода. Ёмкасць гэтага старажытнага прынцыпа была *звязана з канцэпцыяй адзінства рода* (вылучана мной – Ю.К.)" [12, с. 40]. Можна меркаваць, што скандынаўскае па паходжанню імя Рагвалод успрымалася ў ХІІ стст. як двухсастаўнае"[12, с.60]. Яго другая аснова магла супадаць па гучанню з асновай, якая ўваходзіла ў імя Уладар (сканд. Valad). У кантэксце разгляду полацкай дынастыі прасочваецца пэўная сувязь паміж імёнамі Уладар (Володарь) і Рагвалод (Рогволод), першы князь мог быць названы ў гонар родапачынальніка полацкай княжацкай дынастыі, і ў дадзеным выпадку відавочна вар'іраванне асновы імя ("волод") пры імянарачэнні.

Аналізуючы антрапанімічныя дадзеныя па полацкай дынастыі, варта адзначыць, што калектыўная памяць княжацкага роду перадавалася праз княжацкія імёны родапачынальніка дынастыі Рагвалода, а таксама знакавых асоб полацкай сярэднявечнай гісторыі – Брачыслава Ізяславіча і Усяслава Брачыславіча, пры якіх Полацкае княства дасягнула вяршыні сваёй магутнасці.

У сваю чаргу калектыўная памяць пра Ізяслава Уладзіміравіча ў полацкім іменаслове князёў не адлюстравалася. Акрамя ўласнага Ізяслава Уладзіміравіча, імя "Ізяслаў" у летапісных крыніцах сярод полацкіх князёў не сустракаецца. У "Слове пра паход Ігараў" ёсць эпізод, дзе ўзгадваецца нейкі Ізяслаў Васількавіч: "*единъ же Изяславъ, сынъ Васильковъ, позвони своими острыми мечи о шеломы литовьскыя, притрепа славу деду своему Всеславу…* " [30, с. 86]. Але даследчыкі не знаходзяць імені Ізяслава ў летапісах. У гэтай сувязі ўзнікла меркаванне, што ў "Слове" існуе нейкая памылка, так як побач з яго братам (па "Слову") Брачыславам узгаданы Усяслаў [31, с. 50]. Э.Т. Саронне прапанаваў гіпотэзу, згодна з якой Ізяслаў Васількавіч "Слова" і Усяслаў Васількавіч Полацкі – адна і тая ж асоба, названая ў "Слове" Ізяславам згодна з народнай этымалогіяй, паколькі ён "изъял" (пераняў) славу Усяслава Брачыславіча [32, с. 32]. Калі нават лічыць узгадку "Слова" як факт сапраўднага існавання полацкага князя Ізяслава Васількавіча, адзінае імя не можа сведчыць аб памяці і шанаванні Ізяслава Уладзіміравіча ў параўнанні, напрыклад, з Усяславам Брачыславічам. Такім чынам, калі не ўлічваць паведамлення "Слова", адсутнасць у іменаслове полацкіх князёў (ХІ – ХІІ стст.) імені "Ізяслаў" сведчыць аб тым, што т. зв. "родапачынальнік" полацкай княжацкай дынастыі ў калектыўнай памяці полацкага княжацкага роду такім не з'яўляўся.

Цікава, што ў ХІ ст. адзін з сыноў кіеўскага князя Яраслава Уладзіміравіча атрымаў імя Уладзімір у гонар родапачынальніка хрысціянскай дынастыі Рурыкавічаў – Уладзіміра Святаславіча, а наступны па старэйшынству сын (які пазней стаў кіеўскім князем), быў названы Ізяславам, магчыма ў гонар старэйшага брата Яраслава – полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча. Гэты крок верагодна можна тлумачыць знакам павагі і спачування да Ізяслава, які памёр раней за астатніх братоў, і яго нашчадкаў, якія не мелі права пратандаваць на кіеўскую вялікакняжацкую спадчыну. Калі ўлічваць поўную адсутнасць (акрамя малавядомага Ізяслава Васількавіча) у полацкім антрапаніміконе імя "Ізяслаў" і даволі частую наяўнасць гэтага імя ў дынастыі Яраславічаў, то можна казаць, што полацкія князі ХІІ стст. не адносілі Ізяслава Уладзіміравіча да свайго родавага кола. У сваю чаргу для паўднёварускіх Рурыкавічаў Ізяслаў з'яўляўся "сваім" князем, сынам Уладзіміра.

Паказальным з'яўляецца летапісная легенда аб Уладзіміры і Рагнедзе 1128 г. Супрацьстаянне дзвюх дынастый абумоўлена помстай Рагнеды, дзе актыўная роля адводзіцца Ізяславу, але ў далейшым яго нашчадкі названы не "Ізяславічамі", а "Рагвалодавымі ўнукамі" [11, с. 301]. Таксама варта адзначыць, што ні ў адной пісьмовай крыніцы ў дачыненні да полацкіх князёў не ўжыта назва "Ізяславічы".

Прадстаўнікі полацкай княжацкай дынастыі ўзгаданы як "Усяславічы" (1106, 1128 гг.), "Рагвалодавы ўнукі" (1128 г.) [11, с. 107, 206 – 207], "Полацкія князі" (1130, 1173 гг.), "Крывіцкія князі" (1140, 1162 гг.) [29, с. 204, 388; 211, 357]. У "Слове пра паход Ігараў" полацкія князі названы ўнукамі Усяслава: "*вси внуци Всеслави*" [30, с. 88]. У кантэксце паведамленняў "Слова" пра гісторыю ўзаемаадносін паміж Кіевам і Полацкам, полацкі княжацкі род супрацьпастаўляецца Яраславічам: "*Ярославли вси внуце и Всеславли! Уже понизите стязи свои, вонзите свои мечи вережени.*" [30, с. 88]. Менавіта Усяслаў, а не Ізяслаў выступае агульным продкам для полацкіх князёў, і ўспрыняцце полацкай дынастыі, як нашчадкаў Усяслава характарызуе асабістае стаўленне да гэтага князя, як з боку летапісцаў і аўтара "Слова", так і з боку саміх полацкіх князёў.

Падсумоўваючы асноўныя вынікі, варта адзначыць, што ў разуменні сярэднявечнага грамадства, княжацкі род не існуе, як чарга князёў пэўнай дынастыі, якія змяняюць на галоўным стале ўсёй зямлі адзін аднаго. Княжацкі род існуе ў сваёй цэласнасці. Вельмі значным у гэтай сувязі з'яўляюцца летапісныя ўзгадкі нашчадкаў Рагвалода, як "полацкіх князёў" без дакладнай персаніфікацыі. Пра вылучанасць нашчадкаў Рагвалода з агульнай дынастыі Рурыкавічаў сведчаць радавыя імёны полацкіх князёў, якія мелі адрозненне ад астататніх галін гэтага роду. У калектыўных уяўленнях княжацкага кола, імя дадзенае князю пры нараджэнні – гэта ўвасабленне ў асобе нашчадка вобраза і духа продкаў. Сярод радавых імёнаў полацкай дынастыі найбольш распаўсюджанымі былі імёны Усяслаў, Брачыслаў, Рагвалод, Глеб, пры амаль поўнай адсутнасці імя "Ізяслаў". У гэтай сувязі варта казаць пра характар улады Ізяслава Уладзіміравіча ў Полацку ў якасці намесніка Уладзіміра.

Падпарадкаванне Ізяслава Кіеву і выкананне волі Уладзіміра Святаславіча абумовіла непрыняцце яго ў калектыўнае радавое кола полацкага княжацкага дому. Ізяслаў такім чынам успрымаўся ў агульнай старажытнарускай традыцыі ў першую чаргу, як сын Уладзіміра, а не ўнук Рагвалода. Для сучаснікаў XI – XII стст. Ізяслаў – гэта Рурыкавіч, які волею лёса памёр раней за бацьку, што абумовіла вылучанасць яго нашчадкаў з калектыўнага ўладання Рускай зямлёй. Так за Рагвалодавічамі замацавалася манапольнае права на ўладу ў Полацкім княстве. Пасля смерці Ізяслава ў 1001 г. улада над Полаччынай перайшла не да наступнага Уладзіміравага сына, а да аднаго з сыноў Ізяслава. Гэта быў альбо малавядомы Усяслаў, смерць якога летапіс згадвае пад 1003 г. [11, с. 121], альбо Брачыслаў, які кіраваў з 1003 па 1044 гг. Падзея мірнага пераходу ўлады да сыноў Ізяслава адзначыла выхад Полацка з-пад улады Кіева і вяртанне ягонай незалежнасці. Пра роўны статус уладароў Полацка і Кіева сведчыць пагадненне паміж кіеўскім князем Яраславам і полацкім Брачыславам 1021 г. [11, с. 132]. Менавіта з часоў Брачыслава пачынаецца развіццё Полацкай зямлі, як самастойнага дзяржаўнага ўтварэння, якое было замацавана актыўнай знешнепалітычнай дзейнасцю яго сына Усяслава.

ЛІТАРАТУРА

1. Толочко, О.П. Русь: Держава і образ держави / О.П. Толочко. – Інститут історії НАН України. – Київ, 1994. – 37 с.

2. Пузанов, В.В. Государство и общество Древней Руси глазами современников (XI – начало XII века) / В.В. Пузанов // Историко – антропологические очерки. – Ижевск: Удмуртский университет, 2012. – 240 с.

3. Загарульскі, Э.М. Заходняя Русь: IX – XIII стст. / Э.М. Загарульскі. – Вучэб. дапам. – Мінск:Універсітэцкае, 1998. – 240 с.

4. Штыхов, Г.В. Древний Полоцк (IX – XIII вв) / Г.В. Штыхов. – Мінск: "Наука и техника", 1975. – 136 с. с ил.

5. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полац. і новагарод. Перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Маст. літ., 2001. – 366 с.: іл.

6. Тарасаў, С.В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С.В. Тарасаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 67 с.: іл.

7. Гісторыя Беларусі : У 6 т. Т. 1 Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / Рэдкал: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. – Мінск: Экаперспектыва, 2000 – 351 с.; іл.

8. Заяц, Ю. Менская зямля: этапы фарміравання / Ю.Заяц //БГЧ. – №4. – Мінск, 1993. – С. 8 – 15.

9. Алексеев Л.В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: в 2 кн. / Л.В. Алексеев. – Ин.-т археологии РАН. – М.: Наука, 2006. Кн. 2. – 2006. – 289 с.

10. Загорульский, Э.М. Генеалогия полоцких Изяславичей / Э.М. Загорульский. – Мінск: ВУЗ – ЮНИТИ, 1994. – 30 с.

11. Полное собрание русских летописей: Т. 1 Лаврентьевская летопись. – Ленинград: Изд-во Академии наук СССР, 1926 – 1928 . – 379 с.

12. Литвина, А.Ф., Успенский, Ф.Б. Выбор имени русских князей в X – XVI вв. Династическая история сквозь призму антропонимики / А.Ф. Литвина. – М.: Индрик, 2006. – 904 с.

13. Кежа, Ю.М. Скандынаўскія паралелі летапіснай легенды аб Уладзіміры і Рагнедзе / Ю.М. Кежа // Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі: «Полацк у гісторыі і культуры Еўропы», Полацк, 22 – 23 мая 2012. – Мінск: Беларуская навука, 2012. – С. 79 – 94.

14. Самонова, М.Н. Скандинавы на белорусских землях в IX – X вв.: к постановке проблемы / М.Н. Самонова // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. – Вып. 3. – Минск: РИВШ, 2010. – С. 16 – 29.

15. Рыбаков, Б.А. Мир истории. Начальные века русской истории. / Б.А. Рыбаков. – 2-е изд. – М.: Мол. Гвардия, 1987. – 351 с., ил.

16. Текстология Древней Руси. Т. 2. Древнерусские литературные произведения о Борисе и Глебе / сост. Ю.А. Артамонов. – М., 2007.

17. Дук, Д.В., Коц, А.Л. Новые археологические исследования на территории Заполоцкого посада древнего Полоцка / Д.В. Дук // Stratum – № 5. – 2013. – С. 83 – 90.

18. Белецкий, С.В. Подвески с изображением древнерусских княжеских знаков / С.В. Белецкий // Ладога и Глеб Лебедев. Восьмые чтения памяти Анны Мачинской. – С.-Петербург. – С. 243 – 319.

19. Русь в IX–XI веках : археологическая панорама / Ин-т археологии РАН; отв. ред. Н.А. Макаров. – М.; Вологда: Древности Севера, 2012. – 496 с. : ил.

20. Белецкий, С.В. Ещё раз о «знаках Рюриковичей» и древнейшей русской геральдике / С.В. Белецкий // Восточная Европа в древности и средневековье. Политические институты и верховная власть. XIX чтения памяти члена – корреспондента АН СССР В.Т. Пашуто, Москва, 16 – 18 апреля 2007 г. – М.: Ин-т всеобщей истории РАН. – С. 15 – 20.

21. Янин, В.Л. Актовые печати Древней Руси X – XV вв. / В.Л. Янин. – М.: Наука, 1970. – 327 с.

22. Калечыц, І.Л. Эпіграфіка Беларусі X – XIV стст. / І.Л. Калечыц. – Мінск: Беларус. Навука, 2011. – 271 с.

23. Мельникова, Е.А. Скандинавские рунические надписи: Новые находки и интерпритации. Тексты, перевод, комментарий / Е.А. Мельникова. – М.: Вост. лит. РАН, 2001. – 496 с.

24. Полное собрание русских летописей: Т. 13 Летописный сборник именуемый Патриаршей или Никоновской летописью. – СПб.: Типография И.Н. Скороходова, 1904. – 308 с.

25. Турилов, А.А. Образ правителя в летописных “некрологах” XI – XIII вв. / А.А. Турилов // Анфологион. Славяне и их соседи. Власть, общество, культура в славянском мире в Средние века. К 70- летию Бориса Николаевича Флори. Выпуск 12. – М.: Индрик, 2008. – 416 с., ил.

26. Кежа, Ю.М. Полацкая княжацкая дынастыя ў старажытнарускіх летапісных крыніцах / Ю.М. Кежа // Актуальные проблемы социально-гуманитарных наук: сб. науч. ст. Междунар. научн.-практ. конф., посвящ. 100-летию МГУ им. А.А. Кулешова. 18 – 19 апреля 2013 г. – С. 80 – 82.

27. Новікаў, Я.У. Ваенная гісторыя беларускіх земляў (да канца XII ст.). Том. 2 / Я.У. Новікаў. – Мінск: Логвінаў, 2008. – 300 с.

28. Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. – М.: Изд-во Акад. наук СССР, 1950. – 576 с., ил.

29. Полное собрание русских летописей: Т. 2: Ипатьевская летопись. – СПб.: Типография М.А. Александрова, 1908. – 638 с.

30. Слово о полку Игореве / Вступит. ст., ред. текста, досл., и объяснит. перевод с древнерус., примеч., Д.С. Лихачёва. – 8-е изд. – М.: Дет. лит, 1979. – 221 с., ил.

31. Комлев, А.П. «Слово о полку Игореве». Заментки об исторических временах и лирических пространствах / А.П. Комлев, К.К. Белокуров // «Слово о полку Игореве». – Свердловск, 1985. – С. 207 – 210.

32. Саронне, Э.Т. Кто такой Изяслав Василькович «Слова о полку Игореве» / Э.Т. Саронне // Книга и литература в культурном контексте. – Новосибирск, 2003. – С. 75 – 79.

**УДК 94:341.223.14(476)**

## ОТНОШЕНИЕ ГОРОЖАН ПОЛОЦКА К «НОВОМУ ПОРЯДКУ» В УСЛОВИЯХ УСТАНОВЛЕНИЯ НАЦИСТСКОЙ ОККУПАЦИИ (1941 г.) В ВОСПОМИНАНИЯХ ЕГО ЖИТЕЛЕЙ

***канд. ист. наук, доц. А.И. КОРСАК***
**Полоцкий государственный университет, Новополоцк**

*Начало Великой Отечественной войны для мирного населения Беларуси было полной неожиданностью несмотря на упорно ходившие слухи о возможном вторжении Германии на территорию Советского Союза. В данной статье мы остановимся только на некоторых аспектах отношения местного населения к «новому порядку» нацистов – началу военных действий и появлению вермахта и оккупационных властей в городе (лето 1941 г.), положению военнопленных, уничтожению еврейского населения г. Полоцка и отношению к религии.*

Теме отношения населения Беларуси к «новому порядку» в условиях нацистской оккупации в белорусской историографии на данном этапе ее развития посвящено небольшое количество исследований в отличие от западной, в частности, немецкой исторической науки. Если и есть публикации, то в основном они касаются в территориальном плане либо г. Минска, либо всей Беларуси.

В связи с этим исследование повседневности горожан провинциального города на примере Полоцка в 1941 – 1944 гг. представляется нам актуальным. Тем более, что отдельные работы по данной теме отсутствуют.

Для анализа событий периода оккупации гитлеровцами г. Полоцка были взяты неопубликованные послевоенные воспоминания участников подпольных организаций, а также очевидцев тех событий – жителей, не имевших отношения ни к подполью, ни к партизанскому движению, ни к коллаборации.

Описывая события 1941 – 1944 гг., исследователи опираются в основном на свидетельства «жертв» нацистского режима, соответственно несколько искажается восприятие повседневности в условиях военного времени. На наш взгляд, только в сравнении материала можно восстановить максимально реальную картину. Поэтому в статье использованы воспоминания одного из сотрудников коллаборационистского самоуправления г. Полоцка П. Ильинского [6], который не был связан с подпольем или партизанским движением и имел антикоммунистические настроения. Нельзя также сказать, что он был приверженцем и национал-социалистических идей. После войны возглавлял Русскую гимназию в Мюнхене, открытую 10 октября 1945 г. при благотворительной организации «Милосердный самарянин» [14].

Важно знать, что г. Полоцк в годы нацистской оккупации находился фактически на стыке нескольких зон: в административно-территориальном плане с сентября 1941 г. был в зоне тыла группы армий «Центр» под управлением М. фон Шенкендорфа и являлся пограничным с гражданской администрацией Генерального округа «Беларусь», а с 1942 г. на юге и севере были образованы Полоцко-Лепельская и Россонско-Освейская партизанские зоны. Соответственно, данное расположение имело влияние на настроение и положение полочан.

Полоцк был оккупирован по официальным данным 16 июля 1941 г. Согласно воспоминаниям самих горожан (в частности, участников военных действий в защите города в июне – июле 1941 г.), власть нацистов была установлена уже 15 июля 1941 г. [9, 15, 13].

Анализируя воспоминания очевидцев тех событий, практически все фиксируют наиболее запоминающийся момент – начало Великой Отечественной войны. По воспоминаниям Ф. Шупени (воспитательницы детского дома № 1 г. Полоцка): «21 июня, как сейчас помню, в детдоме был банный день. Все были полны радости, задора и веселья… На утро каждый по своим делам разошлись. Это было 22 июня. Я ушла в кассу рассчитаться за мытье детей. И вот здесь по радио объявили, что на Советский Союз напала Германия. Это было очень и очень трудно передать, какое волнение было среди народа» [3, Л. 56].

«….приехал воспитатель, очень расстроенный, и сказал, что война с Германией, все взрослые были очень расстроены. Лично я не понимала, почему так испугались войны, ведь была война с Финляндией и нам в детдоме все равно было хорошо жить, только немного меньше белых булок давали, – то же самое событие глазами ребенка, воспитанницы детского дома № 2 г. М. Прямовой. – Только тогда я поняла, что такое война, когда стали бомбить наш город, когда мы, дети, увидели убитых и раненных. Все из города куда-то спешили, уезжали, грузились на поезда, только про нас, детей, забыли. Про все детдома, которые находились в г. Полоцке» [2, Л. 88 – 90].

В работе И. Дейниса «Полоцкая даўніна», который еще в первые дни войны не был эвакуирован со многими жителями города в тыл и события июня 1941 г. происходили на его глазах, довольно точно подмечено настроение жителей в первые дни войны: «В воскресенье 22 июня 1941 г. стояла чудная погода и ничего не предвещало какой-либо опасности. Были открыты магазины, масса народа устремилась на базар, на улицах было оживленно. Вдруг часов в 11 обычная передача по радио прервана и стали передавать выступление Наркома иностранных дел Молотова о вероломном нападении Германии, о бомбежках наших городов, о боях на границе. У городских репродукторов собрались толпы народа, все были поражены этим сообщением, кто скорее отправился домой, кто стал обсуждать создавшееся положение. Многие говорили, что война будет короткой, 3 – 4 месяца, мы быстро разобьем врага, дальше укрепленной полосы его не пустят. Некоторые паникеры бросились в сберкассу выбирать деньги. Там создалась очередь, другие бросились в магазины покупать хлеб и другие продукты, особенно соль. Военнообязанные стали собираться в Армию» [4].

«На второй день тревожно, люди копают блиндажи, – по воспоминаниям Т. Владысенко. – На третий день самолеты бомбят уже городки в Боровухе. На станции Бобровка разрушен вокзал, убит рабочий. Это была первая смерть, которую я видела»[2].

---

[2] Записано от Т.Ф. Владысенко, 1932 г.р., г. Полоцк.

Таким образом, для населения города было неожиданностью, перемешанной с чувством паники, не столько нападение вермахта на территорию Беларуси, сколько неподготовленность как самих горожан, так и учреждений к началу военных действий (не было планов эвакуации мирного населения, детских домов, за исключением некоторых инструкций по выводу из эксплуатации основных предприятий города). Особенно усилилось чувство страха и паники с налетом первых немецких бомбардировщиков, соответственно, с первыми раненными и убитыми. «…город горел. Чтобы пройти по улице и не обжечься, приходилось выбирать место, куда бы стать ногой. То с одной стороны, то с другой стороны падали обгоревшие столбы с проводами. Лай собак, всевозможный визг скота» [3, Л. 56 – 58].

Тем не менее, бдительности население не теряло. Известно, что нацисты активно использовали диверсантов в достижении своей цели – «блицкрига». Так, одна из жен командиров «задержала диверсанта в форме милиционера, когда последний зашел в магазин и стал в очередь за покупкой продуктов. Обычно милиционеры в обычных магазинах не покупали продукты, т.к. в милиции был свой закрытый магазин. Это показалось женщине подозрительным, а когда она посмотрела на материал гимнастерки, то сразу увидела, что это не наш материал и не та ткань. Она вышла и позвала военный патруль. Патруль обезоружил милиционера и доставил в особый отдел, где быстро установили, что это действительно диверсант» [4, Л. 174].

После ухода регулярных частей вермахта в городе была установлена военная администрация во главе с управляющим района Шефером («среднего роста темноволосый офицер средних лет») [9, Л. 7], о чем свидетельствуют различные распоряжения за его подписью [10]. Из числа учреждений самоуправления были созданы и районная, и городская управы. Исходя из анализа воспоминаний, очевидцы событий не совсем разграничивали между собой эти две структуры, соответственно одна и та же фамилия имела по разным данным отношение то к районной, то к городской управе. Ясность в этом вопросе помогают внести архивные документы. Так, первым главой районной управы был назначен некто Кичко (до декабря 1941 г.) [4, Л. 185; 9, Л. 7], вторым – Петровский (декабрь 1941 г. – 16 марта 1942 г.) [11], последним – Бушунов (с 16 марта 1942 г. – по 1944 г.) [12]. Что касается управляющих городской управы, то здесь дело обстоит немного хуже. Фактически архивных документов не сохранилось, а по свидетельствам очевидцев бургомистром г. Полоцка был некто Михайлов. Термин его руководства и деятельность городской управы на данный момент установить не представляется возможным и требует отдельного исследования.

«Начальником полиции (городской – авт.) немцы назначили только что вернувшегося из тюрьмы, еще совсем молодого (думаю, ему было 22 – 23 года) Альберта Обуховича, – по воспоминаниям И. Маниса. – Враг не ошибся в своем выборе – Обухович ненавидел Советский Союз. Он стал надежным псом у фашистов. Это был злой и опасный пес. В полицию вступили разные отбросы из числа бывших уголовников, бывших кулацких сынков и хулиганов» [9, Л. 8]. Во главе районной полиции был поставлен Медведев. Согласно дошедшим до нас архивным документам, практически на протяжении всего периода нацистской оккупации Полоцка на этих двух должностях начальство не менялось. Останавливаться отдельно на каждой из должностей в учреждениях самоуправления в данной статье мы не будем.

Параллельно процессу установления системы органов военного управления и самоуправления в Полоцке шла регистрация горожан и выдача новых документов. Согласно свидетельствованию Доморацкого: «В начале августа 1941 г. я как-то очутился на улице Фрунзе в районе Мясокомбината. В это время полицейские и немцы сгоняли народ для регистрации. Регистрация производилась на улице. За столом сидел и вел регистрацию бывший мой учитель Сафронович (в Районной управе возглавлял отдел народного образования – авт.)» [5, Л. 125]. «Тех, у кого не было документов, могли забрать при первой проверке на улице» [9, Л. 7].

С установление оккупационных органов власти и с проведением в жизнь первых приказов настроение у горожан изменилось – «было подавленным, царила растерянность, угнетенность. Люди боялись доверять друг другу. Каждый ставит перед собой вопрос относительно другого: кто ты? С кем ты? Все расслоилось. Большинство молчало, ушло в себя. Замкнулось. Абсолютное большинство считало: «это ненадолго», «наши скоро прогонят немцев назад». Но были и такие, кто по разным причинам был недоволен советской властью» [9, Л. 7]. Следует отметить, что все вышеперечисленные вопросы ставили перед собой в основном оказавшиеся в условиях оккупации бывшие военные, целью которых являлась организация подпольной работы либо поиск выхода на партизан. Поэтому понятна подозрительность ко всем, т.к. немцы активно использовали так называемых «провокаторов» для выявления враждебных нацистскому режиму.

Что касается обычных жителей, особенно женщин с детьми на руках, оставшихся без мужей, то для них главным было решение экономических задач (как и чем накормить свою семью). «Вместе с братьями

всегда ждали маму. Она работала на кухне в больнице». – Вспоминает М. Пухова. – «Каждый вечер она давала нам немного маргарина и повидла. Это были настоящие лакомства, т.к. в основном семья питалась супом из свеклы и кашей из тыквы»[3]. Для данной категории населения, главным было – выжить и сохранить жизнь своим детям. Они, как правило, не принимали активного участие в сопротивлении.

После событий о начале Великой Отечественной войны важным моментом в воспоминаниях очевидцев является отношение немцев к военнопленным и еврейскому населению города.

В Полоцке и его пригородах было несколько типов концентрационных лагерей: транзитные, или пересыльные, лагеря (дулаги) № 125 в Полоцке и № 155 в Боровухе; стационарные лагеря – лагеря для рядового и сержантского состава (шталаги) № 354 в Полоцке и в Боровухе-1, 2, 3 [8, с. 15].

Так как вышеперечисленные концентрационные лагеря находились на тот момент в пригороде и особенно тщательно охранялись, то фактически доступа к ним у местного населения не было. Несмотря на то, что режим в концлагерях был ориентирован на медленную голодную смерть, некоторые заключенные имели возможность работать, в т.ч. и на железной дороге. Соответственно, питание, если можно так сказать, было несколько лучшим, чем в границах концлагеря.

Что касается раненных и больных военнопленных, то они направлялись в так называемый «оздоровительный лагерь» – здания Народной («Красной») больницы. Их положение было удручающим. «Вот здесь я увидел не оздоровительный лагерь, а лагерь смерти». – Отмечает в своих воспоминаниях Н. Ванюшин. – «Люди гибли здесь сотнями ежедневно. Каждый день привозили из лагерей военнопленных (из Боровухи) по нескольку автомашин пленных, опухших от голода и тут же они умирали. Людьми и трупами были завалены все коридоры. Трупы лежали здесь по несколько дней» [1, Л. 2 – 3].

Работники больницы, а также местное население, старались всеми возможными способами облегчить участь раненных и больных военнопленных. «Через посещающих женщин и посетителей к ним я знала хорошо все то, что творили оккупанты. Благодаря такой моей работе я могла хорошо знать настроения и мысли выздоравливающих военнопленных, беседовать с ними и искать пути их освобождения» [7, Л. 100].

Вторым моментом, изменившим первоначальное отношение местного населения к немцам, было проведение реализации «окончательного решения» еврейского вопроса на территориях бывшего Советского Союза. П. Ильинский, анализируя ход событий периода оккупации города в своих воспоминаниях, говорит о том, что «крайне тягостным для всех впечатлением была непостижимая в своей жестокости и бессмысленности массовая расправа с евреями. Фронтовые части не проявили к евреям ни особого интереса, ни заметной враждебности… И вдруг, недели две или три спустя после этого, как гром из ясного неба, появился приказ о создании гетто! И этот приказ, и все дальнейшее, что за ним последовало, вызвало волну глубочайшего негодования и открытого протеста абсолютно во всех слоях населения… каждый думал, что если немцы могли поступать так с евреями, то им ничего не помешает при случае поступить также и со всеми другими» [6, с. 50]. Практически все имеющиеся в нашем распоряжении материалы подтверждают данный факт – многие просто констатируют его, но не всегда дают ему оценку.

В воспоминаниях горожан уделено внимание и отношению немецкой власти к религии. Известно, что при советском правительстве запрещалась деятельность церкви независимо от конфессиональной принадлежности последней. Многие храмы были переданы под магазины, клубы, кинотеатры и т.д. «Как ни странно, с приходом немцев открылись все уцелевшие церкви в нашем городе. При входе стояли немцы с бляхами на груди, с автоматами наперевес и приглашали заходить со словами «бите, фрау». Мы, конечно, заходили, рассматривали иконы и кресты на стенах. Моя мама, как человек верующий, никогда не запрещала эти походы в церковь»[4]. Таким образом, немецко-фашистские оккупационные власти пытались сыграть на религиозных чувствах верующих горожан и тем самым максимально лояльно настроить население по отношению к себе.

Повседневная жизнь в условиях военного времени, и не только, является многофакторным образованием. С одной стороны, действия оккупационных структур, направленные на «улучшение» жизни горожан, с другой – отношение к военнопленным и евреям, что непосредственно влияло на взаимоотношения местного населения к «новому порядку».

ЛИТЕРАТУРА

1. Воспоминания Ванюшина Н.П. // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 11. – Д. 40. – Л. 1 – 14.
2. Воспоминания Прямовой М.И. // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 11. – Д. 40. – Л. 88 – 94 об.

[3] Записано Е. Богданович от М.В. Пуховой в 2010 г.
[4] Записано В. Сальниковым от Е.М. Сальниковой 1930 г.р. в 2010 г.

3. Воспоминания Шупени (Лобановой) Феноиды Филипповны // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 11. – Д. 40. – Л. 55 – 72.

4. Дейнис, И.П. Полоцк в XX веке (1905 – 1067 гг.) / И.П. Дейнис // Нац. Полоцк. ист.-культур. музей-заповедник. – КП – S 2774.

5. Доморацкий. 1967 г. // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 11. – Д. 41. – Л. 125 – 126.

6. Ильинский, П.Д. Три года под немецкой оккупацией в Белоруссии / П.Д. Ильинский // Под немцами. Воспоминания, свидетельства, документы: ист.-док. сб. / сост. К.М. Александров. – СПб.: Скрипториум, 2011. – С. 49 – 139.

7. Крупина, И. Воспоминания от 14 апреля 1967 г. // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 11. – Д. 41. – С. 100 – 101.

8. Лагеря советских военнопленных в Беларуси – Lager sowjetischer Kriegsgefangener in Belarus, 1941 – 1944: справочник / авт.-сост. В.И. Адамушко [и др.]; редкол. В.И. Адамушко (гл. ред.) [и др.]. – Минск: НАРБ, 2004. – С. 15.

9. Манис, И. О себе и о товарищах по совместной борьбе с гитлеровскими оккупантами в первый год войны / И. Манис // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 25. – Д. 2.

10. Приказы, распоряжения, отношения и др. ВИ-КО Витебск и руководителя уездной управы // Гос. архив Витебск. обл. – Ф. 2825. – Оп. 1. – Д. 1.

11. Приказы, распоряжения и указания Полоцкой райуправы // Гос. архив Витебск. обл. – Ф. 2823. – Оп. 1. – Д. 1.

12. Приказы, распоряжения и указания Полоцкой райуправы // Гос. архив Витебск. обл. – Ф. 2823. – Оп. 1. – Д. 2.

13. Рукопись воспоминаний Попова Селивестра Гавриловича // Личный архив автора.

14. Русская гимназия в Мюнхене в 1940-х гг. – Режим доступа: http://www.dorogadomoj.com/dr652sam.html.

15. Шенделев В.К. // ЗГА в г. Полоцке. – Ф. 1164. – Оп. 11. – Д. 41. – Л. 118.

**УДК 352.075.2**

## КАНФЕСІЙНЫ СКЛАД ПОЛАЦКАГА МАГІСТРАТА Ў XVII – XVIII стст.

***канд. гіст. навук М.М. МАКАРАЎ***
**Навукова-тэхналагічны парк БНТУ "Палітэхнік", Мінск**

*У артыкуле разглядаецца канфесійны склад органаў месцкага самакіравання Полацка ў XVII – XVIII стст. У 1633 г. праваслаўныя палачане былі пазбаўлены магчымасці займаць пасады месцкіхураднікаў і да канца чэрвеня 1654 г. у магістраце засядалі толькі каталікі і уніяты. Вяртанне праваслаўных ураднікаў у склад магістрата адбылося паміж 1707 і 1709 гг.*

У эпоху Сярэднявечча і ранняга Новага Часу ўдзел прадстаўніцтва той ці іншай канфесійнай групы насельніцтва ў складзе органаў улады быў важным паказчыкам таго, якое месца гэта група займае ў жыцці грамадства ці яго пэўнай структурнай адзінкі. Таму, для гісторыі Паўночнай Беларусі, дзе ў азначаную эпоху мела месца супрацьстаянне розных хрысціянскіх цэркваў, вывучэнне складу органаў улад, што функцыянавалі на гэтай тэрыторыі, мае дастаткова актуальны характар. Паспрабуем прасачыць, якім быў канфесійны склад органаў месцкага самакіравання Полацка ў XVII – XVIII стст.

Згодна з пастановамі прывілеяў на магдэбургскае права 1498 і 1509 гг. полацкі магістрат з самага пачатку будаваўся на прынцыпах канфесійнага дуалізма пры роўным удзеле асоб каталіцкага і праваслаўнага веравызнанняў [11. Т. 2. С. 156 – 157; 11. Т. 3. С. 60]. У пацвярджальным прывілеі Стафана Баторыя 1580 г. пытанне суадносінаў "рымскай" і "рускай" ("грэчаскай") частак полацкага магістрата не закранаецца, што дазваляе меркаваць пра захаванне ўладамі Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XVI – пачатку XVII стст. ранейшых падыходаў да гэтага пытання [8, спр. 63, арк. 279 адв. – 280].

Аднак, на практыцы пасля 1580 г., у сувязі з увядзеннем у выбарнасці вышэйшых ураднікаў магістрата, сітуацыя ў пераважна праваслаўным Полацку магла значна адрозніваца ад стандарта, зацверджанага прававымі актамі. Неабходна адзначыць, што ў канцы XVI – пачатку XVII стст. Выбары "рымскай" і "рускай" частак полацкага магістрата ажыццяўляліся не па-асобку – пры выключным ўдзеле прадстаўнікоў адпаведнай канфесіі, а сумесна – пры ўдзеле ўсёй масы мяшчан. Карыстаючыся гэтай сістэмай, праваслаўная большасць наўмысна абірала ў склад магістрата няпоўную колькасць самых няздольных каталікоў, чым эфектыўна паралізавала дзейнасць каталіцкага лоббі. 5 лютага 1611 г. перад судом Жыгімонта Вазы полацкія каталікі абвінавацілі праваслаўных ураднікаў і мяшчан у тым, што яны "pluralitate głosow ... miasto catolikow inszego nabozenstwa ludzi obieraią, a iesli kiedy catolika albo kilku mianuią, tedy to tylko pro forma czynią i, godnieiszych omiaiąc, tych, kturzy nie są sposobni na urzędy mianuią, aby przy niesposobnych catolikach i niezupełney liczbie ich sami wszytkim władneli i rządzili". Каталікі прасілі караля, каб ён дазволіў ім абіраць "рымскую" палову магістрата без удзела праваслаўных, "gdyz inszych głosow zawsze więcey będzie", і каб "koho catolicy sposrzodku siebie zgodnie mianować y obierać będą, aby ci byli na urzędy przekładani" [8, спр. 292, арк. 261 – 262 адв.]. Сваім дэкрэтам Жыгімонт Ваза

фармальна задаволіў просьбу "рымскай" меншасці насельніцтва Полацка. Аднак, пазнейшыя матэрыялы не даюць ніякіх падстаў сцвярджаць пра тое, што каралеўскае рашэнне было рэалізавана на практыцы.

Пасля заключэння ў 1596 г. Брэсцкай царкоўнай уніі да двух ранейшых канфесій дадалася трэцяя. Аднак, у першыя дзесяцігоддзі існавання ўніяцкай царквы заўважнай колькасці яе прыхільнікаў у Полацку не было, і магістрат працягваў заставацца каталіцка-праваслаўным. Сітуацыя з распаўсюджваннем уніяцтва на землях Беларускага Падзвіння пачала мяняцца толькі ў трэцім дзесяцігоддзі XVII ст. У складзе полацкага магістрата уніяты сталі пераважаць над праваслаўнымі толькі пасля забойства 12 лістапада 1623 г. у суседнім Віцебску полацкага уніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча [12, С. 351].

11 сакавіка 1633 г. Уладзіслаў Ваза сваім прывілеем пацвердзіў прынцып парытэтнага прадстаўніцтва каталікоў і "русінаў" у магістраце Полацка. Аднак, пад тэрмінам "русіны" ў згаданым дакуменце разумеліся ўжо выключна уніяты [8, спр. 106, арк. 174 адв. – 175]. Такім чынам, пасля 1633 г. праваслаўныя палачане былі афіцыйна пазбаўлены магчымасці займаць пасады месцкіх ураднікаў, а тыя з іх, хто не змяніў веравызнання, па ўсёй верагоднасці, мусілі выйсці са складу магістрата. Напрыклад, актыўны прыхільнік праваслаўя Філіп Сяменавіч Касабуцкі ў дакуменце 1650 г. згадваецца як чалавек, што ў мінулым з'яўляўся лаўнікам [1, С. 114]. Хутчэй за ўсё, Касабуцкі пакінуў ратушу не па сваёй волі. Па ўсёй верагоднасці, пасля 1633 г. праваслаўным святаром стаў былы полацкі бурмістр Мяленцій Гедройц. У жніўні 1643 г. апошні кіраваў акцыяй групы мяшчан, у якой удзельнічаў таксама Філіп Касабуцкі, па апаганьванні і знішчэнні абразоў св. Казіміра і св. Іасафата, прымацаваных да сцяны полацкай Лознай брамы [8, спр. 292, арк. 261 – 262 адв.; 3, С. 353]. З вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што з 1633 г. да канца чэрвеня 1654 г. у полацкім магістраце засядалі толькі каталікі і уніяты.

У чэрвені 1654 г. Полацк быў захоплены войскамі Маскоўскай дзяржавы, і большая частка мясцовых бурмістраў, райцаў і лаўнікаў збегла на захад Вялікага Княства Літоўскага. У складзе амаль цалкам абноўленага і лаяльнага да адміністрацыі цара Аляксея Міхайлавіча магістрата засталося ўсяго некалькі даваенных ураднікаў, якія, згодна з логікай развіцця падзей, мусілі перайсці ў праваслаўе. Значную частку "новых людзей" полацкага магістрата склалі ідэйныя праціўнікі царкоўнай уніі. Напрыклад, у хуткім часе пасля 1654 г. бурмістрам стаў згаданы вышэй былы лаўнік Філіп Сяменавіч Касабуцкі [2, С. 552, 595, 694]. Вельмі імклівую кар'еру пры царскай адміністрацыі зрабіў таксама мешчанін Фёдар Аляксеевіч Саткоўскі [9, спр. 1, арк. 532 адв.], які ў 1646 г. публічна казаў, што "есть дьябельская и шатанская вера униатская и не отъ Бога, але отъ дьябла" [3, С. 379]. Па ўсёй верагоднасці, полацкі магістрат "маскоўскага" перыяда цалкам складаўся з праваслаўных.

У 1667 г., пасля вяртання места ў склад Рэчы Паспалітай, на пасадах бурмістраў, райцаў і лаўнікаў ізноў апынуліся выключна каталікі і уніяты. У склад адноўленага магістрата ўвайшла толькі нязначная частка асоб, што ўдзельнічалі ў працы месцкіх улад у 1654 – 1662 гг. Сваім лістом ад 17 красавіка 1668 г. кароль Ян Казімір загадаў полацкаму ваяводзе і войту Яну Каролю Копацю сачыць за тым, "iakoby nigdy żadney inney religii osoby, krom rzymskiey katholickiey y graeckiey z kosciołem swiętym rzymskim zjednoczoney, ad magistratum na burmistrzowstwa, radziectwa, ławnictwa y inne mnieysze urzęda szafarstwa y gminskie nie bywały obierane" [6, С. 259].

Многія ўраднікі "маскоўскага" часу пасля 1667 г. не змянілі веравызнання і працягвалі жыць у Полацку, але не займалі ніякіх афіцыйных пасад. Можна сказаць, што яны з'яўляліся нефармальнымі лідэрамі згрупаванай вакол брацтва пры Богаяўленскай царкве праваслаўнай абшчыны места, што была часова пазбаўлена магчымасці дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у склад магістрата. Калі пасля 1680 г. пад ціскам "нізоў" у Полацку быў адноўлены такі орган месцкіх улад, як "мужы гмінныя" (прадстаўніцтва мяшчан, што кантралявала фінансавую дзейнасць магістрата), у яго склад увайшло ажно 4 асобы, што з'яўляліся месцкімі ўраднікамі пры царскай адміністрацыі: былыя райцы Астап Васілевіч і Іван Маркавіч, былы лаўнік Стафан Курылавіч Людзкевіч, былы "муж гмінны" Іван Курылавіч Людзкевіч [2, С. 546 – 547, 549, 594, 624, 678; 4, С. 330; 10, спр. 4, арк. 20, 29 адв., 126 адв.; 10, спр. 5, арк. 148 адв., 268].

Усяго ў дакументах полацкага магістрата за 1681 – 1684 гг. выяўлены згадкі пра 18 "мужоў гмінных", з якіх 9, несумненна, належылі да праваслаўнай канфесіі. У запісе ад 16 верасня 1682 г. пра выкананне прысягі Ларыонам Хралоўскім указваецца, што ён "mieysce swoie w gminie połockim z religii graeckiey w nieunii będącey zasiadł" [10, спр. 4, арк. 187]. Па ўсей верагоднасці, праваслаўныя атрымалі вызначаную квоту месцаў гэтай установы. Праз прадстаўніцтва ў складзе "мужоў гмінных" праваслаўная абшчына Полацка атрымала магчымасць, па меншай меры, кантраляваць фінансавую дзейнасць каталіцка-уніяцкага магістрата.

Вяртанне праваслаўных на пасады бурмістраў, райцаў і лаўнікаў адбылося ў гады Паўночнай вайны (1700 – 1721 гг.) у святле захаваных крыніц час пачатку гэтага працэса можна вызначыць дастаткова дакладна. У кнігах полацкага магістрата за 1704 – 1706 гг., асобы, пра якіх можна дакладна сказаць, што яны з'яўляліся праваслаўнымі (Аляксандр Вароніч, Абрам Снітка, Аляксандр Цыбульскі), выступаюць толькі ў якасці "мужоў гмінных" [9, спр. 2, арк. 56; 9, спр. 3, арк. 25; 9, спр. 4, арк. 1]. А ўжо ў магістрацкіх дакументах за 1709 г. згадваюцца наступныя ўраднікі праваслаўнага веравызнання: бурмістр Ян Сцебут, райца Абрам Снітка, лаўнікі Міхал Алавяшка, Аляксандр Вароніч, Грыгорый Дам'янавіч, Стафан Харкевіч [9, спр. 5, арк. 5, 5 адв., 7, 18, 23, 44, 77 адв., 91, 99, 104 адв., 107, 110 адв.]. Відавочна, што яны ўвайшлі ў склад месцкіх улад паміж 1707 і 1709 гг.

Характэрнай з'явай ва ўнутраным жыцці Полацка першай чвэрці XVIII ст. стала масавае перасяленне мяшчан, галоўным чынам, каталіцкага і уніяцкага веравызнанняў, у Бешанковічы, Друю і іншыя месты Вялікага Княства Літоўскага [5, С. 356 – 357]. Разам з часткай мяшчан з Полацка выехала таксама значная колькасць ураднікаў магістрата. Напрыклад, у трэцім дзесяцігоддзі XVIII ст. у Бешанковічах пражывалі былыя полацкія лаўнікі Ян Тадэвуш Аляксандравіч і Стафан Аляксандравіч (абодва, верагодна, каталікі), а таксама райца Грыгорый Пчолка [7, С. 54, 108; 9, спр. 14, арк. 89]. 5 снежня 1725 г. магістрат публічна прызнаў, што ў Полацку "mało mamy katholikow z rzymskiey strony, a z graeckiey unitow", а мяшчане ў адказ на гэта прасілі, каб "rusinom pozwolili urżędow" [5, С. 355]. 16 лістапада 1726 г. полацкі ваявода і войт Станіслаў Дэнгаф зацвердзіў праваслаўнага Аляксандра Міхалавіча Сцебута на пасадзе бурмістра з наступнай фармуліроўкай: "w niedostatku unitow" [7, С. 52 – 53].

З гэтага часу і да 1772 г. адна палова месцаў у полацкім магістраце была заўсёды занята каталікамі і уніятамі, а другая – праваслаўнымі. Напрыклад, з 6 ураднікаў I сесіі, што выконвала свае абавязкі ў 1727 г., да праваслаўнай канфесіі належылі бурмістр Аляксандр Міхалавіч Сцебут, райца Аляксандр Вароніч і лаўнік Стафан Абрамавіч Снітка [7, С. 49]. З 6 асоб гадавога складу магістрата за 1741 г. праваслаўнымі з'яўляліся бурмістр Міхал Алавяшка, райца Базыль Дам'янавіч і (з вельмі вялікай доляй верагоднасці) лаўнік Захарыяш Камковіч [9, спр. 26, арк. 45, 95, 101]. Да таго ж, згаданы Міхал Алавяшка пасля чэрвеня 1742 г. некалькі гадоў заставаўся адзіным полацкім бурмістрам.

У 1761 г. беларускі праваслаўны епіскап Георгій Каніскі ў сваёй скарзе ў Сінод пісаў: "В Полоцке по особливым королевским давным привилегиям доселе в магистрате чиновные люди состояли одна половина из римлян и униатов, а другая из благочестивых: ныне же они под клятвою приказали своим, дабы наших от сего времени к чинам магистратским не допущать» [4, С. 372]. Цяжка сказаць, ці мелі яго словы пад сабой нейкія рэальныя падставы. Аднак, сесія ўраднікаў магістрата наступнага 1762 г., як звычайна, складалася на палову з праваслаўных (гэта – бурмістр Дзяметрый Пшчолка, райца Міхал Снітка, лаўнік Ян Міронавіч) [9, спр. 39, арк. 1а].

Такім чынам, у канцы XVI – пачатку XVII ст. полацкі магістрат тэарэтычна павінен быў складацца з роўных па колькасці каталіцкай і праваслаўнай частак, але на практыцы ўплыў апошняй на справы места мог быць значна большым. У 1633 г. праваслаўныя палачане былі пазбаўлены магчымасці займаць пасады месцкіх ураднікаў і да канца чэрвеня 1654 г. у магістраце засядалі толькі каталікі і уніяты. У 1654 – 1667 гг. месцкія ўлады Полацка, па ўсёй верагоднасці, цалкам складаліся з праваслаўных. З 1667 г. і да пачатку XVIII ст. на пасадах бурмістраў, райцаў і лаўнікаў знаходзіліся выключна каталікі і уніяты, а праваслаўныя (прыблізна з 1681 г.) мелі прадстаўніцтва ў складзе "мужоў гмінных". Вяртанне праваслаўных ураднікаў у склад магістрата адбылося паміж 1707 і 1709 гг. Пазней у Полацку пастановы каралеўскіх прывілеяў і лістоў, што не дазвалялі праваслаўным прымаць удзел у працы месцкіх улад не выконваліся. Мясцовая праваслаўная абшчына не ператварылася ў маргінальную групу і да 1772 г. мела значнае прадстаўніцтва ў складзе полацкага магістрата.

ЛІТАРАТУРА

1. Актавая кніга полацкага магістрата 1650 г.: зб. дак. / склаў і падрыхт. да друку М.Ю. Гардзееў. – Мінск, 2006.
2. Акты книги полоцкого магистрата за 1656 – 1657 гг. / составил М.Ю. Гордеев, подготовил к печати А.Б. Довнар. – Полоцк. Минск, 2012. С. 545 – 700.
3. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. – Вильна, 1867. – Т. 1
4. Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов. – Минск, 1960. – Т. 2.
5. Витебская старина / А.П. Сапунов. – Витебск, 1888. – Т. 5. Ч. 1.
6. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Витебск, 1871 – 1906. Вып. 1 – 32.
7. Кніга магістрата места Полацка 1727 г. = Ksiega ***magistratu*** miasta Polocka ***1727*** г. / падрыхт. А.М. Латушкін, М.Дз. Макараў. Вільня – Беласток, 2012.

8. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. КМФ-18 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага), воп. 1, спр. 63, 106, 292.

9. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1823 (Полацкі магістрат), воп. 1, спр. 1, 2, 3, 4, 5, 14, 26, 39.

10. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1823 (Полацкі магістрат), воп. 2, спр. 4, 5.

11. Полоцкие грамоты XIII – XVI вв. / Изд. А.Л. Хорошкевич. Т. 1 – 5. Москва, 1977 – 1985.

12. Родэвальд Ш. Пра ўшанаванне Язафата Кунцэвіча ў XVII ст. // Беларускі гістарычны агляд. 2009. Т. 16. Сш. 2 (31). С. 351.

**УДК 94(438)**

## РОД БУЙНІЦКІХ У ПОЛАЦКІМ ВАЯВОДСТВЕ Ў ПАНАВАННЕ АЎГУСТА III

***канд. гіст. навук А.У. МАЦУК***
**Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Мінск**

*Буйніцкія, гербу Лебедзь, пакінулі значны ўнёсак у гісторыю Полаччыны і ўсёй Беларусі. У першую чаргу ўспамінаецца славуты заснавальнік беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі. Узвышэнне рода Буйніцкіх на Полаччыне адбываецца ў XVIII ст. У пачатку панавання Аўгуста III у Полацкім ваяводстве родам Буйніцкіх кіравалі сыны полацкага мечніка Юзафа Буйніцкага (памёр у 1709 г.) і Тэрэзы з Корсакаў Галубіцкіх: полацкі падчашы і полацкі гродскі сурагатар Антоні Цыпрыян Буйніцкі і полацкі скарбнік Казімір Буйніцкі.*

Антоні Цыпрыян Буйніцкі 14 сакавіка 1713 г. атрымаў прывілей на ўрад полацкага падчашага, які і займаў да самай смерці. Быў звязаны з полацкім ваяводай Станіславам Дэнгофам і дапамагаў яго выбару полацкім ваяводам. Таксама служыў харужым у харугве Станіслава Дэнгофа [1, арк. 445]. Пасля смерці полацкага ваяводы Станіслава Дэнгофа 4 мая 1729 г. атрымаў прывілей на ўрад полацкага гродскага сурагатара. Сам прывілей прадставіў мясцовай шляхце на полацкім грамнічным сойміку 6 лютага 1733 г., а актыкаваны ў полацкім каптуровым суддзе ён быў 24 ліпеня 1733 г. [2, арк. 20-21адв]. Антоні Буйніцкі быў жанаты на браслаўскай падчашанцы Тэафіле з Жэромскіх. Антоні Буйніцкі быў забіты ў верасні 1737 г. дома ў Дудах сынам Францішкам (тэстамент актыкаваны 15 верасня 1737 г.). За гэта Францішак разам з 3 памагатымі згодна рашэння Трыбунала ВКЛ быў “забілі строгай смерцю, распаленымі кляшчамі цела рвалі на 4 вуглах ратушы” [3, p. 12]. Акрамя Францішка Антоні меў 4 сыноў: Яна, Пятра, Іяхіма і Юзафа і 3 дачок: Антаніну (замужам за полацкім стражніковічам Юзафам Корсакам Бабыніцкім), Разалію (замужам за полацкім падсудковічам Янам Сялявай) і Ганну. Казімір Буйніцкі 17 снежня 1720 г. атрымаў прывілей на ўрад полацкага скарбніка. Казімір Буйніцкі быў жанаты на Кацярыне з Канінскіх. Памёр у 1754 г. У Казіміра былі трое сыноў: Аляксандр, Юзаф і Ксаверы і 2 дачкі: Элеанора (замужам за Якубам Канопкай) і Брыгіта (замужам за Бенедыктам Кубліцкім). З наступнага пакалення Буйніцкіх найбольшую вядомасць дасягнуў сын Антонія Буйніцкага Ян, які 23 кастрыніка 1752 г. пасля Францішка Зяновіча атрымаў прывілей на ўрад полацкага стольніка і займаў яго да сваёй адмовы ў 1772 г. Акрамя таго, Буйніцкія дзякуючы шлюбу Разаліі з Буйніцкіх і полацкага падсудковіча Яна Сялявы мелі падтрымку і ўплывовага ў Полацкім ваяводстве полацкага падсудка Іясафата Антонія Сялявы. Таксама дзякуючы таму, што Элеанора з Буйніцкіх была замужам за ясмонскім старостай Янам Антоніям Агінскім, Буйніцкія мелі падтрымку і ўплывовага роду Агінскіх (браслаўскай галіны) у Полацкім ваяводстве. Меў ўплыву ў Полацкім ваяводстве і дваюрадны брат Антонія і Казіміра, сын іх дзядзькі Казіміра, полацкі мечнік Ануфры Буйніцкі (сын Казіміра).

Для лепшага разумення становішча рода Буйніцкіх у пачатку панавання Аўгуста III неабходна вярнуцца на некалькі год назад, у панаванне Аўгуста II і бескаралеўе 1733 – 1735 гг. Па-першае, з канца панавання Аўгуста II Антоні і Казімір Буйніцкія знаходзіліся ў канфлікце з сваім пляменнікам Юзафам Корсакам Залескім. Бацька Юзафа Корсака Залескага полацкі харужыц, чарніцкі і крашуцкі староста Януш (Ян) у 1718 г. (незадоўга да пасольскага сойміка) застрэліў сваю спячую жонку Марыяну з Буйніцкіх, сястру Антонія і Казіміра Буйніцкіх. Полацкая шляхта на сваім сойміку 1718 г. падрабязна разгледзіла гэтае забойства. Было вырашана прасіць канцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла і падканцлера ВКЛ Казіміра Чартарыйскага не пазбаўляць непаўнагадовых дзяцей Януша Корсака Залескага крашуцкага і чарніцкага староства, бо ён не мае земскіх уладанняў. Гэтыя ўладанні Януш Корсак Залескі памяняў з полацкім стольнікам Янам Пакашам на свае земскія ўладанні Губін і Камень і спадзяваўся атрымаць на гэтыя староства каралеўскі кансэнс на іх перадачу сваім дзецям. Таму, каб яго

дзеці не патрапілі ў “вечнае ўбоства і жабрацтва” полацкія паслы мелі прасіць ператварыць гэтыя староствы ў земскія ўладанні дзяцей Януша Корсака Залескага [4, арк. 23; 15, арк. 384; 6, к. 1-2]. Сам Януш Корсак Залескі, каб пазбегнуць пакарання стаў бернардзінам, а староствы па ім, як публічным крыміналісце, атрымаў мечнік ВКЛ Мікалай Фаўстын Радзівіл. Праўда, ён нядоўга трымаў гэтыя староствы, бо перадаў іх братам забітай Марыяны з Буйніцкіх: Казіміру – чарніцкае, а Антонію – крашуцкае. Гэта і стала падставай канфлікта Буйніцкіх з старэйшым сынам Януша Корсака Залескага Юзафам.

Ускладняла сітуацыю для Буйніцкіх тое, што на вядучых ролях у Полацкім ваяводстве знаходзіліся крэўныя Юзафа Корсака Залескага, а менавіта дваюрадныя браты (сыны полацкага харужага Яна Казіміра Корсака Залескага): Антоні Ян, Бенедыкт, Ян і Томаш. Узвышэнне гэтай галіны Корсакаў Залескіх было звязана са старэйшым з іх, на пачатак панавання Аўгуста III полацкім падстоліям Антоніям Янам Корсакам Залескім.

Да гэтага канфлікта з Юзафам Корсакам Залескім за Крашуты і Чарніцу далучыўся канфлікт з усёй групоўкай Корсакаў у грамадска-палітычным жыцці Полацкага ваяводства. Пасля полацкага перадэлекцыйнага сойміка 1733 г. браты полацкі ротмістр Ігнат і старадубскі земскі пісар Базыль Корсакі Бабыніцкія і полацкі вайсковіч Пётр Корсак Удзельскі напалі на полацкага гродскага сурагатара і полацкага падчашага Антонія і полацкага скарбніка Казіміра Буйніцкіх. У выніку пачаўшайся бойкі Буйніцкім прыйшлося уцякаць. Дапамагло Буйніцкім выратавацца тое, што за іх заступіліся полацкія гродскія пісарэвічы Геранім і Пётр Корсакі Удзельскія [2, арк. 282 – 334адв, 1334 – 1337адв]. У далейшым Буйніцкія падтрымалі кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага, а іх сапернікі выказаліся ў падтрымку Аўгуста III. Перамогу пры падтрымцы расійскіх войск атрымаў Аўгуст III і яго прыхільнікі [7, с.122 – 135, 185 – 186]. Полацкі мечнік Казімір Буйніцкі першым з рода прысягнуў Аўгусту III ужо на сойміку 2 снежня 1734 г. Іншы лідар рода Буйніцкіх полацкі гродскі сурагатар і полацкі падчашы Антоній прысягнуў Аўгусту III толькі на наступным, перадсоймавым, сойміку 27 чэрвеня 1735 г. 22 ліпеня 1735 г. дашло да згоды паміж братамі Антоніям і Казімірам Буйніцкімі ў справе падзелу спадчыны іх памёршага брата Францішка. Казімір Буйніцкі зракаўся сваіх прэтэнзій да часткі Малых Галубіч і Губіна, а таксама быў гатовы адмовіцца і ад прэтэнзій на ўладанне Нача Бутвілоўшчына, спадчыне па брату Францішка. За гэта Антоні Буйніцкі меў выплаціць 1400 талераў бітых. У выпадку, калі не выплаціў гэтыя грошы да дня Святога Міхала (30 верасня), то Нача Бутвілоўшчына даставалася Казіміру Буйніцкаму, а Антоні меў яшчэ выплаціць 100 талераў бітых [8, арк. 510 – 510адв].

Прызнанне Аўгуста III не прыпыніла канфлікту Буйніцкіх з магутнай групоўкай Корсакаў. Буйніцкія здолелі супрацьстаяць Корсакам, бо атрымалі падтрымку іншых уплывовых родаў Полацкага ваяводства на чале з чашнікам ВКЛ Юзафам Шчытом, полацкім земскім суддзёй Траянам Гласко, полацкім падсудкам Іясафатам Антоніем Сялявай, полацкім стольнікам Юзафам Пакашам, полацкім земскім пісарам Базылём Рыпіньскім, лінаўскім старостай Юзафам Падбіпентай, рэчыцкім стольнікам Траянам Ласоўскім, ладаснянскім старостай Янам Шчытом, полацкім земскім судзічам Юзафам Пжысецкім, полацкім будаўнічым Эліяшам Гласкай, полацкім будаўнічым Францішкам Рыпіньскім і полацкім гараднічацам Адамам Шчытом. Супраць выступала групоўка Корсакаў на чале з полацкім кашталянам Валяр’янам Жабай, полацкім войскім Сымонам Корсакам Удзельскім, яго сынамі Янам і Пятром, полацкім гараднічым і старадубскім гродскім пісарам Базылём Корсакам Бабыніцкім, полацкімі харужыцамі Фабіянам і Траянам Корсакам Бабыніцкімі, полацкім лоўчыцам Траянам Корсакам Удзельскім, Юзафам Корсакам Залескім, Андрэем і Матэвушам Сакалоўскімі і Ігнатам Слепцем. Галоўнымі вінаватымі называліся Корсакі, якія нападалі на соймікі, суддзяў і ўраднікаў, білі, сяклі і калечылі шляхту, захоплівалі маёнткі, шляхецкія двары і мястэчкі. У распачаўшайся судовай справе ўспаміналася віна Корсакаў у нападзенні на каптуровы суд Полацкага ваяводства ў ліпені 1733 г., а таксама, што пад час яго ледзьве не былі забіты Антоні і Казімір Буйніцкія, якія і былі галоўнай мэтай атакі Корсакаў. Потым Фабіян і Траян Корсакі Бабыніцкія, Сымон, Ян і Пётр Корсакі Удзельскія падгаварылі пляменіка Буйніцкіх Юзафа Корсака Залескага, каб ён на чале нанятых расійскіх жаўнераў (якія знаходзіліся ў Полацкім ваяводстве) напаў на маёнткі, якія трымалі Буйніцкія згодна каралеўскім прывілеям: 20 лістапала 1735 г. Крашуты (належылі Антонію Буйніцкаму) і 8 красавіка 1736 г. Чарніцу (належылі Казіміру Буйніцкаму). Такім чынам, Корсакі Бабыніцкія і Корсакі Удзельскія называліся ініцыятарамі гвалтоўных нападаў Юзафа Корсака Залескага. Буйніцкія налічылі па 3000 злотых (згодна падлікам Казіміра Буйніцкага падчас нападзення на Чарніцу 7000 злотых [8, арк. 714 – 715адв]) шкодаў кожнаму ад гэтых захопаў Юзафа Корсака Залескага [9, p. 624 – 625v]. Магчымай абвастрэння сітуацыі сталі заявы Казіміра Буйніцкага (5 лютага 1736 г.) аб тым, што гэта яго брат Антоні забіў Ксаверыя Корсака Залескага, брата Юзафа [10, арк. 279 – 280]. Моцна пацярпела полацкая шляхта ад дзеянняў

полацкага гараднічага і старадубскага гродскага пісара Базыля Корсака Бабыніцкага. Нягледзячы на тое, што Базыль Корсак Бабыніцкі быў пад шматлікімі дэкрэтамі, ён быў абраны полацкім паслом на сойм 1735 г., дзе 15 лістапада 1735 г. атрымаў для сябе прывілей на уклеінскае войтаўства, якое знаходзілася ў Полацкай эканоміі і павінна быць у трыманні полацкага ваяводы. Толькі ўмяшальніцтва падскарбія ВКЛ Ян Салагуба перашкодзіла Базылю Корсаку Бабыніцкаму заняць уклеінскае войтаўства. Акрамя таго, Базыль Корсак Бабыніцкі стаў харужым гусарскай харугвы, якая дыслацыравалася як раз у Полацку. З жаўнерамі гэтай харугвы Базыль Корсак Бабыніцкі 9 лютага 1736 г. напаў на полацкі соймік, якія праходзіў пад дырэкцыяй полацкага падсудка Іясафата Антонія Сялявы. Базыль Корсак Бабыніцкі імкнуўся разагнаць шляхту на чале з полацкім гродскім сурагатарам і полацкім падчашым Антоніям Буйніцкім і полацкім мастаўнічым Томашам Гласкай. Толькі ўмяшальніцтва полацкага будаўнічага Францішка Рыпіньскага са сваімі прыхільнікамі выратавала соймік. Полацкі кашталян Валяр'ян Жаба на чале войскаў верных Аўгусту ІІІ 20 лютага 1735 г. і 20 студзеня 1736 г. і разам з расійскімі войскамі двойчы нападаў на Полацк і вымушаў выплочваць падаткі на войска, нягледзячы, што раней шляхта і полацкі кагал выплацілі гэтыя грошы атраду Тадэвуша Агінскага, які быў на баку Станіслава Ляшчынскага. Пад час другога нападзення на Полацк згарэла некалькі жыдоўскіх дамоў і ўсе шкоды ад атрада Жабы ў гэты год склалі 30000 злотых. У выніку Жаба з Корсакамі і рэйтарамі прыбыў на полацкі грамнічны соймік 10 лютага 1737 г. Пагражалі шляхце, а полацкія харужыцы Фабіян і Траян Корсакі Бабыніцкія і Юзаф Корсак Залескі (згодна іншым звесткам замест Юзафа Корсака Залескага удзельнікамі былі полацкі войскі Ян Корсак Удзельскі і старадубскі стольнік Пётр Корсак Удзельскі) пасяклі шляхціцаў Юзафа Лісоўскага і Стэфана Вырпшу. Тады ж Юзаф Корсак Залескі публічна пагражаў забіць Буйніцкіх [5, арк. 195-108; 9, p. 626-627v; 11, p. 5-5v]. На гэтым полацкім грамнічным сойміку з пратэстамі пад дырэкцыяй чашніка ВКЛ Юзафа Шчыта былі абраны дудзкі старосціч Ян Буйніцкі і полацкі гараднічыц Адам Шчыт. Юзаф Шчыт прасіў падтрымкі для дэпутатаў у Міхала Казіміра Радзівіла [12, k. 7-8]. Слугі Юзафа Шчыта нават пераняглі полацкіх харужычаў Фабіяна і Траяна Корсакаў Бабыніцкіх калі яны вярталіся з сойміку ў сваё ўладанне Дзярновічы. Слугі Шчыта пагражалі іх забіць і ледзьве ўдалося пазбегнуць разліцця крыві [13, арк. 205-206]. Зразумела, што ў сітуацыі канфлікту сярод полацкай шляхты на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ полацкі соймік быў прызнаны за сарваны.

Прычынай падтрымкі Траянам і Фабіянам Корсакамі Бабыніцкімі напэўна была дамова з красавіка 1735 г. Юзафа Корсака Залескага з іх памёршым бацькам полацкім харужым Аляксандрам Канстанцінам Корсакам Бабыніцкім. Згодна гэтай дамовы за 2000 злотых Юзаф Корсак Залескі прадаваў сваё ўладанне Маркоўшчына (Сяляўшчына), якое раней належыла да Дзярновіч і Сакалішча, уласнасці як раз Корсакаў Бабыніцкіх. Іншая справа, што Юзаф Корсак Залескі ня меў нават дакументаў на Маркоўшчыну (Сяляўшчыну), якія засталіся ў апекуноў – Буйніцкіх. Менавіта таму Юзаф Корсак Залескі перадаваў Аляксандру Корсаку Бабыніцкаму і свае правы атрымаць гэтыя дакументы [14, p. 5-6].

Буйніцкія прадпрынялі ўдалыя крокі, каб разбіць адзінства групоўкі Корсакаў. Для гэтага дачка Антонія Буйніцкага Антаніна выйшла 30 сакавіка 1734 г. замуж за полацкага стражніковіча Юзафа Корсака Бабыніцкага. Буйніцкія выплацілі 2000 злотых пасагу, а Юзаф Корсак Бабыніцкі разам з жонкай зракліся сваіх правоў да спадчыных маёнткаў: Вялікіх і Малых Галубічаў, Валшчызны [8, арк. 501-504адв, 505-505адв, 506-508, 515-516; 10, арк. 23-26адв]. Умацавалі Буйніцкія сваі пазіцыі і дзякуючы таму, што сястра Антонія і Казіміра Буйніцкіх Элеанора выйшла замуж за ўплывовага вайпунскага старосту Міхала Сяліцкага. Буйніцкія дзеля такой выгоднай партыі пайшлі на выплату значнага пасагу ў 5000 талераў бітых (адзін талер біты лічылі па 8 злотых). У адказ Міхал Сяліцкі 23 красавіка 1736 г. запісаў гэтую сумму ў 5000 талераў бітых жонцы на сваім уладанні Чарневічы [15, p. 503-504v]. Гэтыя шлюбы ўмацавалі пазіцыю Буйніцкіх сярод мясцовых шляхецкіх родаў і аслабілі групоўку іх сапернікаў Корсакаў. Гэта дало падставы Казіміру Буйніцкаму распачаць у полацкім сурагатарскім суддзе справу супраць уплывовых полацкіх харужыцаў Фабіяна, Траяна і Андрэя Корсакаў Бабыніцкіх за тое, што тыя далі зброю і людзей Юзафу Корсаку Залескаму для нападзення на Чарніцы. Фабіян, Траян і Андрэй Корсакі Бабыніцкія дзе бачылі Казіміра Буйніцкага, то абзывалі яго і крыўдзілі. Больш таго, захапілі і "тыранізавалі" генерала Полацкага ваяводства, які перадаў ім 7 ліпеня 1736 г. у Дзярновічах позву ў справе з Казімірам Буйніцкім [8, арк. 655-655адв, 718-718адв, 927-928адв, 1133-1133адв]. Можна меркаваць, што такім чынам яны выконвалі ранейшую дамову свайго бацькі з Юзафам Корсакам Залескім. Гэты канфлікт аказаў уплыў на выбары на полацкім пасольскім сойміку 1736 г. Аднаму з абраных паслоў старадубскаму падстаросце Пятру Корсаку Удзельскаму прыйшлося нават даваць ассекурацыйны ліст Казіміру Буйніцкаму, што пад час свайго побыту на сойме ў Варшаве не будзе падтрымліваць справы ў асэсарскім судзе Юзафа Корсака Залескага аб чарніцкім старостве [8, арк. 509-509адв].

Казімір Буйніцкі сцвярджаў, што атрымаў Чарніцы згодна зацверджанаму кансэснсу каралём Аўгустам II гэтай дзяржавы 4 сакавіка 1719 г. ад навагрaдскага ваяводы Мікалая Фаўстына Радзівіла. Казімір Буйніцкі звярнуўся па абарону сваіх правой адначасова ў полацкія сурагатарскі і земскі суды. У звароце ў полацкі сурагатарскі суд Казімір Буйніцкі сцвярджаў, што 8 красавіка 1736 г. Юзаф Залескі з узброеннымі людзьмі напаў на Чарніцу. Казімір Буйніцкі, каб пазбегнуць канфлікту, спакойна выехаў з Чарніцы перад нападзеннем. Буйніцкі размясціўся ў Сіроціне ў свайго саседа віцебскага стражніка Пятра Грабніцкага і хацеў разам з ім і Людвікам Рыпіньскім паехаць да Чарніцы, правесці перамовы. Юзаф Корсак Залескі, калі даведаўся, што Буйніцкі ў Пятра Грабніцкага, то напаў на гэты маёнтак. Яго мэтай было забіць полацкага скарбніка. Аднак, не знайшоў Грабніцкага і Буйніцкага дома, бо тыя былі на набажэнстве ў сіроцінскай царкве. Пасля іх вяртання да дому Юзаф Корсак Залескі пабачыў, што не мае дастаткова сіл, каб рэалізаваць свой план забойства Буйніцкага і быў вымушаны з’ехаць у Чарніцу. Буйніцкі налічыў шкодаў ад гэтага нападзення на Чарніцы Юзафа Корсака Залескага на 7000 злотых [8, арк. 714-715адв].

Юзаф Корсак Залескі 17 кастрычніка 1736 г. у сваёй пратэстацыі ў полацкім земскім суддзе аспрэчваў правы Буйніцкіх на Крашуты і Чарніцы. Па яго меркаванні Буйніцкія сталі яго апекунамі насуперак праву замест родзічаў полацкіх харужыцаў Антонія і Бенедыкта Корсакаў Залескіх. Скарыстаўшыся з свайго апекунства занялі ўсе ўладанні Юзафа Корсака Залескага і забралі ўсю рухомую маёмасць. Юзаф Корсак Залескі налічыў шкодаў ад заняцця Казімірам Буйніцкім Чарніц на 60000 злотых. Увогуле апекуны дзейнічалі супраць інтарэсаў Юзафа Корсака Залескага і ўжо памёршага яго брата Ксаверыя [10, арк. 282-282адв].

Напэўна сам Юзаф Корсак Залескі лічыў, што ён мае мала шанцаў выйграць судовую справу і таму спрабаваў пазбегнуць разгляду справы з Казімірам Буйніцкім у полацкім земскім суддзе. Падставай, па яго словах, было тое, што гэта справа мела разглядацца на Трыбунале ВКЛ і ўжо ўпісана ў рэестры. Менавіта таму яна не мела быць разглядана ў двух судах адначасова. У пацвярджэнне прыводзіў позву на Трыбунал ВКЛ падпісаную шляхціцам Францкевічам. Праўда Казіміру Буйніцкаму удалося даказаць, што Францкевіч не быў трыбунальскім рэгентам і не мог падпісваць трыбунальскіх дакументаў. Яшчэ Юзаф Корсак Залескі, як доказ разгляда справы ў Трыбунале ВКЛ, прыводзіў свае справы супраць генерала Полацкага ваяводства Фабіяна Ізмайловіча. Згодна ім 28 мая 1736 г. Юзаф Корсак Залескі моцна пабіў генерала Полацкага ваяводства Фабіяна Ізмайловіча пры выхадзе з касцёла дамініканаў, калі той хацеў перадаць яму позву ў Трыбунал ВКЛ у справе з Буйніцкім. Згодна дакументу, Юзаф Корсак Залескі і яго слугі забілібы Ізмайловіча, калі не ўмяшаліся іншыя прысутныя. Юзаф Корсак Залескі 6 жніўня 1736 г. спрабаваў аспрэчыць гэтыя абвінавачванні і сцвярджаў, што Ізмайловіч падманвае і не ўручыў яму позву і не быў пабіты. Па яго словах, Фабіян Ізмайловіч высоўваў такія абвінавачванні, бо быў падкуплены Казімірам Буйніцкім [8, арк. 656, 719-719адв, 1134-1134адв]. У выніку земскі суд не прызнаў гэтую справу Ізмайловіча за падставу таго, што Трыбунал ВКЛ мае разгледзіць справу Юзафа Корсака Залескага з Казімірам Буйніцкім. Не пацвердзілі існавання справы ў Трыбунале ВКЛ і спецыяльна праведзеныя пошукі па ініцыятыве полацкіх земскіх ураднікаў. У выніку згодна рашэнню полацкага земскага суда ад 12 студзеня 1737 г. Юзаф Корсак Залескі быў асуджаны на баніцыю і выплату 15000 злотых за прычыненыя шкоды. Юзаф Корсак Залескі спрабаваў аспрэчваць гэтае рашэнне і ўжо 15 студзеня 1737 г. актыкаваў у полацкім земскім суддзе актыкаваную ў полацкім сурагатарскім суддзе позву на Трыбунал ВКЛ у справе з Казімірам Буйніцкім, якую нібыты перадаў генерал Фабіян Ізмайловіч [10, арк. 1165-1166адв]. У выніку справа была накіравана на разгляд Трыбунала ВКЛ. Аднак, Юзаф Корсак Залескі не з’явіўся на разгляд справы і 20 верасня 1737 г. Трыбунал ВКЛ сваім дэкрэтам пацвердзіў ранейшае рашэнне полацкага земскага суда аб баніцыі і выплаце 15000 злотых Казіміру Буйніцкаму за прычыненныя шкоды і дадаткова прысудзіў яму 1000 злотых за траты пры разглядзе справы [8, арк. 993-993адв; 9, р. 1618-1623v; 10, арк. 281-281адв, 856-861адв].

Чакаючы некарыснага судовага рашэння Юзаф Корсак Залескі пастараўся атрымаць каралеўскі глейт, што паспяхова ўдалося 12 снежня 1736 г. Ужо 28 студзеня 1737 г. гэты глейт быў прыбіты на дзвярах трох полацкіх касцёлаў: іезуітаў, дамініканаў і Францішка Ксаверыя [10, арк. 366-367адв]. Сітуацыя для Буйніцкіх стала пагаршацца пасля таго, як Юзаф Корсак Залескі 11 красавіка 1737 г. атрымаў скрыпт ад навагрaдскага ваяводы Мікалая Фаўстына Радзівіла і яго жонкі Барбары з Завішаў. Гэты скрыпт ужо 15 мая 1737 г. быў занесены ў кнігі Галоўнага Трыбунала ВКЛ. Згодна гэтаму скрыпту Мікалай Фаўстын і Барбара Радзівілы пацвярджалі, што пасля атрымання ад Аўгуста II прывілеяў на Крашуты і Чарніцы да іх прыбылі Буйніцкія, якія сцвярджалі, што Януш Корсак Залескі, яшчэ да таго як стаў бернардзінам, памяняў гэтыя ўладанні у полацкага стольніка Яна Пакаша на свае земскія ўладанні і зараз нічога не застаецца ў спадчыну яго дзецям. Радзівілы абяцалі перадаць гэтыя ўладанні сынам Януша Корсака Залескага праз некалькі год, калі яны стануць паўнагадовымі. Аднак Буйніцкія прасілі

Радзівілаў перадаць ім гэтыя дзяржавы як апекунам непаўнагадовых дзяцей Януша Корсака Залескага, бо ім неабходны былі сродкі на іх выхаванне і адукацыю. Радзівілы былі вымушаны пагадзіцца, але з умовай, што калі сыны Януша Корсака Залескага стануць поўнагадовымі, то Буйніцкія маюць перадаць ім гэтыя ўладанні. Да таго ж Буйніцкія мелі выплаціць Радзівілам 300 талераў бітых за патрачаныя грошы ў каралеўскай канцылярыі [16, p.253-254v]. Палепшыла сітуацыю для Юзафа Корсака Залескага і смерць Антонія Буйніцкага. Юзаф Корсак скарыстаўся з гэтага і захапіў Крашуты. Дапамаглі яму ў гэтым людзі прысланыя інфлянцкім скарбнікам Янам Гізбертам. Юзаф Корсак Залескі абрабаваў Крашуты, а нарабаванае адвёз на захаванне да таго ж Гізберта [10, арк. 1056-1057адв].

Згодна тэстаменту Антонія Буйніцкага усе яго ўладанні мелі быць падзелены паміж 6 сынамі: Янам, Францішкам, Пятром, Іяхімам, Юзафам, Тадэвушам. Дачкі Разалія і Ганна мелі атрымаць у пасаг у 8000 злотых. Старэйшая дачка Антаніна з-за “нешанавання нас бацькоў” мела атрымаць пасаг толькі ў 2000 злотых. Апекунамі дзяцей Антонія Буйніцкага вызначаліся Міхал Казімір Радзівіл, Міхал і Аўгуст Чартарыйскія, смаленскі кашталян Юзаф Сцыпіён дэль Кампа, полацкі земскі суддзя Траян Гласко, браслаўскі канюшы Іясафат Гласко, полацкі страшнік Эліяш Міхал Гласко, полацкі мастаўнічы Томаш Гласко, полацкі гродскі пісарэвіч Пётр Корсак Удзельскі, вайпунскі староста Міхал Сяліцкі і полацкі мечнік Мікалай Спінэк. У выпадку калі ў брата Францішка не было дзяцей, то яго маёнтак Нача Бутвілоўшчына ў Полацкім ваяводстве і Губіна ў Ашмянскім павеце мелі дастацца спадчынікам брата Антонія Буйніцкага. Зразумела, што ў такім выпадку быў бы пакрыўджаны іншы брат Казімір. Тэстамент утрымліваў і іншыя пункты, якія павінны былі прывесці да канфлікта сыноў Антонія з дзядзькай Казімірам Буйніцкім. Так у тэстаменце Антоні Буйніцкі сцвярджаў, што і прывілей на Чарніцу быў падрыхтаваны для яго. Аднак, потым Антоній перарабіў яе на брата Казіміра, які за гэта толькі кампенсіраваў патрачаныя ў канцылярыі 200 талераў [1, арк. 440-454адв].

Смерць Антонія Буйніцкага прывяла да таго, што яго брат Казімір Буйніцкі вырашыў скончыць кампрамісам справу з Юзафам Корсакам Залескім. 30 снежня 1737 г. у Полацку была заключана дамова. Згодна яе абодва бакі адмаўляліся ад прэтэнзій адзін да аднаго. Чарніцкае староства заставалася ў Казіміра Буйніцкага, які не павінен быў патрабаваць кампенсацыі за нападзенне на гэта староства Юзафа Корсака Залескага, але той адмаўляўся ад сваіх прэтэнзій на ўладанне гэтага староства. Адначасова ў дамове Казімір Буйніцкі тытулаваў Юзафа Корсака Залескага крашуцкім старостам, хаця яно павінна было дастацца спадчынікам забітага брата Антонія [18, арк. 164-167адв]. 28 красавіка 1738 г. Казімір Буйніцкі ў полацкай магдэбургіі прадставіў 100 талераў бітых для Юзафа Корсака Залескага, але той не прыбыў за грашыма і ўвогуле не адазваўся [19, арк. 175-176адв]. Напэўна ён перадумаў ісці на кампраміс з Казімірам Буйніцкім.

З-за барацьбы паміж рознымі шляхецкімі групоўкамі быў сарваны полацкі грамнічны соймік 1738 г. На наступны дзень частка ўраднікаў прыватна сабралася і пад дырэкцыяй полацкага войскага Яна Корсака Удзельскага абралі паслоў Юзафа Корсака Залескага і полацкага стражніка Эліяша Міхала Гласко да караля па ўніверсал для правядзення элекцыйнага сойміка для выбара полацкага ваяводы. На чале пратэставаўшай шляхты былі полацкі ротмістр Ігнат Корсак Бабыніцкі, вайпунскі староста Міхал Сяліцкі. Увогуле пратэстацыю падпісала 76 шляхціцаў. Як недзіўна сярод іх не было ніводнага прадстаўніка рода Буйніцкіх, якія варагавалі з Юзафам Корсакам Залескім [7, с. 190; 20, арк. 373-374]. Аднак сітуацыя для Юзафа Корсака Залескага значна пагоршылася са стратай саюзнікаў Корсакаў Удзельскіх і Корсакаў Бабыніцкіх. Характэрным стала, што Юзаф Лісоўскі якога пасяклі пад час грамнічнага сойміка 1737 г. зняў усе абвінавачванні супраць полацкага войскага Яна, старадубскага стольніка Пятра і полацкага лоўчыца Тадэвуша Корсакаў Удзельскіх, а таксама Фабіяна і Траяна Корсакаў Бабыніцкіх. Аднак пакінуў іх супраць Юзафа Корсака Залескага [11, p. 5-5v]. Гэтая пратэстацыя перашкодзіла стала падставай прызнання выбараў паслоў да караля незаконнымі. У тым жа 1738 г. пасламі на сойм у Полацку пад дырэкцыяй вайпунскага старосты Міхала Сяліцкага былі абраны дудзскі староста Ян Буйніцкі і Геранім Корсак Удзельскі [21, p. 236, 2362-2363; 22, s. 224]. Супраць іх выбара была занесены пратэстацыі. Мясцовая шляхта на чале з полацкім земскім суддзёй Траянам Гласко сцвярджала, што полацкі войскі Ян Корсак Удзельскі, Пётр Корсак Удзельскі, чашнік ВКЛ Юзаф Шчыт і вайпунскі староста Міхал Сяліцкі на чале сваіх прыхільнікаў перашкаджалі распачаць пасяджэнні сойміка вышэйшаму мясцоваму ўрадніку полацкаму земскаму суддзе Траяну Гласко і не далі яму як камісару чыніць рэляцыю аб працы Правіцыйнай камісіі ВКЛ па павялічэнню войска. Потым, пагражаючы зброяй і незвяртаючы ўвагі на пратэстацыі, абралі дырэктарам Сяліцкага і паслоў на сойм Яна Буйніцкага і Гераніма Корсака Удзельскага, а таксама паслоў па ўніверсал да караля на элекцыйны соймік па выбару полацкага ваяводы полацкага гараднічага Базыля Корсака Бабыніцкага і полацкага абознага Яна Война. Пратэстацыя была падпісана 73 шляхціцамі на чале з інфлянцкім войскім Аляксандрам Гласко,

Феліцыянам Корсакам, полацкім земскім суддзёй Траянам Гласкай і крашуцкім старосцічам Юзафам Корсакам Залескім [7, с. 190-191; 21, p. 759-760v; 23, p. 2360-2361; 24, арk. 245-246адв]. Апошні асобна пратэставаў супраць чашніка ВКЛ Юзафа Шчыта, які пагражаючы пабіць Корсака прымушаў таго падпісаць пустую паперу (напэўна будучы крэдэнс паслам ці адмова ад пратэстацыі супраць іх выбара) [23, p. 2362-2363]. Як бачна ў 1738 г. адбылася пэўная перагрупіроўка сіл у Полацкім ваяводстве. Гласкі перайшлі на бок праціўнікаў Буйніцкіх, а да Буйніцкіх і іх саюзнікаў далучыліся Корсакі Удзельскія і Корсакі Бабыніцкія. Гэты саюз захаваўся і ў наступным годзе. Полацкі грамнічны соймік 1739 г. быў сарваны. Гаспадарчы соймік таксама быў сарваны пасля выбара дырэктарам полацкага земскага суддзі Траяна Гласкі. Ініцыятарам зрыва была частка мясцовай шляхты: Корсакі, крашуцкі староста Ян Буніцкі і вайпунскі староста Міхал Сяліцкі. Потым гэтыя ж шляхціцы сабраліся і абралі дырэктарам сойміка Марцэлія Байкоўскага і вызначылі паслоў да караля па ўніверсал на скліканне сойміка для выбара полацкага ваяводы Пятра Корсака Удзельскага і Міхала Сяліцкага [25, арк. 594-595адв]. Іх сапернікі нічога не маглі процівапаставіць перавазе аб'яднанай групоўкі: Корсакаў Удзельскіх, Шчытоў, Буйніцкіх і Міхала Сяліцкага. Перавагай гэтай кааліцыі стаў і полацкі грамнічны соймік 1740 г., дзе дэпутатамі сталі Канстанцін Юзаф Свалынскі і крашуцкі староста Ян Буйніцкі. У сітуацыі, калі Юзаф Корсак Залескі не меў ніякай падтрымкі іншых Корсакаў давала магчымасць Буйніцкім вырашыць на сваю карысць і справу Чарніцаў і Крашутаў. Ужо 23 снежня 1738 г. Аўгуст III зацвердзіў перадачу Тэафілай з Жэромскіх Буйніцкай крашуцкага староства сыну Яну і яго жонцы Ганне з Бараноўскіх [26, арк. 212]. Тадыж 23 снежня 1738 г. Аўгуст III зацвердзіў і перадачу чарніцкага староства ад Казіміра Буйніцкага сыну Аляксандру [26, арк. 214-215]. Напэўна, з перадачай крашуцкага староства ўзніклі перашкоды з боку Юзафа Корсака Залескага. У выніку разгледзіць правы на крашуцкае староства меў асэсарскі суд. Напэўна, ён прыняў бок Буйніцкіх і ўжо 26 лютага 1740 г. крашуцкае староства зноў было перададзена Тэафілай з Жэромскіх Буйніцкай сыну Яну і яго жонцы Ганне [27, арк. 33-34адв].

Неабходна заўважыць, што ў гэты час Буйніцкія былі прыхільнікамі магнацкай групоўкі Сапегаў і актыўна дзейнічалі на іх карысць на полацкіх сойміках. Асабліва сярод іх вылучаўся сын памерлага полацкага падчашага і полацкага гродскага сурагатара Антонія Буйніцкага Ян. У канцы панавання Аўгуста II яго бацька Антоній спрабаваў супрацоўнічаць з Радзівіламі і нават накіраваць аднаго са сваіх сыноў у замежную паездку з Геранімам Фларыянам Радзівілам [28, к. 7-8]. Ян Буйніцкі з пачатку сваёй дзейнасці супрацоўнічаў з Сапегамі. Няўдала спрабаваў пасля смерці бацькі атрымаць урад полацкага гродскага сурагатара. Менавіта віленскі каадьютар Юзаф Станіслаў Сапега пазычыў Буйніцкім неабходныя сродкі для выплаты доўгу яшчэ Антонія Буйніцкага полацкаму ваяводзе Станіславу Дэнгофу (па яго смерці спадчынікам доўга быў рускі ваявода Аўгуст Чартарыйскі) [29, арк. 249]. У канцы снежня 1741 г. Ян Буйніцкі інфарміраваў Сапегаў аб планах на полацкім гаспадарскім сойміку 1742 г. абраць паслоў да караля па ўніверсал на элекцыйны соймік для выбара полацкага ваяводы. Буйніцкі ведаў, што кандыдатам на выбар полацкім ваяводай на гэтым сойміку будзе абозны ВКЛ Ігнат Агінскі [30, p. 4v]. Шмат Буйніцкіх сабралася на полацкі грамнічны соймік 1743 г., дзе прысутнічалі крашуцкі староста Ян, полацкі скарбнік Казімір і яго сыны Аляксандр і Юзаф [31, арk. 2-2адв, 593адв]. Фактычна 40-ыя гг. XVIII ст. у жыцці Яна Буйніцкага прайшлі ў службе па розным даручэнням Сапегаў, часцей эканамічнага характара. Гэта дало магчымасць атрымаць у арэнду Полацкую эканомію ад польнага пісара ВКЛ Караля Сапегі (які атрымаў яе на той жа тэрмін за 24777 злотых ад падскарбія ВКЛ Яна Салагуба) за 34000 злотых на 3 гады ад 1 сакавіка 1745 г. да 1 сакавіка 1748 г. [32, арк. 300-301адв, 304-305адв; 33, л. 1 – 13]. Напэўна з гэтай дамовай была звязана і продаж 23 красавіка 1745 г. маткай Тэафілай і сынам Янам Буйніцкім за 140000 злотых Каралю Сапегу іх уладанняў Вялікіх Галубіч і Малых Галубіч [34, л. 3-4]. Гэтая дамова з невядомых прычынаў не была рэалізавана і гэтыя ўладанні ў далейшым заставаліся ва ўласнасці Буйніцкіх.

Іншыя Буйніцкія працягвалі актыўна ўдзельнічаць у полацкіх сойміках. Так у полацкім грамнічным сойміку 1744 г. прымалі ўдзел полацкі скарбнік Казімір Буйніцкі і яго сын Аляксандр [35, арк. 71адв-72]. Праз два гады на грамнічным сойміку 1746 г. было яшчэ больш прадстаўнікоў рода Буйніцкіх: крашуцкі староста Ян, полацкі мечнік Ануфры, полацкі скарбнік Казімір, чарніцкі староста Аляксандр і Юзаф [36, арк. 93, 98адв-99].

Не ўдалося дасягнуць міра з усімі Корсакамі Бабыніцкімі. Ужо ў 1742 г. Ян Буйніцкі ўступае ў канфлікт з полацкім гараднічым Базылём Корсакам Бабыніцкім і полацкім войскім Янам Корсакам Удзельскім [37, арк. 361-361адв]. Прычынамі варожасці з Базылём Корсакам былі яшчэ памежныя канфлікты. Буйніцкія абвінавачвалі полацкага гараднічага аб нападзенні ў 1748 г. на землі іх уладанняў Малых Галубіч. Не забывалі Буйніцкія і аб нападзенні Корсакаў на Антонія і Казіміра Буйніцкіх у 1733 г. і працягвалі гэтую судовую справу. Магчымай прычынай гэтага бачыцца адпаведнае пажаданне выказанае Антоніям Буйніцкім у тэстаменце [1, арк. 450адв; 38, арк. 554-555адв].

У снежні 1750 г. Тэафіла з Жэромскіх Буйніцка праводзіць канчатковы падзел спадчыны па Антонію Буйніцкаму сярод яго сыноў і дачок. Тэафіла мела застацца жыць у Крашутах, цэсію якіх у 1740 г. пацвярджала сыну Яну. Са свайго боку Ян меў выплаціць 10000 злотых таму са спадчынікаў на каго ўкажа маці. Гэта пытанне не адкладалася на доўга і згодна запісу Тэафілы Буйніцкай Ян меў выплаціць гэтых 10000 злотых свайму брату Юзафу. Акрамя таго, Ян выплочваў матке і 5000 злотых запісаных бацькай на Малых Галубічах. Гэтыя грошы пасля смерці павінны былі быць падзелены паміж спадчынікамі, але не ў коім разе не дзяліць Малыя Галубічы, на якіх былі запісаны гэтыя грошы. Тэафіла мела ад мужа запісаных 30000 злотых на Вялікіх Галубічах. Акрамя таго, выплаціла вялікія даўгі мужа і аплаціла школу малодшым сынам з 1738 па 1746 гг. Разам свае траты Тэафіла з Жэромскіх Буйніцкая налічыла ў 78600 злотых. З іх даравала 48600 злотых, а за астатнюю сумму ў 30000 злотых аддавала ў заставу Вялікія Галубічы сыну Іяхіму. Гэты сын і станавіўся фактычна гаспадаром гэтага ўладання, бо калі яго браты хацелі падзяліць гэтыя ўладанні, то яны мелі выплаціць усе роўныя часткі з тых 30000 злотых. Акрамя таго, Тэафіла запісала на Іяхіма і дараваную ёй сумму ў 48600 злотых. Такім чынам, хто хацеў атрымаць Вялікія Галубічы мелі выплаціць Іяхіму і гэтыя грошы. Неадцягваючы часу Іяхім адразу і заплаціў матке 30000 злотых заставы і стаў гаспадаром Вялікіх Галубічаў [29, арк. 235-238адв, 239-240адв, 241-242адв, 243-246адв, 247-254адв]. Тады ж 2 снежня 1750 г. Тэафіла запісала сваёй унучцы Тэадоры (дачка Юзафа Корсака Бабыніцкага і Антаніны з Буйніцкіх) 2000 злотых, якія павінны былі выплачаны з часткі спадчыны, якая дастанецца Іяхіму Буйніцкаму і ўжо пасля смерці самой Тэафілы [38, арк. 951-952]. Канчаткова ўсе ўзаемаразлікі паміж Янам, Пятром, Юзафам і Іяхімам Буйніцкімі былі скончаны 15 верасня 1751 г. [39, л. 60-61об]. У межах разлікаў з маткай Тэафілай Ян Буйніцкі 9 чэрвеня 1752 г. аддаў ёй за 32000 злотых у заставу дзяржаву Каменшчына. На гэтую дзяржаву Ян абяцаў атрымаць для маці на сойме 1752 г. каралеўскі кансэнс [40, арк. 79-80адв].

У той час як сыны Антонія Буйніцкага дзялілі спадчыну і набіралі палітычную моц, нялепшым чынам выглядалі справы ў іх дзядзькі полацкага скарбніка Казіміра Буйніцкага, які трапіў у канфлікт з уплывовым родам Рыпіньскіх. Прычынай канфлікта было тое, што пасля нечаканай смерці сітнянскага старосты Юзафа Рыпіньскага яго маёнтак Заскаркі 24 жніўня 1744 г. былі захоплены полацкім будаўнічым Францішкам Рыпіньскім, які насуперак дзеду Казіміру Буйніцкаму аб'явіў сябе апекуном непаўнагадовай Кацярыны Рыпіньскай. Акрамя таго, Буйніцкія патрабавалі выплаты 2000 талераў бітых і вяртання рухомасці, што была дадзена ў пасагу дачцэ Казіміра Буйніцкага Іоанне, жонцы Юзафа Рыпіньскага. 4 красавіка 1750 г. полацкі сурагатарскі суд пачаў працэс у гэтай справе [38, арк. 328-329]. У 1753 г. даходзіць і да канфлікта Казіміра Буйніцкага з пляменікамі Янам, Пятром, Іяхімам і Юзафам, якія 26 красавіка 1753 г. захапілі Начу Бутвілоўшчыну. Яны абгрунтоўвалі свае правы на гэта ўладанне згодна тэстамента іх бацькі Антонія. Казімір Буйніцкі наадварот сцвярджаў, што згодна падзелу з братам ад 22 ліпеня 1735 г. гэты маёнтак павінен дастацца яму. Больш таго, Казімір Буйніцкі сцвярджаў, што сам Антоній прызнаў, што прымусіў Францішка напісаць такі дакумент і таму ўсе ўладанні па ім павінны былі быць падзелены пароўну паміж братамі. Да таго ж Казімір сумняваўся ў аўтэнтычнасці тэстамента брата Антонія, дзе Нача Бутвілоўшчына была запісана яго пляменікам. Прычынай была неспадзяваная смерць Антонія Буйніцкага ў Дудах, які да гэтага моманту і не меў часу напісаць тэстамент [41, арк. 457-457адв, 479-482адв, 493-494адв]. 13 верасня 1753 г. Казімір Буйніцкі ў Полацку піша тэстамент і напэўна хутка памірае. Згодна гэтаму тэстаменту чарніцкае староства згодна ранейшаму кансэнсу 1738 г. павінна было дастацца яго старэйшаму сыну Аляксандру. Іншыя ўладанні павінны былі быць падзелены паміж усімі сынамі па роўну. Усе сыны павінны былі выплаціць усе даўгі Казіміра і 1000 талераў бітых пасагу дачцэ Брыгіце [42, арк. 123-124адв, 129-130адв]. 7 красавіка 1754 г. Аляксандр, Юзаф і Ксаверы Буйніцкія ў Ваўчызне падзялілі спадчыну па бацьку. Аднак ужо ў тым жа месяцы дайшло да канфлікта паміж імі. Прычым Юзаф і Ксаверы Буйніцкія выступалі разам супраць Аляксандра і напалі нават на яго двор за ракой Заходняй Дзвіной у Полацку. Яны аспрэчвалі некаторыя пункты тэстамента і выплаты для іх старэйшага брата. Аляксандр у сваю чаргу абвінавачваў братоў у шкодах у гэтым двары і ў сваёй частцы маёнтка Туроса, а таксама ў невяртанні 700 талераў бітых [41, арк. 280-280адв, 652-653адв].

Буйніцкія з 40-х гг. XVIII ст. усё больш актыўна супрацоўнічаюць з магнацкай групоўкай Сапегаў. На першыя ролі ў гэты час сярод Буйніцкіх аказваецца крашуцкі староста Ян Буйніцкі. Сапегі з 1748 г. становяцца часткай групоўкі Чартарыйскіх, якая ў сучаснікаў атрымала назву Фаміліі. Так Буйніцкі аказваецца ў шэрагах Фаміліі, дзе гэтага здольнага шляхціца заўважае лідар Фаміліі канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі. І Буйніцкі пачынае выконваць загады ўжо непасрэдна Міхала Чартарыйскага. Адначасова яго брат Пётр служыць іншаму лідару Фаміліі польнаму гетману ВКЛ Міхалу Масальскаму

[29, арк. 250адв]. Ян Буйніцкі з пачатку 50-х гг. XVIII ст. уступае ў адкрытае супрацьстаянне з магутнай у Полацкім ваяводстве групоўкай Корсакаў. Полацкі грамнічны соймік 1750 г. пачаўся з узброенай бойкі Снарскіх з Корсакамі. Ініцыятарамі былі Корсакі, якія сярод іншага абвінавацілі ў дзеяннях супраць іх і крашуцкага старосту Яна Буйніцкага. Супраць дзеянняў Корсакаў была занесена пратэстацыя. На другі дзень ужо ніхто не рызыкнуў перашкаджаць выбару дэпутатаў, бо адным з іх быў Траян Корсак Бабыніцкі. Другім дэпутатам стаў Антоній Вінцэнт Пакаш толькі пасля згоды Траяна Корсака Бабыніцкага [43, к. 9-10; 44, к. 95]. Абодва дэпутаты былі прыхільнымі Фаміліі. Праціўнікі Фаміліі Радзівілы і Агінскія хацелі ўсімі магчымымі спосабамі перашкодзіць выбарам паслом на сойм 1750 г. Юзафа Сасноўскага. У такой сітуацыі было вырашана правесці яго абранне паслом на полацкім сойміку. Мясцовыя прыхільнікі Радзівілаў і Агінскіх аказаліся непадрыхтаваны да супрацьстаяння і Юзаф Сасноўскі быў абраны паслом разам з полацкім стражнікам Эліяшам Міхалам Гласком. Значныя намаганні да абрання Сасноўскага прыклалі Буйніцкія, а адзін з іх, полацкі мечнік Ануфры Буйніцкі, быў дырэктарам гэтага сойміка [38, арк. 516-521адв, 526-529адв; 45, к. 256].

Ян Буйніцкі актыўна падтрымліваў Сапегаў у іх старанні аб полацкае ваяводства. Буйніцкаму не хапала грошай на подкуп шляхты на карысць кандыдатуры Міхала Антонія Сапегі і таму Сапегі хацелі фінансава яму дапамагчы з уладанняў Полацкай эканоміі, якая згаходзілася пад кантролем Фаміліі [46]. Міхал Антоні Сапега адмовіўся старацца аб урад полацкага ваяводы з-за атрымання ўрада падканцлера ВКЛ. Замест яго Сапегі вызначылі кандыдатам надворнага падскарбія ВКЛ Аляксандра Сапегі і зноў Ян Буйніцкі актыўна агітаваў на карысць вызначанага кандыдата. Кіраваўшы выбарчай кампаніяй інстыгатар ВКЛ Мікалай Тадэвуш Лапацінскі вызначыў тэрыторыяй для Буйніцкага правы бераг ракі Заходняй Дзвіны, дзе дапамагаць яму меў мітрапаліт Фларыян Грабніцкі [7, с. 59-60; 47, р. 137]. Полацкі стольнік Ян Буйніцкі лічыў, што выбар ваяводы паправіць лад у ваяводстве, асабліва праз выбар судовых земскіх ураднікаў. Для агітацыі за кандыдатуру Сапегі аб'язджаў мясцовую шляхту. Буйніцкі быў перакананы, што “памежныя” шляхціцы падтрымаюць выбар Сапегі. Галоўным дасягненнем Буйніцкага было тое, што яму пад час нарадаў 17 снежня 1752 г. удалося схіліць на бок Сапегаў уплывовага ў Полацкім ваяводстве свайго крэўнага вайпунскага старосту Міхала Сяліцкага. Прычым Сяліцкі перад гэтым быў варожа настроены да Сапегаў. Аднак зараз пасля розных заўваг пагадзіўся падтрымаць выбар полацкім ваяводай Аляксандра Сапегу. Буйніцкі быў пэўным, што галоўны да нядаўняга часу радзівілаўскі прыхільнік Сяліцкі не зменіць сваёй пазіцыі і застанецца верным свайму слову. Прычына была ў тым, што канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі перацягнуў Сяліцкага на свой бок. Буйніцкі быў пэўны, што не будуць перашкаджаць і шляхціцы Пжысецкія. Лічыў толькі неабходным даслаць ім, як і Сяліцкаму, лісты ад лідараў Фаміліі. Увогуле заяўляў, што на правым беразе Заходняй Дзвіны не чуваць, што хтосьці будзе супраць выбару ваяводай Аляксандра Сапегі. Адзінае, што не мог з мітрапалітам Грабніцкім дамовіцца аб часе прыезду Аляксандра Сапегі. У адрозненні ад Грабніцкага быў праціўнікам ранняга прыезду Сапегі, бо тады маглі пачацца канфлікты аб тым да каго першага з мясцовых лідараў мусіць ён прыехаць, а гэта безумоўна не будзе садзейнічаць адзінству сярод шляхты [30, р. 5-8]. Фактычна пасля братоў Мікалая Тадэвуша і Яна Даменіка Лапацінскіх, менавіта Яну Буйніцкаму неабходна занесці ў заслугу выбар полацкім ваяводай Аляксандра Сапегі. Буйніцкі не атрымаў ніякіх карысцяў ад гэтага. Ян Буйніцкі не дастаў ужо паабяцаную дзяржаву Чарніцу пасля смерці дзядзькі Казіміра Буйніцкага для захавання спакою сярод шляхты Полацкага ваяводства. Адначасова Ян Буйніцкі адмовіўся ад прапанаванай дзяржавы Балдычэва, бо лічыў яе невельмі вартай і што яна прывядзе яго да шматлікіх канфліктаў з канкурэнтамі да яе [48, р. 40-40v]. Напэўна такім спосабам хацеў пазбегнуць канфліктаў з уплывовым родам Рыпіньскіх. Адзін з якіх Фларыян Рыпіньскі і стаў балдычэўскім старостай.

Не засталіся ў баку ад падтрымкі кандыдатуры Аляксандра Сапегі і іншыя Буйніцкія. Некаторыя з іх, у адрозненні ад Яна Буйніцкага, нават атрымалі пэўную падзяку. Урад гродскага пісара без прывілея, але са згоды Аляксандра Сапегі, заняў Юзаф Буйніцкі і адмовіўся даць абяцанне саступіць яго ў будучым. Прывілей на ўрад гродскага пісара атрымаў Станіслаў Грабніцкі. Аднак Грабніцкія былі вымушаны лічыцца з уплывамі Буйніцкіх і таму абяцалі Юзафу Буйніцкаму Грабніцкія грашовую кампенсацыю ў 2000 талераў бітых [47, р. 208, 209-209v]. Не вядома ці гэта было зроблена, але вельмі добра паказвае значэнне Буйніцкіх у Полацкім ваяводстве. Напэўна толькі пасля выплаты грошай гродскім пісарам стаў Станіслаў Грабніцкі.

У гэты час Ян Буйніцкі фактычна ўзначальваў канкурэнцыйную групоўку Корсакам. Разам з ім лідарам гэтай групоўкі быў полацкім войскі Францішак Зяновіч [49, р. 142]. Менавіта Яна Буйніцкага і вайпунскага старосту Міхала Сяліцкага бачыў пасламі з полацкага пасольскага сойміка 1754 г. лідар Фаміліі Міхал Чартарыйскі. Полацкі стольнік Ян Буйніцкі меў думку, што не можа стаць паслом на полацкім пасольскім сойміку 1754 г. разам з Міхалам Сяліцкім, бо сапернікі не дапусцяць выбара

пасламі прадстаўнікоў адной групоўкі. Таму малаверагодным быў выбар і іншага кандыдата Фаміліі Шышкі. Згодна Буйніцкаму канкурыраваць аб выбар паслом у 1754 г. будзе хтосьці з шляхецкай групоўкі Корсакаў. У такім выпадку з планаваным кандыдатам Міхалам Сяліцкім могбы стаць паслом Траян Корсак Бабыніцкі, якому саступіўбы полацкі лоўчыц Ігнат Корсак Бабыніцкі. Іншы канкурэнт Людвік Корсак Бабыніцкі мог пагадзіцца на выбар Траяна Корсака Бабыніцкага толькі ў выпадку, калі яго папросяць Мікалай Тадэвуш Лапацінскі і Сапегі. Сам Буйніцкі прапаноўваў старацца аб выбар паслом і іншаму лідару Корсакаў – полацкаму лоўчыцу Ігнату Корсаку Бабыніцкаму [48, p. 38-38v, 39-40]. Увогуле Ян Буйніцкі спрабаваў прыцягнуць у 1754 г. да супрацоўніцтва з прыхільнікамі Фаміліі полацкага лоўчыца Ігната Корсака Бабыніцкага. Буйніцкі перадаваў аб нязгодах паміж лідарамі Корсакаў: полацкім гродскім сурагатарам Траянам Корсакам Бабыніцкім і полацкім лоўчыцам Ігнатам Корсакам Бабыніцкім. Апошні быў незадаволены з Траяна Корсака Бабыніцкага, што не меў абяцанай дапамогі ў атрыманні ўрада ў Полацкім ваяводстве. Буйніцкі спрабаваў гэта выкарыстаць і абяцаў Ігнату Корсаку Бабыніцкаму падтрымку ў атрыманні ўрада ў Полацкім ваяводстве [48, p. 37v-38]. Ян Буйніцкі вельмі актыўна стараўся дасягнуць згоды паміж полацкай шляхтай аб размеркаванні полацкіх земскіх урадаў у 1755 г. У гэтай справе праводзіў кансультацыі з вайпунскім старостай Міхалам Сяліцкім, Антоніям Вінцэнтам Пакашам і Пжысецкімі. Прычым сам Ян Буйніцкі не прэтэндаваў на гэтыя ўрады. Адначасова выказваў вялікія шкадаванні, што не бачыць зацікаўленасці шляхты правесці выбар земскіх ураднікаў [48, p. 52-52v].

У 1758 г. у Полацку Ян Буйніцкі разам з полацкім лоўчым Ігнатам Корсакам быў абраны пасламі [50, арk. 715-720адв; 51, p. 8; 52, c. 479]. Пасля разрыву ў канцы 1758 г. Сапегаў з Фаміліяй Ян Буйніцкі застаўся сярод прыхільнікаў апошняй. Гэта тым больш было дзіўным, улічваючы сувязі з маладых гадоў полацкага стольніка з Сапегамі. Ды і прыхільнае стаўленне полацкага ваяводы Аляксандра Сапегі было патрэбна ў Полацкім ваяводстве, але нягледзячы на гэта Буйніцкі прымае бок Фаміліі. Разам з полацкім войскім Францішкам Зяновічам, полацкім гараднічым Адамам Грабніцкім, полацкім гродскім пісарам Мікалаям Грабніцкім ён узначальвае мясцовую групоўку Фаміліі. Атрымліваецца, што яны засталіся ў шэрагах Фаміліі, як і ўсе роды Зяновічаў, Буйніцкіх і Грабніцкіх. Праўда, Ян Буйніцкі цалкам не парваў з Сапегамі. Уплывы Буйніцкага працягвалі добра ацэньвацца і полацкім ваяводай Аляксандрам Сапегай, які перад грамнічным соймікам 1761 г. угаварыў Яна Буйніцкага паступаць згодна іх плану. Мясцовы лідар Сапегаў Мікалай Тадэвуш Лапацінскі ў гэты час хацеў дасягнуць не проста дамоўленасці аб выбары на грамнічным сойміку, але “адзінства ў ваяводстве”. Таму прасіў Буйніцкага дамовіцца аб супрацоўніцтве на сойміку не толькі з Траянам і Ігнатам Корсакамі Бабыніцкімі, Канстанцінам Юзафам Свалынскім і Яўстахам Храпавіцкім, але і з полацкім земскім сурагатарам Антоніям Вінцэнтам Пакашам і полацкімі гродскімі ўраднікамі [47, p.368-368v]. Аднак дасягнуць згоды не атрымалася. Больш за тое, успыхнуў моцны канфлікт паміж полацкай шляхтай аб урад полацкага войскага. Гэты ўрад Францішак Зяновіч перадаў свайму сыну Антонію. Корсакі самі прэтэндавалі на гэты ўрад і не хацелі дапусціць Антонія Зяновіча заняць месца войскага на сойміку. Гэта прывяло да зрыва некалькіх полацкіх соймікаў. Ян Буйніцкі не вагаўся і падтрымаў Зяновічаў супраць Корсакаў.

Такім чынам, магчыма зрабіць наступныя высновы.

Род Буйніцкіх належыў да шляхецкай эліты Полацкага ваяводства. У пачатку панавання Аўгуста III на чале рода знаходзіліся браты полацкі гродскі сурагатар і полацкі падчашы Антоній і полацкі скарбнік Казімір. У гэты час Буйніцкія ў асноўным былі заняты канфліктам з Юзафам Корсакам Залескім за Крашуты і Чарніцу. Адначасова ў грамадска-палітычным жыцці Полацкага ваяводства яны аказаліся ўцягнуты ў канфлікт з уплывовай шляхецкай групоўкай Корсакаў. Буйніцкім удалося выстаяць у гэтай барацьбе дзякуючы падтрымцы іншых шляхецкіх родаў Полацкага ваяводства: Шчытоў, Сяліцкіх, Гласкаў, Сяляваў, Рыпіньскіх, Падбіпентаў, Пжысецкіх і іншых. Не апошнім фактарам, які аказаў на іх уплыў было тое, што некаторыя роды (Сялявы і Сяліцкія) былі крэўнымі Буйніцкіх. Нечаканая смерць Антонія Буйніцкага не прывяла да заняпаду роду, бо на яго чале аказваецца сын памерлага Ян Буйніцкі. Ужо пад яго кіраўніцтвам адбываецца ў 1738 г. прымірэнне з Корсакамі Удзельскімі і Корскамі Бабыніцкімі. Апанент Буйніцкіх Юзаф Корсак Залескі губляе падтрымку гэтых уплывовых родаў і аказваецца ня ў стане змагацца за Крашуты і Чарніцу. Ян Буйніцкі актыўна супрацоўнічае з магнацкай групоўкай Сапегаў, а пасля іх далучэння да Фаміліі і з гэтай магнацкай групоўкай. Буйніцкія ў пачатку 50-х гг. XVIII ст. аказваюцца ў шэрагах антыкорсакаўскай групоўкі полацкай шляхты на чале з Грабніцкімі. Асабліва вострым быў канфлікт Яна Буйніцкага з полацкім гродскім сурагатарам Траянам Корсакам Бабыніцкім. Ян Буйніцкі пайшоў на пэўныя саступкі Корсакам, каб дапамагчы выбару полацкім ваяводай у 1753 г. Аляксандра Сапегі. Пасля разрыву Сапегаў з Чартарыйскімі ў канцы 1758 г. Ян Буйніцкі застаецца верным Фаміліі.

ЛІТАРАТУРА

1. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1732. Вопіс 1. Справа 5.
2. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1878. Вопіс 1. Справа 2.
3. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F.151. B.1658.
4. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 15.
5. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 29.
6. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz.II. Sygn.2393.
7. Мацук, А. Полацкае ваяводства ў XVIII ст.: ваявода, шляхецкая эліта, соймікі / А. Мацук. – Мінск, 2014.
8. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 25.
9. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. SA 478.
10. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1778. Вопіс 1. Справа 20.
11. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F.1025. B.21.
12. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz.V. Sygn. 15669.
13. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 26.
14. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F.1025. B.24.
15 Lietuvos valstybės istorijos archyvas. SA 91.
16. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. SA 92.
17. Дук, Д. Полацк і палачане (IX – XVIII стст.) / Д. Дук. – Наваполацк, 2010.
18. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 21.
19. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 23.
20. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1731. Вопіс 1. Справа 21.
21. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. SA 95.
22. Palkij, H. Sejmy 1736 i 1738 roku. U początków nowej sytuacji politycznej w Rzeczypospolitej / H. Palkij. – Kraków, 2000.
23. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. SA 233.
24. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 22.
25. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 27.
26. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд Кмф-18. Вопіс 1. Справа 170.
27. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 25.
28. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz.V. Sygn.1625.
29. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 30.
30. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F.139. OP.1. B.443.
31. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 31.
32. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 33.
33. Львівська наукова бібліотека ім. В. Стефаника НАН України. Ф.103. № 6777.
34. Львівська наукова бібліотека ім. В. Стефаника НАН України. Ф.103. № 6778.
35. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 32.
36. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 34.
37. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 30.
38. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 39.
39. Российский государственный исторический архив. Фонд 1343. Опись 17. Дело 6650.
40. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 31.
41. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 42.
42. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1823. Вопіс 1. Справа 32.
43. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz.V. Sygn.1627.
44. Archiwum Główne Akt Dawnych. Archiwum Radziwiłłów. Dz.V. Sygn.17702. Cz.2.
45. Archiwum Państwowy. Odział na Wawelu. Archiwum Młynowski Chodkiewiczów 1282.
46. Архив Института истории Российской академии наук. Ф.52. Опись 2. Карта 8. Дело 5/4.
47. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F.1135. Op.14. B.32.
48. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F.1135. Op.14. B.17.
49. Lietuvos Mokslų Akademijos centrinės bibliotekos. F.139. Op.1. B.2559.
50. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонд 1734. Вопіс 1. Справа 47.
51. Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F.1135. Op. 2. B.101.
52. Мацук, А. Барацьба магнацкіх груповак у ВКЛ (1717 – 1763 гг.) / А.Мацук. – Мінск, 2010.

**УДК 94"1941"**

# БАЯВЫЯ СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ ЛЕТАМ 1941 ГОДА: АД ГІСТАРЫЧНЫХ МІФАЎ ДА НАВУКОВАЙ ІСЦІНЫ

***канд. гіст. навук С.Я. НОВІКАЎ***
**Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, Мінск**

*Айчыннаму чытачу ўпершыню прадстаўлены вынікі кампаратыўнага аналізу айчынных і замежных дакументаў аб ходзе баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў пачатку ліпеня 1941 г. Увядзенне ў навуковы зварот дакументальных крыніц процілеглых бакоў стварае больш спрыяльныя ўмовы для паглыблення гістарычных ведаў аб тых важных падзеях, а таксама дае пастаўы для ўвядзення ў айчынную гістарыяграфію новых гістарычных азначэнняў – Лепельская аперацыя і крэпасць Полацк 1941 года. Аўтар звяртае ўвагу на актуальнасць навуковай рэканструкцыі баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны на сучаснай базе дакументальных і гістарыяграфічных крыніц.*

З мэтай стварэння комплекснай карціны баявых дзеянняў у ходзе двух танкавых контрудараў, праведзеных камандаваннем Заходняга фронту на лепельскім напрамку ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны, неабходна пачаць з Дырэктывы № 16 ад 4 ліпеня 1941 г. [1, С. 340]. У ёй новае камандаванне на чале з Маршалам С.К. Цімашэнка вызначыла мэты і ставіла задачы для вайсковых часцей фронту, у тым ліку для 5-га і 7-га мехкарпусоў 20-й арміі: ліквідаваць лепельскую групоўку праціўніка, якая наступала з раёна Лепеля, Полацка ў напрамку Віцебска. Для гэтага ў штабе арміі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта П.А. Курачкіна быў распрацаваны план аперацыі, адпаведна якому: 7-му МК была загадана наступаць з раёна Віцебска ў напрамку Бешанковічы – Лепель; у далейшым нанесці ўдар па флангу і ў тыл полацкай групоўкі 3-й танкавай групы праціўніка; 5 МК нанесці ўдар ў напрамку Сянно – Лепель з мэтай далейшага развіцця ўдару на захад, на Глыбокае і Докшыцы. Гэта азначала, што два цалкам самастойных контрудары ў напрамку Лепеля адначасова павінны былі правесці 5-ы і 7-ы МК, якія наносілі танкавыя ўдары па збежных напрамках на Лепель У загадзе камандарма 20-й арміі ў якасці тэрміну пераходу ў контрнаступленне была вызначана дата 5 ліпеня 1941 года, 6 гадзін раніцы [1, С. 340].

Наступным важным крокам нам бачыцца выяўленне фактычнай укамплектаванасці танкамі савецкіх мехкарпусоў на момант пачатку нанясення котрудараў. З айчынных архіўных дакументаў[1] вынікаюць наступныя даныя: у 13-й і 17-й танкавых дывізіях (ТД) 5-га МК па стану на 7 ліпеня 1941 г. было 838 танкаў, тады як у 7-м МК (у 14-й і 18-й ТД) іх было толькі 507 баявых адзінак [1, С. 334, 347]. Адразу ж звернем увагу на неабходнасць карэляцыі даных, якія выкарыстоўваюцца ў традыцыйных айчынных даследаваннях, з аднаго боку, а з другога – прыведзеных паводле журнала баявых дзеянняў 5-га МК. У апошнім вялося штодзённае апісанне ходу баёў 13-й, 17-й танкавых і 109-й мотастралковай дывізій і прыводзілася ацэнка вынікаў "Лепельскай аперацыі з 6 па 11 ліпеня 1941 г.": корпус прыбыў на фронт па штатах мірнага часу. На 5 ліпеня ў танкавых дывізіях укамплектаванасць выглядала наступным чынам: па 2 батальёны танкаў БТ-7 (усяго 100 машын); па адным батальёне танкаў Т-26 (усяго па 31 машыне) і адным батальёне танкаў ХТ-26 (усяго па 31 танку). Як бачна, сярод названых лічбаў табліцы і фактаў дакумента найбольшая ступень карэляцыі назіраецца толькі ў апошнім выпадку. Узнікае пытанне, наколькі ўліковы штат танкавага парку быў задзейнічаны ў баявых дзеяннях у час Лепельскай аперацыі. У танкавым палку мотастралковай дывізіі па штату знаходзілася 158 танкаў, з якіх на фронт прыбылі толькі 70 танкаў, астатнія 88 танкаў да раёна выгрузкі на ўчастку Смаленск – Орша не дайшлі. Пры гэтым жа згадваецца, што ўсяго корпус быў укамплектаваны 802 танкамі [2, Арк. 102].

З дакументаў бачна, што на момант пачатку нанясення контрудараў двума механізаванымі карпусамі агульная колькасць баявых машын складала 1345 танкаў розных тыпаў, у тым ліку 96 танкаў КВ і Т-34. Таксама неабходна мець на ўвазе 153 бронеаўтамабілі, якія знаходзіліся на ўзбраенні 5-га механізаванага корпуса, а таксама 70 танкаў, якія прыбылі разам з мотастралковым палком у раён Оршы. Дакументальныя даныя паказваюць, што з баявых машын новых тыпаў большасць знаходзілася ў 7-м механізаваным корпусе, дакладна ў адной з элітных савецкіх часцей – 14-й танкавай дывізіі, у якой на тэрыторыі Беларусі ваяваў сын Сталіна Я.І. Джугашвілі. Зазначым, што ў ходзе адступлення дывізіі,

[1] Аўтар выказвае падзяку маскоўскаму ваеннаму гісторыку кандыдату гістарычных навук У.В. Фядзюніну за інфармацыйную падтрымку.

у складзе якой знаходзілася і артылерыйскага падраздзяленне старшага лейтэнанта Джугашвілі, 17 ліпеня ў раёне Лёзна ён быў узяты ў палон на ўчастку наступлення 12-й нямецкай танкавай дывізіі.

Аб колькасці танкаў з нямецкага боку існуюць частковыя звесткі. Паводле выяўленых на цяперашні час дакументаў можна ўбачыць наступную карціну укамплектаванасці танкамі 7-й і 12-й нямецкіх ТД у пачатку ліпеня 1941 г. Па стану на 1.7.41 г. на ўліку у іх знаходзілася 342 танкі, з якіх 71 Pz.II, 219 LT v. 38, 17 Pz. III і 35 Pz. IV [3, Bl. 13]. З параўнання прыведзеных у айчынных і нямецкіх дакументах лічбавых даных вынікае наступны вывад: танкавы парк 5-га і 7-га савецкіх МК значна пераўзыходзіў колькасць машын нямецкага баявога парку. Дакументальныя звесткі паказваюць суадносіны баявой тэхнікі з савецкага і нямецкага бакоў. Як пісаў пра гэта былы начальнік штаба 5 МК палкоўнік, а на момант напісання артыкула Герой Савецкага Саюза генерал-палкоўнік танкавых войскаў у адстаўцы В.В. Буткоў [4, С. 63]. па танках удзельнікі контрудару на лепельскі напрамку пераўзыходзілі нямецкі бок ў 3–4 разы. Апрача таго, неабходна мець на ўвазе фактар адначасовага ўдзелу баявых машын у танкавым баі на адной баявой прасторы. З дзённікаў баявых дзеянняў савецкіх танкавых дывізій вынікае, што баі ў асноўным вяліся з удзелам палкоў, але не дывізій, не кажучы пра адначасовы ўдзел танкаў усяго корпуса ў баях пад Сянно і Лепелем.

Заўважым, што танкі новых тыпаў накшталт савецкага Т-34 ці нямецкага Pz. IV складалі як ў савецкіх, так і нямецкіх дывізіях зусім нязначную частку: фактычна кожная дзесятая баявая машына. У нямецкіх танкавых дывізіях, якія ўдзельнічалі ў баях пад Сянно і Лепелем, асноўнымі баявымі машынамі з’яўляліся танкі Pz. III двух тыпаў: адны з іх мелі на ўзбраенні 37 мм, другія – 50 мм гармату. Фактычна аснову танкавага парку 7-й і 12-й нямецкіх дывізій складалі баявыя машыны гэтага тыпу, але не нямецкай, а чэшскай вытворчасці. Заўважым, што імі разам з танкамі Pz. II былі ўкамплектаваны асноўныя сілы гэтых нямецкіх танкавых дывізій. Важнай адметнасцю колькаснага складу танкавых дывізій з’яўлялася тое, што ўжо ў пачатку ліпеня 1941 г. назіралася даволі значная неўкамплектаванасць танкавага парку, які часткова быў зменшаны ў выніку страт, панесеных у ходзе баявых дзеянняў танкавых часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыі Беларусі. Напрыклад, на момант правядзення маршу 17-й танкавай дывізіяй па маршруце з Барысава праз Сянно на Коханава на працягу першай дэкады ліпеня 1941 г. дывізія мела толькі 60% баявых машын, падзеленых на тры баявыя групы. Адна з іх якраз і ўдзельнічала ў баях у раёне Сянно. У склад яе ўваходзілі палкавы штаб, узмоцнены ахоўны батальён, танкавы батальён, процітанкавы артылерыйскі дывізіён, лёгкі артылерыйскі дывізіён, лёгкая сапёрная рота, дзве зенітных батарэі і адна рота тэхнічнага забеспячэння [5, Bl. 1].

Аналіз як айчынных, так і замежных дакументальных крыніц дазваляе выявіць тыя аспекты баявых дзеянняў, якія раней заставаліся па-за ўвагай у вядомых на цяперашні час гістарычных публікацыях. Адразу ж звернем увагу на “Баявое данясенне № 8” ад 8 ліпеня 1941 г., у якім камандуючы 20-й арміяй даносіў аб выніках баявых дзеянняў 5-га і 7-га механізаваных карпусоў у першыя тры дні з моманту пачатку Лепельскай аперацыі [6, С. 325–326]. У данясенні камандуючы арміяй дакладаў у Генеральны штаб пра тое, што 5 і 7 МК працягвалі выконваць задачу па знішчэнні лепельскай групоўкі праціўніка, наносячы ўдары ў напрамку Сянно, Лепель. Пры гэтым 7-ы МК пад прыкрыццём 153-й стралковай дывізіі і мотастралковых часцей 18-й танкавай дывізіі, якая займала раён Сянно, у 13 гадзін пачаў перагрупоўку да левага флангу. У той жа час танкі праціўніка пры падтрымцы авіяцыі атакавалі правы фланг 18-й танкавай дывізіі з лясоў на поўнач ад Сянно і перайшлі ў наступленне, заняўшы Новае Сяло (6 км на ўсход ад Сянно). Бой працягваецца. 5-ы МК да 9 гадзін раніцы заняў зыходнае палажэнне ў раёне саўгасу Федэратыўны, Лозы, ст. Клімавічы (10–15 км на поўдзень ад Сянно), маючы насупраць сябе 27-ю мотадывізію праціўніка, якая з артылерыяй абараняецца на рубяжы Вяцера, Дзідава. Адбіўшы а 13-й гадзіне на рубяжы Чырвоны Маяк, Азярышча атаку каля 100 танкаў, падтрыманых авіяцыяй, корпус перайшоў у наступленне, прычым 17-я танкавая дывізія на ўчастку Вялікія і Малыя Ліпавічы (20 км на паўднёвы захад ад Сянно) разграміла 36-ы мотастралковы полк 27-мотадывізіі, знішчыла цяжкую батарэю, пры лёгкія батарэі і пяць супрацьтанкавых гармат. На полі бою праціўнік пакінуў шмат трупаў. Рэшткі праціўніка на машынах адышлі ў напрамку на Чарэю, якія праследуюць часці 17-й танкавай дывізіі. У гэты ж час 13-я танкавая дывізія ў баях на поўдзень ад Сянно разграміла да двух батальёнаў 34-га мотапалка 27-й мотадывізіі. У якасці баявой задачы наступнага дня быў вызначаны працяг наступлення чатырма дывізіямі двух МК у агульным напрамку на Лепель з тым, каб разграміць лепельскую танкавую групоўку праціўніка ў складзе не менш адной танкавай і дзвюх матарызаваных дывізій [6, С. 326].

Зазначым, што ў данясенні камандуючага 20-й арміяй генерал-лейтэнанта П.А. Курачкіна згаданы нямецкія падраздзяленні, якіх насамрэч не было на гэтым участку баявых дзеянняў у пачатку ліпеня 1941 г. Паводле загаду, прынятага камандаваннем 3-й нямецкай танкавай групы, 2 ліпеня чатыры дывізіі ў складзе 7-й і 12-й танкавых, 14-й і 20-й матарызаваных пачалі выконваць задачу аб наступленні на

Веліж праз Дзвіну на ўчастку Віцебск – Полацк [7, Bl. 1]. Да таго, загад аб наступленні праз Чарэю і Сянно ў напрамку станцыі Коханава атрымала 17-я танкавая дывізія 47-га танкавага корпуса 2-й танкавай групы. Не пацвярджаецца дакументальна і факт удзелу ў баявых дзеяннях пад Лепелем іншых нямецкіх часцей [5, Bl. 1]. Адзначым таксама і тое, што і ў нямецкіх дакументах даволі часта сустракаюцца даныя палявой выведкі, якія не заўсёды пацвярджаліся дакументальна.

Даволі цікавым нам падаецца разгляд баявых дзеянняў, адлюстраваных адначасова ў савецкіх і нямецкіх дакументах. Адметным у гэтым сэнсе можа быць “Падрабязнае апісанне першага бою 13-й танкавай дывізіі ў раёне Толпіна 8.7.41 г.” [8, Арк. 32]. Гэта асабліва важна ў кантэксце таго факта, што ў публікацыі пачатку 1970-х гадоў былога начальніка штаба 5-га МК палкоўніка В.В. Буткова аб баявых дзеяннях, якія адбыліся на працягу гэтага дня, напісана літаральна тры радкі тэксту, адпаведна: “13-я танкавая дывізія ў сваёй паласе правяла пяць атак, але поспеху не мела. У другой палове дня яна неаднаразова падвяргалася ударам варожай авіяцыі і была вымушана адмовіцца ад далейшых атак” [4, С. 64].

У адпаведнасці з вядомымі на цяперашні час дакументамі, то бок “Справаздачай аб баявых дзеяннях 13-й танкавай дывізіі 5-га МК”, да 9.00 раніцы 8 ліпеня ёй ставілася задача наступаць у напрамку Лукомль і Лепель, знішчыць праціўніка і да зыходу дня авалодаць паўднёвай часткай Лепеля. Выкананне баявой задачы забяспечвалі два танкавых палкі – 25-ы і 26-ы, 13-ы мотастралковы полк, 13-ы артылерыйскі полк. Атака пачалася ў 12.00 без артылерыйскай падрыхтоўкі, паколькі да таго моманту артылерыйскі полк, зенітны дывізіён і батальён цяжкіх танкаў знаходзіліся толькі на падыходзе да раёна зыходных баявых пазіцый. Таму першы дывізіён 13-га артылерыйскага палка заняў пазіцыі і адкрыў агонь толькі а 14-й гадзіне, тады як другі дывізіён дасягнуў раён агнявой падрыхтоўкі толькі ў 17 гадзін, таму фактычна не ўдзельнічаў у баявых дзеяннях. У раёне Навінкі, Толпіна дывізія сутыкнулася з моцна арганізаванай процітанкавай абаронай. Праведзеныя дывізіяй з 16.00 да 20.00 некалькі танкавых атак прывялі да вялікіх страт, але поспеху не прынеслі. Больш таго, на працягу другой паловы дня і да 20 гадзін вечара актыўна дзейнічала нямецкая авіяцыя і ад бесперапыннага ўздзеяння варожых штурмавікоў дывізія панесла значныя страты ў танках. Цяжкія танкі, якія складалі рэзерв дывізіі, былі выкліканы на месца бою, але прыбылі толькі ў 20.00. Таму дзённае наступленне сарвалася. Баявая матэрыяльная частка патрабавала папаўнення і боезапасаў. У дакуменце адзначаецца, што часці дывізіі панеслі вялікія страты: 26-ы танкавы полк страціў 47 танкаў, 25-ы – 27, батальён цяжкіх танкаў – 6 танкаў. На наступны дзень дывізія не вяла баявых дзеянняў, але трапляла пад удары нямецкай бамбардзіровачнай авіяцыі. 10 ліпеня 13-я дывізія апынулася ў нямецкім акружэнні [9, Арк. 5–6].

Паводле “Справаздачы аб баявых дзеяннях часцей 17-й танкавай дывізіі з 4.7.41 г. да 19.7.41 г.”, галоўнай задачай для дывізіі з’яўляўся захоп Лепеля [10, Арк. 27–32]. На працягу ўсяго дня 7 ліпеня 33-і і 34-ы танкавыя палкі дывізіі праводзілі запраўку матэрыяльнай часці палівам, але сутыкненняў з праціўнікам не мелі. На раніцу 8 ліпеня праціўнік панёс страты ў раёне Вялікіх Ліпавічаў, дзе ўдалося захваціць 24 гарматы розных калібраў, 3 танкі, 4 трактары і 3 аўтамашыны. Аднак у 18 гадзін дывізія была атакаваная праціўнікам сілаю да 60 танкаў і 600 матацыклістаў, пасля чаго 33-і танкавы полк апынуўся ў акружэнні. Апроч таго, як падкрэсліваецца ў справаздачы, з 18.00 да 21.00 авіяцыя праціўніка бесперапынна наносіла ўдары па падраздзяленнях дывізіі ў раёнах Цэрэбені, Малыя і Вялікія Ліпавічы. Танкі, якія б маглі аказаць дапамогу палку, не маглі выканаць пастаўленую задачу па прычыне таго, што нямецкая авіяцыя літаральна палявала за кожнай савецкай баявой машынай. 34-ы танкавы полк страціў у выніку баёў 8–10 ліпеня 1941 г. 84 адзінкі баявой тэхнікі і 72 чалавекі, у тым ліку 41 чалавек малодшага і старшага начскладу. Так, адсутнасць своечасовых і дакладных даных ад разведкі прывялі да таго, што 8 ліпеня 34-ы танкавы полк загубіў большую частку сваіх танкаў, паколькі яны апынуліся ў балоце і былі знішчаны артылерыйскі агнём праціўніка. У дакуменце таксама адзначаецца, што ў выніку баёў у раёне Сянно, Ліпавічы, Ляды, Софнеўка і Потава праціўніку былі нанесены вялізныя страты: дывізія знішчыла 40 танкаў, 10 бронемашын, 89 грузавых аўтамашын, разграміла два штабы і цэлы шэраг іншых відаў узбраенняў. Асобна зазначым, што паводле справаздачы за перыяд з 7.7.41 г. па 5.8.41 г. часці 17-й танкавай дывізіі правялі толькі 4 (!) танкавыя атакі, і адзін раз былі атакаваны праціўнікам у колькасці 60 танкаў [10, Арк. 32].

Не менш важным у рассакрэчаных дакументах з’яўляецца і матэрыял аб заключнай частцы баявых дзеянняў: у іх даюцца ацэнкі і падводзяцца некаторыя вынікі. Паводле загада № 1 штаба 20-й арміі, 5-ы механізаваны корпус ва ўзаемадзеянні з 7-м МК меў асноўную задачу спачатку па канцэнтрацыі сіл на левым флангу, затым ліквідацыі нямецкай лепельская групоўкі і авалоданні Лепелем да зыходу дня 6 ліпеня 1941 г. У дакуменце запісана: корпус сваю задачу цалкам не выканаў. У ходзе баёў з 8 па 10 ліпеня і 11 ліпеня пры выхадзе з акружэння корпус панёс наступныя страты па танках: у 13-й танкавай дывізіі – 82 адзінкі баявой тэхнікі; у 17-й танкавай дывізіі – 244, у 109-й мотастралковай дывізіі – 40 танкаў. Ад авіяцыі праціўніка страчана каля 50% танкаў, тады як ад процітанкавай абароны і ў ходзе непасрэдных баёў

з танкавымі падраздзяленнямі праціўніка – каля 30%. Выбылі са строю і заселі ў балотах на полі бою – 20%, паколькі не было магчымасці іх эвакуацыі па прычыне абстрэлу праціўнікам [11, Арк. 111–112].

Зварот да нямецкіх дакументаў дазваляе ўбачыць з процілеглага боку асобныя баявыя падзеі. Звернемся да справаздачы 17-й нямецкай танкавай дывізіі, якая ўдзельнічала ў баях пад Сянно ў ходзе свайго маршу на Коханава. Нагадаем чытачу, што перад баямі пад Сянно дывізія з агульнай колькасці 239 танкаў мела толькі 80 баявых машын, якія складалі рухомы агнявы кулак баявой групы пад камандаваннем палкоўніка Ліхта. З дакумента вынікае, што за часам 6-дзённага (з 5 па 10 ліпеня) баявога рэйду праз Сянно ў напрамку Коханава (паміж Талачынам і Оршай. – С.Н.) на полі бою дывізіяй былі знішчаны звыш 250 танкаў 5-га савецкага танкавага корпуса, з якіх з удзелам баявога атрада дывізіі крыху больш за 100 машын, тады як большая частка пры дапамозе нямецкай авіяцыі [5, Bl. 6]. Значная частка танкавых страт была панесена ў раёне Толпіна, дзе дзейнічаў 39-ты танкавы полк 17-й ТД. У выніку баёў на працягу толькі аднаго дня 8 ліпеня ім былі знішчаны 68 савецкіх танкаў, з якіх 51 танк быў ліквідаваны ў выніку вядзення агню адным процітанкавым батальёнам [5, Bl. 6].

Паводле нямецкіх дакументаў, савецкае наступленне вялося ў двух напрамках – на Ліпавічы і Толпіна. Яно пачалося з атакі танкаў у 5.30 раніцы 8 ліпеня, але да 7-й гадзіны было спынена агнём процітанкавай артылерыі. У 8.10 быў нанесены новы моцны ўдар з выкарыстаннем танкаў і стралковых падраздзяленняў, якія наступалі пры актыўнай падтрымцы артылерыі. У выніку такога ўдару нямецкі бок апынуўся ў крызіснай сітуацыі і быў вымушаны пачаць адвод сваіх тылавых часцей і маршавых калон з раёна Толпіна ў напрамку Чарэі. Упартыя двухбаковыя баі ішлі на працягу ўсёй першай паловы дня. Баявыя дзеянні, якія вялі савецкія стралковыя і танкавыя часці ў раёне Ліпавіч і Толпіна, пачалі набываць завяршэнне толькі ў сярэдзіне дня. У нямецкіх дакументах адзначаецца, што савецкаму боку ўдалося прарвацца на паўднёвы захад ад Толпіна, у выніку чаго адсекчы адыходзячыя нямецкія тылавыя службы ад баявых часцей дывізіі. Толпіна было захоплена 39-м нямецкім танкавым палком толькі ў 21.15. Між тым. у выніку баёў групы пад камандаваннем палкоўніка Ліхта вораг згубіў 18 танкаў, у раёне Ліпавічаў і Толпіна лічба страт савецкіх танкаў складала 34 баявых адзінкі. На наступны дзень немцамі планавалася нанясенне ўдару на Сянно з мэтай злучэння баявых часцей, якія дзейнічалі ў раёне Абольцаў. Аднак выкананне гэтай задачы не адбылося па прычыне таго, што там былі выяўлены моцныя сілы праціўніка. Як адзначаецца ў дакуменце, толькі ў другой палове дня немцы нанеслі ўдар у напрамку на Сянно. Каля 17.00 баявая група дывізіі дасягнула Сянно на паўднёвым захадзе. Сітуацыю ў гэтым раёне выратавалі свежыя сілы 12-й нямецкай танкавай дывізіі, якую сюды ў якасці ўзмацнення накіравала камандаванне 4-й танкавай арміі. Толькі ў сярэдзіне дня 10 ліпеня 17-я нямецкая танкавая дывізія здолела дасягнуць Коханава [5, Bl. 6].

Важным падаецца нам і такі факт вядзення баявых дзеянняў як савецкімі, так і нямецкімі баявымі часцямі. Так, напрыклад, 7 ліпеня ў раёне Дубравы–Гняздзілавічы, дзе паміж Бешанковічамі і Астроўна вяла наступленне 14-й савецкая танкавая дывізія, 7-я мотапяхотная брыгада 7-й нямецкай танкавай дывізіі на працягу аднаго дня знішчыла 103 танкі, у тым ліку 2 танкі КВ і 4 танкі Т-34, тады як самі немцы пры гэтым страцілі 2 танкі, 1 цяжкую процітанкавую і 2 лёгкіх штурмавых гарматы, адну процітанкавую гармату калібрам 5,0 см (50 мм), 2 зенітныя гарматы калібрам 8,8 см (88 мм) і 2 аўтамабілі [12, Bl. 294]. Паводле данясення 39-га нямецкага армейскага корпуса, 7-я дывізія на працягу баёў пад Віцебскам з 6 па 12 ліпеня знішчыла 198 танкаў, 15 гармат, 14 процітанкавых гармат, 608 аўтамабіляў, 4 самалёты і ўзяла ў палон 620 палонных. Большая частка гэтых трафеяў былі ўзяты на паўднёвым захадзе ад Віцебска, каля Сянно і Дубровы. На долю 12-й танкавай дывізіі, якая значна пазней уступіла ў баявыя дзеянні пад Сянно, прыпадае 146 танкаў, большая частка з якіх былі знішчаны ў тым раёне. Усяго 39-м нямецкім армейскім корпусам на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, у раёне Улы і каля Віцебска, быў знішчаны 371 танк, з якіх абсалютная большасць у ходзе баёў пад Сянно. Трэба мець на ўвазе, што баявыя дзеянні з удзелам 7-га і 5-га Мк працягваліся і пасля завяршэння баёў пад Сянно. Так, напрыклад, 14-я танкавая дывізія 7-га механізаванага корпуса страціла з 13 па 17 ліпеня ў раёне Лёзна яшчэ 89 танкаў [13, Bl. 464–465].

На аснове аналізу дзённікаў баявых дзеянняў 7-й, 12-й, 20-й танкавых і 20-й матарызаванай нямецкіх дывізій 3-й танкавай групы (з пачатку ліпеня 4-й танкавай арміі. – С.Н,), а таксама 17-й танкавай дывізіі 2-й танкавай групы атрымліваецца, што ў ходзе баявых дзеянняў у раёне Дубравы, Бешанковічаў, Сянно, а таксама Улы і Віцебска, а у таксама Лёзна да сярэдзіны ліпеня 1941 г. былі знішчаны **694** савецкія танкі, меншая палова якіх была страчана 13-й і 17-й савецкімі танкавымі дывізіямі 5-га механізаванага корпуса ў раёне Сянно [13, Bl. 464–465].

Страты асабовага складу 7-й і 12-й нямецкіх ТД з 30.6 па 13.7.41 г. склалі 2967 чалавек, з якіх забытымі 759, параненымі – 2108, зніклымі без вестак – 100 афіцэраў, унтэрафіцэраў і радавых [14, Bl. 149]. З нямецкіх дакументаў вынікае, што ў ходзе баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларускага

Падзвіння агульныя страты нямецкіх афіцэраў склалі амаль трэць ад агульных страт, панесеных баявымі часцямі з пачатку баявых дзеянняў на савецкай тэрыторыі. Суадносіны унтэрафіцэраў і радавых, страчаных на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, у тым ліку ў час баявых дзеянняў пад Сянно і Лепелем, складалі крыху менш за чвэрць ад агульных страт. Паводле дакументаў 5-га савецкага механізаванага корпуса, у выніку баёў з 8 па 11 ліпеня агульныя страты ў жывой сіле з корпусе складалі 646 чалавек, у тым ліку 138 забітымі і 357 прапаўшымі без вестак [11, Арк. 111]. Дакладных даных аб фактычных стратах, панесеных 3-й нямецкай танкавай групай у баявой тэхніцы, на гэты момант аўтарам не выяўлена. Вядома толькі тое, што ў 2-й танкавай групе па стану на 7.7.41 г. баяздольнымі ў танкавых парках нямецкіх дывізій лічылася: у 3-й і 18-й танкавых дывізіях баяздольнымі былі 35% машын; у 4-й і 17-й (якая ўдзельнічала ў баях пад Сянно. – С.Н.) – 60%; у 10-й танкавай дывізіі – 80% машын былі баяздольнымі. Фактычна страчанай за гэты час лічылася кожная 10-я машына [15, Bl. 149].

Аб аператыўна-тактычных выніках Лепельскай аперацыі, праведзенай у пачатку ліпеня 1941 г., выказваюцца самыя розныя ацэнкі. У першую чаргу, гэта звязана з беззваротнай стратай значнай колькасці баяздольнага парку савецкіх танкаў. Прычын гэтага было шмат. У тым ліку і такіх, пра якія выказваўся ў час допыту камандзір 14-га гаўбічнага палка 14-й танкавай дывізіі Я.І. Джугашвілі (17 ліпеня ў раёне Лёзна патрапіў у палон на ўчастку наступлення 5-га пяхотнага палка 12-й нямецкай танкавай дывізіі 3-й танкавай групы) [16, Bl. 1–3]. На яго думку, высокай ацэнкі заслугоўвае нямецкая танкавая тэхніка і тактыка яе выкарыстання на полі бою. У адносінах савецкіх танкавых часцей палонны савецкі афіцэр-артылерыст адзначаў, што Чырвоная Армія ўзяла на ўзбраенне вопыт нямецкіх танкавых падраздзяленняў з часоў вайны ў Францыі. Укамплектаванне танкавых часцей і выкарыстанне тактычнага вопыту нямецкіх танкавых баявых падраздзяленняў было цалкам запазычана звонку. Няўдачы з выкарыстаннем савецкіх танкаў звязаны не толькі з недахопам тэхнікі ці ўзбраенняў, колькі з-за нядольнасці камандзіраў і адсутнасці ў іх вопыту вядзення манеўранага бою. Тады як нямецкія танкавыя часці “ходзяць як гадзіннік”.

Прычыны, па якіх камандзірам не стае вопыту, Джугашвілі Я.І. бачыў у становішчы вышэйшага афіцэрскага корпусу Чырвонай Арміі: гэта стала горкай расплатай за знішчэнне вядучага каманднага складу ў ходзе рэпрэсій, праведзеных супраць маршала М.М. Тухачэўскага і іншых камандзіраў. У выніку такіх дзеянняў, як адзначаў на допыце выпускнік маскоўскай школы артылерыйскай падрыхтоўкі савецкіх афіцэраў, на ўзроўні ні брыгады, ні дывізіі, ні корпуса часам не маглі своечасова прыняць правільнага аператыўнага рашэння. На думку афіцэра, пра гэта сведчыць і наступальная аперацыя, праведзеная савецкім камандаваннем пад Віцебскам. Часам штабы цалкам гублялі сувязь са сваімі часцямі і паміж сабой. У такай сітуацыі сярод салдат узнікала паніка, калі без камандзіра самі салдаты не былі здольнымі арганізаваць адэкватнай абароны. У гэтай сітуацыі са зброяй у руках камандзіры і палітычныя камісары стрымлівалі тых, хто пакідаў пазіцыі. Як камандзір гаўбічнай батарэі сам Джугашвілі адзначаў, што артылерысты вымушаны былі весці агонь па праціўніку без палявых карт [16, Bl. 1–3].

У гэтым плане важнымі нам падаюцца і іншыя факты, без уліку якіх на цяперашні час практычна нельга казаць аб стварэнні суцэльнай панарамы танкавых баталій на Віцебшчыне летам 1941 г. Звернемся да малавядомага архіўнага дакумента, якім з’яўляюцца вынікі інспектавання, па даручэнні камандуючага Заходнім фронтам С.К. Цімашэнкі праведзенага амаль па гарачых слядах членам Ваеннага Савета фронту першым сакратаром ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнкам. Падрыхтаваная ў жніўні месяцы на імя І.В. Сталіна, дакладная запіска ўтрымлівае шмат важных ацэнак, да таго, што адбылося ў ходзе правядзення контрудару на лепельскім напрамку. У дакуменце даецца характарыстыка прычын паражэння Заходняга фронту, звязаных са схільнасцю многіх военачальнікаў і камандзіраў да дзеянняў “лабавымі ўдарамі”, “коннай лавай”, “навалам”, вядомых з арсеналу грамадзянскай вайны. Панамарэнка дае адказ і на пытанне аб тым, да чаго прывяла падобная тактыка ў 7-м механізаваным корпусе, якія меў 526 танкаў, у тым ліку новых канструкцый. Так, “з 9 па 20 ліпеня корпус прайшоў шлях з баямі [ў раёне] Рудня – Лёзна – Бешанковічы і назад у Лёзна. У гэтым рэйдзе корпус страціў усе танкі па прычыне таго, што ў першы дзень корпус распачаў без разведкі лабавую атаку на вузел абароны праціўнікі, у выніку страціў адразу 100 танкаў. Далей, зноў-такі ў выніку адсутнасці разведкі, корпус патрапіў пад перакрыжаваны агонь двух замаскіраваных танкавых калон праціўніка і таксама страціў шмат танкаў. Затым корпус адышоў у балота. Шмат танкаў завязлі, а астатнія былі страчаны па дарогах. Так злачынна быў загублены адзін з моцных карпусоў” [17, С. 42; 18, С. 51–65].

Такім чынам, Лепельская аперацыя, праведзеная па загаду камандавання Заходняга фронту сіламі двух МК у пачатку ліпеня 1941 года, насамрэч вызначалася фактам шырокага выкарыстання танкавых злучэнняў як з савецкага, так і нямецкага бакоў. Аднак называць тыя падзеі танкавай бітвай пад Сянно нельга па прычыне цэлага шэрагу фактаў, якія вынікаюць з навуковага аналізу дакументальнага матэрыялу.

Па-першае, паводле дакументаў аператыўнага аддзела штаба Заходняга фронту баявыя дзеянні 5-га і 7-га механізаваных карпусоў 20-й арміі былі названы **"Лепельскай аперацыяй",** крайнімі часовымі рамкамі якой з'яўляюцца даты 6–11 ліпеня 1941 года: калі два савецкіх танкавых корпусы пачалі баявыя дзеянні і калі апошнія былі фактычна завершаны для асноўнай часткі падраздзяленняў чатырох танкавых і адной матарызаванай дывізіі. З дакументаў вынікае, што крайняй датай для часцей 5-га механізаванага корпуса стала дата 11 ліпеня 1941 г. [11, Арк. 111].

Па-другое, у дакументах нам не ўдалося выявіць факта адначасовага сутыкнення з двух бакоў буйных мас танкаў, агульная колькасць якіх перавышала б нават 300 адзінак, не кажучы пра лічбы ў амаль 3 тыс. баявых машын. Так, напрыклад, у ходзе баёў на лініі Дуброва – Гняздзілавічы з нямецкага боку былі адначасова задзейнічаны толькі 2 батальёны 25-га нямецкага танкавага палка ў складзе менш 100 танкаў, у той час як з савецкага боку гэта лічба была ўдвая большая. Вывучэнне аператыўных дакументаў танкавых злучэнняў, якія з двух бакоў удзельнічалі ў баях пад Сянно, паказвае баявыя сутыкненні з удзелам аднаго – двух танкавых палкоў агульнай колькасцю ад 150 да 200 баявых адзінак [11, Арк. 111].

Па-трэцяе, Лепельская аперацыя з удзелам двух механізаваных корпусаў фактычна распалася на 2 самастойных контрудары, якія, паводле плана, распрацаванага штабам 20-й арміі, наносіліся па розных напрамках, адпаведна: 7-ы МК у складзе 14-й і 18-й танкавых дывізій наступаў з раёна Віцебска на Бешанковічы–Лепель; 5-ы МК у складзе 13-й і 17-й танкавых і 109-й мотастралковай дывізій наносіў удар з раёна Оршы на Сянно–Лепель. Фактычна яны былі праведзены ў такой жа паслядоўнасці, але з адтэрміноўкай у 2 дні. Канчатковай мэтай контрудараў з'яўляўся выхад у раён Лепеля дзеля нанясення ўдару ў фланг і тыл полацкай групоўцы праціўніка. Паводле аператыўнай зводкі Заходняга фронту ад 5 ліпеня 1941 г., войскі фронту наносілі ўдар па праціўніку маючы толькі адзін агульны напрамак – Лепель [6, С. 276].

Па-чацвёртае, у двух савецкіх танкавых злучэннях страты складалі 3/4 танкавага парку 5-га і 7-га МК. Пра страты асабовага складу сведчыць наступны дакументальны запіс з выніковай справаздачы 5-га МК: пасля завяршэння Лепельскай аперацыі ў корпусе было дастаткова асабовага складу для забеспячэння боегатоўнасці часцей [11, Арк. 111].

Па-пятае, сярод галоўных фактараў амаль поўнага разгрому двух механізаваных карпусоў трэба мець на ўвазе іх аб'ектыўны і суб'ектыўны характар паходжання. Даволі дакладную карціну аб прычынах разгрому дае справаздача 13-й танкавай дывізіі, дзе гаворыцца пра тое, што ў ходзе баю ў раёне Толпіна два танкавых і адзін мотастралковы палкі выконвалі загад аб неадкладным уступленні ў бой, але пры гэтым былі вымушаны ўвесці ў бой свае баявыя часці без артылерыйскай падрыхтоўкі, без узаемадзеяння паміж сабой, без належнай разведкі мясцовасці, без выкарыстання пяхоты, і пры ўсім не ў поўным складзе, з парушэннем кіравання і не ў поўнай баявой гатоўнасці [19, Арк. 3].

Па-шостае, нягледзячы на тактычныя няўдачы 5-га і 7-га МК, загад аб іх адыходзе з лепельскага напрамку на зыходныя пазіцыі, стаў вынікам не разгрому ў раёне Сянно і Лепеля, а ў сувязі са стратай Заходнім фронтам Віцебска 9 ліпеня 1941 г. Страты ў баявой тэхніцы, панесеныя 2 савецкімі карпусамі ў ходзе Лепельскай аперацыі, былі даволі адчувальнымі, але не сведчылі аб катастрофе [11, Арк. 111], якая адбылася ў раёне Беластока–Мінска ў пачатку вайны. У той жа час як маштабныя баявыя дзеянні, прадстаўленыя ў сучаснай айчыннай гістарыяграфіі ў раёне Сянно "адной з буйнейшых танкавых бітваў пачатковага перыяду вайны", засталіся непрыкметнымі для камандуючага групай армій "Цэнтр", які 8 ліпеня знаходзіўся на камандным пункце 3-й танкавай групы ў Лепелі [20, С. 73].

І ў рэшце рэшт, выкарыстанне параўнаўчага метаду для даследавання гісторыі танкавых баталій на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў пачатку ліпеня 1941 г. сведчыць пра тое, што толькі на аснове айчынных і замежных дакументальных крыніц магчыма аб'ектыўная рэканструкцыя тых ваных гістарычных падзей. Пры інтэрпрэтацыі вынікаў фактычных баявых дзеянняў важна мець на ўвазе наступны дакументальны факт: у 5-м механізаваных корпусе толькі 30% танкаў былі страчаны на полі бою ў ходзе сустрэчных танкавых баёў ці дзейнасці процітанкавай артылерыі праціўніка [11, Арк. 112].

Аднак, гісторыю баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння летам 1941 г. вызначаў не толькі маштабны танкавы пагром пад Сянно, але і ўпартая абарона савецкімі часцямі непрыступнай "крэпасці Полацк" [21, Bl. 125], дзе германскі вермахт быў вымушаны весці свае "самыя цяжкія" баі [22, Bl. 125]. Гэта азначала, што часці Чырвонай арміі прыкладалі вялікія намаганні для выканання задачы, пастаўленай у пачатку ліпеня Ваенным саветам Заходняга фронту па арганізацыі трывалай абароны на лініі Полацкага ўмацаванага раёну [23, С. 77]. Наступленне, распачатае нямецкімі войскамі ў паласе Полацкага УРа 3 ліпеня, было затрымана амаль на 2 тыдні [24, С. 46].

Такім чынам, аўтарская спроба навуковай рэканструкцыі баявых дзеянняў на аснове выкарыстання новых дакументальных крыніц пераконвае ў тым, што адной з актуальных задач на цяперашні час нам бачыцца правядзенне беларускімі гісторыкамі спецыяльнага даследавання аб

Лепельскай аперацыі і абароне “крэпасці Полацк” у ліпені 1941 г., прычым даследавання, у аснову якога будзе пакладзены прынцып супастаўлення дакументальных крыніц айчыннага і замежнага паходжання, іх крытычнага аналізу з мэтай правядзення аб’ектыўнага вывучэння тых гераічных і трагічных падзей пачатковага перыяду Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі. Таму ўсё больш відавочнай становіцца такая аксіёма: перспектыву будзе мець тое даследаванне, у якім знойдзе месца двухбаковы разгляд баявых дзеянняў, максімальна поўнае прыцягненне дакументальных матэрыялаў, узважанае супастаўленне фактаў з савецкіх і нямецкіх архіўных крыніц, а таксамі іх крытычнага аналізу. Толькі такі падыход дапаможа беларускім гісторыкам даць адказы на пакуль малавядомыя пытанні, якія застаюцца адкрытымі ў гісторыі правядзення 5-м і 7-м механізаванымі карпусамі двух самастойных контрудараў у ходзе Лепельскай аперацыі 1941 г., а таксама ўпартай абароны часцямі Чырвонай арміі “крэпасці Полацк”. Вынікае, што на цяперашні час даследчыкам нельга аслабляць увагі да гэтай важнай гістарычнай праблемы.

ЛІТАРАТУРА

1. Исаев, А.В. Неизвестный 1941. Остановленный блицкриг / А.В. Исаев. – М.: Яуза, Эксмо, 2010. – 480 с.

2. Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі (далей – ЦАМА РФ). Журнал боевых действий 5 МК: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г. – Ф. 208. – Воп. 2511. – Спр. 80.

3. Федэральны ваенны архіў Германіі (далей – BA-MA). RH 21-3/732: Panzer AOK 3. Ia Nr. 520/42 geheim: Gefechtsberichte Russland 1941/42.

4. Бутков, В.В. Контрудар 5-го механизированного корпуса на лепельском направлении (6–11 июля 1941 года) / В.В. Бутков // Военно-исторический журнал. – 1971. – № 9. – С. 59 – 65.

5. BA-MA. RH 24-47/5: Anlage Nr. 248 zum Kriegstagebuch Nr. 2 des XXXXVII. Pz. Korps: Bericht über Marsch und Kampf der 17. Pz. Division von Borissow über Senno nach Kochanovo v. 11.7.41.

6. Боевое донесение № 8 командующего 20-й армией о результатах боевых действий 5-го и 7-го механизированных корпусов, 8 июля 1941 г. // 1941: т. 2: Документы и материалы к 70-летию Великой Отечественной войны. Выпуск первый в двух томах. Вып. 1 / сост.: Ю.А. Никифоров [и др.]. – СПб.: ФГБУ «Президентская библиотека имени Б.Н. Ельцина», 2011. – 579 с.

7. BA-MA. RH 21-3/46: Panzergruppe 3. Abt. I a, v. 9.7.41. Gefechtbericht vom 30.6.–9.7.41.

8. ЦАМА РФ. Отчет о боевых действиях 13-й танковой дивизии 5 МК за период с 4 по 19.7.41. – Ф. 208. – Воп. 2511. – Спр. 80.

9. ЦАМА РФ. Подробное описание первого боя 13-й танковой дивизии в районе Толпино 8.7.41. – Ф. 208. – Воп. 2511. – Спр. 80.

10. Отчет о действиях частей 17-й танковой дивизии с 4.7.41 по 19.7.41. –ЦАМО РФ. – Ф. 208. – Воп. 2511. – Спр. 80.

11. ЦАМА РФ. Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г. – Ф. 208. – Воп. 2511. – Спр. 80.

12. BA-MA. RH 21-3/433: Abschlußbericht über die Panzerkämpfe am 7.7.41 der 7. Panzer–Division, v. 8.7.41.

13. BA-MA. RH 21-3/433: Generalkommando XXXIX. A.K. Bericht über Gefangene, vernichtetes Gerät und Beute seit Beginn der Kamphandlungen v. 8.8.41.

14. BA-MA. RH 21-3/46: Panzergruppe 3. Gesamtaufstellung der bisher gemeldeten Verluste, Stand vom 13.7.41.

15. BA-MA. RH 21-2/927: Meldung der Pz. Gr. 2 an AOK über einsatzbereite Panzer vom 7.7.41.

16. BA-MA. RH 26-26/7a: Vernehmung des gefangenen russischen Oberleutnant Jacob Josifowitsch Dschugaschwili vom 14. Haub. Art. Regiment.

17. Платонов, Р.П. Белоруссия, 1941-й: известное и неизвестное: По документам Национального архива Республики Беларусь / Р.П. Платонов. – Мн.: БелНИИДАД, 2000. – 209 с.

18. Платонов, Р.П. О причинах поражения войск Западного фронта в первые месяцы войны (По материалам Национального архива Республики Беларусь) / Р.П. Платонов // Беларусь, 22 июня 1941 года: Говорят архивы…: Материалы к заседанию «круглого стола», посвященного 60-летию начала Великой Отечественной войны (июнь 2001 г.) / Отв. ред.-сост. Р.П. Платонов, В.В.Федосов. – Мн.: БелНИИДАД, 2000. – С. 51 – 65.

19. ЦАМА РФ. Отчет о боевых действиях 13-й танковой дивизии 5 МК за период с 4 по 19.7.41. – Ф. 208. – Воп. 2511. – Спр. 80.

20. Бок, Ф. фон. «Я стоял у ворот Москвы» / Федор фон Бок. – М.: Вече, 2009. – 432 с.

21. BA-MA. RH 24-6/36: Die Vorbereitung der Bereitstellung zum Angriff und den Angriff gegen die Festung Polozk vom 13.7.41.

22. BA-MA. RH 21-3/46: Gefechtbericht der Panzer Gruppe 3 vom 30.6 bis 11.7.1941.

23. Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941–1945 / А.А. Коваленя (рук. Авторского коллектива), А.М. Литвин, В.И. Кузьменко [и др ]. – Минск: БЕЛТА, 2005. – 544 с.

24. Поляков, С.И. «Линия Сталина». Полоцкий укрепрайон, 1919–1941 гг. / С.И. Поляков, С.П. Копыл. – Полоцк: Полоцкое книжное изд-во, 2009. – 55 с.

ГІСТОРЫЯ

**УДК 351.853.1**

## МЕМАРЫЯЛІЗАЦЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ ПОЛАЦКА І ВІЦЕБСКА СРОДКАМІ МАНУМЕНТАЛЬНАГА І МАНУМЕНТАЛЬНА-ДЭКАРАТЫЎНАГА МАСТАЦТВА

***канд. гіст. навук, дац. М.В. ПІВАВАР***
**Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава, Віцебск**

Манументальная і дэкаратыўная скульптура адыгрывае значную ролю ў фарміраванні патрыятызму і грамадзянскіх якасцяў у гараджан, складванні пазітыўнага вобраза горада. Сярод іншых функцый, скульптура павінна адлюстроўваць гісторыю і культуру горада ў матэрыяльным выглядзе. Помнікаў у Полацку і Віцебску досыць шмат. Аднак, большасць з іх – спадчына савецкага перыяду жыцця. За часы незалежнасці з’явіліся новыя, але, відавочна вялікая розніца ў тым, якія помнікі паўсталі ў першай старажытнай сталіцы беларускіх земель – Полацку і “паўночнай сталіцы” краіны – Віцебску. Помнік “Клоўну”, патрыярху Маскоўскаму Алексію II і пустуючы пастамент пад помнік князю Альгерду яскрава сведчаць пра тое, што ў абласным цэнтры ёсць сур’ёзныя праблемы ў разуменні і стаўленні да нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Можна нават прывесці спіс “помнікаў, якіх няма”.

У Полацку, натуральна, праблемы таксама існуюць, але сітуацыя блізка да ўзорнай: у горадзе ўзведзены помнікі князям полацкім Усяславу Брачыславічу і Андрэю Полацкаму, Еўфрасінні Полацкай, Сімяону Полацкаму, крывічам, полацкаму купцу, студэнту, якія сведчаць аб абраным нацыянальна-арыентаваным дыскурсе, які засноўваецца на старажытнай гісторыі і багатай культуры.

Мэтай артыкула з’яўляецца спроба вызначыць колькасць аб’ектаў манументальнай і манументальна-дэкаратыўнай скульптуры ў гг. Віцебску і Полацку. Высветліць асноўныя тэндэнцыі ў мемарыялізацыі нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне гэтых гарадоў, распрацаваць пэўныя рэкамендацыі для краязнаўцаў горада, адміністрацыі для далейшай мемарыялізацыі падзей з гісторыі горада.

Пытанні вызначэння колькасці помнікаў гісторыі і культуры ў Віцебску і Полацку, іх стану, перспектыў развіцця знайшло сваё адлюстраванне ў сучаснай бібліяграфіі. Манументальнай працай, ацэненай у 1985 г. Ленінскай прэміяй, стаў “Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі”. У гісторыка-культурных хроніках гарадоў і раёнаў Беларусі “Памяць” змяшчаюцца пэўныя звесткі па вывучаемаму пытанню [1]. У энцыклапедычным даведніку “Віцебск” значная ўвага надавалася стану помнікаў гісторыі і культуры ў Віцебску [2]. Вялікая колькасць інфармацыі змяшчаецца ў мясцовым перыядычным друку. Віцебскі журналіст А. Падліпскі разам з В. Рогач выдалі кнігу прысвечаную памятным шыльдам горада [3]. Інфармацыю пра помнікі Полацка ў асноўным можна знайсці на старонках мясцовага перыядычнага друку [4]. Пытанні аховы гісторыка-культурнай спадчыны рэгулююцца законам [5] і пастановамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў [6]. Інфармацыю аб аб’ектах нацыянальнай спадчыны, якія ўзяты пад ахову дзяржавы, змяшчаюць у “Спісах гісторыка-культурных каштоўнасцяў” па абласцях [7].

На пачатку вызначым некаторыя акалічнасці вывучаемага пытання. Значнай праблемай для Віцебска і Полацка з’яўляецца сітуацыя, калі падаўляючая колькасць помнікаў не ўзята на ўлік і не знаходзіцца пад аховай дзяржавы. Не існуе нават спісу такіх аб’ектаў.

На сённяшні дзень у Віцебску ў “Спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў” 105 аб’ектаў, з іх 4 помніка: бюст П.М. Машэрава, помнік У.І. Леніну (1956), Плошча Перамогі і мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны, помнік героям Айчыннай вайны 1812 года. З 39 аб’ектаў Полацка помнікі толькі 2: Ф. Скарыне і У.М. Азіну. Першая праблема, якую мы паспрабуем разгледзіць у артыкуле, колькі ж помнікаў у Віцебску і Полацку? Помнікаў значна больш, але яны не знаходзяцца пад аховай. Толькі ў Віцебску з 1985 г. было ўзведзена больш 80 аб’ектаў мемарыяльнай і дэкаратыўнай скульптуры. Але было і шмат аб’ектаў, якія не былі ўзяты ў улік. У гады незалежнасці былі ўзведзены новыя. З прыняццем закона “Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь” ад 9 студзеня 2006 г. аказалася некалькі зменена класіфікацыя помнікаў гісторыі і культуры. Сам тэрмін быў заменены на гісторыка-культурную каштоўнасць. Самай вялікай праблемай аказалася тое, што стары спіс быў ануляваны, а ў новы не ўвайшлі да 2/3 былых помнікаў гісторыі і культуры. Адсюль пытанне, на колькі яны прадстаўляюць гісторыка-культурную спадчыну горада?

Другая праблема, якая ставіцца аўтарам: што лічыць помнікам? На працягу апошняй чвэрці стагоддзя адбылося наступнае: распад СССР, атрыманне суверэнітэту Беларусі, і абумоўлены гэтымі падзеямі пераход ад сацыялістычнай ідэалогіі, ад інтэрнацыяналізму да нацыянальнага прынцыпу, ад нігілізму і ваяўнічага атэізму да аднаўлення значнай ролі царквы і касцёла ў грамадстве, адраджэнне

светапогляду, заснаванага на сусветных духоўных каштоўнасцях. За гэты час змяніліся заканадаўства і падыход да гісторыка-культурнай спадчыны. Змяніўся нават тэрмін з “помнікаў гісторыі і культуры” да “гісторыка-культурных каштоўнасцяў”.

19.09. 2008 выйшла Пастанова Савета Міністраў РБ № 1372 "Аб некаторых пытаннях стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва". Адпаведна ёй выдзяляецца манументальная скульптура (помнікі, *прысвечаныя важнай гістарычнай падзеі або вядомым дзеячам*) і мануменальна-дэкаратыўная скульптура (для аздаблення ландшафтна-прыроднага асяроддзя, плошчаў, вуліц, *маюць дэкаратыўны характар*). Адзін і той жа помнік, напрыклад самаму высокаму чалавеку на свеце, Фёдару Махнову будзе помнікам манументальнага мастацтва, калі гэта будзе помнікам Фёдару Махнову. Але, калі вы створаце помнік “Самаму высокаму чалавеку на свеце”, гэта будзе ўжо помнік манументальна-дэкаратыўнага мастацтва [8].

На 1985 г. у Полацку было 54 аб’екта (паводле “Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі [9]) [Дадатак 1]. З іх 36 – помнікі і памятныя дошкі. **24** аб’екты (64 %) былі прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны **9** (25%) – рэвалюцыйным падзеям, усталяванню Савецкай улады і Грамадзянскай вайне. **4** (11 %) – дакастрычніцкай гісторыі. Відавочны перагіб на карысць ваеннай і рэвалюцыйнай тэматыкі. Аднак гэта зразумела, калі прыгадаць якой краінай з’яўлялася БССР.

На 1985 г. у Віцебску пад аховай дзяржавы знаходзілася 125 аб’ектаў. З іх помнікамі і памятнымі месцамі, адзначанымі помнікамі, мемарыяльнымі знакамі, стэламі, мемарыяльнымі шыльдамі было 76 [Дадатак 2]. З іх **3** (4 %) прысвечаны дакастрычніцкай гісторыі горада, **20** (26 %) прысвечаны рэвалюцыйным падзеям, у тым ліку 10 помнікаў У. Леніну, **39** (52%) – падзеям і героям Вялікай Айчыннай вайны, **14** (18 %) – дзеячам культуры, партыйным і савецкім работнікам, якія памерлі ў пасляваенны час.

| Перыяд | Колькасць помнікаў (1985) | |
|---|---|---|
| | Полацк | Віцебск |
| Дакастрычніцкі перыяд | **4** (12 %) | **3** (4 %) |
| Рэвалюцыйныя падзеі | **9** (26%) | **20** (26 %) |
| Вялікая Айчынная вайна | **21** (62 %) | **39** (52%) |
| Пасляваенная гісторыя | | **14** (18 %) |
| | | |
| Помнікаў гісторыі і культуры ўсяго | 54 | 125 |
| З іх манументальнай скульптуры | 34 | 76 |

З пачаткам палітыкі перабудовы, атрыманнем незалежнасці і нацыянальна-культурнага адраджэння змяняецца стаўленне да мінулага і пачынаецца паварот да шанавання нацыянальнай спадчыны. За амаль 30 гадоў, якія мінулі з 1985 г. шмат што змянілася. У Віцебску паўстала каля сотні помнікаў [Дадатак 3]. Аднак у корані змянілася тэматыка. З’явіліся новыя тэмы – ўшанаванне памяці ўдзельнікаў вайны ў Афганістане: “Боль”, алея ў 103 брыгадзе мабільных войскаў, памятны знак у гонар 339 палка ваенна-паветранай авіяцыі; рэлігійным дзеячам: папе рымскаму Яну Паўлу ІІ і патрыярху маскоўскаму Алексію ІІ, памятныя знакі на месцы, дзе стаялі храмы. Тэма вайны таксама запатрабавана: “Дзецям вайны”, памятныя знакі на месцы загубы мірных жыхароў у Чорных прудах і Ілаўскім іраву; праведзена рэканструкцыя мемарыялу на плошчы Перамогі і створана алея Пераможцаў з выставай ваеннай тэхнікі. Пашырылася колькасць вулічнай скульптуры: помнік ветэрынарнаму доктару, “Сустрэча” на вакзале, Святому Крыспіну – апекуну краўцоў, клоўну, “Муза”, “Тэлефон” каля будынку Белтэлекому і іншыя. Аднак, помнікаў, прысвечаным значным падзеям у гісторыі горада, ці гістарычным асобам амаль не створана. Выключэннем з’яўляюцца помнік віцебскаму трамваю і шыльда ў гонар першай электрастанцыі. У гонар землякоў-дзеячаў культуры адкрыта шэраг памятных дошкак: М. Шагалу, Ул. Караткевічу, Е. Лось, І. Салерцінскаму, краязнаўцам М. Нікіфароўскаму, У. Краснянскаму, М. Касяровічу. Помнік віцебскаму князю Альгерду пасля некалькіх гадоў дыскусій і працы так і не ўзведзены, хаця ўжо некалькі гадоў стаіць зроблены пад яго пастамент.

У Полацку сітуацыя іншая. Дзякуючы шэрагу фактараў, у Полацку на працягу гадоў незалежнасці з’явілася значная колькасць помнікаў, якія адлюстроўваюць найлепшае стаўленне да гісторыка-культурнай спадчыны горада. На праспекце Ф. Скарыны (былой вуліцы Карла Маркса) усталяваны помнікі, якія з’ўляюцца адлюстраваннем нацыянальных і краязнаўчых сімвалаў краіны і Полацка: Францыску Скарыне, Сімеону Полацкаму, літары Ў, як увасабленню ўнікальнасці беларускай мовы, памятны знак цэнтру Еўропы. Тут жа застаўся помнік У. Леніну. За апошнія гады ў горадзе ўзведзены помнікі славутым землякам: Еўфрасінні Полацкай, дойліду Іаану, генералу І.Р. Кандраценку, З. Тусналобавай-

Марчанцы, рэжысёру Ю. Тарычу, князям Усяславу Брачыславічу, Андрэю Полацкаму. Асаблівасць гораду ствараюць помнік полацкаму купцу, полацкаму студэнту і шэраг іншых [Дадатак 4].

Такім чынам, зрабіўшы аналіз спісаў помнікаў гісторыі і культуры (да 1985 г.) і спісаў гісторыка-культурных каштоўнасцяў (на 2014 г.) можна зрабіць некаторыя высновы. У незалежнай Беларусі працягваецца працэс мемарыялізацыі гісторыка-культурнай спадчыны нашага народа. Добра вызначаецца змена ў тэматыцы даследаванняў і павароце ад рэвалюцыйнай і ваеннай тэматыцы да нацыянальна-гістарычнай. У той жа час застаецца шмат падзей і асоб мясцовай гісторыі, памяць пра якія не адлюстравана і патрабуе мемарыялізацыі ў г. Віцебску. Полацк выглядае значна лепш. Тлумачэннем гэтаму можа быць суб’ектыўны фактар (мэрам горада доўгі час быў Тачыла, які з’яўляўся актыўным правадніком палітыкі мемарыялізацыі гісторыка-культурнай спадчыны горада), адміністрацыйны статус горада (для ўсталявання помніка не трэба ўзгаднення Прэзідэнта, а толькі кансультацыі на ўзроўні аблвыканкаму), статус “першай сталіцы Беларусі” і “турыстычнага цэнтра краіны”. Спадзяемся, што пэўная змены адбудуцца з часам і ў Віцебску.

ЛІТАРАТУРА


1. Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Віцебск: у 2-х кн. – Мн.: БелЭн, 2002. – Кн. 1. – 648 с.; Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка горада Полацка. – Мн.: БелЭн, 2002. – 912 с.
2. Витебск: Энциклопедический справочник. Мн.: БелСЭ, 1988. – 408 с.
3. Подлипский А., Рогач В. Доски, берегущие память. – Витебск: ВАД, 2006. – 95 с.
4. Сергеев С. Полоцк – город уникальный // Народная газета. – 1997. – 22 мая. – С. 2; Спіс помнікаў, замацаваных за арганізацыямі горада [Полацк] // Полацкі веснік. – 1998. – 27 студз. – С. 2; Ці з’явіцца ў Полацку помнік Рагнедзе? // Звязда. – 2008. 17 верасн. – С. 6
5. Закон Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2006 года “Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь” // [Электронны рэсурс]. – 2008. Рэжым доступу: // Электронны каталог.
6. Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 лістапада 2005 г. № 512 “Аб зацвярджэнні пераліку матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей, уключаных у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэпублікі Беларусь, якія вызваляюцца ад абкладання падаткам на нерухомасць”; Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19.09.2008 № 1372 "Аб некаторых пытаннях стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва". [Электронны рэсурс]. – 2014. Рэжым доступу: // http://pravo.levonevsky.org/bazaby11/republic13/text944.htm.
7. Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Віцебскай вобласці // [Электронны рэсурс]. – 2008. Рэжым доступа: // Электронны каталог.
8. Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 19.09.2008 N 1372 "Аб некаторых пытаннях стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва". [Электронны рэсурс]. – 2014. Рэжым доступу: // http://pravo.levonevsky.org/bazaby11/republic13/text944.htm.
9. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць. – Мн., 1985. – 496 с.


Дадатак 1

**Помнікі Полацка, якія ахоўваліся дзяржавай**

(адпаведна “Збору помнікаў гісторыі і культуры (1985)

1. Барысаў камень, помнік эпіграфікі, на беразе Дзвіны каля Сафійскага сабора. 1981.
2. Брацкая магіла савецкіх воінаў, пл. Леніна (цяпер пл Свабоды). 1981.
3. Брацкая магіла савецкіх воінаў, вул. Дзяржынскага, на Фатынаўскіх могілках. 1949. абеліск.
4. Брацкая магіла савецкіх воінаў, вул. Гагарына, на Чырвоных могілках. 1984. стэла.
5. Брацкая магіла савецкіх воінаў, вул. Суворава, на Громоўскіх могілках. 1950. абеліск.
6. Курган Бессмяротнасці, у парку 50-годдзя Савецкай улады. 1966.
7. Магіла Янкі Журбы, вул. Фрузе, на Ксавер’еўскіх могілках. 1970. стэла
8. Магіла Пісарэнкі А.Я., вул. Гагарына., на Чырвоных могілках. 1966. абеліск.
9. Магіла Тусналобавай-Марчанка, вул. Гагарына., на Чырвоных могілках. 1980. абеліск.
10. Мемарыяльная дошка ўдзельнікам атрадаў самаабароны, пр-т. Карла Маркса, 11. 1978.
11. Мемарыяльная дошка Азіну У.М.
12. Мемарыяльная дошка Аляксееву І.Е.
13. Мемарыяльная дошка Бабушкіну І.В.
14. Мемарыяльная дошка Марыненка Т.С.
15. Мемарыяльная дошка ў гонар 1-га Полацкага павятовага з’езда Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, пр-т К.Маркса, 3.1978.
16. Помнік Азіну У.М. вул. Скарыны, двор СШ № 10. 1979.

17. Помнік Айтыкаву І.К., вул. Суворава. 1969. бюст на фоне стэлы.
18. Помнік Аляксееву І.Е., вул. Аляксеева.
19. Помнік ахвярам фашызму, вул. Юбілейная. 1966. абеліск.
20. Помнік воінам-гвардзейцам, на беразе Дзвіны. 1975. мемарыяльны знак.
21. Помнік вучням і настаўнікам, вул.Камуністычнай, СШ № 7. 1967. стэла.
22. Помнік вызвалення, вул. Гагарына. 1965. у гонар воінаў 1-га Прыбалтыйскага фронту
23. Помнік Гараўцу А.К., вул. Фрунзе.1973.
24. Помнік камсамольцам Полаччыны, пр-т К.Маркса. 1968.
25. Помнікі У.Леніну, пр-т К.Макса. 1949.
26. Помнікі У.Леніну, Прывакзальная плошча. 1959.
27. Помнікі У.Леніну, вул.Камуністычная, СШ № 1. 1979.
28. Помнік Марозаву П., вул. Ленінградская, каля СШ № 5. 1970.
29. Помнік Марыненка Т.С., вул. Марыненка, каля СШ № 8. 1980.
30. Помнік Марыненка Т.С., вул. Фрунзе, перад будынкам певучылішча. 1970, паплечны бюст, 1967, мемарыяльная дошка.
31. Помнік савецкім воінам і ахвярам фашызму, скрыж. вул. Фрунзе і Касманаўтаў (дулаг-125). стэла.
32. Помнік савецкім воінам ў гонар воінаў 1-га Прыбалтыйскага фронта, на ўскраіне горада. 1980. Т-34 на пастаменце.
33. Помнік Ф. Скарыне, скрыж. вул. К. Маркса і Гогаля. 1974.
34. Чырвоны мост. Праз Палату на вул. Ефрасінні Полацкай. 1974. каля маста ўсталявана дошка.

Дадатак 2

**Помнікі Віцебска, якія ахоўваліся дзяржавай**

(адпаведна "Збору помнікаў гісторыі і культуры" (1985)

1. Брацкая магіла падпольшчыкаў. 3-я Полацкая, на Новасямёнаўскіх могілках. 1971. надмагільная пліта.
2. Брацкая магіла савецкіх воінаў, пас. Лучоса. 1973. абеліск.
3. Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан, вул. Леніградская. 1958. абеліск.
4. Вайсковыя могілкі, Успенская горка.1956. 2 скульптуры воінаў, надмагільныя пліты.
5. Вайсковыя могілкі, вул. Цітова. 1976. мемарыяльная пліта.
6. Магіла ахвяр фашызму, каля ветінстытута. 1981. мемарыяльны знак.
7. Магіла Асяненкі В.М., (Герой Сацыялістычнай Працы) на Мазурынскіх могілках. 1980. стэла.
8. Магіла Васільевай З.Ц., на Новасямёнаўскіх могілках. 1970.мемарыяльная стэла.
9. Магіла Глебаўскай Я.К., на Мазурынскіх могілках. 1979?.
10. Магіла Дзенісенкі М.І., на Старасямёнаўскіх могілках. 1951. Абеліск.
11. Магіла Ільінскага А.К., на Мазурынскіх могілках. 1974. Надмагілле.
12. Магіла Макарава М.А. (Герой Сацыялістычнай працы), на Мазурынскіх могілках.. 1977. стэла.
13. Магіла Манковіча С.С., на Мазурынскіх могілках. 1979. стэла.
14. Магіла Міцкевіча М.А., на Пескавацінскіх могілках. 1956. абеліск.
15. Магіла Мікалаева Я.Д., на Мазурынскіх могілках. 1980. стэла.
16. Магіла Пэна Ю.М., на Старасямёнаўскіх могілках. 1937. абеліск.
17. Магіла Радзялоўскай А.П., на Мазурынскіх могілках. 1971. стэла з барэльефам.
18. Магіла Шмырова М.П., Успенская горка.
19. Магілы савецкіх салдат, Пескавацік. 1957. абеліск.
20. Мемарыяльная дошка Белахвосцікаву А.Я., вул. Белахвосцікава, 29. 1968.
21. Мемарыяльная дошка вучням-падпольшчыкам, вул. Ламаносава, 23, СШ № 18. 1967.
22. Мемарыяльная дошка Гарфункіну Р.С., вул. Гагарына, 4. 1979.
23. Мемарыяльная дошка Заслонаву К.С., вул. Кірава, будынку лакаматыўнага дэпо. 1956.
24. Мемарыяльная дошка Ільінскаму А.К., вул. Суворава, 23. 1979.
25. Мемарыяльная дошка Леніну У.І., вул. Горкага, 104, на будынку ЦЭЦ. 1966.
26. Мемарыяльная дошка Машэраву П.М., Маскоўскі пр-т, 33.1982.
27. Мемарыяльная дошка падпольшчыкам Свечкіным, вул. Свечкіных. 1968.
28. Мемарыяльная дошка рабочым і служачым станкабудаўнічага завода імя С.М. Кірава, вул. Дзімітрава, 36/7. 1966.
29. Мемарыяльная дошка Рамашкіну Ц.Ц., вул. Гагарына, 119. 1980.
30. Мемарыяльная дошка Свідзінскаму У.І., вул. Гагарына, 4. 1967.
31. Мемарыяльная дошка Селіханаву С.І., вул. Суворава, 3. 1979.
32. Мемарыяльная дошка Смірнову П.С., вул. Ленінградская, 42/1. 1966.
33. Мемарыяльная дошка Сяргейчыку Ц.М., вул. Суворава, 25/15. 1979.
34. Мемарыяльная дошка Успенскаму Г.І., вул. Леніна, 18. 1979.
35. Месца арганізацыйнага сходу Віцебскай арганізацыі РСДРП(б), вул. Бумагіна, 35 (былы Латышскі клуб). 1963.
36. Месца загубы падпольшчыкаў, каля ратушы. 1967. памятны знак

37. Месца мітынгу чыгуначнікаў у 1919 г., лакаматыўнае дэпо. 1965. дошка.
38. Месца паўстання гараджан 1623 г., на ратушы, 1980. дошка.
39. Месца размяшчэння лагера смерці, вул. Цітова. 1964 г. абеліск.
40. Месца расстрэлу мітынгу рабочых 18 кастрычніка 1905 г., ратуша. 1980. дошка.
41. Мост імя Блахіна Ф.Ц. 1959. мемарыяльная дошка.
42. Плошча Перамогі і мемарыяльны комплекс. 1974.
43. Помнік віцебскім падпольшчыкам, Смаленская плошча. 1968.
44. Помнік вучням. СШ № 9. 1968. стэла.
45. Помнік героям Айчыннай вайны 1812 г., Успенская горка. 1912.
46. Помнік Горкаму, вул. Горкага, каля д. № 25. 1952. бюст.
47. Помнік Калініну М.І., вул. Горкага, каля д. № 25. 1952. бюст.
48. Помнік Калініну М.І., лакаматыўнае дэпо. 1976. бюст.
49. Помнік Кіраву С.М, вул. Дзімітрава, станкабудаўнічы завод. 1964.
50. Помнік Кіраву, вул. Кірава. 1979. бюст.
51. Помнік У. Леніну, пл. Ленина. 1956.
52. Помнік У. Леніну, вул. Гагарына, на тэрыторыі фабрыкі “Сцяг індустрыялізацыі”. 1956. скульптура.
53. Помнік У. Леніну, вул. Горкага, на тэрыторыі дывановага камбіната. 1956. скульптура.
54. Помнік У. Леніну, вул. Горкага, на тэрыторыі фабрыкі КІМ. 1948. скульптура.
55. Помнік У. Леніну, вул. Дзімітрава, на прахаднойстанкабудаўнічага завода імя Кірава. 1957. скульптурная кампазіцыя: Ленін з салдатам і матросам.
56. Помнік У. Леніну, вул. Леніна, каля будынка гарвыканкаму. 1953. скульптура.
57. Помнік У. Леніну, вул. Леніна, каля будынка аблвыканкаму. 1965. бюст.
58. Помнік У. Леніну, вул. Леніна, каля будынка філіялу праектна-вышукальнага інстутута “Белкалгаспраект”. 1963. бюст.
59. Помнік У. Леніну, вул. Б. Хмяльніцкага, каля будынка паліклінікі імя У.І. Леніна. 1969. бюст.
60. Помнік У. Леніну, на тэрыторыі лакаматыўнага дэпо. 1969. бюст.
61. Помнік К. Марксу, пл. Свабоды, каля будынка абкаму (цяпер мастацкі музей). 1965.
62. Помнік Машэраву, вул. Замкавая. 1980.
63. Помнік рабочым і служачым фабрыкі “Сцяг індустрыялізацыі”, вул. Гагарына, 11. 1967. стэла.
64. Помнік Свідзінскаму, вул.У.І. Гагарына, 4. 1967. бюст.
65. Помнік Суvotaраву, вул. Суворава. 1952. бюст.
66. Помнік супрацоўнікам ветэрынарнага інстытута, вул. Даватара. 1967. мемарыяльны знак.
67. Помнік В. Харужай, каля СШ № 31. 1973. бюст.
68. Помнік чыгуначнікам, лакаматыўнае дэпо. 1972. скульптура чыгуначніка з гранатай ў руцэ.
69. Помнік Шмырову М.П., вул. Чэхава, у парку мемарыяльнага музея Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова. 1969.
70. Помнік Шмырову М.П., вул. Шмырова, каля СШ № 43. 1975.
71. Явачная кватэра, вул. Вінаградавай, 6. 1966. мемарыяльная шыльда.
72. Явачная кватэра, вул. 7-я Куйбышава, 12. 1966. мемарыяльная шыльда.
73. Явачная кватэра, вул. Леніна, 18. 1966. мемарыяльная шыльда.
74. Магіла ахвяр фашызму, в. Вярхоўе, цяпер г.п. Руба-2. 1966. стэла.
75. Магіла невядомага салдата. Руба. 1975. стэла.
76. Помнік у гонар 1-й Віцебскай і імя ВЛКСМ партызанскіх брыгад, в. Вярхоўе, цяпер г.п. Руба-2. 1972. стэла. (страчаны).

Дадатак 3

**Помнікі, узведзеныя ў Віцебску пасля 1985 г**

1. Помнік камсамольцам-падпольшчыкам Чыгуначнага раёну, загінуўшым у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, у скверы на перакрыжаванні вул. Зяньковай і Касманаўтаў. ?.
2. Помнік беларускаму касманаўту П. Клімуку і першаму польскаму касманаўту Міраславу Гермашкоўскаму, сквер між вул. Дзімітрава і Будзённага. 1988.
3. Памятны знак савецка-польскай садружнасці, сквер між вул. Дзімітрава і Будзённага. 1988.
4. Помнік А.С. Пушкіну, вул. Пушкіна. 1989.
5. Помнік Марку Шагалу, вул. Пакроўская. 1992.
6. Помнік Уладзіміру Караткевічу, вул. Суворава, сквер Леніна. 1994.
7. Помнік Герою Савецкага Саюза А.К. Гараўцу, вул. Гараўца. 1995.
8. Помнік паэтэсе Еўдакіі Лось, вул. Леніна, 8а (каля абласной бібліятэкі). 1996.
9. Бюст Ф.А. Піроцкаму (першаадкрывальніку электрычнага трамвая), 5-я вул. Фрунзе (на тэрыторыі Віцебскага ТТУ). 1998.
10. Помнік Марку Шагалу (“Віцебская мелодыя на французскай срыпцы”), вул. Пакроўская. 1997.

11. Помнік воінам-інэрнацыяналістам (“Боль”), вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў. 1997.
12. Памятны знак закатаваным на Чорных прудах, Уланавічы, (непадалёк ад аўтобуснага прыпынку “Ветеран”. 2001.
13. Помнік музыказнаўцу І. Салерцінскаму, у скверы Герояў вайны 1812 года. 2003.
14. Памятны знак супрацоўнікам міліцыі, якія загінулі пры выкананні сваіх службовых абавязкаў, пр-т Фрунзе, 43. 2005.
15. Галерэя з бюстаў Бахціну, Ціхаміраву, Сапунову каля ўваходу ў ВДУ імя П.М. Машэрава.
16. Помнік Папе Рымскаму Яну Паўлу ІІ, вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28 (каля культурна-рэлігійнага цэнтра і касцёла Ісуса Міласэрднага). 2008.
17. Дзецям вайны, парк Партызанскай славы імя Міная Шмырова. 2011.
18. Помнік авіятарам 339-га ваенна-транспартнага авіяцыйнага палка, перакрыж. вул. Гагарына і Журжаўскай. 2012.
19. Помнік патрыярху Маскоўскаму Алексію ІІ, вул. Камісара Крылова (Успенская горка). 2013.
20. Аўтамабіль МАЗ-208, на пляцоўцы перад аўтатранспартным прадпрыемствам (АТП) № 1. ?.
21. Помнік пажарнаму аўтамабілю АЦ-40(130)-63А , вул. Жасткова, 13 (каля ўваходу ў пажарнае дэпо). пасля 2000.
22. Паравоз-помнік Л-3562, на тэрыторыі лакаматыўнага дэпо. Да 2005(?).
23. Помнік віцебскаму трамваю (арыгінальны трамвайны вагон серии «Х» (проект 1925 года), 5-я вуліца Фрунзе, на тэрыторыі трамвайнага дэпо. 2008.
24. Генератар турбіны на ЦЭЦ-2.
25. Помнік ветэрынарнаму доктару, двор ветакадэміі. 2011.
26. Святы Крыспін – апякун краўцоў (“Дзядуля Марка”), вул. Талстога. 2011.
27. Алея воінскай славы і выстава ваеннай тэхнікі ў парку Пераможцаў (былы сквер імя Калініна), (ветралёты Мі-2, Мі-8, Мі-24, самалёт Міг-17, 120-мм палкавы мінамёт, 85-мм зенітная гармата КС-12, 76-мм гармата ЗІС-3, 85-мм гармата Д-44, 57-мм супрацьтанкавая гармата ЗІС-2, 122-мм гаўбіцы М-30 і Д-30, танк Т-34, БМД-1, БРДМ-2, БТР-60, САУ 2С9 “Нона-С”, палявая кухня. 2010.
28. Алея славы ў 317 брыгадзе Мабільных войскаў.
   a. Бюст Герою Савецкага Саюза М.П. Чэпіка.
   b. Бюст Герою Савецкага Саюза А.У. Карявіну.
   c. Бюст Герою Савецкага Саюза, генралу-арміі В. Маргелаву.
   d. Помнік Герою Савецкага Саюза А.Г. Міраненка.
   e. Манумент у гонар воінаў-інтэрнацыяналістаў.
29. БМД-1, вул. Фрунзе, каля ўваходу ў воінскую часць Мабільных сіл. ?. баевая машына дэсанта на пастаменце
30. Алея славы ў амфітэатры Алея лаўрэатаў спецыяльнай ўзнагароды Прэзідэнта Беларусі “Праз мастацтва – да міра і ўзаемаразумення”, плашчадка каля амфітэатра “Славянскі базар у Віцебску” (С. Ратару, У. Мулявін, І. Лучанок, А. Пятроў, А. Пахмутава, А. Пугачова, В. Леонцьеў, Л. Лешчанка). 2009.
31. Алея спартыўнай славы, пр-т Люднікава, каля Цэнтральнага спартыўнага комплексу.
32. Помнік воінам Віцебскай Чырвонасцяжнай ордэна Суворава 251-й стралковай дывізіі, Кастрычніцкі праезд, у двары ПТВ-19.
33. Муза, вул. газеты Праўда. 1987.
34. Злучэнне трох рэк, фантан, вул. Леніна. 1987.
35. Тэлефон, пр-т Чарняхоўскага, 19 (каля будынку “Белтэлекома”).?.
36. Кампазіцыя “Дзеці”, заапарк.
37. Вулічыны клоўн, пр-т Фрунзе, 11. 2008.
38. Помнік крату (як сімвалу работнікаў-водаправодчыкаў), вул. Міра, 37, у двары прадпрыемства ВА “Водаканал”.
39. “Шалёны час”, каля арт-цэнтра М.Шагала.
40. “Сустрэча”, чыгуначны вакзал. 2011.
41. Скульптура багіні Гігіены, фантан, вул. Фрунзе, каля галоўнага корпуса медыцынскага ўніверсітэта. ?.
42. Скульптуры каля адміністрацыйнага будынку прадпрыемства “Фортэкс”.
43. Скульптуры, вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў, 19, каля Цэнтра эстэтычнага выхавання “Маладзік”.
44. Анёл, вул. Чайкоўскага, у двары Цэнтра народных рамёстваў і мастацтваў “Дзвіна”. ?. прысвечана віцебскаму мастаку і паэту А. Прусаву (1970–1996).
45. Скульптуры ў цэнтры народных рамёстваў і мастацтваў “Дзвіна”.
46. Скульптуры каля мастацка-графічнага факультэта і каля галоўнага будынку ВДУ імя П.М. Машэрава.
47. Скульптуры ў парку Фрунзе.
48. Каменныя яблыкі і грушы на вуліцах горада.
49. Памятны знак на месцы Міхайлаўскай царквы на Міхайлаўскіх могілках, вул. Будённага. 200?.
50. Сабаку, вул. Гарбачэўскага, каля прахадной завода зборнага жалезабетону. 2013.
51. Мядзведзі, вул. Горкага, каля прыватнага прадпрыемства "Свет". 2013.
52. Скульптура варана ці яшчарыцы, вул. Міра, 37, у двары прадпрыемства ВА “Водаканал”.

**Шыльды**

53. Генералу арміі І.Д. Чарняхоўскаму, пр-т Чарняхоўскага. 1987.
54. У гонар праспекта Перамогі, Маскоўскі пр-т, 35 / пр-т Перамогі, 2. 1989.

55. Памятная шыльда аб усталяванні савецкай улады ў Віцебску ў 1917 г., вул. Леніна, 32. 1987.
56. Народнаму артысту Беларусі А.М. Трусу, вул. Янкі Купалы 1/46. 1992.
57. Генералу Людникову, пр-т Генерала Люднікава. 1995.
58. Краязнаўцу У.Г. Краснянскаму, вул. Камісара Крылова, 4. 1996.
59. Этнографу і фалькларысту М.Я. Нікіфароўскаму, вул. Талстога, 4. 1996.
60. Скульптору З.І. Азгуру, вул. Суворова, 3. 1997.
61. Вучню СШ № 15, лётчыку Яфіменку А.У., вул. Даватара, 10/2, на будынку гімназіі № 1 (СШ № 15). 1997.
62. Народнаму архітэктару У.А. Каралю, вул. Суворава, 3. 1997.
63. Герою Савецкага Саюза Т. Лядскаму, вул. Чэхава, 15/2. 1998.
64. Мемарыяльная шыльда на доме, дзе жыла народная артыстка БССР З. Канапелька, вул. Урыцкага, 19/62. 1999.
65. Генералу авіяцыі М.Ф. Зайцаву, вул. Урыцкага, 10. 2004.
66. У памяць аб першай электрастанцыі ў Віцебску, пр-т Фрунзе, 13. 2005.
67. Скульптару Бембелю А.О., вул. Суворава, 3. 2005.
68. Герою Савецкага Саюза П. Д. Сцямасаву, Маскоўскі пр-т, 7. 2005.
69. Мемарыяльная шыльда на месцы дома, дзе жыў мастак Ю. Пэн, вул. Замкавая, 21/30. 2007.
70. Архітэктарам В.А. Данілаву, В.І. Гусеву, А.Ю. Данілавай, вул. Кірава, 4. 2007.
71. Пісьменніку Васілю Быкаву, вул. Суворава, 3. 2008.
72. Ганароваму грамадзяніну Віцебска А.П. Авечкіну, вул. Леніна, 1а. 2009.
73. Генералу арміі В.Ф. Маргелаву, вул. Генерала Маргелава, 1. 2010.
74. Актору Ф.І. Шмакаву, вул. Урыцкага, 10. 2011.
75. Барэльеф у памяць аб Марку Шагае, вул. Путна, 2 (на будынку арт-цэнтра Марка Шагала).
76. Герою Савецкага Саюза Ф.Т. Блахіну, мост Блахіна.
77. Воінам-сувязістам, удзельнікам вайны, вул. Ільінскага, 45.
78. Мемарыяльная шыльда на доме, дзе жыў дзіцячы пісьменнік Г.Л. Шакулаў, вул. Чапаева, 14. 2011.
79. Шыльда М. Каспяровічу, вул. Камісара Крылова, 4. 2013.
80. Памятны знак у гонар вуліцы Пятруся Броўкі, на рагу вул. Маскоўскі пр-т і Петруся Броўкі.
81. Памятная дошка на доме, дзе жыў А.Я. Брын, вул. Леніна.
82. Герою Савецкага Саюза Піменаву В.В., завулак 26 Чэрвеня, 6, на будынку СШ № 29.

Дадатак 4

**Помнікі, узведзеныя ў Полацку пасля 1985 г.**

1. Памятны знак ахвярам фашызму (камень-валун) у памяць аб 20-і тысячах растраляных савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхарах. 1985 г. урочышча Пяскі.
2. Помнік 23-м воінам-гвардзейцам, вул. Ніжне-Пакроўская, 41. 1989.
3. Помнік Ефрасінні Полацкай. 2000.
4. Помнік крывічам. 2001.
5. Помнік літары Ў. 2003.
6. Помнік Сімеону Полацкаму. 2003.
7. Буслы, фантан, каля чыгуначнага вакзала. 2004.
8. Помнік Усяславу Чарадзею. 2007.
9. Полацкаму купцу, каля Дома Гандлю. 2008.
10. Бюст Р.І. Кандраценку. 2008
11. Памятны знак “Полоцк – географический центр Европы”. 2008.
12. Помнік Андрэю Полацкаму. 2009.
13. Вагі. 2009.
14. Полацкаму студэнту, у дворыку ПДУ. 2010.
15. Бюст Юрыя Тарыча. 2010.
16. Помнік-капліца Героям вайны 1812 года (1850), адноўлены 2010.
17. Помнік дойліду Іаану. 2012.
18. Скульптурная кампазіцыя «Школьніца з гадзіннікам» (скульптар П. Ваніцкі). 2004.
19. Дзяўчынка з сонечным гадзіннікам, каля Дзіцячага музею.
20. Скульптура “Дзяцінства”.
21. Рыба ў промнях сонца. Экалагічны матыў, вул. Ф. Скарыны, 21, каля прыродна-экалагічнага музея.
22. Цэнтр дарог Полаччыны, на Прывакзальнай плошчы.
23. Паравоз-помнік ля старога дэпо станцыі Грамы,
24. Памятны знак на месцы ліквідацыі полацкага гета.

**УДК 9-05**

# МАТЭРЫЯЛЫ АБ ПОЛАЦКІХ АРХІЕПІСКАПАХ ЯСАФАЦЕ КУНЦЭВІЧЫ І МЯЛЕЦІІ СМАТРЫЦКІМ НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКІХ ЕПАРХІЯЛЬНЫХ ВЕДАМАСЦЕЙ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ ХІХ – ПАЧАТКУ ХХ СТ.

***магістр гіст. навук В.Г. РЫМКО***
**Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, Наваполацк**

*У артыкуле прадстаўлены аналіз публікацый, змешчаных на старонках беларускіх епархіяльных ведамацей другой паловы ХІХ – пачатку ХХ ст., якія былі прысвечаны знакамітым асобам Полацкай епархіі: уніяцкаму архіепіскапу Ясафату Кунцэвічу і яго рэлігійнаму апаненту праваслаўнаму архіепіскапу Мялецію Сматрыцкаму. Разгледжаны меркаванні аўтараў артыкулаў наконт сапраўднасці машчэй адзінага ўніяцкага святога Я. Кунцэвіча і прычын пераходу М. Сматрыцкага ў унію.*

Афіцыйны друкаваны орган праваслаўнай царквы на Беларусі з’явіўся ў 1863 г. з выхадам у свет першага нумара “Литовских епархиальных ведомостей”. Наступнымі сталі “Минские епархиальные ведомости” (1868 – 1920 гг.), “Полоцкие епархиальные ведомости” (1874 – 1918 гг.), “Могилевские епархиальные ведомости” (1883 – 1917 гг.) і “Гродненские епархиальные ведомости” (1901 – 1915 гг.).

Адно з самых важных месцаў выдаўцы беларускіх епархіяльных ведамасцей на працягу ўсяго перыяда іх існавання надавалі публікацыям біяграфічнага характара. Нарысы, некралогі, аналіз творчай спадчыны выбітных асоб, якія адносіліся да ўніяцкага перыяду, прадстаўлены матэрыяламі аб жыццёвым шляху і пастырскай дзейнасці грэка-каталіцкіх і праваслаўных іерархаў, святарства і міранаў канца XVI – першай паловы XIX ст. Асаблівая ўвага надавалася, як правіла, актыўным прапаведнікам уніі і тым, хто змагаўся за недатыкальнасць і чысціню праваслаўя, за аднаўленне рэлігійнага раўнапраўя. Асобна можна вылучыць шэраг публікацый, прысвечаных іерархам, якія адстойвалі незалежнасць уніяцкай царквы ад каталіцкага ўплыву і з імёнамі якіх было звязана далучэнне ўніятаў да праваслаўя ў 1839 і 1875 г.

Адным з самых вядомых дзеячоў уніяцкай царквы, яе адзіным святым, з’яўляецца полацкі архіепіскап Ясафат Кунцэвіч, асоба якога выклікала і працягвае выклікаць у даследчыкаў шмат супярэчнасцяў. Не пакінулі без увагі яго біяграфію і праваслаўныя аўтары, якія друкаваліся ў беларускіх епархіяльных ведамасцях. У “Литовских епархиальных ведомостях” за 1901 г. было надрукавана даследаванне Г. Пятроўскага [1], створанае да 300-годдзя Брэсцкага царкоўнага сабора. Аднак аўтар падкрэсліваў, што ён напісаў сваю працу не ў гонар уніі, «но в скорбном соболезновании об этом далеком прошлом, о дерзком насиловании совести, о безчисленных жертвах» [1, с. 327]. Растлумачыўшы чытачам сутнасць уніяцкай праблемы, ён перайшоў да асобы Я. Кунцэвіча, які быў знакаміты сваімі жорсткімі адносінамі да рэлігійных апанентаў.

Біяграфічныя дадзеныя ў артыкуле асвячаюць усе жыццё Я. Кунцэвіча, пачынаючы з самага дзяцінства. Аўтар звярнуў увагу на тое, што Ясафат быў ахрышчаны ў праваслаўе, аднак, трапіўшы ў Вільню ў юнацтве часта наведваў Свята-Троіцкі манастыр, які ў пачатку XVII ст. стаў уніяцкім, а разам з ім і паслушнік Ясафат. Стаўшы ўніятам, ён даволі хутка зрабіў кар’еру, з’яўляючыся настаяцелем Быценскага, Жыровіцкага, а затым і Свята-Троіцкага манастыроў. У 1615 г. Кунцэвіч быў прызначаны каад’ютарам пры полацкім епіскапе Гадэоне Бральніцкім, а пасля яго смерці стаў паўнаўласным уладыкай Полацкім, Віцебскім і Мсціслаўскім. У гэтым сане, адчуваючы пэўную долю самастойнасці, пад заступніцтвам уніяцкага мітрапаліта і караля Рэчы Паспалітай, Кунцэвіч перайшоў не проста ўсе дазволеныя архіпастыру і хрысціяніну межы, але і шмат якія чалавечыя прынцыпы: святары, якія не жадалі прымаць унію выганяліся з епархіі; праваслаўныя храмы адбіраліся на ўнію; праваслаўныя набажэнствы былі забароненыя нават у хатах і шалашах за горадам; самыя непахісныя падвяргаліся катаванням, арыштам і пабоям; праваслаўныя міране заставаліся без вянчання і хрышчэння; пахаваных па праваслаўным абрадзе выкопвалі з магіл, а целы аддавалі сабакам і т.п.

Такія дзеянні выклікалі ў праваслаўных адпаведную рэакцыю адчаю ў выглядзе некалькіх спроб забіць ненавіснага пастыра. Жыхары Магілёва, Мсціслаўля і Оршы не дазволілі яму нават ўвайсці ў свае гарады. Усё гэта не магло не прыцягнуць увагі кіраўніцтва і, у прыватнасці, канцлера ВКЛ Льва Сапегі, які быў прыхільнікам уніі, але даведаўшыся пра дзейнасць Кунцэвіча, быў абураны і напісаў яму свой знакаміты ліст, у якім асуджаў архіпастыра і адначасова папярэджваў аб наступствах, у тым ліку і аб пагрозах для яго жыцця. Кунцэвіч, аднак, не паслухаў парадаў і працягваў дзейнічаць у тым жа напрам-

ку. Аўтар публікацыі прыпісваў яго паводзіны не ганарыстасці і славалюбству, а «убеждению в правоте и неоспоримой истинности своих ревностных действий. Навязывая насильно свои религиозныя мнения тем, кто не хотел их принимать, он молился Богу о их обращении в унию – он, значит, веровал, что делает им добро, что он выводит их из тьмы невежества и против их воли устанавливает нечестивцев на путь спасения» [1, с. 359]. Супраць Кунцэвіча была складзена шырокамаштабная змова, у выніку якой ён «был убит самым ужасным образом: с поруганием, с остервенением, с злорадством» [1, с. 327]. Аднак аўтар лічыў немагчымым прызнаваць за Кунцэвічам пакутніцтва, бо ён стаў «жертвою неумелого, нехристианского обращения с православною паствою. Кончил он жизнь не как мученик за правду и истину, а погиб, хотя и незаконно, как мучитель, стяжавший достойную мзду за свое религиозное маньячество» [1, с. 374] і прызнаваць мучыцеля святым альбо блажэнным, па мерканню Г. Пятроўскага, было «глумление над разумом» [1, с. 392].

Пасля забойства цела Кунцэвіча было выцягнута з ракі Заходняя Дзвіна, куды яго скінулі віцябляне, і аб’яўлена святымі машчамі. Гісторыі астанкаў адзінага ўніяцкага святога прысвечаны публікацыі І. Сікорскага “Реликвии Иосафата Кунцевича” [2] і М. Канаплёва “Злополучный ревнитель Брестской унии” [3]. Дадзеныя артыкулы былі своеасаблівым адказам на кананізацыю рымскім прастолам у 1867 г. Ясафата Кунцэвіча.

Артыкул “Реликвии Иосафата Кунцевича” быў перадрукаваны ў “Минских епархиальных ведомостях” з выдання “Журнал министерства народного просвещения” за снежань 1870 г. Аўтар выкарыстаў не толькі свае асабістыя назіранні і веды ў медыцыне, але і рукапісы з архіва Бельскай царквы, дзе знаходзіліся мошчы Я. Кунцэвіча, а таксама дакументы з “Наукового сборника”, выдадзенага ўкраінскім гісторыкам і філолагам А.С. Петрушэвічам у Львове ў 1867 г. Падводзячы чытача да асноўнай тэмы артыкула, аўтар дае кароткую гістарычную даведку пра горад Белая Сядлецкай губерні на Падляшшы, распавядае пра этнічныя, моўныя і канфесійныя асаблівасці краю, а таксама паведамляе пра будаўніцтва праваслаўнай царквы Раства Божай Маці, дзе пазней (з першага дзесяцігоддзя XVIII ст. па 1769 г.) знаходзіліся астанкі Я. Кунцэвича. І. Сікорскі робіць падрабязнае апісанне труны і змешчаных у ёй рэліквій і пераходзіць да гісторыі з’яўлення машчэй Я. Кунцэвіча ў г. Белая, выкарыстоўваючы адпаведныя дакументы, якія, па яго словах, «крайне не точны и не согласны между собою относительно самых важных пунктов, именно состава реликвий, времени их перенесения, и места, откуда они перенесены, так что подлинность реликвий слишком шатка» [2, с. 62]. І. Сікорскі звяртае ўвагу чытача на тое, што пасля адкрыцця машчэй у 1780 г. у Белай яны дастаткова ўзмоцнена абараняліся і захоўваліся манахамі-базіліянамі. Тады ж была зроблена і першая рэвізія рэліквій, у падцверджанне чаму аўтар артыкула прыводзіць вытрымку з акту агляда машчэй, складзенага медыкам Іосіфам Антоніем дэ Карэсам. Аднак, як пазначае І. Сікорскі, «акт осмотра крайне недостаточен: в нем не указаны ни пол, ни рост исследуемого, не описаны общие покровы тела, а главное ни одним словом не упомянуты…повреждения…В акте ничего не сказано о тех изменениях, какие были произведены в реликвиях силами природы и посторонними руками…если мы станем вникать в этот крайне изворотливый документ 1780 г., то нас немедленно же поразит несходство реликвий, описанных в нем, с показываемыми теперь в Белой» [2, с. 63]. Усе наступныя «ревиденты» у 1785, 1797, 1800 гг. пастаянна спасылаліся на акт 1780 г., пакідаючы ўсе фармуліроўкі практычна без зменаў. У выніку аўтар прыходзіць да выніку, што так званыя мошчы Я. Кунцэвіча не маглі лічыцца сапраўднымі, так як анатамічнае апісанне цела Кунцэвіча ва ўніяцкіх дакументах разыходзілася з тым, што можна было ўбачыць у Бельскай царкве кожнаму жадаючаму.

Такі ж падыход да асобы і машчэй Я. Кунцэвіча захоўваецца і ў артыкуле М. Канаплёва, напісаным у гонар значных падзей, якія адбыліся ў 1896 г. у праваслаўнай царкве: святкаванне на Валыні 900-годдзя Уладзімірскай праваслаўнай епархіі, 100-годдзя Мінскай епархіі і духоўнай семінарыі, 100-годдзя далучэння Падоліі да Расіі і 100-годдзя існавання ў ёй праваслаўнай епархіі. Але асаблівую ўвагу аўтар надае так званым «параллельным торжествам», арганізаванымі каталікамі ў 1896 г. у сувязі са святкаваннем 300-годдзя Брэсцкай царкоўнай уніі. У першую чаргу М. Канаплёў паказаў беспрычыннасць правядзення такіх урачыстасцяў у Галіцыі, дзе ўнія з’явілася не раней за 1700 г., а таксама кажа пра тое, што нашыя продкі прынялі ўнію не па асабістаму жаданню, а «вследствие самого грубого насилия» [3, с. 679]. Падчас урачыстасцяў уніяты і каталікі жадалі асабліва ўслаўляць Я. Кунцэвіча і ўсе пабудаваныя ў 1896 г. уніяцкія цэрквы планавалі прысвяціць яму. Аўтар распавядае пра час і месца нараджэння Ясафата, пра яго бацькоў і хрышчэнні ў праваслаўе, пра яго дзяцінства і гандлёвую дзейнасць. Асабліва падрабязна М. Канаплёў спыняецца на жыцці Кунцэвіча ў Вільні ўжо ў якасці насельніка Віленскага Свята-Троіцкага ўніяцкага манастыра, на яго незвычайным таленце

красамоўства і пропаведзі, на духоўнай кар’еры. Найбольш цікавым з’яўляецца апісанне знаходжання Я. Кунцэвіча на Полацкай кафедры спачатку ў якасці каад’ютара полацкага ўніяцкага епіскапа Гедэона Бральніцкага, а потым і ў якасці самаго епіскапа. Аўтар распавядае пра факты «фанатизма и жестокости Кунцевича» у адносінах да праваслаўных жыхароў Полацка, Магілёва, Оршы, падцвярджаючы іх вытрымкамі са знакамітага ліста канцлера Льва Сапегі [3, с. 691, 720 – 724], які намагаўся спыніць залішнее славалюбства і запал полацкага пастыра ў справе насаджэння ўніі. Каб паказаць чытачу характар Кунцэвіча аўтар прывёў цытату ўкраінскага гісторыка П.А. Куліша [3, с. 693]. У завяршэнне М. Канаплёў дае падрабязнае апісанне прыбыцця Кунцэвіча ў Віцебск, яго паводзін адносна праваслаўнага насельніцтва, кажа пра ўзнікненне змовы супраць яго, пра яго забойства і аб рэакцыі папы Урбана VIII на гэтыя падзеі.

У цэлым аўтарская трактоўка І. Сікорскага і М. Канаплёва адносна асобы полацкага ўніяцкага архіепіскапа паходзіць з праваслаўнай эклізіялогіі і выкрывае не толькі абуральныя факты «фанатизма» Кунцэвіча, але і даказвае ілжівасць той святасці, якую яму прыпісваюць [4].

У “Литовских епархиальных ведомостях” таксама быў надрукаваны артыкул, які датычыўся кананізацыі Я. Кунцэвіча, напісаны вядомым беларускім гісторыкам М. Каяловічам [5]. Аўтара вельмі здзівіў намер Рыма кананізаваць мошчы Я. Кунцэвіча, якія знаходзіліся ў г. Бела. Растлумачыў ён гэтыя дзеянні выключна жаданнем каталікоў і ўніятаў «оживить унию в люблинской губернии, раскинуть свои лучи в западной России, служить новою мерою к поддержанию польской справы» [5, с. 115 – 116].

Труна з машчамі Кунцэвіча знаходзілася ў Полацку да 1839 г., а пасля Полацкага царкоўнага сабора яе ўскрылі і «нашли в нем клок волос и остатки облачения» [5, с. 119]. Зыходзячы з гэтага факту М. Каяловіч задаўся пытаннем: «Что же такое находится в Бялой?» [5, с. 119]. Аўтар паспрабаваў зрабіць адносна кананізацыі Я. Кунцэвіча ўласнае лагічнае заключэнне, і, апісаўшы яго прыбыццё ў Полацк, супраціўленне жыхароў Магілёва і Оршы, тыя бясчынствы, якія ён выяўляў у адносінах да праваслаўных, прыйшоў да высновы, што «он был врагом и мучителем…народа. Усиливаться теперь возвеличить такого человека в глазах этого народа – не есть ли глумление над народом!» [5, с. 122].

У 1869 г. у “Литовских епархиальных ведомостях” быў размешчаны артыкул прафесара А.У. Шчарбіцкага [6], у якім аўтар зазаначыў, што першапачаткова ўнія была прынятая людзьмі, якія шукалі палітычных і асабістых выгод, але просты народ не жадаў яе прымаць. Тады каталікі і ўніяты сталі «готовить особого человека» [6, с. 219], які мог бы сваім падзвіжніцкім жыццём і рэлігійным фанатызмам упэўніць астатніх у правасці ўніятаў. Ім і стаў Я. Кунцэвіч.

Аўтар спецыяльна не займаўся падрабязным апісаннем тых метадаў, з дапамогай якіх знакаміты «душехват» схіляў праваслаўных на ўнію, а таксама апісаннем віцебскіх падзей, якія суправаджаліся яго забойствам, так як справядліва адзначаў, што ўсё гэта дастаткова вядома чытачу і прадстаўлена ў шматлікіх даследаваннях. Ён адразу перайшоў да таго, што ордэн базыліян пасля забойства Кунцэвіча ўхапіўся за думку пра яго пакутніцкую смерць, каб стварыць культ уніяцкага святога. Дзеля гэтага цела яго было знойдзена ў Заходняй Дзвіне і прадстаўлена ў віцебскім саборы з шыкоўнасцю і ўрачыстасцямі, адкуль было перавезена ў Полацк і пахавана ў Сафійскім саборы. Адразу ж сталі ўзнікаць чуткі пра цуды, якія адбываліся ля яго цела: «над ним стало облако и виден был свет, что подобный же свет, явившийся на Двине, указал место, куда было брошено тело Кунцевича» [6, с. 220]. Базіліяне склалі Кунцэвічу асобную службу, стваралі ў яго гонар алтары ва ўніяцкіх храмах, а ў Вільні штогод праводзіліся народныя святы, якія суправаджаліся нават вайсковымі парадамі, якія завяршаліся, як правіла, пропаведзямі, складзенымі на аснове створаных Ясафатам цудаў у «схизматической» Масковіі і тых няшчасцяў, якія надыходзілі для праваслаўных жыхароў Віцебска і Магілёва ў дні ўшанавання Ясафата.

У № 19 “Литовских епархиальных ведомостей” за 1895 г. была апублікавана цікавая нататка [7], у якой быў прадстаўлены тэкст скаргі ўніяцкага мітрапаліта Гаўрыіла Календы на праваслаўную віленскую моладзь, якая абвінавачвалася ім у крымінальным злачынстве супраць машчэй уніяцкага святога Я. Кунцэвіча. Звесткі пра адбыўшуюся падзею мітрапаліт Календа атрымаў ад епіскапа Пінскага і Тураўскага Марціна Белазора і ад манахаў віленскага Свята-Троіцкага манастыра. У 1667 г. цела Кунцэвіча павінна было вярнуцца з эвакуацыі ў Полацк праз Вільню пасля нашэсця рускіх войскаў. Даведаўшыся пра гэта, праваслаўныя на чале з віленскім бурмістрам і настаяцелем віленскага Свята-Духава манастыра «начали распространять подметные письма («пасквили»), противныя святой католической вере, для оскорбления славы Божией и блаженнаго мученика Иосафата, рисуя картины и подписывая под ними стихи, разсказывающия о том, что униатский епископ будет препровождаться с почтением в ад» [7, с. 186].

Не менш супярэчлівай асобай у царкоўнай гісторыі XVII ст. з’яўляецца полацкі праваслаўны архіепіскап Мялецій Сматрыцкі. Аўтары артыкулаў і даследаванняў, апублікаваных у беларускіх епархіяльных ведамсцях, апынуліся ў складанай сітуацыі, так як на першых парах увядзення ўніі Сматрыцкі быў яе ворагам, стаў архіпастырам праваслаўнай царквы і напісаў знакаміты «Фрынас». З іншага боку, гэты чалавек у канцы свайго жыцця прыняў уніяцтва і з’яўляўся яго адкрытым прапаведнікам. Шмат сумненнняў і меркаванняў выклікала ў даследчыкаў прычына яго перахода ў унію, а таксама час гэтага перахода.

У “Литовских епархиальных ведомостях” вядомаму палемісту прысвечана даволі вялікая публікацыя прафесара С. Голубева [8], у якой аўтар паспрабаваў аб’ектыўна падыйсці да разгледжання ўсіх праблемных пытанняў, звязаных з асобай М. Сматрыцкага. Ён вывучыў і паказаў яго ролю ў спробах прымірэння ўнятаў і праваслаўных у 20-я гг. XVII ст., прывёў кароткую біяграфію, прасачыўшы, у якіх навуковых установах аўтар «Фрынаса» атрымаў адукацыю і, адпаведна, якія погляды і перакананні маглі паўплываць на яго далейшае жыццё. Сваю першую адукацыю Мялецій атрымаў у Астрожскім вучылішчы, а ў 1601 г. быў накіраваны ў Віленскі езуіцкі калегіўм, дзе не мог не заразіцца духам вучэння езуітаў, які, аднак, аслабеў пад уплывам лекцый нямецкіх пратэстанцкіх прафесараў падчас яго вандроўкі па Германіі. Вярнуўшыся на радзіму, Сматрыцкі пасяліўся ў Мінску і стаў актыўным прыхільнікам праваслаўя. Яго ўплыў быў настолькі вялікі, што «жители Минска бросили своих униатских священников, образовали православное братство и построили новую церковь» [8, с. 257]. Мітрапаліт І. Руцкі жадаў раскрыць яму вочы на «схизматические» памылкі, але яго намаганні былі дарэмнымі, Сматрыцкі наадварот уступіў у шчыльныя кантакты з Віленскім праваслаўным брацтвам, а ў 1610 г. выйшаў яго твор «Фринос или Плач Восточной церкви с объяснением догматов веры» пад псеўданімам Тэафіла Арталога. Аднак хутка Сматрыцкі стаў прыкметна вагацца ў сваіх рэлігійных прыхільнасцях, падпаўшы, як кажа аўтар, «довольно распространенному в означенное время (преимущественно между южно-русскою аристократиею, наиболее дорожившею земными благами) взгляду, по которому не придавалось особенно большого значения разности между церквами восточною и западною» [8, с. 258].

Яго таемныя сувязі з уніятамі пачаліся меркавана ў 1616 г. Акрамя частых зносін з імі Сматрыцкі заяўляў аб сваёй адданасці рымскаму прастолу, згодзе з дагматамі каталіцтва і абяцаў перайсці разам са сваімі аднаверцамі ва ўніяцтва [8, с. 260]. Сродкам да згоды паміж праваслаўнымі і ўніятамі ён называў дыспут. Абвінавачаны ў сваіх кантактах з уніятамі, ён не адмаўляў іх, але апраўдваў сябе тым, што гэтыя зносіны праходзілі са згоды Віленскага праваслаўнага брацтва і што ён не меў схільнасці і сімпатыі да каталіцызма [8, с. 260]. Аднак самі ўніяты, прачытаўшы яго апраўданні, пісалі да праваслаўных, што Сматрыцкі неаднаразова ў іх прысутнасці шкадаваў, што сваім «Плачем» зрабіў для ўніі шмат шкоды, што схіліў на Валыні аднаго праваслаўнага на ўнію, а ў Віленскае брацтва ўступіў толькі таму, што жадаў зрабіць яго кіраўніка ўніятам [8, с. 260 – 261]. Сматрыцкі ніяк не адрэагаваў на гэтыя выкрыцці.

У праваслауным асяродку, асабліва ў Віленскім брацтве, зарадзіліся сумненні і братчыкі патрабавалі ад Сматрыцкага альбо прыняць праваслаўнае манаства, альбо выйсці з брацтва. Кіраўнік брацтва Лявонцій Карповіч увогуле выступіў супраць пастрыжэння, так як лічыў Сматрыцкага крывадушным і пазней неахвотна згадзіўся прызнаць яго праваслаўным манахам.

У 1620 г. Сматрыцкі ў сілу склаўшыхся абставінаў стаў полацкім праваслаўным архіепіскапам і віленскім архімандрытам, пасля чаго актыўна заняўся напісаннем палемічных твораў і акруговых пасланняў да праваслаўных з заклікам пазбягаць уніяцтва. Аднак з вандроўкі па Усходзе ў 1624 г., якую ён распачаў, хаваючыся ад абвінавачванняў у змове супраць Я. Кунцэвіча, Мялецій вярнуўся паўнавартасным уніятам. Шматлікія даследчыкі сцвярджаюць, што Сматрыцкі накіроўваўся на Усход ужо таемным уніятам і з адзінай мэтай пераканаць усходніх патрыярхаў наблізіцца да ўніі. Аднак С. Голубеў лічыў, што сапраўднай прычынай яго паездкі былі напружаныя адносіны з віленскімі братчыкамі, якія імкнуліся падпарадкаваць сваёй уладзе ўсіх праваслаўных архіерэяў Рэчы Паспалітай. Такія спробы абмежаваць яго ўладу, безумоўна, не падабаліся Сматрыцкаму, які лічыў, што міране «должны поучаться закону Божьему у духовных лиц, а не контролировать их действия» [8, с. 263]. Таму асноўнай мэтай паездкі Сматрыцкага, відавочна, было жаданне скараціць альбо зусім ліквідаваць аўтаномію брацтваў. У адказ на прашэнні Сматрыцкага ўсходнія патрыярхі выдалі яму саборную грамату, у якой аўтаномія брацтваў істотна абмяжоўвалася. Менавіта з-за гэтых грамат Мялецій мог быць адпрэчаны праваслаўнымі брацтвамі пад падставай яго перахода ў унію. Братчыкі, якія не жадалі прымірыцца з абмежаваннем сваіх правоў, у сваю чаргу адправілі да патрыярхаў дэлегацыю з прашэннем аднавіць іх мінулую аўтаномію, што і было зроблена ў адносінах да віленскага і львоўскага брацтваў. Сматрыцкі на гэты раз не пажадў прымірыцца з віленскімі братчыкамі, часткова з-за таго, што было

паранена яго самалюбства, а часткова з-за таго, што ён разумеў, што брацтва будзе кантраляваць яго дзейнасць з падвоенай сілай. Ён проста вырашыў перайсці да ўніятаў, якія даўно жадалі прыцягнуць на свой бок таленавітага пісьменніка і красамоўнага палеміста, абяцаючы яму месца настаяцеля ў адным з уніяцкіх манастыроў. З гэтага вынікае, што самі праваслаўныя, і асабліва віленскія братчыкі, сталі прычынай адпадзення свайго іерарха і яго перахода ў варожы лагер.

Дадзенае даследаванне не толькі паказвае карціну адбываўшыхся падзей, але і робіць своеасаблівае адкрыццё ў адносінах асобы М. Сматрыцкага: нельга, канечне, сцвярджаць, што ён, атрымаўшы адукацыю ў каталіцкім і пратэстанцкім асяродку, мог заставацца абсалютна чужы інаслаўнаму духу, але каб не правілы, існаваўшыя ў віленскім брацтве, дзе «постоянное общение с людьми в толстых блузах, совещания в простом доме, где рядом с богатым аристократом садился и разсуждал беднейший сапожник – не могли не производить тяжелаго впечатления на мягкаго и утонченнаго Смотрицкаго» [8, с. 272]. Калі ўзнік выбар паміж пастаянным кантролем з боку брацтваў, падазрэннем у здрадзе, матэрыяльнай абмежаванасцю з аднаго боку і павагай, архімандрыцкім санам у Дзерманскім уніяцкім манастыры, з другога боку, ён абраў другое. Аўтар быў перакананы, што М. Сматрыцкі не ад усведамлення перавагі каталіцызма над праваслаўем перайшоў у ўнію, а менавіта з-за пазначаных асабістых прычын. Самі ўніяты мала верылі ў шчырасць звароту да іх Сматрыцкага, таму патрабавалі ад яго не проста вусных запэўненняў ў яго адступніцтве ад праваслаўя, але і пісьмовае падцверджанне.

Стаўшы ўніятам, Мялецій застаўся выдатным палемістам і пісьменнікам, адданым прыхільнікам новай канфесіі, якую ён падтрымліваў не разбіраючы метадаў і сродкаў, як некалі праваслаўе. Ён напісаў "Апологию своего странствования на Восток", у якой самым неспрыяльным чынам адклікаўся аб стане праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай, аб яе заняпадзе, выкрываў праваслаўных пісьменнікаў-палемістаў у ерасі і адступніцтве ад праўды. Уніятам ён заставаўся да самай смерці ў 1633 г.

Такім чынам, можна казаць пра тое, што беларускія епархіяльныя ведамасці шмат увагі надавалі выбітным асобам беларускай царкоўнай гісторыі, у ліку якіх былі полацкія архіепіскапы Ясафат Кунцэвіч і Мялецій Сматрыцкій. Аўтары артыкулаў, якія прысвячалі гэтым іерархам свае працы, спрабавалі не толькі раскрыць, але і вырашыць праблему супярэчлівасці ў падыходзе да дзейнасці гэтых асоб. На наш погляд, незалежна ад таго, атрымалася ў аўтараў і рэдактараў беларускіх епархіяльных ведамасцей дасягнуць пастаўленай мэты, ці не, усе апублікаваныя біяграфічныя матэрыялы прадстаўляюць сабой цікавую гістарыяграфічную базу для даследчыкаў царкоўнай гісторыі перыяду ўніяцтва.

ЛІТАРАТУРА

1. Петровский, Г. Несколько слов об унии и трагическая кончина Иосафата Кунцевича / Г. Петровский // Литовские епархиальные ведомости. – 1901. – № 41. – С. 327–328; № 42. – С.333–335; № 43. – С. 343–344; № 44. – С. 354–356; № 45. – С. 358–360; № 46. – С. 366–368; № 47. – С. 374–376; № 48. – С. 390–393.
2. Сикорский, И. Реликвии Иосафата Кунцевича / И. Сикорский // Минские епархиальные ведомости. – 1871. – № 8. – С. 61–63.
3. Коноплев, Н. Злополучный ревнитель Брестской унии / Н. Коноплев // Минские епархиальные ведомости. – 1896. – № 23. – С. 677–693; № 24. – С. 719–734.
4. Rymko, V. «"Minsk eparchial bulletin" (1868 – 1920) about the figures of Greek Catholic Church» / V. Rymko, U. Koshaleu // National and European dimentsion in research (Европейский и национальный контексты в научных исследованиях): материалы IV конф. молодых ученых. – Новополоцк : ПГУ, 2012. – С. 97–102.
5. Коялович, М. О канонизации Иосафата Кунцевича / М. Коялович // Литовские епархиальные ведомости. – 1865. – № 3. – С. 114–123.
6. Щербицкий, О. Торжество базилиан в честь Иосафата Кунцевича / О. Щербицкий // Литовские епархиальные ведомости. – 1869. – № 4. – С. 217–229.
7. Шуточная попытка Виленской русской молодежи встретить торжественный предложенный провоз униатами в 1667 г. чрез г. Вильну в Полоцк тела великаго гонителя православных русских людей архиепископа Кунцевича // Литовские епархиальные ведомости. – 1895. – № 19. – С. 186–187.
8. Голубев, С. Мелетий Смотрицкий и его попытки привлечь западно-рускую церковь к унии / С. Голубев // Литовские епархиальные ведомости. – 1882. – № 31. – С. 254–258; № 32. – С. 260–266; № 33. – С. 268–272; № 34. – С. 279–281; № 36. – С. 295–298; № 39. – С. 320–324; № 40. – С. 328–331; № 41. – С. 336–337; № 42. – С. 344–346; № 43. – С. 352–354; № 44. – С. 363–364; № 47. – С. 390–392.

**УДК 351.741(476)**

# ФОРМИРОВАНИЕ ПОЛОЦКОЙ УЕЗДНОЙ РАБОЧЕ-КРЕСТЬЯНСКОЙ МИЛИЦИИ (1918 – 1921 гг.)

***канд. ист. наук, доц. Е. В. СУМКО***
**Полоцкий государственный университет, Новополоцк**

*В статье рассматриваются вопросы формирования полоцкой милиции. Показан ряд особенностей, характерных для деятельности милиции в условиях военного положения.*

На организационное оформление и деятельность полоцкой уездной советской рабоче-крестьянской милиции в первые годы существования большое влияние оказали события Первой мировой и Польско-советской войн. После заключения Брестского мира с Германией демаркационная линия проходила по территории Полоцкого уезда: по реке Дриса от пункта, который лежал на юг от деревни Дерновичи, до реки Чернявка, по ней до деревни Чернея, потом до станции Полота, а отсюда до станции Горяны. Причем обе станции находились на советской стороне, а волостные центры Юровичи и Домники – в руках немцев. Около половины уезда вместе с Полоцком было занято немецкими войсками [1, с. 144]. На не занятой немцами территории Полоцкого уезда продолжалось формирование советских органов власти. 21 июня 1918 г. было объявлено о создании полоцкой рабоче-крестьянской уездной милиции [2, л. 195]. Однако ее реорганизация закончилась только в конце декабря [3, с.92]. Необходимо отметить, что первоначально органы охраны порядка представляли собой вооруженные формирования, общей чертой которых являлось отсутствие постоянных штатных сотрудников. Формирование отрядов рабочей милиции происходило, как правило, на добровольной основе. Сложная внешне- и внутриполитическая ситуация, отсутствие инструкций осложняли работу милиции. В отчетной документации часто встречались жалобы на то, что работать приходится буквально «впотьмах».

Осенью 1918 г. немецкие войска вместе с оккупационной администрацией начали покидать территорию Беларуси. 21 ноября 1918 г. в Полоцк из Дретуни вернулся штаб милиции. Военные действия, экономический кризис, рост цен на товары, значительное снижение уровня жизни – все это привело к обострению криминальной обстановки в Полоцком уезде. Ситуацию осложнял и тот факт, что Полоцк являлся железнодорожным узлом. В город прибывало значительное количество военных и гражданских лиц. При слабой налаженности железнодорожного транспорта создавались пробки движения, которые увеличивались с прибытием эшелонов с красноармейцами. Кроме этого, милиции приходилось выполнять разные поручения военного командования. Например, предоставление подвод, коней для передислокации военных частей и снаряжения.

В октябре 1918 г. была принята инструкция НКВД и НКЮ РСФСР «Об организации советской рабоче-крестьянской милиции». Она определяла структуру, функции и компетенцию милиции, права и обязанности ее сотрудников, порядок комплектования кадров. Так, в пункте № 18 перечислялись требования к потенциальным милиционерам: граждане РСФСР, достигшие 21 года, вполне грамотные, пользующиеся активным и пассивным избирательным правом и признающие Советскую власть. Достаточно подробно был очерчен круг лиц, которые не могли претендовать на службу в рабоче-крестьянской милиции: лица, состоящие под следствием и судом по обвинению в преступных деяниях, подвергшиеся по суду лишению или ограничению в правах; прибегающие к наемному труду с целью извлечения прибыли; живущие на нетрудовой доход, как то: проценты с капитала, поступления с имущества и т.д.; частные торговцы и торговые посредники; служители различных культов; служители и агенты бывших жандармских отделений и чины бывшей полиции; лица, признанные в установленном порядке недееспособными, глухонемые, находящиеся под опекой [4].

Согласно вышеупомянутой инструкции, в прямые обязанности милиционеров входило следующее: предупреждение и пресечение нарушений порядка; наблюдение за исполнением всеми гражданами декретов, законов и распоряжений Центральной рабоче-крестьянской власти; своевременное оповещение населения о распоряжениях Советской власти; содействие органам Советской власти; составление актов и протоколов о нарушении порядка, преступлениях и происшествиях; наблюдение за выполнением санитарных правил и мероприятий, предпринимаемых Народным Комиссариатом здравоохранения и местными органами Советской власти; наблюдение за исправным состоянием дорог, мостов, улиц, площадей и надзор за порядком движения на них; принятие мер к охране безопасности и порядка во время пожаров, наводнений и других бедствий, оказание помощи при несчастных случаях; выдача удостоверений о

сжатой форме и образуют *заголовочный комплекс*. Сегментация информации в заголовочном комплексе идет по линии общая тема → конкретная проблема.

Заголовок текстов СМИ, а также заголовочный комплекс, в который он входит, характеризуются следующими функциями: воздействия, информативной, номинативной, выделительной, контактоустанавливающей и рекламной. Но в каждом конкретном случае на первый план выдвигается либо информационная функция, либо функция воздействия. В зависимости от того, какая из них является преобладающей, выделяют информативный или интригующий (неинформативный) тип заголовка. Например:

**(1) Pro-Russian separatists surrender police station in east Ukraine after Obama urges Putin to convince militants to lay down arms**

- *Leaders spoke for the first time in two weeks but showed little sign of agreement over pro-Russian insurgency*
- *U.S. President 'expressed grave concern' about Russian government support for armed separatist movement*
- *Mr Putin told Mr Obama that reports of Russian interference in region were 'based on unreliable information'*
- *British Foreign Secretary William Hague warns Russia it faces international isolation over the fresh crisis*
- *Two pro-Russian Ukrainian politicians are attacked by pro-West activists in Kiev, with one left 'brutally beaten'* (theguardian.com, 15.04.2014 )

**(2) Almost bowled over!**

*The Duchess of Cambridge narrowly avoids getting hit in the head by a ball as she plays cricket in heels and a suit during game against husband Prince William*

- *The couple were at an engagement in Christchurch to publicise the Cricket World Cup*
- *According to onlookers, Prince William threw 'a wild full toss' past his wife's head*
- *William also got the chance to bowl to a number of schoolchildren*
- *The Duke and Duchess of Cambridge also officially opened the visitors centre of the Botanic Gardens*
- *The couple laid stones at the Canterbury Television memorial site, which collapsed during the 2011 Christchurch earthquakes, killing 115* (www.dailymail.co.uk, 15.04.2014 )

В современном информационном пространстве СМИ являются не только источником информации, но и признанным способом воздействия на массового адресата. На наш взгляд, заголовки СМИ обладают максимальной силой воздействия, так как они являются одним из средств, оптимизирующим организацию многоплановой информации в макротексте СМИ с целью вызвать определенную требуемую реакцию со стороны адресата.

Метафоры являются одним из наиболее универсальных средств придания заголовку экспрессии. Они позволяют сделать заголовок ярче, живее, интереснее. Путём создания броского, запоминающегося заголовка журналистам удаётся привлечь внимание читателей к публикуемому материалу. При этом в заголовках с метафорическим переносом на передний план выступает функция воздействия на массы, которая заключается в стремлении автора публикации оказывать влияние на читателей с целью достижения практических социальных результатов.

Данный вид тропа подразделяется на простую и развернутую метафору. Простая метафора представлена тремя типами:

а) именная метафора (выражается именем существительным):

**(3) Market reaction suggests sanctions over Crimea are slap on the wrist for Putin** *The US and Europe can ill afford to impose penalties that really hurt Russia without risking their own fragile recovery* (theguardian.com, 17.03. 2014)

**(4) Ukrainians, take it from a Bosnian: the EU flag is just a rag in the wind**

*If it's anything like Bosnia, Ukrainians will find the world lining up to help, but they could be paying back the debt for many years* (theguardian.com, 03.03. 2014)

б) глагольная метафора (выражается глагольными формами):

**(5) Trade war over Crimea looms as Russia closes Ukrainian-owned sweet factory** *Moscow warns France over warship deal as concerts cancelled and plant of Euromaidan backer Petro Poroshenko is shut down* **(**theguardian.com, 20.03.2014)

**(6) Muddying the waters in Ukraine** (thebbc.com,13.04.2014)

**(7) Russophilia: Germans not keen to ruffle Russian feathers** (thebbcnews.com,13.04.2014)

в) метафорический эпитет (выражается определением в широком синтаксическом смысле):

**(8) A dirty little secret of US foreign policy on Crimea: there's not much we can do** *What the hell are the pundits and experts even arguing about? They're arguing in circles around Obama's very limited options* (theguardian.com, 14.03.2014)

Примером развёрнутой метафоры может служить следующий заголовочный комплекс:

**(9) Ignore the general's bombast on Ukraine. Nato has extended enough** *Instead of indulging in bluster and provocative rhetoric, the UK should make clear that Nato has no designs on the country* (theguardian.com, 24.03.2014)

По структурному принципу заголовки делятся на назывные (Putin's Challenge to the West, Crimea's lesson, Putin's World, Ukraine's Inconvenient Neo-Nazis) и заглавия-предложения (How a digital Cold War with Russia could threaten the IT industry, Angela Merkel is rewriting Germany's post-war handbook on relations with Russia, Ukraine: there's no way out unless the west understands its past mistakes).

Анализ метафорических заголовков американских и британских газет позволяет выделить дискурсивно устойчивые метафорические модели. К их числу относятся следующие: «Жизнь социума – это непрекращающаяся война», «Жизнь социума – это человеческий организм», «Жизнь социума – это больной организм», «Жизнь социума – это механизм», «Жизнь социума – это игра», «Жизнь социума – это спорт».

При отборе иллюстративного материала для данной статьи мы руководствовались принципами темпоральной и географической близости. Напряженность политической ситуации в Украине передается через яркий концептуальный вектор агрессивности, присущий военной метафоре, поэтому количество метафорических заголовков, относящихся к сфере войны, заметно превышает число метафорических заголовков, относящихся к другим сферам-источникам.

**(10) Pro-Russian militias fill the vacuum as Kiev's control in eastern Ukraine slips**

*As 'Cossacks' appear in Slavyansk from Crimea, some believe Vladimir Putin is raising tensions to wreck the presidential elections* (theguardian.com, 14.04.2014)

**(11) Spark that could ignite this tinderbox** *How Ukraine's 'anti-terrorist' operation could lead to a full-scale invasion from Russia* (theguardian.com, 13.04.2014)

**(12) With Ukraine in crisis, Russia and America try a new diplomatic tactic: online trolling** (thebbcnews.com,14.04.2014)

Следующей по частотности является метафорическая модель «Жизнь социума – это игра». Являясь знакомой и понятной всем людям, понятийная сфера игры закономерно служит источником метафорического переноса. Для большинства игровых метафор присущи отрицательные оценочные коннотации, что вполне закономерно, так как игра – это по существу имитация деятельности. Метафора игры подчеркивает идею дистанцированности политиков от народа, их индифферентности к электорату, поглощенности ходом игрищ.

**(13) Farage's admiration for Putin shouldn't be dismissed as the musings of a clown**

*Both leaders trade on the politics of resentment – and Britain's model of capitalism generates the inequality that creates it* (theguardian.com, 31.03.2014)

**(14) Ukraine: dangerous games**

*If Russia intervenes again in Ukraine, and war is avoided, the world will still become a shrunken, soured place* (theguardian.com, 08.04.2014)

**(15) Yulia Tymoshenko back into key role in Ukraine's political soap opera**

*Release of former PM jailed for corruption could see her play a crucial part – but her last stint in power was not a success* (The Observer, 22.02. 2014)

**(16) Russia debuts new, sleek force in Crimea, ratling NATO**

**(17) The significance of Ukraine on the geopolitical chessboard**

Таким образом, мы видим, что информативная составляющая заголовочного комплекса текстов СМИ неотделима от воздействующей, более того можно сказать, что в настоящее время в текстах СМИ функция воздействия, убеждения начинает вытеснять остальные языковые функции (например, информирование), и средства массовой информации превращаются в средства массового воздействия. Метафора, обладая богатым прагматическим потенциалом – способностью воздействовать на адресата, подсказывать и настраивать на определенный тип решения и поведения – является тонким инструментом психологического воздействия, так как, используя определенную метафорическую модель, говорящий/пишущий способен построить выгодную ему картину мира в сознании слушателя/читателя.

ЛИТЕРАТУРА

1. Чудинов, А.П. Метафорическая мозаика в современной политической коммуникации / А.П. Чудинов. – Екатеринбург, 2003. – 248 с.

2. Комаров, Е.Н. Ценностные ориентиры в заголовках французских и российских средств массовой информации: дис. …. канд. филол. наук: 10.02.20 / Е.Н. Комаров. – Волгоград, 2003. – 133 с.

3. Вартанова, Е.Л. Деятельность мирового сообщества в информационном обществе / Е.Л. Вартанова // Вестник РФФИ, 1999. – № 3. – С. 24.

**УДК 81-112**

## НЕКАТОРЫЯ СІНТАКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРАК ПАДЗВІННЯ НА СТАРОНКАХ “НАШАЙ НІВЫ” (1906 – 1915 ГГ.)

***канд. Філал. навук А.М. ЛАПЦЁНАК***
**Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Мінск**

*У артыкуле аналізуюцца сінтаксічныя асаблівасці гаворак падзвіння, зафіксаваных ў газеце “Наша Ніва”. Упор робіцца на падабенства і адрозненні паміж сінтаксічнымі асаблівасцямі гаворак Падзвіння, спецыфічнымі рысамі сучасных гаворак дадзенага рэгіёна і літаратурнай мовай.*

Газета «Наша Ніва» мае неацэннае значэнне ў гісторыі беларускай мовы і культуры. Як пісаў А. Унучак, менавіта на яе старонках былі сфармуляваны асноўныя пастулаты сучаснай беларускай нацыянальнай ідэі [25, с. 172]. Менавіта на яе старонках адбывалася і станаўленне новай літаратурнай беларускай мовы на жывой народнай аснове, выпрацоўка літаратурнай нормы на розных моўных узроўнях. Мова «Нашай Нівы» – неаднародная па сваёй структуры і сваім напаўненні, бо яна адлюстроўвала розныя дыялекты. Як сцвярджала В. Лемцюгова, мову газеты трэба «разглядаць як пэўны этап развіцця і інтэграцыі дыялектных сістэм» [16, с. 14]. Таму сёння магчыма вызначыць спецыфіку гаворкі жыхароў той ці іншай мясцовасці па газетных нататках, параўнаць з сучаснымі асаблівасцямі гэтай гаворкі, прасачыць гісторыю некаторых моўных з'яў, прааналізаваць ролю і месца пэўных гаворак у стварэнні нацыянальнай літаратурнай мовы.

Матэрыялы газеты, у якіх знаходзіць адлюстраванне спецыфіка падзвінскіх гаворак, прадстаўлены дзвюма групамі. Першая – матэрыялы пастаянных карэспандэнтаў газеты – выхадцаў з гэтай тэрыторыі. Сярод найбольш вядомых аўтараў газеты можна назваць Вацлава Ластоўскага і Янку Журбу, якія пісалі матэрыялы самых розных жанраў. Аднак, думаецца, што іх маўленне свядома «карэктавалася» тэндэнцыяй на выпрацоўку агульнанацыянальнай літаратурнай мовы, хоць часта ў тэкстах адзначаюцца мясцовыя рысы. Больш інфарматыўныя для нашага даследавання нататкі, прысланыя жыхарамі гарадоў, вёсак і мястэчак Падзвіння. Паводле Т. Студзенкі, газета была арыентавана на зваротную сувязь, рэалізоўвала прынцып адзінства аўтараў і аўдыторыі [22, с. 112]. Выбіраючы тэксты для аналізу мы звярталіся пераважна да рубрыкі «З усяе Беларусі», дзе і змяшчаліся нататкі мясцовых карэспандэнтаў.

Тэрыторыя Падзвіння заўсёды займала важнае палітыка-геаграфічнае палажэнне, не стаў выключэннем і нашаніўскі перыяд. Тэрытарыяльна на старонках газеты Падзвінне прадстаўляюць гарады Полацк, Дзісна, Віцебск, а таксама вёскі і мястэчкі Дзісенскага, Дрысенскага, Полацкага і Віцебскага паветаў. Паводле даследавання А. Казакевіча і А. Асадчага, якія вывучалі геаграфічна-сацыяльныя аспекты беларускага адраджэння пачатку XX ст., цэнтрам адраджэння былі Віленскі, Вілейскі, Мінскі і Слуцкі паветы, аднак побач з цэнтрам аўтары вызначаюць і «дадатковы» пояс, куды ўключаюць Дзісенскі павет [10, с. 94]. Сапраўды, на старонках газеты вельмі багата прадстаўлена інфармацыя з гэтага рэгіёна, тэрытарыяльную прыналежнасць карэспандэнтаў можна вызначыць і па імёнах-псеўданімах: Задзісенкавіч (Zadzisienkawič), Dzisienčuk, Гэрманавец (Гэрмановец, Hermanawiec – м.Гэрманавічы, Віленск. губ. Дзіс. пав. – сёння Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобл.). Пра Дзісну пісалі таксама Язэп Канапелька (Jazep Kanapielka), Dubčonak, Akaličny, Ігнат (Ihnat), Баяравец (Bajarawiec), Ф.Конт-оріч і інш. Параўн. таксама: Полацкі (Полоцкі), Полочанін; Вітэбшчанін і інш.

Падзвінне прадстаўлена дыялектамі, якія ўваходзяць у склад паўночна-усходняй групы беларускіх гаворак. Асаблівасці прыдзвінскіх гаворак адлюстраваны ў «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» (далей – ДАБМ), матэрыялы па дадзеных гаворках можна знайсці ў дыялектных слоўніках: у «Віцебскім

краёвым слоўніку» М. Каспяровіча, які зафіксаваў дыялектнае маўленне рэгіёна ў 20 гг. ХХ ст., у «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (далей – СБГ), «Слоўніку Сенненшчыны», у дыялекталагічных запісах, зробленых у асобных раёнах і населеных пунктах. З навуковага пункту погляду асаблівасці гаворак вывучаліся пераважна на лексічным узроўні, найбольш падрабязны агляд мовазнаўчых прац зроблены ў артыкуле Л. Вардамацкага і А. Емельянава, якія прааналізавалі даследаванні па лексіцы Віцебшчыны з сярэдзіны ХІХ ст. па 80 гг. ХХ ст. [5, с.31–38].

Аднак сінтаксічныя асаблівасці гаворак застаюцца па-за ўвагай навукоўцаў. Як вядома, нацыянальная моўная спецыфіка найбольш поўна выяўляецца ў сінтаксічнай арганізацыі тэксту: з аднаго боку, у стварэнні сінтаксічных адзінак прымаюць удзел адзінкі ніжэйшых моўных узроўняў, з другога – менавіта сінтаксіс выяўляе спосабы нацыянальнага мыслення. Таму ў артыкуле намі зроблена спроба вызначыць сінтаксічныя асаблівасці гаворак Падзвіння, адлюстраваныя ў газеце, параўнаць іх са спецыфічнымі рысамі сучасных гаворак дадзенага рэгіёна і літаратурнай мовай. Аб'ектам даследавання сталі дзеяслоўныя словазлучэнні і блізкія да іх канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі або дзеяслоўнымі формамі ў якасці галоўнага кампанента словазлучэння.

На старонках газеты шырока ўжываюцца розныя па структуры словазлучэнні, якія выражаюць аб'ектныя адносіны. Асаблівасці гаворак прыдзвінскага краю выяўляюць канструкцыі з пераходнымі дзеясловамі. У сучаснай беларускай літаратурнай мове ў такіх словазлучэннях форма вінавальнага склону супадае з формай назоўнага для неадушаўлёных назоўнікаў і формай роднага склону для адушаўлёных. Такія ж адносіны ўласцівы і паўночна-ўсходнім гаворкам [2, с. 129], такія спалучэнні адзначаюцца і на старонках газеты: ***Паважаюць** людзі толькі **тых**, хто сам **сябе паважае**...* [1912, №40, с.2. Полачанін. Недалюдкі[1]]; *...атправіліся [К.Шышка з сям'ёй] **выбіраць бульбу*** [1912, №41, с. 4]; *...цяперэшні гэрманоўскі ксёндз вучыць народ **шанаваць сваю мову і звычаі беларускіе*** [1911, № 23, с. 301. Hermanawiec]; ***Знаходзяць** тут, як казалі, **медзяныя абручы** са званочкамі і **рожнае аружжэ саржавеўшае жалезнае*** [1912, №41, с. 4]; *...я лічу патрэбным нанова падняць гэтае пытаньне і **паслаць дэпутата** у Пецярбург* [1913, №11, с. 4]; *...календару беларускаму у Дзісьне некаторые тутэйшые паны **зрабілі** акуратны **байкот**...* [1912, №9, с. 3. Задзісенкавіч]; *...пачала адна паненка **аднаўляць старые абразы*** [1912, №14, с. 3. Язэп Канапелька]; *...такі чыста-беларускі павет, як дзісенскі, павінен быў бы **выбраць сьвядомаго беларуса*** [1912, №36, с. 4. Задзісенкавіч].

Аднак у карэспандэнцыях адзначаюцца і залежныя неадушаўлёныя назоўнікі ў форме роднага склону, што ўласціва ў цэлым паўднёва-заходнім гаворкам. У якасці галоўнага кампанента такіх словазлучэнняў ужываюцца не толькі дзеясловы з канкрэтным значэннем, але і іншыя. Такія спалучэнні прадстаўлены даволі шырока ў газеце: *...Губэрнатар ... паставіў вурадніка, каторы будзе **бараніць пожэнь і лясоў** ад шкод, якія быtцым робяць акалічные селяне...* [1911, №42, с. 541]; *Напрыклад, у Дзісенскай школі ткацтва, аткуль узялі вучыцельку ткацтва для мосарскай школы, вучаць **ткаць не мейсцовых узороў, але маскоўскіх сарпінак*** [1911, № 42, с. 540. Akaličny]; *Ці не баліць, што хрысьціянскіе пастыры верныя слугі аўтара і прапаведнікі Хрыстовай Праўды **забыліся слоў** Яго ... А мы толькі **слухаем гэтай брэхні** і – маўчым!* [1912, №40, с. 2. Полачанін. Недалюдкі]; *Шмат знаходзіцца карыстлівых людзей, каторые шукаюць там [у акопах] **закапаных грошы*** [1912, №41, с.4. Баброўшчына, Дзіс. пав.]. Цікава, што канструкцыі з родным і вінавальным могуць сустракацца ў аднаго і таго ж аўтара, і нават у адной і той жа нататцы. Паралельныя канструкцыі з вінавальным і родным склонам неадушаўлёных назоўнікаў, на думку даследчыкаў, уласцівы дадзенаму рэгіёну. Так, Г. Ціванова пісала, што ў старажытных помніках гаворкам на тэрыторыі Полаччыны ўласцівы абедзве канструкцыі: adpuści hrecha, zakladu dadzeržać, sarwau jabłyczak, datrymać zakład [26, с. 288].

У «Віцебскім краёвым слоўніку», які найбольш прыбліжаны да «Нашай нівы» па часе, таксама адзначаны дзве канструкцыі, аднак больш пашыраны спалучэнні з вінавальным склонам. Параўн.: ***Гуслік паслухаці і песенак наўчыцыся*** [12, с.204. Бешанковіцкі раён, далей – Беш.р.]; ***налівай крышаны*** [12, с.169. Беш.р.]; *нада **сыр адціснуць*** [12, с.16. Сенненскі раён, далей – Сен.р.]; ***падай** мне **кляпанчык*** [12, с.163. Суражскі раён[2], далей – Сур.р.]; *Сёньня **елі галушкі*** [12, с.74. Кузняцоўскі раён[3], далей –

[1] Тут і далей у пашпарце ілюстрацыі намі пазначаецца год, нумар газеты і старонка, на якой зафіксавана пэўная сінтаксічная канструкцыя, пры наяўнасці – аўтар і назва твора, часам населены пункт.

[2] Суражскі раён у складзе Віцебскай акругі, існаваў у 1924–1960 гг. Скасаваны 20.1.1960 г, тэрыторыя перададзена Гарадоцкаму, Езярышчанскаму і Віцебскаму раёнам [23].

[3] Кузняцоўскі раён у складзе Віцебскай акругі, існаваў у 1924–1927 гг. Скасаваны 26.3.1927 г., тэрыторыя перададзена Віцебскаму раёну [14].

Куз.р.]; ***папрасі*** *ў яго **гамлячку**...* [12, с.75. Сіроцінскі раён[4], далей – Сір.р.]; *Неаткуль мне **ўзяць грошы*** [12, с.205. Куз.р.].

Аднак, у ДАБМ на тэрыторыі Падзвіння прадстаўлена канструкцыя з вінавальным склонам, а спалучэнні з родным адзначаюцца толькі ў некаторых населеных пунктах на захад ад Полацкага раёна і на захадзе Браслаўшчыны [7, карта 211]. Такія спалучэнні могуць быць ужыты з пэўным сэнсам (напрыклад, *дай нажа* – на кароткі час [8, с. 756]), або пры абазначэнні часткі прадмета [8, с. 756]. Параўн. у «Віцебскім краёвым слоўніку»: ***пакаштуй*** *нашай* ***стравы*** [12, с. 223. Сен.р.].

Таксама ў форме роднага склону ўжываюцца залежныя кампаненты пры дзеясловах *вучыць/ вучыцца* і вытворных ад іх. У сучаснай літаратурнай мове пры абазначэнні працэсу засвойвання, набыцця або перадачы каму-небудзь ведаў, навыкаў пасля дадзеных дзеясловаў ужываюцца назоўнікі і займеннікі ў давальным склоне [1, с.61], але такія канструкцыі ў газеце ў цэлым практычна не адзначаюцца. У нататках з Падзвіння прадстаўлены толькі словазлучэнні з родным склонам без прыназоўніка: *...Запісываць у падданство сыноў папоўскіх, калі яны да 15 гадоў **не навучацца якой спэціяльнасьці*** [1910, №21, с. 328. Власт. Кароткая гісторыя Беларусі...]; *Калі пачынаюць дзеці хадзіць у школу і **вучыцца там граматы**...* [1911, №30, с. 379. В.Л. Як паступаць, каб дзеці выросшы шанавалі сваіх бацькоў і былі ім апорай на старасьць]; *Мала ешчэ гэтаго, падняўся гоман, што тых супольнікоў у суполцы **вучаць нейкай панскай многапольнай гаспадаркі**, а тут здаўна прывыклі да трох польнай гаспадаркі...* [1912, №7, с. 3. Рэформатар]; *...яны [дзеці] кончыўшы школу не развіваюцца ні душой ні розумам а толькі **навучаюцца механікі** чытаньня...* [1914, №4, с. 3]; *Ці ж не баліць душа сьвядомаму беларусу, што дзяцей нашых **ня вучаць роднай мовы** у школах?* [1912, №40, с. 2. Полачанін. Недалюдкі].

Канструкцыя з родным склонам дамінуе на старонках «Нашай Нівы», яна адзначаецца ў нататках, прысланых практычна з ўсёй тэрыторыі Беларусі, прадстаўленай у газеце. С. Важнік адносіць дадзенае спалучэнне да сінтаксічных архаізмаў – раней актыўна ўжывальных канструкцый, якія ў працэсе развіцця літаратурнай мовы былі выцеснены з ужытку іншымі канструкцыямі, але, тым не менш, захаваліся ў прэцэдэнтных тэкстах [4, с. 34]. Паводле яго даследаванняў, такая мадэль адзначаецца ў «Мужыцкай праўдзе» і характарызуе ідыястыль К. Каліноўскага [3, с. 344].

Аднак у навуковай літаратуры няма сведчанняў пра ўжыванне ў беларускай мове дадзеных словазлучэнняў з родным склонам. Так, у Я. Карскага адзначаюцца толькі спалучэнні з давальным склонам: *ти ж батько вуча худому; научить розуму; научить лихому* [11, с.404]. У манаграфіі Я. Лёсіка «Сынтакс» пры дадзеных дзеясловах таксама адзначаецца толькі давальны склон: *Ці-ж маці вучыць благому? Навучыць розуму, наравіць ліхому, вучыцца мове* [15, с.191].

Канструкцыя з родным склонам адзначаецца толькі ў падручніку «Фармальны сынтакс», які адлюстроўвае беларускую мову канца 20 гг. ХХ ст., аднак толькі ў ілюстрацыях [27, с.86]. Варта адзначыць, што ў якасці прыкладаў у падручніку прыводзяцца спалучэнні, створаныя аўтарамі, і ілюстрацыі з мастацкай літаратуры. Таму на наяўнасць такіх канструкцый паўплывала, відаць, іх функцыянаванне ў тагачасным маўленні. Параўн. у «Віцебскім краёвым слоўніку»: *Гуслік паслухаці і **песенак наўчыціся*** [12, с.204. Беш.р.]. Дадзенае спалучэнне з'яўляецца нарматыўным у сучаснай польскай мове [13, с.294], аднак наўрад ці дадзеная канструкцыя ўжываецца пад яе ўплывам. Па-першае, спалучэнне распаўсюджана на дастаткова вялікай тэрыторыі і выкарыстоўваецца рознымі па тэрытарыяльнай прыналежнасці, сацыяльным стане і адукацыі людзьмі. Па-другое, газета мела ярка выражаны накірунак на выпрацоўку агульнанацыянальнай мовы, пра што сведчаць шматлікія артыкулы ў газеце.

Такім чынам, у адзначаных на старонках газеты спалучэннях з пераходнымі дзеясловамі залежны кампанент мае форму роднага і вінавальнага склону, што стасуецца з асаблівасцямі сучасных гаворак Падзвіння і адлюстроўвае гістарычную моўную традыцыю дадзенага рэгіёна. Аднак спалучэнні з дзеясловамі *вучыць / вучыцца* і вытворнымі ўжываюцца ў абсалютнай большасці з родным склонам, што не знаходзіць пэўнага вытлумачэння ў дыялектных крыніцах.

Адметнасці назіраюцца і пры выкарыстанні іншых словаспалучэнняў. У сучаснай літаратурнай мове словазлучэнні з дзеясловамі *адракацца / адрачыся* ўжываюцца з прыназоўнікам *ад* і без прыназоўніка [1, с. 26; 24, 1, с. 173]. У газеце прадстаўлена толькі беспрыназоўнікавая канструкцыя ў маўленні толькі аднаго аўтара, таму не можам зрабіць пэўных абагульненняў. Параўн.: *Але цяжка бачыць і чуць, як нашы прыродные беларусы **адрэкаюцца роднаго**... Стыдна ўсім тым інтэлігентам,*

[4] Сіроцінскі раён у складзе Віцебскай акругі БССР, існаваў у1924–1961 гг. У лістападзе 1961 г. перайменаваны ў Шумілінскі раён [19].

*што адсунуліся ад народу, **адракліся сваей бацькаўшчыны**...* [1913, №3, с. 3. Чівекатнок. Дзісна]. Параўн. у «Віцебскім краёвым слоўніку»: *Я **ад яго** даўно **адраклася*** [12, с. 15. Куз.р.].

Словазлучэнні з дзеясловам *балець* у беларускіх гаворках прадстаўлены дзвюма канструкцыямі: *баліць у каго* і *баліць каму*. Паводле ДАБМ, на тэрыторыі ўсходняй Віцебшчыны ўжываецца пераважна канструкцыя *баліць у мяне*, а на захадзе – *мне баліць* [7, карта 223]. У газеце прадстаўлена спалучэнне з давальным склонам толькі ў адным тэксце «Недалюдкі» Полачаніна, таму таксама няма магчымасці зрабіць нейкія высновы ці абагульненні. Параўн.: *А ці-ж **нам не баліць**, што мова наша ў загоне, што не маем ніякіх правоў грамадскіх на сваей зямлі? ... Ці ж **не баліць душа сьвядомаму беларусу**, што дзяцей нашых ня вучаць роднай мовы у школах?* [1912, №40, с. 2. Полачанін. Недалюдкі].

Пры абазначэнні прафесіі, роду дзейнасці, занятку, пасады, якую мае асоба або абіраецца ці прызначаецца пры дзеясловах *быць, служыць, выбіраць* і пад. залежны кампанент у літаратурнай мове мае форму творнага склону без прыназоўніка. Такія спалучэнні адзначаюцца на старонках газеты, у тым ліку ў нататках карэспандэнтаў з Падзвіння: *З усяго відаць было, што яму [сьвяшчэніку] дужа **хацелося быць упоўнамочэным** ад селян...* [1912, №41, с.3. Пагашчанін. Пагост, Дзісенск. пав.]. Згодна з гістарычнымі даследаваннямі, творны склон у такіх спалучэннях змяніў другі вінавальны склон [9, с. 259]. У «Віцебскім краёвым слоўніку» таксама адзначаны канструкцыі з творным склонам: *Усё яшчэ **дзякам служыць*** [12, с. 142. Сен.р.]; *Ганка **павадыром** у сьляпога Йвана* [12, с. 213. Віцебскі раён]. Аднак параўн.: *Адчайны стаў чалавек* [12, с. 16. Чашніцкі раён].

Адзначаюцца на старонках газеты і сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікам *за* і залежным кампанентам у вінавальным склоне: *Старэнькая бабуля Аксана, што калісь маладой будучы **была за няньку** у пана Сакалоўскаго, выйшла на двор і села на прызбі* [1912, №22, с.2. Янук Журба. Прыгонная душа]; *У Двінску ноччу трое маладых людзей, **перэадзеўшыся за паліцэйскіх**, убіліся у кватэру абывацэля Варонко,..* [1913, №7, с. 3]. Такія канструкцыі Я. Лёсік называе спалучэннямі з прыладным прэдыкатыўным, дзе форма з прыназоўнікам *за* таксама ўтварылася з другога вінавальнага «калі будзе змена ў стане прадмета – у назоўніках іменных заўсёды, а ў прыметніках – у пераважнай большасці» [15, с. 148].

Выразнай асаблівасцю беларускага сінтаксісу з'яўляюцца канструкцыі з дзеясловамі *смяяцца, жартаваць, кпіць, здзекавацца* і пад., якія ў літаратурнай мове кіруюць родным склонам з прыназоўнікам *з*. Паводле дадзеных ДАБМ, у беларускіх гаворках адзначаюцца тры канструкцыі пры выражэнні такога значэння: *з яго смяюцца, каля яго смяюцца, над ім смяюцца* [7, карта 224]. Усе тры спалучэнні адзначаюцца і на тэрыторыі сучаснага Падзвіння, прычым яны могуць раўнапраўна ўжывацца і ў адным населеным пункце [8, с. 772]. На тэрыторыі Віцебскага раёна пераважае канструкцыя *каля яго смяюцца*, на ўсходзе Полаччыны адзначаюцца 2 канструкцыі – *з яго* і *каля яго*. Толькі ў асобных месцах прадстаўлены паралельна словазлучэнні *смяяцца над ім*. Такім чынам, на ўсёй прыдзвінскай тэрыторыі пераважае канструкцыя *каля яго*, і далей на захад Віцебскай вобласці яна саступае па ўжывальнасці спалучэнню *з яго* [7, карта 224]. Параўн. таксама ў СБГ: *Здзекавалася з яе* [21, 2, с. 299. Лісна В.Дзвін.]; *Усе людзі з цябе смяюцца* [21, 2, с. 176. Ахрэмаўцы Брасл.].

У тэкстах «Нашай Нівы» зафіксавана толькі канструкцыя з прыназоўнікам *з*, што можна вытлумачыць тэрытарыяльна: прадстаўлены пераважна нататкі карэспандэнтаў з Дзісеншчыны, на тэрыторыі якой канкурыруюць спалучэнні з прыназоўнікам *з* і прыназоўнікам *каля*: *Ткацкіе школы, як і кожная рэмесьленая школа, вельмі патрэбны для нашаго краю, і **з гэтаго мы можэм толькі цешыцца*** [1911, № 42, с. 540. Akaličnу. Мосар, Віл.губ. Дзісен. п.]; *Адну толькі маемо тут **пацеху с таго**, што цяперэшні гэрманоўскі ксёндз вучыць народ шанаваць сваю мову і звычаі беларускіе* [1911, №23, с. 301. Hermanawiec]; *...а таго ня ведаюць [людзі «шляхтуючые»], што разумны чэлавек будзе толькі **смеяцца з іх**...* [1911, №28 – 29, с. 366. В.С. Дзісна]; *Сын, выйшоўшы «ў людзі», не адважыцца з бацькам гаварыць чужой мовай і ня будзе **сьмеяцца з мужыцкай мовы**...* [1911, №30, с. 380. В.Л. Як паступаць,..]. Але спалучэнні з прыназоўнікам *каля* намі не зафіксаваны.

У «Віцебскім краёвым слоўніку» засведчаны канструкцыі з усімі трыма прыназоўнікамі: *Ён заўсёды **нада мной кпіць*** [12, с. 165. Сен.р.]; *Што ты **кпіш нада мной**?* [12, с. 165. Сен.р.]; ***ня кпі каля яго*** [12, с. 165. Сен.р.]; ***Цешыцца** гаспадар **з добрага збожжа*** [12, с. 335. Сен.р.]. Паводле СБГ, спалучэнні з прыназоўнікам *каля* і аб'ектнымі адносінамі ўласцівы не толькі гаворкам Падзвіння, але і больш шырокай тэрыторыі: у ілюстрацыях адзначаны Краслаўскі раён (тэрыторыя сучаснай Латвіі), Тракайскі (тэрыторыя сучаснай Літвы), Навагрудскі, Пружанскі раёны [21, 2, с. 385]. Адзначаюцца спалучэнні з прыназоўнікам *каля* і сучаснымі даследчыкамі на тэрыторыі Віцебшчыны: ***Сьмяюцца** ўсе **кала яго**, здумляйіць абы-што* [18, с. 49].

У матэрыялах газеты словазлучэнні дадзеных дзеясловаў з прыназоўнікам *каля* не адзначаюцца, аднак гэты прыназоўнік дастаткова часта выкарыстоўваецца ў спалучэннях з іншымі дзеясловамі і назоўнікамі пры выражэнні азначальных адносін: *С прыходам вясны варта было-б нашай гарадзкой управе скончыць* ***работу каля пасадкі*** *новага бульвару...* [1911, №7, с.108. Задзісенкавіч]; *У нашых ваколіцах за зіму нішто* ***зараблялі*** *людзі* ***каля лесу****, хоць ўжо лясы і звяліся* [1912, №12 – 13, с. 4. Баяравец]; *Апошнімі часамі шмат людзей выежджае у Амэрыку і на Амур на земляные* ***работы каля чугункі*** [1913, №13, с. 4. Вітэбск].

Своеасаблівасці на сінтаксічным узроўні выяўляюць і дзеясловы маўлення. Пры выражэнні аб'ектных адносін пры дзеясловах *гаварыць, расказаць* і пад. у літаратурнай мове выкарыстоўваецца вінавальны склон з прыназоўнікам *пра* і месны склон з прыназоўнікам *аб* [1, с. 66; с.217]. У матэрыялах газеты, напісаных карэспандэнтамі з Падзвіння, найбольш часта ўжываецца канструкцыя з прыназоўнікам *аб*: *Вы хочэце, каб я* ***расказала вам аб прыгоне*** [1912, №22, с. 2. Янук Журба. Прыгонная душа]; ***Гаворуць*** *тут* ***аб Амэрыцэ****, як* ***аб залатым дне****...* [1913, №5, с. 3. Вітэбск]; *А пара* ***падумаць аб гэтым*** [1912, №35, с. 4. Задзісенкавіч]; *...Але ніхто ня хочэ* ***падумаць аб тым****, каб палепшыць сваё палажэньне, развіць сваю душу, працаваць дзеля карысьці ўсяго грамадзянства* [1912, №34, с. 4. Бэрнась Скрыпка. Дзісна]; *Зразумейця, што гэта* ***аб Вас*** *[інтэлігенція]* ***казаў*** *Добры Вучыцель...* [1912, №29, с. 2. Юры Верэшчака]; *Калі* ***пачаць гаварыць аб беларускім руху*** *і* ***аб беларусах****, то за звычай «палякі» кажуць, што беларусы гэто только селяне, а шляхта у нас польская...* [1912, №33, с. 4. Задзісенкавіч]; – ***Аб чым*** *гэта так* ***думаеш*** *крэпка? – пытаю яго, бо дужа зацікавіўся* [1913, №43, с. 3. Пятрок з Вярхоуя].

Спалучэнні з прыназоўнікам *аб* адзначаюцца і з іншымі дзеясловамі і семантычна блізкімі назоўнікамі ў тэкстах газеты: *Мейсцовые грамадзянскіе дзеяцелі, прызнаўшы, што край ня можэ правільна развівацца без універсітэту, пастанавілі дабівацца універсытэту праз Гас. Думу і* ***устроілі аб гэтым*** *колькі сабраньнёў* [1913, №19, с. 4. Вітэбск]; «*Лепельскій Вестнік*» ***паведамляе*** *сваіх чытачоў і* ***аб навінах*** *з беларускага руху* [1911, №51 – 52, с. 678. Я. Журба. Лепель.]; *Пішу, хоць спозьненую,* ***вестку аб пажары*** *Полацка...* [1912, №33, с. 4. Полацк]; *Ниводзин з их [дактароў] не пакінуў па сабе ніякай* ***запіскі аб прычынах самагубства*** [1915, №15, с. 3. Дзьвінск]. Залежны кампанент у такіх словазлучэннях мае форму меснага склону.

Спалучэнні з прыназоўнікам *пра* ў газеце – адзінкавыя. Так, напрыклад, адзначаецца ў вершы «Мая песня» Янкі Журбы: *Зусім, здаецца, нікне горэ, Як толькі песьню* ***запяю Пра сьветлы край, пра сонцэ, зоры****; Спакой ідзе ў душу маю* [1915, №9, с. 2].

У картатэцы мовы «Нашай нівы» зафіксавана колькасная перавага прыназоўніка *аб* над прыназоўнікам *пра*: адзначаны 174 прыклады-ілюстрацыі з *аб* і толькі 18 – з прыназоўнікам *пра*.

У «Віцебскім краёвым слоўніку» таксама адзначаны два спалучэнні: ***Пра гэта тлумяць*** *ужо ў кожнай хаце* [12, с. 309. Сур.р.]; *Я хачу ў яго* ***даведацца аб етым*** [12, с. 90. Куз.р.] і інш. Сёння ў гаворках Падзвіння канструкцыя з прыназоўнікам *пра* шырока ўжываецца, паводле дыялектных матэрыялаў. Параўн.: *У мяне ў галаве пярэкайіцца, як* ***уздумаю пра мужыка*** [17, с. 51]; *Уроілася нешта мне – усё* ***пра сына*** *думаю...* [18, с. 47]; *А мы як маладыя былі, дык нам не было чаго паесьць, а* ***пра адзежыну і гаварыць не прыходзілася*** [6, с.188]; *Хачу* ***расказаць пра вайну*** [6, с. 190].

Калі спалучэнні з дзеясловамі *гаварыць, сказаць* і інш. рэалізуюць акалічнасныя адносіны, то яны прадстаўлены некалькімі сінанімічнымі словаспалучэннямі.

Як і ў сучаснай літаратурнай мове, адзначаюцца спалучэнні з прыслоўямі, ўтворанымі ад назвы мовы ў форме давальнага склону з прыназоўнікам *па*: *Дагэтуль у нас былі ксяндзы, каторые умелі* ***гаварыць па нашаму****,...* [1911, № 47 – 48, с. 620. Празарокі, Віленскай губ. Дзіс. пав.]; *Напрыклад, адна тутэйшая шляхцянка, з дарага купленым шляхоцтвам, любіла* ***гаварыць па "польску"*** *і маліцца с кніжкі у касьцелі...* [1912, №33, с. 4. Задзісенкавіч]. Асобнае напісанне прыназоўніка *па* засведчыла працэс станаўлення арфаграфічнай нормы на старонках газеты.

Дастаткова шырока ўжываюцца словазлучэнні, дзе залежны кампанент – слова *мова* ў месным склоне з прыназоўнікам *у* і залежным прыметнікам. У якасці галоўнага кампанента адзначаюцца не толькі дзеясловы маўлення, але і іншыя з блізкім значэннем, а таксама аддзеяслоўныя назоўнікі. Параўн.: *У школах дзіцё* ***вучаць у чужой мове****... Калі пачынаюць дзеці хадзіць у школу і вучыцца там граматы, то бацькі павінны пастарацца, каб у хаці былі* ***кніжкі ў роднай беларускай мове****...* [1911, №30, с. 379 – 380. В.Л. Як паступаць,..]; *А мы, хаця нам канешне патрэбна* ***гэта навука ў нашай роднай мове****, маўчым і ні маем сьмеласьці дабівацца свайго* [1911, № 7, с. 109. Гэрмановічы]. Такія спалучэнні адзначаюцца вельмі часта на старонках газеты ў розныя часы, нават у 1920 г., калі газета аднавіла сваю дзейнасць і з дру-

ку выйшла ўсяго 9 нумароў. Можна сказаць, што спалучэнні з месным склонам і прыназоўнікам *у* пры ментальных дзеясловах з'яўляюцца спецыфічнай рысай беларускай мовы пачатку XX ст. на ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі.

Адзначаюцца тэксты, дзе выкарыстаны абедзве канструкцыі: *Адну толькі маемо тут пацеху с таго, што цяперэшні гэрманоўскі ксёндз вучыць народ шанаваць сваю мову і звычаі беларускіе, а казаньня* ***кажэ для беларусоў у іх роднай беларускай мове*** *і хоць яму цяжка* ***гаварыць па беларуску****, але стараецца і за гэта стараньня вялікае яму дзякуй* [1911, № 23, с. 301. Hermanawiec].

У якасці сінанімічных фіксуюцца адзінкавыя прыклады з прыназоўнікам *на* і назоўнікам у месным склоне: *Дзеці у мяне вучацца ахвотна; усё што можна стараюся* ***тлумачыць на іх роднай мове****...* [1914, №4, с. 3] і з залежным кампанентам у творным склоне*: Сын, выйшоўшы «ў людзі», не адважыцца з бацькам* ***гаварыць чужой мовай****...* [1911, №30, с. 380. В.Л. Як паступаць,..].

Такім чынам, дзеясловы маўлення ў газеце таксама выяўляюць шырокую сінанімію пры выражэнні розных адносін, што знаходзіць адлюстраванне і ў сучасных гаворках на тэрыторыі Падзвіння.

Пры абазначэнні напрамку руху ў сучасных дыялектах выкарыстоўваюцца 2 канструкцыі: *да+ родны склон і к+ давальны склон*. Паводле ДАБМ на тэрыторыі ўсходняй Віцебшчыны пераважае канструкцыя з прыназоўнікам *к*, і далей на захад яна паступова змяняецца спалучэннем з прыназоўнікам *да* [7, карта 217]. Аднак у тэкстах газеты прыклады з прыназоўнікам *к* прадстаўлены адзінкава. Напрыклад, у нататцы карэспандэнта з-пад Бешанковіч «Наш цёмны куток»: *...у сьвята ходзюць [гаспадары] на заработкі* ***к тутэйшаму пану*** [1913, №46, с. 3. Птушка з балота]. Пераважае па колькасці канструкцыя з прыназоўнікам *да*: *Дагэтуль у нас былі ксяндзы, каторые умелі гаварыць па нашаму, цяпер-жэ* ***прыслалі да нас*** *ксендза літвіна...* [1911, № 47 – 48, с. 620. Празарокі, Віленскай губ. Дзіс. пав.]; ***Прывязлі*** *тады* ***да дзяцей*** *немку* [1912, №22, с. 2. Янук Журба. Прыгонная душа]; *Калі* ***прыгледзіцца да жыцьця*** *нашай вёскі...* [1913, №31, с. 2. Задзісенкавіч]; *Граніца з Літвой ня срогая і адтуль* ***да нас дастаўляецца*** *многа солі і іншых тавараў* [1920, №6, с. 4]. Крыніцы дадзеных ілюстрацый – Дзісенскі павет, заходняя Віцебшчына, дзе і сёння пашырана гэта канструкцыя.

У «Віцебскім краёвым слоўніку» таксама адзначаюцца дзве канструкцыі: *Мар'я* ***бярэць к сабе*** *ў прымы Ягора* [12, с. 42. Куз.р.]; ***Пойдзеш да ганчара*** *за гарнушкамі* [12, с. 75. Сен.р.]. Паралелізм дадзеных спалучэнняў уласцівы даволі шырокай тэрыторыі. Паводле даследавання М. Янковяка, які вывучаў беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне сучаснай Латвіі, там таксама адзначана выкарыстанне двух спалучэнняў «як у маўленні аўтахтонных беларусаў, так і прыезджых асобаў» [29, с. 171].

У словазлучэннях са значэннем мэты намі адзначана канструкцыя *ехаць па ваду*: *У сяле што гадзіну чуваць гром, то грымяць парожніе дзежкі, – селяне* ***едуць па ваду*** *у вазёры і крыніцы* [1914, №27, с.4. Шчырый. Воласць Мілоўшчына, Полацк. пав.]. Аднак, згодна з матэрыяламі ДАБМ, на ўсёй тэрыторыі Падзвіння пашырана канструкцыя *за вадой* [7, карта 214]. Адсутнасць матэрыялаў не дае магчымасці зрабіць пэўныя высновы аб распаўсюджанасці дадзенага спалучэння. Параўн. таксама ў «Віцебскім краёвым слоўніку: *Папрасі ў яго гамлячку* ***з'ездзіць за бульбай*** [12, с. 75. Сір.р.]; ***Пойдзеш*** *да ганчара* ***за гарнушкамі*** [12, с. 75. Сен.р.]; ***Едзь за жардзём****, нада баркан гарадзіць* [12, с. 106. Сен.р.].

Адзінкавы прыклад з дзеясловам *хварэць* рэалізуецца ў спалучэнні з прыназоўнікам *на* і вінавальным склонам: *Вітэбскую губэрню прызналі небеспечнай па халеры: ужо 18 душ ляжыць у бальніцы* ***хворых на гэту хваробу****, а двое дык памерлі* [1912, №30, с. 4. Вітэбск]. Такія словазлучэнні не характэрныя для дадзенага рэгіёна. Паводле даследчыкаў, гаворкам паўночна-ўсходніх раёнаў Беларусі і асобным паўднёвым гаворкам уласцівы словазлучэнні *хварэць + Т. скл.*, а ў астатніх гаворках ужываюцца дзве канструкцыі: *хварэць + Т. скл.* і *хварэць + на + В. скл.* [2, с. 131].

Асаблівасцю падзвінскіх гаворак на старонках «Нашай Нівы» з'яўляецца шырокае выкарыстанне прыназоўніка *дзеля* з прычынным значэннем, семантычна тоесным прыназоўніку *з-за*: *А цяпер прарочаць, што Гэрманавічы* ***разрастуцца****, а* ***гэта дзеля таго,*** *што завялі што тыдзень торговы дзень* [1911, №13, с. 189]; *Ведама, як туга прыходзюць у вучылішча вучні, бо іх бацькі не пускаюць,* ***дзеля гэтаго*** *ледзь ня сільлю* ***збіраеш*** *іх вучыцца* [1913, №46, с. 3. Птушка з балота. Наш цёмны куток]; *Беда толькі у тым, што на ўсіх без мала селянскіх кружжах і суполках кірунак знаходзіцца у руках інтэлігенціі не беларускай і* ***дзеля гэтаго*** *часта густа у кружжах* ***робіцца*** *ня чыста экономічная і грамадзянская работа, а праводзіцца абрусіцельная палітыка* [1914, №18, с. 4. Вітэбшчанін]; ***Дзеля таго****, што вёска Шмакова, як і большая часць вёсак заселеных стараверамі, даўно была* ***шырока вядома*** *пьянствам, буянствам, разбоямі ды зладзействамі, то ў гэтай вёсцы зрабілі обыск, каторый даў нечэканые рэзультаты* [1913, №8, с. 3]; *Balšawiki u nas byli nia doŭha, i* ***dziela hetaha*** *miajscowaść* ***nia tak zniščana****, jak heta haworać pra druhija miescy* [1920, №6, с. 4]. Тэрытарыяльна прыназоўнік адзначаецца на ўсёй тэрыторыі Падзвіння.

У нарматыўных крыніцах пазначаецца, што прыназоўнік *дзеля* з прычыннымі адносінамі устарэлы [24, 2, с. 167; 28, с. 22]. Аднак, на наш погляд, у літаратурнай мове яго варта разглядаць як тэрытарыяльна абмежаваны, хоць ужыванне прыназоўніка *дзеля* са значэннем прычыны ўласціва дастаткова шырокай тэрыторыі Беларусі: ён адзначаецца ў СБГ, у прыкладах пазначаны Пастаўскі, Віленскі Гродзенскі, Лагойскі раёны [21, 2, с. 42].

У газеце прадстаўлена не толькі прычыннае, але і мэтавае значэнне прыназоўніка, семантычна тоеснага прыназоўніку *для*. Параўн.: *...Але ніхто ня хочэ падумаць аб тым, каб палепшыць сваё палажэньне, развіць сваю душу,* ***працаваць дзеля карысьці*** *ўсяго грамадзянства* [1912, №34, с. 4. Бэрнась Скрыпка. Дзісна]; *Хваля* ***перэсяленьня*** *у чужые старонкі* ***дзеля лепшаго жыцьця і заробку*** *зачапіла і нашых беларусоў* [1911, №16 – 17, с. 238]. Такое ўжыванне стасуецца і з сучаснай літаратурнай нормай.

У «Нашай Ніве» адзначаецца некалькі сінтаксічных канструкцый для выражэння часавых значэнняў. У газетных нататках выкарыстоўваюцца спалучэнні з вінавальным склонам і прыназоўнікам *у*, якія можна кваліфікаваць як пераходныя выпадкі паміж словазлучэннямі і прыслоўямі: *Стаіць такая жара, што ліст у садах на дрэвах асыпаецца,* ***як у восень****...* [1914, №27, с. 4. Шчырый. Воласць Мілоўшчына, Полацк. пав.]; *Стараньнем п. Івашэўскіх* ***у восень*** *мінуўшаго (1911) гаду* ***былі аткрыты*** *малочные і вэтэрынарные курсы для ўсіх, хто толькі мог і хацеў карыстаць* [1912, №4, с. 3. В.Ха-нок. Ухвішчэ, Вітэбск. губ. Лэпельскаго пав.]; ***У летку у будні*** *цэлай грамадой шчыра* ***працуюць*** *яны [гаспадары] на сваіх вузенькіх палосках, а* ***у сьвята ходзюць*** *на заработкі к тутэйшаму пану ... Цяпер жэ,* ***у восень****, калі ўсё ўжо с палёў прыбралі, дык вось* ***у сьвята атдыхаюць*** *усе* [1913, №46, с. 3. Птушка з балота. Наш цёмны куток].

Выкарыстоўваюцца таксама канструкцыі з месным склонам і прыназоўнікам *у*, адметнасцю такіх канструкцый з'яўляецца залежны прыметнік або займеннік у межах спалучэння: *Восеньню* ***у гэтым гаду*** *у Вітэбску* ***аткрыецца*** *выстаўка хатніх вырабоў і народнаго штукарства літоўска-беларускіх губэрній* [913, №31, с. 3]; ***У прошлым месяцы*** *адзін гаспадар так* ***упіўся****, што ідучы чыгункай зваліўся з аткоса...* [1911, № 47 – 48, с. 620. Празарокі, Віленскай губ. Дзіс. пав.]; *Вясной* ***у гэтым гаду паявіліся*** *ў паветах Двінскім, Новаалександраўскім і ў другіх паветах вітэбск. губ. агенты ад нейкаго падрадчыка...* [1914, №24, с.4].

На старонках «Нашай Нівы» адзначаюцца і сінанімічныя ім спалучэнні з залежным назоўнікам у творным склоне: *Нібывалая заліва* ***здарылася гэтымі днямі*** *у Двінску* [1913, №29, с. 4]; ***Апошнімі часамі*** *у Вітэбшчыне* ***пачынаюць*** *шпарка* ***разрастацца*** *сельска-гаспадарскіе хаўрусы, кружкі і суполкі* [1914, №18, с. 4. Вітэбшчанін]. Паводле дыялекталагічных крыніц, такія словазлучэнні характэрны толькі для асобных пунктаў на тэрыторыі сярэднебеларускіх гаворак [2, с. 130]. Адным прыкладам прадстаўлена словаспалучэнне з родным склонам: ***Гэтай восені*** *у Вітэбску* ***аткрылося*** *акційнае таварыство гандлю лёнам і вырабамі з лёну* [1913, №43, с. 3]. Паводле сучасных дадзеных, такія канструкцыі адзначаюцца ў гаворках паўднёва-заходняга дыялекту, у асобных гаворках у цэнтры Беларусі [7, карта 219]. Аб прычынах ужывання такіх канструкцый на тэрыторыі Падзвіння цяжка зрабіць пэўныя высновы.

У матэрыялах газеты адзначаны таксама некаторыя адметныя сінтаксічныя канструкцыі, прадстаўленыя адзінкавымі прыкладамі. Так, дзеяслоў *паведамляць*, які ў сучаснай літаратурнай мове кіруе пераважна давальным склонам, у якасці залежнага кампанента мае назоўнік у вінавальным склоне: «*Лепельскій Вестнік*» ***паведамляе сваіх чытачоў*** *і аб навінах з беларускага руху* [1911, №51 – 52, с. 678. Я.Журба. Лепель].

Своеасаблівасць на лексічным і сінтаксічным узроўні выяўляе дзеяслоў ***карыстаць***, які не ўласцівы сучаснай беларускай літаратурнай мове – у «Слоўніку беларускай мовы» ён мае памету *разм.* [20, с. 332], адсутнічае ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» і фіксуецца дыялектнымі слоўнікамі са значэннем ‘карыстацца’ [21, 2, с. 427]. Дзеяслоў ***карыстаць*** і вытворныя ад яго формы кіруюць назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *з*: *Дзеля таго, што* ***з гімназіі*** *у Дзісьне* ***будуць карыстаць*** *такжэ жыхары суседніх паветоў вітэбскай губэрні як: лепэльскі, полацкій, дрысенскі, дык ахвяры павінны паступаць і адтуль* [1913, №11, с. 3. Гімназія у Дзісьне].

Звычайна дзеяслоў *вывучыцца* не мае залежных кампанентаў. У газеце ён кіруе спалучэннем *на памяць*, як і дзеяслоў *вывучыць*: *Дзеці у мяне вучацца ахвотна; усё што можна стараюся тлумачыць на іх роднай мове., чытаю ім беларускіе кніжкі і яны заўсёды ждуць не цярпліва «Нашай Нівы», ці ня будзе там такіх вершоў каб можна было ім* ***выўчыцца на памяць*** [1914, №4, с.3]. Падобная канструкцыя адзначаецца ў нататках, напісаных прадстаўнікамі іншых беларускіх гаворак (напрыклад, М. Арол – псеўданім С.Пяцельскага, выхадца з Беласточчыны).

Праведзены аналіз паказаў, што на старонках газеты «Наша Ніва» зафіксаваны сінтаксічныя канструкцыі, ўласцівыя і сёння дадзеным гаворкам. Шматлікія спалучэнні пры выражэнні тоеснай

семантыкі маюць розную форму выражэння: спалучэнні з прамым дапаўненнем, з дзеясловамі *быць*, *служыць*, *працаваць* і пад., з дзеясловамі руху пры абазначэнні мэты, з дзеясловамі маўлення з аб'ектным значэннем, словазлучэнні са значэннем часу і інш. Такая сінанімія адзначаецца ў гістарычных і дыялекталагічных крыніцах, прысвечаных даследаванню гаворак Падзвіння. У нататках, прысланых карэспандэнтамі з Падзвіння, адзначаюцца таксама рысы, уласцівыя на дадзеным этапе іншым гаворкам: спалучэнні з галоўным дзеясловам *хварэць*, канструкцыі з часавым значэннем з залежным кампанентам ў творным і родным склоне. Акрамя таго, адзначаюцца адзінкавыя канструкцыі, зафіксаваныя на дадзенай тэрыторыі і не атрымаўшыя яшчэ навуковай інтэрпрэтацыі.

ЛІТАРАТУРА

1. Арашонкава, Г.У. Кіраванне ў беларускай і рускай мовах. Слоўнік-даведнік / Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск: Выш. шк., 1991. – 303 с.

2. Блінава, Э. Беларуская дыялекталогія: вучэб. дап. для філал. фак. вну / Э. Блінава, Е. Мяцельская. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск: Выш. шк., 1980. – 304 с.

3. Важнік, С.А. Аб так званых «сінтаксічных паланізмах» у «Мужыцкай праўдзе» і «Пісьмах з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага // Паланістыка 2012 / пад рэд. А. Кіклевіча, С. Важніка. – Мінск: Медысонт, 2013. – С. 337 – 349.

4. Важнік, С.А. Нацыянальная сінтаксічная ідыяматыка: ад унутрымоўнай спецыфікі да міжмоўных адрозненняў // Веснік БДУ. – Сер.4. – 2011. –№1. – С.31 – 36.

5. Вардамацкі, Л.М. З гісторыі апісання і вывучэння лексікі Віцебшчыны / Л.М. Вардамацкі, А.С. Емельянаў // Беларуская мова / рэдкал.: У.В. Анічэнка і інш. – Вып.10. – Мінск, 1982. – С.31 – 38.

6. Грачыха, Т.А. Тэксты з гаворак Віцебскага і Лёзненскага раёнаў. // Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні: зб. навук. артыкулаў / НАН Беларусі; Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Вып.2. – Мінск: Беларус. навука, 2012. – С.186 – 192.

7. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963.

8. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы. Даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт / пад рэд. Р.І. Аванесава, К.К. Крапівы, Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963. – 970 с.

9. Зіманскі, В.Э. Словазлучэнне ў помніках беларускай дзелавой пісьменнасці к. XIII – п. XVI ст. / В.Э. Зіманскі // Дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 15–16 красав. 2008 г. / Ін-т мовы і літаратуры НАН Беларусі. – Мінск, 2008. – С. 257 – 260.

10. Казакевіч, А. Пачаць пісаць па-беларуску. Рэгіянальны і сацыяльны склад беларускага адраджэння, канец XIX – пачатак XX стагоддзя / А.Казакевіч. А. Асадчы // Палітычная сфера. – 2011. – №16–17 (1–2). – С.87 – 114.

11. Карский, Е.Ф. Белорусы: в 3 т. / Е.Ф. Карский; коммент. В.Н. Курцовой. – Минск: БелЭн, 2006. – Т. 2, кн. 2: Язык белорусского народа. – 512 с.

12. Каспяровіч, М. Віцебскі краёвы слоўнік: (матар'ялы). – Віцебск, 1927. – Факсімільнае выданне: Менск, 2011. – 371 с.

13. Киклевич, А.К. Польский язык. Практический курс / А.К. Киклевич, А.А. Кожинова. – Минск: ТетраСистемс, 2000. – 320 с.

14. Кузняцоўскі раён // Вікіпедыя: Свабодная энцыклапедыя [Электронны рэсурс]. – 2011. – Рэжым доступа: http://be.wikipedia.org/wiki/%D0%9A%D1%83%D0%B7%D0%BD%D1%8F%D1%86%D0%BE%D1%9E%D1%81%D0%BA%D1%96_%D1%80%D0%B0%D1%91%D0%BD. – Дата доступа: 28.03.2014.

15. Лёсік, Я. Сынтакс беларускае мовы / Я. Лёсік. – Выд. другое, пераробл. – Менск, 1926.

16. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В.П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – 303 с.

17. Панюціч, К.М. З лексікі гаворак Ушаччыны / К.М. Панюціч // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. артыкулаў / НАН Беларусі; Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Вып.1. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – С.47 – 56.

18. Панюціч, К.М. З лексікі гаворак Ушаччыны / К.М. Панюціч // Беларуская дыялекталогія: матэрыялы і даследаванні: зб. навук. артыкулаў / НАН Беларусі; Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. – Вып.2. – Мінск: Беларус. навука, 2012. – С.44–50.

19. Сіроцінскі раён // Вікіпедыя: Свабодная энцыклапедыя [Электронны рэсурс]. – 2013. – Рэжым доступа: http://be.wikipedia.org/wiki/%D0%A1%D1%96%D1%80%D0%BE%D1%86%D1%96%D0%BD%D1%81%D0%BA%D1%96_%D1%80%D0%B0%D1%91%D0%BD. – Дата доступа: 28.03.14.

20. Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / Ін-т мовазнаўства АН БССР; пад рэд. М.В. Бірылы. – Мінск: БелСЭ, 1987. – 903 с.

21. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / [Уклад. Ю.Ф. Мацкевіч, А.І. Грынавецкене, Я.М. Рамановіч і інш.; рэд. Ю.Ф. Мацкевіч]. – Мінск, 1980. – 5 т.

22. Студзенка, Т. «Наша Ніва» (1906–1915) і яе чытач: вопыт яднання / Т. Студзенка // Беларуская думка. – 2010. – №10. – С.110 – 115.

нак ужываўся метад назірання, гэта значыць, што фіксаваліся ўсе варыянты рэалізацыі ідэнтыфікаваных адзінак, якія толькі траплялі ў поле зроку даследчыка.

**Навізна** даследавання якраз і заключаецца ў тым аўтэнтычным гутарковым матэрыяле, з якога вылучаліся прыказкі і прымаўкі. Слоўнікі і літаратурныя творы выкарыстоўваліся намі толькі як дадатковыя сродкі адэкватнага вылучэння парэмічных выказванняў, бо апошнія трэба было аддзяліць ад афарызмаў і выказванняў знакамітых дзеячаў і ўжо зафіксаваных ў слоўніках адзінак. Больш таго, трапныя выказванні здараюцца і ў звычайных носьбітах мовы. Іх таксама нельга было ўключаць у спіс прыказак і прымавак. Паводле нашых крытэрыяў, моўная адзінка, адпавядаючая па сваіх фармальных і семантычных параметрах прыказкам ці прымаўкам, тым не менш, у іх лік не ўключалася, калі яна нідзе больш ні ў якіх варыянтах не сустракалася. Калі ж у нашых запісах аўтэнтычнага маўлення яна рэгістравалася хаця б двойчы, але ў рэпліках розных суразмоўцаў, ці сустракалася ў запісах, зробленых падчас назіранняў, мы ўключалі яе ў ліст магчымых прыказак або прымавак.

Трэба адзначыць, што ідэнтыфікацыя асноўнай, "слоўнікавай" формы вылучаных намі прыказак таксама апынулася даволі складанай справай. Разгледзем прыведзеныя ніжэй выказванні, зафіксаваныя ў гутарковым маўленні.

**Падборка I**.
1. *Няма той рэчкі, што без паваротаў.*
2. *Няма той рачулкі, што нідзе не паварочвае.*
3. *Няма рачулкі без павароту.*
4. *Рака без паваротаў ці бывае, а*?
5. *Дзе ж такая рэчка, што без паваротаў*?
6. *І твая рачулка паварот мае.*
7. *Але ж рака без паваротаў … няма такой.*
8. *Дзе рака, там і павароты. Так што павернецца шчэ ўсё, пераменіцца.*
9. *Калі ж ужо ў маёй рэчачцы нейкі паварот будзе*?
10. *А вось у яе рачушчы ўсё неяк вой-вой без павароту ды без павароту.*

Непасрэдна ў нашых запісах сустракаецца толькі адно з іх – 1. Два наступныя зафіксаваны ў запісах мовы, зробленых студэнтамі. Астатнія – у назіраннях. І якраз варыянт 8 з назіранняў падаецца нам найбольш верагоднай базавай формай як найбольш абагульняючай і незалежнай ад нейкіх сацыяльных ці эмацыянальных характэрыстык суразмоўцы. Базавую форму можна з лёгкасцю выдзеліць і з варыянтаў 1 і 3 (*Няма рэчкі без павароту*), калі вывесці ўказальны займеннік *той* у рэалізацыі 1 ці замяніць памяншальнае слова *рачулка* на *рака* ў выказванні 3.

Шырока распаўсюджаным накірункам у вывучэнні парэмій з'яўляецца высвятленне таго, наколькі яны нацыянальна спецыфічны. Даследчыкі цікавяцца, якім чынам яны суадносяцца з парэміямі іншых народаў. Большасць прыказак, паводле даных спецыяльных даследаванняў [1, с. 53], праяўляюць падабенства семантычных ліній сваёй арганізацыі, што лічыцца зразумелым, бо ў аснове такой сімілярнасці знаходзіцца відавочная ўніверсальнасць досведа чалавека. Сваю ролю безумоўна адыгрываюць і розныя формы запазычання. Але ж аднатыпнасць досведу прызнаецца галоўнай.

Так, многія мовы маюць у сістэме сваіх парэмій нейкія паралелі з вельмі старажытнай прыказкай мовы Самалі *Kaadsade ma kufo* [1, с. 53], якая ў англійскім варыянце гучыць як *He who takes his time does not fall* (Той, хто не спяшаецца, не ўпадзе), а ў нашых запісах значнае семантычнае падабенства з ёю маюць наступныя выказванні з падборкі II.

**Падборка II.**
1. *Глядзі! Паспееш, як не пабяжыш, бо як пабяжыш, то спатыкнешся.*
2. *Каб паспець, бегчы не трэба.*
3. *Цішэй, цішэй, не бяжы. Бо паспееш, як не спатыкнешся.*

Гучаць прыведзеныя выказванні па рознаму, але семантычна акцэнт у іх застаецца той жа: *не трэба спяшацца*.

Відавочна, што ўсе прыведзеныя варыянты, уключаючы і іншамоўныя, настойваюць на тым, каб не спяшацца ці, як гэта значыцца ў вядомым пажаданні "Паспяшай цішэй" (Торопись медленно).

Апроч семантычнага, у значнай колькасці прыказак маецца відавочнае міжмоўнае структурнае падабенства, бо яны заснаваны на яркіх вобразах, трапных метафарах, той ці іншай гульні са словамі. Так, у варыянтах падборкі I такім вобразам з'яўляецца рака, у падборцы II – спатыканне, якім метафарычна азначаюцца магчымыя памылкі. Вельмі прываблівай характарыстыкай прыказак з'яўляецца

іх падзеленнасць на дзве часткі, якія нейкім чынам ураўнаважваюць адна другую, пры гэтым у значнай колькасці выпадкаў маюць адпаведныя паралелі ў сінтаксісе і рытме, праяўляюць сувязі гукаў. Так, у прыведзеных намі падборках з лёгкасцю выдзяляюцца двухсастаўныя канструкцыі:

*Дзе рака, там і павароты.*
1 2

*Паспееш, як не пабяжыш. А як пабяжыш, то спатыкнешся.*
1 2 1 2

У іх адчуваецца характэрны рытм, які складаецца з многіх фактараў: падабенства сінтаксічнай формы, месца акустычнай выдзеленнасці, чаргавання адпаведных тонаў у сінтагмах і г.д.

Цікавымі падаюцца і міжкультурныя сувязі. Так, прыведзеная прыказка "Няма той рэчкі, што нідзе не паварочвае" адсылае да вобразу ракі, а семантычна вельмі падобная на яе англійская "It's a long lane that has no turning" – сцяжынкі. Але ж прататыпічнае значэнне ў іх адно: трэба мець цярпенне і чакаць перамен да лепшага. Цікава, што ў абедзвюх культурах ужытыя ў прыведзеных прыказках вобразы (рачулкі ці сцяжынкі) супастаўляюцца і ўраўнаважваюцца адным і тым жа паняццем – паваротам, за якім можна і трэба чакаць добрых перамен. "Выхад заўсёды ёсць", – даводзіцца ў семантычна вельмі сімілярных выказваннях на англійскай і беларускай мовах.

Трэба зазначыць, што падабенства структур і практычная ідэнтычнасць агульнага, ці базавага, прататыпічнага сэнсу зусім не адмяняе культурную асаблівасць прыказак. Так, знакамітая англійская парэмія *Love me, love my dog* (Любіш мяне, любі і маю сабаку) адпаведна карэліруе з запісанай на Полаччыне *Улюбіла мяне, улюбі і маю маці*. Паралелі захоўваюцца нават ва ўжыванні прыналежных займеннікаў. Але ж пры ўсім падабенстве агульнай семантыкі (прымаешь мяне, прымай і тое, што мне даражэй за ўсё) і яе моўнай маніфестацыі ёсць і вельмі характэрная адметнасць. У адным выпадку галоўная каштоўнасць прадстаўлена ў вобразе-канцэпце сабакі, што стасуецца з прэзентацыяй англійскай культуры як той, якая асабліва вылучае і паважае сабак. У другім выпадку такім каштоўным цэнтрам становіцца маці. Што таксама стасуецца з тым месцам, якое мае маці ў іерархіі каштоўнасцей беларускай культуры, пачынаючы са знакамітага "Раскіданага гнязда" Купалы. Невыпадкова, што маці вельмі адметная фігура ў светапоглядзе беларускіх пісьменнікаў. Нават адзін са слоўнікаў прыказак і прымавак прысвячаецца яго аўтарам менавіта маці як першай і галоўнай настаўніцы ў жыцці [2, с. 3]. Гэты вобраз, аднак, паказвае на магчымасць балючых і разбуральных вынікаў, калі "ўлюбіла мяне" ды "не ўважыла маці".

Як ужо адзначалася, усе даследчыкі прыказак і прымавак адзіны ў выснове, што гэтыя адзінкі адлюстроўваюць мудрасць народа, што ў іх зафіксаваны багаты практычны досвед чалавека. Кароткі спіс нашых парэмій дазваляе цалкам пагадзіцца з такім меркаваннем. Нават просты іх пералік пераканаўча паказвае, што яны сапраўды на вельмі глыбокім узроўні інтэрпрэтуюць свет чалавека і яго жыццё. Напрыклад:

– *Руплівіцы Ганцы, як той пчолцы, жыццё мёдам не падаецца.*
– *З кім пабраўся, ад таго і набраўся* (Вельмі цікавы варыянт вядомага меркавання, што "муж и жена – одна сатана").
– *Карміла-люляла таечка сваё цельца-лялячку, ды ўскармілася змяя, што зглынула таечку.*
– *І кат, і лекар у сваёй* (адной) *галаве.*
– *Як не пабраўся, то глядзі. А як пабраўся, то цягні.*

Кожная з прыведзеных прыказак заслугоўвае глыбокага разгляду і падрабязнай інтэпрэтацыі зафіксаванага ў ёй семантычнага і моўнага багацця. Асабліва калі прыняць на ўвагу розныя варыянты іх рэалізацыі ды ўважліва прааналізаваць тыя камунікатыўныя падзеі, у якіх яны ўзніклі. Так, апошняя з прыведзеных прыказак зафіксавана, акрамя іншых, у наступным фрагменце моўных паводзін.

**Фрагмент І.** $А_1$: *Так, браце, вось што я табе скажу. Як не пабраўся, то глядзі. Глядзі! А як ужо пабраўся, дык тады-ы гэ-гэ! Адным словам, цягні! Куды ўжо тады глядзець!*
$Б_1$: *Хы!*
$А_2$: *Не хы! Бо нагледзеш на сваю галаву!*
$Б_2$: *Ну-у!*
$А_3$: *Так, так! Цягні і ўсё тут.*
$Б_3$: *Хе-хе…*

$А_4$: *Вось табе і хе-хе! Цягні, хлопча, лягчэй будзе!*
$Б_4$: *Дык і што ж там цягнуть так ужо трэба?*
$А_5$: *Ды ўсё, што возьмеш, усё, што ета-а ўсё, што будзе! Цягні. Моўчкі. Ммоўчкі.*
$Б_5$: (Трасе галавой)
$А_6$: *Куды лягчэй будзе. Куды!*

Прыведзеная размова пляменніка з дзядзькам, братам маці, якраз і дэманструе канкрэтную рэалізацыю прыведзенай прыказкі. І па сваёй семантыцы, і па форме яна вельмі нагадвае выказванне знакамітага прадстаўніка французкай літаратуры, што да шлюбу трэба глядзець абодвума шырока раскрытымі вачыма, а пасля толькі сашчурыўшыся. Падабенства, аднак, частковае, бо зафіксаваны намі варыянт мае не толькі агульную для абодвух меркаванняў думку аб неабходнасці пільнай увагі да шлюбу, але і зусім розныя парады на пасляшлюбны перыяд. Калі для француза дастатковым падаецца проста не пільна ўглядацца, то зафіксаваны на Полаччыне варыянт цалкам адкідае неабходнасць глядзець пасля шлюбу ўвогуле. Больш таго, прапануецца цягнуць. А ў прыведзеным фрагменце яшчэ і з вельмі характэрнай дэталізацыяй: *моўчкі*. Калі прыняць на ўвагу, што маўчанне з'яўляецца адной з самых характэрных рыс моўных паводзін у беларускай культуры [3], то каментар дзядзькі можна прызнаць зусім невыпадковым. А прыказку ў цэлым – не толькі нічым не саступаючай вядомаму французкаму афарызму, а нават паглыбляючай рэалізаваную ў ім думку і досыць дакладна адлюстроўваючай патрабаванні беларускай культуры да мужчын.

Цяпер, як вядома, вельмі востра стаяць пытанні так званай моўнай паліткарэктнасці. Многія дзеячы культуры, мовазнаўства, літаратуры, асабліва журналісты ставяцца да іх выключна адмоўна, што добра адлюстроўваюць шматлікія сатырычныя каламбуры папулярнага беларускага калумніста, які рэгулярна друкуе свае пратэстныя меркаванні ў цэнтральнай газеце.

Вельмі нечаканым вынікам нашага аналізу зафіксаваных у моўных паводзінах на Полаччыне парэмічных выказваннях з'яўляюцца даныя аб даволі высокай гендарнай карэктнасці адзначаных парэмій. Усе яны добра стасуюцца з жыццёвым досведам як мужчын, так і жанчын. І, што асабліва важна, ужываюцца і тымі, і гэтымі. Праўда, як правіла, адбываюцца некаторыя вельмі характэрныя змены ў моўнай форме прыказак. Так, прыведзенае ў падборцы І меркаванне об тым, што рака, як і жыццё, мае павароты, у мужчынскіх варыянтах гучыць інакш, чым у жаночых [2, 3, 9, 10]. Акрамя таго ёсць і тыя, якія могуць быць кваліфікаваны як гендарна нейтральныя [1, 4, 5, 6], бо яны могуць сустрэцца ў адзначанай форме ў маўленні як мужчын, так і жанчын. А прыказкі *Як не пабраўся…* і *З кім пабраўся…* ў жаночым ужыванні рэалізуюцца *Як не пабралася…* і адпаведна *З кім пабралася…*, што дае падставы для фіксацыі такіх прыказак у слоўніках у дзвюх формах, мужчынскай і жаночай. Бо атрымліваецца, што гэта слоўнікі могуць быць кваліфікаваны як недастаткова паліткарэктныя, а самі прыказкі – не. Сказанае падаецца асабліва справядлівым, калі даводзіцца пачуць, як з дапамогай *Руплівіцы Ганкі* … камунікантымужчіны ацэньваюць уласныя жыццёвыя сітуацыі ці робяць каментар жыццёвых сітуацый іншых мужчын, што зафіксавана ў нашых назіраннях за моўнымі паводзінамі на Полаччыне. Калі ацэньваць усе зафіксаваныя намі парэмічныя выказванні, то яны адлюстроўваюць жыццё ўсіх гендарных груп, кожнай аддаючы сваё.

Праведзенае даследаванне прадстаўляе сабой толькі папярэдні аналіз адабраных намі адзінак, але нават і ён паказвае значнасць прыказак для вывучэння мовы і культуры, у тым ліку і ў гендарным плане. Падсумоўваючы ўсё сказанае, правамерна прызнаць, што

1) у нашым даследаванні зафіксаваны новыя, яшчэ не патлумачаныя ў адпаведных слоўніках прыказкі і прымаўкі;

2) кожная з гэтых прыказак патрабуе далейшага дэталёвага аналізу формы і семантыкі ва ўсіх аспектах, уключаючы гендарны;

3) усе яны адпавядаюць шырока распаўсюджанаму цяпер патрабаванню моўнай гендарнай паліткарэктнасці.

ЛІТАРАТУРА

1. Crystal, D. the Cambridge Encyclopedia of Language / D. Crystal. – Cambridge: Cambridge University Press, 2003. – 480 p.

2. Санько, З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем / З. Санько. – Мінск: Навука і Тэхніка, 1991. – 234 с.

3. Путрова, М.Д. Задачи исследования молчания как коммуникативного феномена. Гендерный аспект/М.Д. Путрова//Коммуникация в современной парадигме социального и гуманитарного знания: сб. мат-лов междунар. науч. конференции. – М.: РУДН, 2008. – С. 203 – 206.

**УДК 81-112**

## МЕТАМОЎНАЕ ВЫКАЗВАННЕ Ў СТРУКТУРЫ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ (НА МАТЭРЫЯЛЕ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ)

***Л.У. ХВАШЧЭЎСКАЯ***
**Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, Наваполацк**

*У артыкуле апісваюцца метамоўня выказванні (рэфлексівы) у творах мастацкай прозы з вызначэннем іх асаблівасцей і функцыянальнага прызначэння. Высветлена, што металінгвистычныя выказванні дапамагаюць падтрымліваць двайную сувязь – не толькі паміж чытачом і тэкстам, але і паміж аўтарам і чытачом, ліквідуюць "камунікатыўную напружанасць", раскрываюць лінгвістычную дасведчанасць і індывідуальнасць аўтара.*

Праблема адлюстравання мовы ў свядомасці чалавека з’яўляецца адной з актуальных у сучаснай лінгвістыцы. Цікавасць даследчыкаў да вывучэння праяў метамоўнай рэфлексіі звязана з імкненнем выявіць і вывучыць уяўленні носьбітаў мовы пра моўную рэчаіснасць. Метамоўныя выказванні, ці “рэфлексівы”, фіксуюць увагу на семантычна і аксіялагічна значных моўных адзінках, якія, як правіла, выклікаюць своеасаблівае напружанне ў працэсе камунікацыі і таму патрабуюць вербалізацыі [1, с. 79]. Спантанныя ўяўленні, якія фарміруюцца пры выкарыстанні моўных адзінак, належаць да сферы бытавой лінгвістыкі і датычацца самых розных аспектаў непрафесійнага аналізу.

Метамоўная свядомасць пісьменніка, што праяўляе сябе ў мастацкіх тэкстах, таксама належыць да бытавой лінгвістыкі. Нават у тых выпадках, калі метамоўныя выказванні мастака слова дастаткова дакладныя і правільныя, усё ж яго назіранні з’яўляюцца “не вынікам навукова-лінгвістычнага аналізу, а праявай моўнай інтуіцыі аўтара” [4, с. 116]. У мастацкім тэксце ўсе элементы не выпадковыя і падпарадкоўваюцца аўтарскай задуме. Рэфлексівы ў мастацкім тэксце – гэта спецыяльна актуалізаваныя метамоўныя меркаванні, якія нясуць эстэтычную нагрузку ў адпаведнасці з ідэйна-эстэтычным зместам твора.

Метамоўная рэфлексія ў мастацкім тэксце характарызуецца дыялектычным адзінствам агульнага і індывідуальнага. З аднаго боку, аўтарская індывідуальнасць у значнай ступені вызначае змест і функцыі метамоўных выказванняў. З другога боку, вывучэнне метамоўнай рэфлексіі ў мастацкім тэксце можа даваць падставы для абагульненняў. Мэтай нашай працы стаў разгляд метамоўных выказванняў (рэфлексіваў) у творах мастацкай прозы з вызначэннем іх асаблівасцей і функцыянальнага прызначэння.

Вылучэнне метамоўнага выказвання з моўнай плыні адбываецца на аснове яго інтэгральнай прыметы – метамоўнай функцыі, якой адпавядае семантычная структура рэфлексіва. Расійская даследчыца М.Р. Шумарына адзначае чатыры асноўныя кампаненты ў семантычнай структуры рэфлексіва. Да іх належаць аб’ект рэфлексіі, статусны кваліфікатар, суб’ект метамоўнай ацэнкі і метамоўная характарыстыка [3, с. 19]. Кампаненты семантычнай структуры могуць быць вербалізаваны, а могуць прысутнічаць імпліцытна. Спынімся больш падрабязна на кожным з гэтых кампанентаў.

Аб’ектам рэфлексіі звычайна з’яўляецца адзінка мовы, факт маўлення, наконт якіх даецца нейкі каментарый: *Дазвольце пазнаёміцца – Самсон Рыгоравіч Іваноўскі, маскоўскі* ***ўрач-афтальмолаг****. Ну, калі прасцей – спецыяліст па захворванні вачэй* (Л. Рублеўская. Старасвецкія міфы горада Б*).

Статусны кваліфікатар – гэта абазначэнне, якое ўказвае на лінгвістычны статус аб’екта: слова, выраз, паняцце, жанр і інш. *Дарэчы, «дачка мая» – мясцовы* ***зварот*** *да любой асобы жаночага полу, незалежна ад узросту і роднасных адносін (так мяне кліча суседскае дзяўчо, абражацца бессэнсоўна). Паспрабавала б я сказаць сваёй маці нешта накшталт: «Галіна, дзяўчынка мая…» – не, не магу нават уявіць рэакцыю* (А. Брава. Каменданцкі час для ластавак).

Суб’ект метамоўнай ацэнкі – гэта моўная асоба ці група носьбітаў мовы, для якіх дадзеная ацэнка з’яўляецца праўдзівай: *Сядзім у гасцёўні вялікага дома Джойс: родныя і стрыечныя, а лепш,* ***як гаворыць дзядзька Саша****, “усім прозвішчам”* (Р. Баравікова. Аўтограф ад Спілберга). У дадзеным прыкладзе наяўнасць суб’екта выражана лексічнымі сродкамі, але семантыка суб’екта можа быць зразумелай і з папярэдняй часткі тэксту або мець “нулявую форму”. У апошнім выпадку “нулявая форма” выражэння

ўказвае на тое, што меркаванне з'яўляецца агульнапрынятым [5, с. 87]: *Вось, хачу ў вас спытаць: што такое – недарэка? <…> Гэта па-беларуску? – Па-беларуску. Недарэкам* ***называюць*** *няўмелага, някемлівага чалавека. Ці негаспадарлівага таксама* (Ф. Сіўко. Боты сіньёра Паскуаліні).

Уласна метамоўная характарыстыка з'яўляецца тлумачэннем, каментарыем да аб'екта рэфлексіі: *Раман не раман, а прыемна! Аднак тлумачальны слоўнік сцвярджае, што раман –* ***гэта любоўныя адносіны паміж жанчынай і мужчынам****. А тут… Тут* ***нейкая салодкая мроя****, якая то падступаецца, то адступае* (Р. Баравікова. Раман не раман, а прыемна).

Мастацкая літаратура традыцыйна выконвае ў грамадстве не толькі эстэтычную функцыю, але і ўплывае на фарміраванне грамадскіх каштоўнасцей, з'яўляецца для чытача крыніцай звестак па гісторыі, сацыялогіі, этнаграфіі і г.д. Напрыклад, наступны экскурс у гісторыю слова можа зацікавіць чытача, паспрыяць фарміраванню станоўчага стаўлення да ўласнай моўнай спадчыны: *Так, усё-ткі слова "каханне" мае больш старажытнае паходжанне, чым "любоў"…* ***Каханне – гэта яшчэ з санскрыту. У гэтым слове адгукаецца пракаветнасць*** *– паганскія капішчы, ахвяраванне, смерць…* (Л.Рублеўская. Ночы на Плябанскіх млынах). Нярэдка тлумачэнне слоў і словазлучэнняў уводзіцца ў тэкст у выглядзе дыялогу: *"У вас, пэўна бракуе адукацыі, - з'едліва сказаў ён. –* ***Вам патлумачыць, хто такія – эрыніі?****" / "Не трэба <…> / "****Эрыніі, наколькі я ўспамінаю, багіні помсты, і пражывалі яны, паводле міфа, у пекле****"* (Ю. Станкевіч. Эрыніі). Гэты прыём дазваляе аўтару ўпэўніцца, што чытач, нават не вельмі дасведчаны ў міфалогіі, правільна зразумее аўтарскую задуму, магчыма, пашырыць свой кругагляд.

Часам рэфлексіў удзельнічае ў моўнай гульні і спрыяе ўзмацненню эмацыянальнага ўздзеяння на чытача: *Апошнім намаганнем Хведзька пераваліўся цераз агароджу і знік у невядомым напрамку,* ***як маланка, – не таму, што так хутка, але таму, што зігзагамі****…* (Л. Рублеўская. Старасвецкія міфы горада Б*). У дадзеным выпадку ўстойлівае параўнанне "як маланка" пераасэнсоўваецца, абазначае няроўныя абрысы шляху, якім рухаецца нецвярозы чалавек.

Выкарыстанне метамоўных выказванняў карыснае пры знаёмстве чытача з іншымі моўнымі і культурнымі рэаліямі, звязанымі са зместам і ідэяй мастацкага твора: *Гэта скрыгоча па асфальце вазок паштальёна,* ***па-тутэйшаму – cartero****, у якім ён развозіць газеты і лісты* (А. Брава. Каменданцкі час для ластавак). ***Рэпарта савеціка*** *– пасёлак кантрактнікаў, што працуюць на Кубе; тут, як прыгаворваў казачны Кашчэй Бессмяротны, рускім духам пахне* (А. Брава. Каменданцкі час для ластавак). Тлумачэнне слоў і выразаў накіравана на тое, каб данесці да чытача інфармацыю пра асаблівасці маўленчых паводзін у іншай краіне, няведанне якіх можа прывесці да міжкультурнага канфлікту: *Або гэты іх* ***зварот да незнаёмага – оуе****, вымаўляецца з расцяжачкай: вой-е, у Саюзе Рэйнальда напачатку рабіў з яго моўную кальку, ледзь адвучыла ад гэтага правакацыйна-пагрозлівага «паслю-ючай», на якое беларускія хлопцы вокамгненна рэагавалі баявой стойкай, а ён, дурненькі, лічыў іх занадта агрэсіўнымі* (А. Брава. Каменданцкі час для ластавак).

Пісьменнікі схільны заўважаць моўныя лакуны, бо ставяцца да мовы як да "рабочага інструмента" [3, с. 28], а значыць, з асаблівай пільнасцю: *Апельсінавае дрэўца раскашуе. Шчаслівае сваёй прыгажосцю, яно расце проста пасярэдзіне пакоя, у* ***паціа – адпаведнага паняцця ў нас няма,*** *гэта жылая частка дома пад адкрытым небам, нешта накшталт унутранага дворыка* (А. Брава. Каменданцкі час для ластавак). Гераіня твора, якая нейкі час жыве на Кубе, справядліва лічыць, што для многіх слова "паціа" будзе незразумелым, а замяніць яго іншым – немагчыма, бо "адпаведнага паняцця ў нас няма".

Асаблівая ўвага пісьменніка да выбару найбольш удалага слова выглядае цалкам натуральна, часам аўтар запрашае і чытача прыняць удзел у гэтым пошуку, актывізуючы тым самым рэфлексію над мовай: *Вакол гэтага чалавека нешта адчувалася…* ***Сказаць – "сіла" – неяк па-джэдаеўску… Сказаць "харызма" – па-газетнаму****… Цяжка было ўявіць, што з ім можна спрачацца* (Л. Рублеўская. Скокі смерці). Параўнанне некалькіх блізкіх ці падобных слоў адбываецца пры падборы найбольш дакладнага, пры гэтым можа быць выкарыстана канструкцыя "не А, а В" ці словы *хутчэй, дакладней*: *Але я потым* ***бег*** *сам! Нават* ***не бег, я поўз****… Спатыкаўся. Падаў. Паднімаўся* (Р. Баравікова. Ля берагоў Аўстраліі). *Ігар Апанасавіч выйшаў,* ***хутчэй, вылецеў*** *з кватэры, адчуваючы, як па целе бягуць дрыжыкі* (Р. Баравікова. Ля берагоў Аўстраліі). Як правіла, гэта дазваляе больш актыўна "ўключаць" чытача ў ход аповеду. З гэтай мэтай выкарыстоўваюцца і пытальныя сказы, што ўтрымліваюць метамоўную ацэнку: *Я сплю ў Мінску, у сваёй кватэры на праспекце імя газеты "Известия". Ага-а, газеты…* ***Вам не смешна, што хтосьці мой спальны праспект назваў газетай?*** (Р. Баравікова. Аўтограф ад Спілберга).

Ацэначныя метамоўныя выказванні ў тэкстах мастацкай прозы сустракаюцца часцей, чым метамоўныя каментарыі, якія проста паведамляюць якую-небудзь інфармацыю пра слова ці яго ўжыванне

і маюць на мэце пашырыць інфармацыйны фонд адрасата. Каментарыі ацэначнага тыпу І.Т. Веправа вызначае як "метамоўную інтэрпрэтацыю", калі моўнік выражае свае адносіны да слова, а таксама вербалізуе псіхалагічную, сацыяльна-нарматыўную, маральна-этычную інфармацыю [1, с. 80–81]: *Слова "шмоткі" для мяне з маленства было* ***лаянкай*** (Л. Рублеўская. Гісторыя пані). Пад асобым кантролем метамоўнай свядомасці знаходзяцца стылістычна маркіраваныя адзінкі. Іх прысутнасць у маўленні можа выклікаць негатыўную рэакцыю, таму ўжыванне зніжанай лексікі суправаджаецца імкненнем даць зразумець, што моўнік застаецца ў адной з адрасантам сацыяльна-культурнай прасторы, хаця і выкарыстоўвае спецыфічныя элементы іншай субкультуры: *Таму што Сенечку,* ***як гаворыцца****, да фені Вася і ягоная паперка* (Р. Баравікова. Аўтограф ад Спілберга). *За кратамі* ***так званага*** *"малпачніка" соўгаліся з кута ў кут некалькі часова зняволеных.* (Ю. Станкевіч. Эрыніі).

Прастора мастацкага тэксту вельмі дыялагічная. Ствараючы твор, пісьменнік разлічвае на пэўны водгук з боку чытача, імкнецца пераадолець разрыў паміж сабою і чытачом у прасторы і часе. Гэтаму садзейнічае і выкарыстанне метамоўных выказванняў. Адчуванне непасрэднага ўзаемадзеяння аўтара з чытачом узнікае, напрыклад, пры звароце аўтара з просьбай даравацъ памылковае выкарыстанне слова: *Не для таго бралася за асадку,* ***пардон, клавіятуру*** (Л. Рублеўская. Сутарэнні Ромула). *Панна Канстанцыя горка падціснула вусны і кранула нагой цёплую цёмную ваду прысядзібнай сажалкі…* ***даруйце, Лебядзінага возера*** (Л. Рублеўская. Старасвецкія міфы горада Б*). *На гэтым шабашы я – чалавек выпадковы. <…> Пра тое, што мне гамон, ведаюць пакуль толькі трое: Фантамас – мой былы шэф, Шатун – мой будучы шэф <…> і Кот.* ***Даруйце, Котаў Віктар Віктаравіч*** (А. Паплаўскі. Піраміды). Зразумела, што пры пісьмовым маўленні ў аўтара дастаткова часу і магчымасцей, каб выправіць пэўныя недакладнасці да таго, як чытач убачыць твор. Аднак такі прыём дазваляе ўспрымаць сітуацыю як непадрыхтаваны дыялог аўтара з чытачом, а рэфлексівы з'яўляюцца падказкамі на шляху да разумення чытачом ідэі мастацкага твора.

У вусным маўленні мы карыстаемся рознымі сродкамі фіксацыі ўвагі на важных для нас моўных адзінках: інтанацыяй, мімікай, жэстамі і інш., бо ў чалавечым маўленні "суіснуюць побач і мова слоў, і мова без слоў" [2, с. 42]. Аўтар мастацкага тэксту пазбаўлены гэтай магчымасці, таму выкарыстоўвае графічнае вылучэнне неабходных фрагментаў або непасрэдна вербалізуе свой намер у выглядзе метамоўнага каментарыя: *Ноч перад адплыццём «Тараса Шаўчэнкі» на Кубу мы з Рэйнальда правялі ў ленінскім пакоі адэскага рабочага інтэрната; літары з пенапласту, з якіх калісьці складаўся вялізны, на ўсю сцяну, тэкст «маральнага кодэкса», часткова паадклейваліся і валяліся ў калідоры ўпокат, як і самі п'яныя* ***«СРОИТЕЛИ МУНИЗМА»****, – нікчэмныя літары, што раптам выпалі са звыклага ім слова* (А. Брава. Каменданцкі час для ластавак). *Я ж прасіў, здаецца… Ён, бачыце, падказвае мне* ***(апошняе слова было вымаўлена з асаблівым націскам)****, як весці следства* (Ф. Сіўко. Чалавек з армянскім прозвішчам). *Ён азірнуўся: сапраўды, следам за ім ішло аўто, штосьці накшталт "Мерседэса". Ні колеру, ні нумара машыны вызначыць было немагчыма – яна сунулася –* ***менавіта, сунулася*** *– з выключанымі фарамі* (Ф. Сіўко. Чалавек з армянскім прозвішчам). Дзякуючы выкарыстанню рэфлексіваў, разрыў паміж пісьмовым і вусным маўленнем часткова кампенсуецца.

Падводзячы вынікі зробленым назіранням, трэба адзначыць, што змест і функцыі метамоўных выказванняў у мастацкім тэксце ў значнай ступені вызначаюцца аўтарскай індывідуальнасцю. Метамоўныя выказванні, якія суправаджаюць моўныя адзінкі, найбольш рэлевантныя для аўтара, дапамагаюць у стварэнні мастацкай вобразнасці, дазваляюць падтрымліваць адваротную сувязь з чытачом. Аўтар, прагназуючы патэнцыяльнае непаразуменне, уводзіць каментарый, які павінен перадухіліць сэнсавую неаднназначнасць і зняць "камунікатыўнае напружанне". Акрамя таго, рэфлексівы служаць сродкам выяўлення светабачання аўтара, садзейнічаюць раскрыццю аўтарскай задумы.

ЛІТАРАТУРА

1. Вепрева, И.Т. Языковая рефлексия в постсоветскую эпоху / И.Т. Вепрева. – М.: ОЛМА-ПРЕСС, 2005. – 384 с.
2. Рачкоўская, А.У. Ад цела да слова : Асаблівасці адлюстравання ў мове невербальных сродкаў маўлення / А.У. Рачкоўская // Роднае слова. – 2008. – № 12. – С. 42 – 47.
3. Шумарина, М.Р. Метаязыковая рефлексия в фольклорном и литературном тексте: автореф. дис. … докт. филол. наук / М.Р. Шумарина; Моск. гос. пед. ун-т. – М., 2011. – 46 с.
4. Шумарина, М.Р. Метаязыковое сознание этноса по данным фольклора и литературы / М.Р. Шумарина // Языковая картина мира : лингвистический и культурологический аспекты : материалы IV Международной научно-

практической конференции (16 – 17 октября 2008г.) / Бийский пед. гос. университет им. В.М. Шукшина. – Бийск: БГПУ им. В.М. Шукшина, 2008. – С. 116 – 118.

5. Шумарина, М.Р. Язык в зеркале художественного текста: Метаязыковая рефлексия в произведениях русской прозы / М.Р. Шумарина. – М.: Флинта, Наука, 2011. – 297 с.

**УДК 81'37=111**

## ФРАЗЕОМАТИЧЕСКИЙ ОБОРОТ ТИПА *ON THE SMALL SIDE* КАК СРЕДСТВО ВЫРАЖЕНИЯ ДИМИНУТИВНОСТИ В АНГЛИЙСКОМ ЯЗЫКЕ

***Е.Н. ХРАМЦОВА***
**Полоцкий государственный университет, Новополоцк**

*Статья посвящена проблеме выражения категории диминутивности в английском языке. Приводится анализ диминутивного потенциала разговорной фразы "on the … side", а также рассматриваются некоторые её функциональные особенности.*

Диминутивность в каждом языке может быть представлена средствами различных уровней языка и находит отражение в разных частях речи. В английском языке категория диминутивности может быть выражена не только внутри слова (при помощи аффикса или корня с семой диминутивности), но и вне его (на уровне свободных или устойчивых словосочетаний) посредством сем «малость», «незначительность» и т.п. К ним можно отнести следующие атрибутивные наименования, так или иначе выражающие недостаточность или неполноценность: little (маленький, небольшой, малый (о размере), small (маленький, мелкий; небольшой (по размеру), diminutive (маленький, крохотный, миниатюрный (обыкн. о физическом размере) и др. Наиболее частотными из них являются такие эпитеты как little (маленький, небольшой, малый (о размере); малочисленный (о количестве), petty (мелкий, незначительный; второстепенный, маловажный), baby (детский, младенческий) и др. Интенсивность их использования для выражения категории диминутивности различна. Активнее всего используются местоимения-квантификаторы и оценочные местоимения (a) little и (a) few, значение которых может быть выделено/интенсифицировано/ослаблено другими компонентами [1].

Категория диминутивности находит свое выражение и в значении ряда идиом, имеющих в своем составе значение малости и образующих фразеосемантическое поле обозначения признака недостаточности по размеру, количеству, возрасту, социальному или имущественному положению и т.п.

Многие фразеологизмы, обозначающие небольшой размер, имеют отрицательную коннотацию, обозначая неуважение или невысокое положение адресата в обществе. В русском и белорусском языках также есть аналогичные фразеологизмы, в состав которых входят наименования, обозначающие предметы небольшого размера или недостаточно взрослых или самостоятельных лиц. Семантическая категория диминутивности фразеологически выражена в английском языке достаточно широко, причем задействованным оказывается широкий спектр значений диминутивности, констатирующих как небольшой размер, так и небольшую значимость, с точки зрения говорящего, эмоциональность, экспрессивность и оценочность его отношения [1].

He's very ***small beer***. – Он просто ***мелкая сошка***. ***Капля ў моры, кот наплакаў, з камароў нос.***

В центре нашего внимания находится выражение диминутивности в значении ряда фразем или как их еще называют синтаксических словосочетаний. К подобным фраземам относится фразема ***on the … side***. Подобные фразы рассматриваются в рамках фразеоматики. Они представляют собой обороты с осложненным значением – результатом безобразного преобразования. Семантическая осложненность таких единиц заключается в том, что их значения не являются суммой значений их компонентов, а новыми значениями. В этом состоит суть их фразеоматического значения, под которым понимается инвариант информации, выраженной раздельнооформленными единицами языка с непереосмысленным, но осложненным значением [2, с. 88].

Данный оборот выполняет функцию определения, употребляется предикативно и достаточно распространен в английском языке. Например:

Then she noticed that he was ***a bit on the stingy side***. – Потом она заметила, что он был *скуповат*. She was comely, though ***on the fat side***. – Она была хорошенькой, хотя и *несколько полноватой*.

Этот определительный оборот имеет значение ограниченной степени качества. По смыслу он аналогичен прилагательным с суффиксом ***-ish***, который является морфологическим средством образования диминутивности английских прилагательных. Возможно, ограниченная способность суффикса образовывать диминутивные образования способствовала появлению его аналитического двойника, т.е. оборота типа ***on the … side.***

The walls had a ***bluish*** colour. – Стены были окрашены в ***голубоватый*** цвет. A ***largish*** sum was missing. – Пропала ***довольно крупная с***умма.

Данный оборот следует отличать от омонимичных структурных образований, которые являются устойчивыми лексическими единицами с переосмысленным значением, и не порождают новый смысл, каждый раз употребляясь в новом контексте. Сравните *on the safe side*, *on the side* или *on sb's side* и оборот *on the … side*. Например: He's quiet and a bit ***on the shy side***. и You might still want to go for an X-ray, however, just to be ***on the safe side***. He knew many ways of making a little bit of money ***on the side***. He has the Democrats ***on his side***...

Анализ лингвистического материала показал, что данный оборот активно употребляется в текстах художественных произведений, а также текстах реклам и заглавий газетных статей, текстах онлайн переписки: Ten years before her frocks had been somewhat ***on the showy side***. "Great place! It is ***on the small side*** but the food is really good for a local bar. Worth a try." Hopkins River bream still ***on the small side***. And he said he had looked at it and all he could see is that my heart ***slightly large on the normal side***.

В качестве переменного компонента встречаются разнообразные прилагательные, среди которых преобладают small, large, fat и thin. Однако интерес для интерпретации представляют случаи использования данного оборота в контекстах с менее частотными переменными компонентами: Her tongue slurred here: up to now she had spoken quite plainly, though ***on the soft side***. She's ***a little on the weird side***. Sheryl Sandberg Is ***A Bit On The Bossy Yenta Side*** и т.д.

Для усиления неполноты качества в составе оборота встречаются лексические диминутивные средства, такие как a bit, a little, a little bit, слова somewhat, still, а также союз though, который подчеркивает допустимость определенного количества признака у объекта: She must have been a handsome woman when young, for her features, ***though*** *on the large side,* were good.

Семантика диминутивных образований полифункциональна и может использоваться как для выражения уменьшительности (малого размера), так и для обозначения различных эмоций (от ласкательности, сочувствия и симпатии до иронии, уничижительности), а также подчёркивания неполноты проявления признака, неточности его описания. Также, являясь фактическим элементом экспрессивной стороны языка, диминутивность влияет на установление и поддержание межличностного контакта, достижение взаимопонимания и гармонии в общении [3].

Данный оборот выражает наличие у объекта небольшой степени определенного признака, однако в зависимости от ситуации и стиля общения может иметь дополнительные функциональные особенности. Так, употребляясь в текстах художественной литературы, данный оборот указывает на неполноту признака, в оценочном плане чаще отрицательного и неприятного, чем положительного (и это подчеркивается переменным лексичесим компонентом – bossy, weird, tough, fat и т.д.), при этом он выражает эту характеристику более тактично и в более вежливой форме, нежели простое словосочетание a bit fat или a little weird. Например:

Close up she became Irma Fliegler again; still pretty, a bit ***on the stout side***, but stout in a way that did not make her unattractive.

Ten years before her frocks had been somewhat ***on the showy side***.

В вышеприведенных примерах из художественных произведений автором дается осторожная характеристика героинь. Такая характеристика внешности или поведения героев служит тонким штрихом к их портрету, создавая целостность всего образа.

В настоящее время этот диминутивный оборот все большее распространение получает в текстах онлайн сообщений, газет и других публикаций. Его использование, как нам кажется, связано здесь, прежде всего, с указанием на неполноту проявления признака, а также с целью установить контакт с потенциальными коммуникантами, избегая таким образом в прямой форме именования неприятной характеристики. Hi, I'm ***on the small side*** in my mid 20s but I look really young for my age and it's been affecting my self-esteem and social life badly. Baby girl, 7 years old, tabby, ***a little on the large side***. I grew up ***on the shy side.*** Человеку трудно и не свойственно напрямую говорить о своих проблемах, в частности проблемах

личного характера, и данный оборот, как никакой другой, способен деликатно озвучить и завуалировать их. Такое указание на проблему, с другой стороны, не вызывает антипатии и неприятного ощущения у слушателя или читателя, а наоборот, симпатию или сочувствие и определенную заинтересованность. Подобные случаи употребления оборота часто встречаются в так называемой «разговорной» речи на интернет форумах.

Данный оборот также может являться удобным средством выражения уклончивого ответа на деликатный или не очень приятный, интересный и т.д. вопрос, как в случае с How was your holiday? – It was a bit ***on the hot side***.

Свойственные обороту лаконичность выражения и недосказанность, которая позволяет делать множественные выводы об описываемом объекте, активно используются в рекламных заголовках, заголовках статей и разнообразных рубрик, в которых предметом обсуждения выступает как сам человек, так и предметы окружающего его мира. ***Do you think I'm fat or just*** *on the plump side*? ***“Room a little*** *on the small side* ***but good value and decent service” Sheryl Sandberg Is*** *A Bit on The Bossy Yenta Side.*

Немного спорным в этом отношении являются случаи использования оборота с предлогом of, например, *on the … side of something,* однако и здесь просматривается значение неполноценного проявления признака. Do you ever find yourself ***on the wierd side of*** the internet? It does not get any stranger than this**…**

Широкое использование данного фразеоматического оборота может представлять определенные трудности для передачи заложенного в нем смысла на другой язык. Довольно сложно извлечь смысл, выраженный этим оборотом, и соответственно передать его средствами другого языка в следующих примерах: And he said he had looked at it and all he could see is that my heart ***slightly large on the normal side***. I grew up ***on the shy side, the free wi-fi side.*** Более простые случаи употребления оборота, как правило, либо передаются прилагательным без диминутивного суффикса, либо с ним и добавлением слов-квантификаторов *немного, слегка* и т.д. He's a bit ***on the young side***. – Он ***молод***. She's ***a little on the weird side***. – Она ***немного странная***.

Таким образом, диминутивность в английском языке может находить свое выражение не только с помощью морфологических средств, но и аналитически. И оборот типа on the … side является одним из проявлений аналитического способа создания диминутивных образований, выражая неполноту проявления качества и придавая всему высказыванию недосказанность и тактичность, и таким образом становится формой этикетного иносказания, т.е. эвфемистическим выражением.

ЛИТЕРАТУРА

1. Исакова, С.Ш. Средства выражения категории диминутивности в английском и русском языках: автореф. дисс. фил. наук: 10.02.20 / С.Ш. Исакова; Дагестанский государственный педагогический университет [Электронный ресурс]. – 2006. – Режим доступа: http://cheloveknauka.com/sredstva-vyrazheniya-kategorii-diminutivnosti-v-angliyskom-i-russkom-yazykah#ixzz2yhHUFWHk_ – Дата доступа: 12.04.2014.

2. Аполлова, М.А. Specific English (Грамматические трудности перевода) / М.А. Аполлова. – М.: Междунар. отношения, 1977. – 136 с.

3. Буряковская, А.А. Диминутивность в английской языковой картине мира: автореф. дисс. фил. наук: 10.02.04 / А. А. Буряковская; Тульский государственный университет [Электронный ресурс]. – 2008. – Режим доступа: http://www.aspirant.vsu.ru/ref.php?cand=1170_– Дата доступа: 12.04.14.

## ЗМЕСТ

### ГІСТОРЫЯ



### МОВАЗНАЎСТВА І ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

*Навуковае выданне*

БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ:
ВОПЫТ, МЕТОДЫКА І ВЫНІКІ ПАЛЯВЫХ
І МІЖДЫСЦЫПЛІНАРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Зборнік навуковых артыкулаў ІІ міжнароднай навуковай канферэнцыі,
(да 20-годдзя археалагічных і этнаграфічных экспедыцый ПДУ)
(Полацк, 17 – 18 красавіка 2014 г.)

У дзвюх частках
Частка 2

Тэкст друкуецца ў аўтарскай рэдакцыі

Адказны за выпуск *С. А. Шыдлоўскі*

Тэхнічнае рэдагаванне *І. М. Бязборшчай*, *Д. М. Севасцьянавай*
Камп'ютарная вёрстка *Т. А. Дар'янавай*, *В. П. Михайлавай*
Дызайн вокладкі *Г. М. Парфёнавай*

Падпісана да друку 14.07.14. Фармат 60×84⅛. Бумага афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 25,81. Улік.-выд. арк. 25,68. Тыраж 99 экз. Заказ 1016.

Выдавецтва і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі «Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт».

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вырабніка, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/305 ад 22.04.2014.

ЛП № 02330/494255 ад 08.05.2014.

Вул. Блахіна, 29, 211440, г. Наваполацк.